

7

ЛІПЕНЬ

МІНСК, 1970

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

## У НУМАРЫ:

Вокладка **Ю. Архіпава.**

Шмуцтытулы **М.** і **У. Басалыгаў** (3 стар.) і фота **У. Марцыёнкі «Сталь ідзе»** (стар. 87).



# ПАЭЗІЯ ❖ ПРОЗА

- АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ
- НІНА МАЕЎСКАЯ
- ФЕЛІКС БАТОРЫН
- ВАСІЛЬ ГРОДНІКАЎ
- ТАЦЯНА ДЗМІТРУСЁВА
- БАРЫС САЧАНКА
- ХАІМ МАЛЬЦІНСКІ
- ПАВЕЛ КАБЗАРЭЎСКІ
- ПЯТРО ЮРЭВІЧ





## Аркадзь КУЛЯШОЎ







●

Трымаюць Зямлю без падважнікаў тых,
Без мудрага троса,
Жывымі рукамі карэнняў сваіх,
Сасна і бяроза.

Ад дыму да пары ў пякельных катлах
Судна, паравоза
Прайшлі яны поруч гарачы свой шлях —
Сасна і бяроза.

Лягла на іх плечы цяжарам вайны
Акопная проза:
Служыла салдатам сасна — для труны,
Для крыжа — бяроза.

Знікала з тузоў, гандляваўшых крывёй,
Пыхлівая поза,
Калі перад імі ўставалі з пятлёй
Сасна і бяроза.

Ад явы крывавай не вынайшлі лек...
І ўзнікла пагроза,
Што могуць пад крыжам закончыць свой век
Сасна і бяроза.

Ужо на насенне, якое ў раллі,
Паглядваюць коса
Аратыя смерці, каб больш не раслі
Сасна і бяроза.

Над імі ракетны ўзрываецца гук
І гул бамбавоза...



А што, як Зямлю нашу выпусцяць з рук
Сасна і бяроза?

●●

Над спаленай вёскай,
адзетай жалобным гранітам.
Званы абзываюцца
рэхам вайны не забытым:

Хай вечны агонь,
што запалены ў памяць Хатыні,
Як рунь і як неба,
палае — зялёны і сіні,
Няхай яго полымя,
жытам спякотным і спелым,
Схіляецца ў ногі
Хатыні дварам скамянелым,
Парогу халоднаму,
прызбе маўклівай пры хаце,
Хай гора, заснуўшае ў камні,
прачнецца ў набаце.

●●●

Калі каханне абвянчае
Жаданай згодай маладых,
Свайго сумлення не хавае
Яно ад позіркаў чужых.
А звяжа шлюбам маладая
Сябе з нялюбым і старым,
Свайго сумлення не схавае
Яна за прозвішчам чужым.

●●●●

Людское сумленне за грошы
Купілі — прыстойны тавар.
Цяпер яно беднасці можа
З пагардаю глянуць у твар,
Зрабіцца паважным, вяльможным,
Пашану і славу набыць...
Адно яно толькі не можа —
Сумленнем някупленым быць.

●●●●●

На абшарпаную халупу
Стопавярховы небаскроб
Глядзіць праз вокны, як праз лупу,
За хмарай хмурыць змрочны лоб.

Жабрачку з панам, з ботам лапаць
Звялі на вуліцы адной.

Яму — дзвярыма гучна ляпаць,
Старцоўскай торбай трэсці — ёй.

Ён — дабрабыту ўвасабленне,
Ён — незлічоная казна.
Стаіць насупраць, як сумленне,
З рукой прасцёртаю яна.

Яму той лёс не перайначыць,
Лягчэй сумленне падмануць —
Заплюшчыць вокны і не бачыць,
Захутаць дзверы і не чуць.

●●●●●●

Глыбокі лістапад
у Белавежы.
Шуміць лістота
пушчы векавой,
Пытаецца шчымліва,
быццам вершы,
За ўсё жыццё
напісаныя мной.
— Скажы,
хіба нас не паліла смага,
Не абдаваў
дажджоў лагодны душ?
Няўжо навек
нас замяце няўвага
Сляпых завей,
бесчалавечных душ?
Няўжо шыпамі вострымі
падкова
Праб'е далоні нам?..
Хіба памром,
Гвалтоўнай смерці
трапіўшы пад кола?
Няўжо мы станем
снегам, пылам, тлом?

А я маўчу.
А я маўчу, як дрэва
Асенняе,
згубіўшае свой дах.
Вакол мяне —
направа і налева —
Лісты, лісты, лісты
заслалі шлях.
Пакуль яшчэ
не замялі іх сцюжы,
Пакуль ляжаць
духмянаю капой,
Хачу я, нібы ў вір,
заткнуўшы вушы,
У скаргу іх
зарыцца з галавой.

●●●●●●●

Даўно закончыліся спрэчкі
Зімовай цемры і святла,



Даўно ўжо ў ручаі і рэчкі
Вясна зляжалы бруд змяла.

А лес пад шаты не запросіць
Гасцей, бо для ягоных крон
Яшчэ не скончылася восень,
Зімы не адасніўся сон.

Ну як яму пралескам верыць,
Што расцвілі на ўскраі дзесь,
Калі прапахлы снегам верас
За дзень не выхадзіць увесь?

І будзе спаць ён, недарэка,
Пакуль яго дрымотны плот
Не пералезе з трэскам рэха
Цярплівасць страціўшых грымот.

●●●●●●●●

Можа, брамкі позні рып
Патрывожыў слых?
Можа, гэта рэчкі ўсхліп
Даляцеў і сціх?

А калі не брамкі рып,
Можа быць, тапор
Абуджае неруш рыб,
Патаемнасць нор?

Што за гук, што кожны год
Непакоіць сны,
Перайшоўшы цераз брод
Лета і вясны?

Гэта ноччу каля тых
Лугавых ракіт
Драч майструе для малых,
Дробных дзетак плыт.

Хоча ён сваіх сыноў
Хвалям перадаць,—
І рыпіць, рыпіць з лугоў
Нецярпліва снасць.

●●●●●●●●●

Не сустракацца
мне больш ніколі
З маім маленствам
у чыстым полі,
З маім юнацтвам
у лесе цёмным,
З маім ваенным
жыццём бяздомным.
Па ціхіх вулках,
па трактах гулкіх
Прайшлі маленства,
юнацтва леты
І,
перакуленыя ў рачулках,

Сплылі з вадою
на край планеты.
Яны ўжо —
кропля святла ў сусвеце.
А я, не вечны
і нецярплівы,
Чакаць не згодны,
што нехта, недзе
Праявіць некалі
іх негатывы.
Мне б хуткасць думкі,
бляск уяўлення,
Каб мог я словам
дагнаць праменне
І нечаканым
спыніць экранам
Гады былыя
на вокамгненне.
Я б галавою
прыпаў ссівелай
Тады б да ног іх,
ад шчасця плакаў
У чыстым полі
паперы белай,
У цёмным лесе
чарнільных знакаў.



Ніна МАЕЎСКАЯ

Мал. А. БАРАНОЎСКАГА



# НАМАЛЮЙ МНЕ ВЕЦЕР

АПАВЯДАННЕ



Ева палажыла галаву ў далоні, кончыкамі пальцаў адчула, як трапечуць вены на гарачых скронях. Сядзела так доўга. Ах, якія гэта былі шчаслівыя дні! Вось іменна — шчаслівыя... Яна працавала з асалодай, з нейкім небывалым уздымам, бы ішла сярод пругкага ветру, які амаль нёс яе, калі здаецца, што гэта не вецер, а крылы за спіною. І вось усё скончана... І яна на зямлі. А перад ёю, замест малюнка, які мроіўся ёй столькі дзён, проста беззапаможная пэцканіна шэра-зялёнага колеру. А перад вачыма — пад промнямі ўзыходзячага сонца — калыхаўся туман, чэзнуў, чапляючыся за тоненькія сцяблінкі макаў. Пялёсткі, якія толькі што ўбачылі святло, яшчэ пакамечаныя, уздрыгвалі, бы вусны, у якіх жыла ўсмешка. У крышталях расы трава на ўзмежках, на тым кавалачку зямлі, дзе яна вырасла ў нізкай хаце, на страсе якой, як прапелер, круціўся флюгер. Яна, бывала, прасіла бацьку пабудзіць яе на золку, калі расцвітаюць макі.

Там, на агародзе, дзе яна дзяўчынкай ірвала маладыя, яшчэ набітыя ватай, струкі бобу, у бацькі яе, мясцовага метэаролага, стаяла на тоўстым слупку белая алюмініевая міска. Ева не дапытвалася, для чаго гэта. Яна сачыла, як па крузе ўпарта ідзе божая кароўка. Круг за кругам ідзе і ідзе.

І Еве дзіўна і цікава: колькі можна вось так кружыць? Вось і ў яе: кожны дзень адно і тое ж, адно і тое ж, жыццё ідзе ў адным рытме, быццам недавучаны вясковы гарманіст рыпае «на адно калена», і немагчыма выбіцца з гэтага рытму, а выб'ешся — не ведаеш, што рабіць, пачынаеш таптацца на месцы, каб зноў патрапіць у такт.

— Ну, што думаеш? У панядзелак савет. Аддасі?

Ева падняла вочы на Марыну Львоўну.

— Падумаю,— адказала яна. Хуценька скруціла малюнак і паклала яго на палічку над сталом. У гэтым адказе была адмова, але ёй проста не хацелася адразу сказаць «не». Яна сумнявалася і сама: а ці захоча хто пашыць сабе з такой тканіны сукенку?

Марына Львоўна стаяла ля кульмана. Малявала, раз-пораз падыходзіла да стала, пацягваючы папяросу. Першы раз Ева бачыла, што Марына Львоўна выкарыстала геаметрыю. Звычайна яна малюе кветкі. Марына Львоўна стаяла да Евы спіной, але гаварыла так, нібы бачыла яе твар.

— Ах, Ева, мне здаецца, ты яшчэ не ўявіла сабе да канца свайго прызначэння. Ты мастак шаўкаткацкай фабрыкі. Гэта значыць — ніякай філасофіі. Мы малюем тканіны...

Ева маўчала. Яна глядзела ў шырокую спіну Марыны Львоўны, туга абцягнутую шаўковай сукенкай у чырвоныя, жоўтыя, карычневыя кветкі. «Гэта, пэўна, яна таксама малявала». Ева ўжо ведала, што Марына Львоўна заўсёды шыла сабе на памяць сукенку са сваім малюнкам.

Неяк Марына Львоўна расказвала пра тое, як першы раз убачыла на вуліцы дзяўчынку ў сукенцы з першым сваім малюнкам. Як ішла, зачараваная, за ёю ўслед і заблудзіла ў не знаёмым ёй тады яшчэ горадзе, як хацелася ўсім гаварыць: «Паглядзіце — гэта я намалявала!»

Яна думала аб сабе. Адкуль гэтае незадавальненне сабой? Памятае тую сустрэчу з першай сваёй самастойнай работай. Не, яе высока ацанілі на мастацкім савеце, ухвалілі супрацоўнікі. Але як палыхнула чырвань сораму ў твар, калі сустрэла дзяўчыну ў сукенцы з гэтай тканіны. Як стала непрыемна гэтая сустрэча. Чаму, не ведае сама...

На сэрцы ў Евы было прыкра. Расказвала неяк мужу пра свае сумненні. Пра гэта невыноснае жаданне пісаць штосьці значнае. Здаецца, тады ён яе зразумеў, сказаў: «Падрасце сын, атрымаем кватэру, усё кінеш, будзеш пісаць». А нядаўна папракнуў: «Задурыла ты сабе галаву, што ты не такая, як усе. Што ты талент. А ты проста эгаістка, страшэнная эгаістка...»

Як балюча сцебанулі яе гэтыя словы... Яна замкнулася, як кукляНка ў сваім доміку, стала недаверлівай, маўклівай з ім і халоднай.

У апошні час яны мала размаўлялі. Ён прыходзіў дамоў позна, яна ведала: зноў нейкі нечаканы заказ, зноў план. Ён схіляўся над сонным сынам. Пытаўся ў Евы: «Здаровы?» — і цалаваў яго ўспацелы чубок. За вячэрай ён гаварыў Еве: «Цэлы дзень ідзе гнуты метал, станкі ўзнімаюцца на дыбкі».

— Ева, тэлефон! — зычны голас Марыны Львоўны спудзіў яе думкі.

Пазнала знаёмы голас. Ён гаварыў ціха, лагодна, нібы прасіў прабачэння. Яна прыціснула халодную трубку шчыльней да вуха.

— Што ты сёння наважылася рабіць? — спытаў ён.

Гэтае пытанне было нечаканым.

— Як — што? — не зразумела яна.



— Ты не хочаш нікуды пайсці? Я сёння магу забраць Ягорку, пабыць з ім.

«Ага, гэта водгукі ўчарашняй спрэчкі»,— зразумела яна.

— Не,— сказала.

— Тады сходзім у кіно.

— Добра,— не дала яна дагаварыць.— Бяры білеты. Мы будзем чакаць цябе на трамвайным прыпынку.

●

Няроўная асфальтаваная сцежка пакручастай ручаінай бегла ад латанай-пералатанай шашы, дзе грукаталі трамваі, у нізіну, да стромкіх хваін. Адкуль прыйшлі сюды, да трамвайнага прыпынку, такія ганарлівыя прыгажуні, якіх можна сустрэць толькі ў звычайным лесе? Не, гэта горад прыйшоў да іх. Яны нават не глядзелі на шэрыя каробкі дамоў, толькі вышэй заломвалі рукі, узнятыя да неба. Яны ціха, без стогну паміралі, як людзі з хворым сэрцам.

І сапраўды, сухіх хваін стаяла многа. Ева толькі цяпер звярнула на гэта ўвагу. Хоць і ўскраіна — народу колькі снуе! Кожную хвіліну спыняюцца аўтобусы, трамваі, і людзі рушаць па вузкіх, выбітых, вузлаватых сцежках, што веерам разыходзяцца ад прыпынку: там, за лесапаркам, мікраёан з новымі магазінамі і яшчэ адна імклівая шаша.

Ева стаяла ля сцежкі. Ягорка цёрся каля яе ног. Яны сачылі за трамваямі, але таты не было. Ягорка лазіў па траве, шукаў казюлек: ён вельмі любіў іх лавіць. Запіхваў у кішэні, каб потым паказаць дзецям. А калі пачынаў хваліцца сваімі нявольнікамі, іх ніколі ўжо не было ў кішэнях, і хлапчукі яму не верылі.

Ева села на шэры пень і глядзела то на чырвоныя трамваі, то на Ягорку, які ўжо ганяўся за галубамі. Смешна ёй было на яго глядзець. «Дурненькі, верыць, што зловіць... Дзіцячая наіўнасць. Успацее, бегаючы».

— Ягорка! — клікнула яна.

Ён падбег, тузануў яе за руку:

— Мама, злаві!

— Не магу я. Што ты, любы!

Яна правяла рукою па яго потным ілбе, і кароткі бялявы чубок натапырыўся.

— А ты вось так: падкрадайся, падкрадайся...— згорбіўшыся, паказваў Ягорка.

— Хадзем, вунь тата прыехаў,— зманіла яна.

Скрыгаючы тармазамі, спыніўся аўтобус. Людзі разыходзіліся — у кожнага свая сцежка. Ева глядзела ім услед. Не, яны не цікавілі яе. Стамляла мільгаценне машын, і яна стаяла, адвярнуўшыся ад дарогі. Раптам яе скаланула, бы ступіла на аголены провад. На момант замерла, а потым часта-часта закалацілася сэрца. «Няўжо гэта ён? Можа я памылілася? Я ж не бачыла яго твару». Яна праводзіла позіркам паўнаватага ў светлым касцюме мужчыну. Трымаючы за руку сына, ішла за ім следам. Сэрца білася ўжо ў кожнай яе жылцы. «Як даўно я яго не бачыла...» — здзівілася сама. І прызналася сабе, што ўсе гэтыя гады міжволі шукала ў шумным натоўпе, на ціхіх вуліцах, усё спадзявалася сустрэць. Проста паглядзець, ці гэтакі ж, як тады. Зараз ёй здалося, што калі яна не дагоніць, то зноў страціць яго надоўга, можа назаўсёды.

— Хутчэй, сынок! — цягнула яна па выбоістай сцежцы Ягорку. А ён бег, нічога не разумеючы, заглядаў ёй у твар.

Ева моцна сціскала яго руку. Ягорка, зачапіўшыся за тоўстыя, звязаныя вузлом карэнні, паваліўся, заплакаў. Ева спынілася, падхапіла яго на рукі. Выцерла хусцінкай запэцканы пылам твар.

— Мама, гэта ж не тата! — праз слёзы гаварыў ён.

— Ага, я памылілася,— суцяшала яна сына і сумна глядзела на такую знаёмую постаць, што хавалася за пагоркам.

Яны пайшлі да шашы. Насустрач — Анатоль з усмешкай на твары, зусім іншы, чым учора. Ён развёў рукі, гатовыя, каб абняць. І Ева пусціла насустрач Ягорку. Ён падхапіў яго на рукі.

— Куды ж вы так беглі?

— Так проста,— паспрабавала ўсміхнуцца яна.

●

Ціха пасопваючы, адставіўшы губы, спаў Ягорка. Ева малявала, пераводзячы позірк то на яго, то на аркуш паперы. Здавалася, яна малюе яго, але на паперу клаліся лёгкія лініі ўпартага падбародка, сцятых вуснаў... Яна малявала амаль кожны вечар. Таўсцела выцвілая з белымі матузкамі папка. Тут на белых аркушах былі рысы знаёмых і незнаёмых, мільгануўшых недзе твараў, дзіцячых і дарослых. Але яе ўсё больш цягнула да сюжэтнага малюнка. Ёй здавалася, што толькі ў ім яна магла ўвасобіць нешта большае — сваё, тое, што не дае ёй спакою, трывожыць.

«А што, калі звязацца з якім-небудзь выдавецтвам, узяць на афармленне кніжку?..»

— Ты не спіш? — здзівіўся Анатоль.

Ева чула, што ён прыйшоў, чула, як бразнулі дзверы, як строс дажджынкі з плашча.

Ён стаяў у яе за плячыма.

— Што за шэдэўр? — запытаў, адкінуў край прасціны і сеў на тахту, дзе соладка спаў Ягорка.

Ева адхінулася ад малюнка, каб даць яму лепш разгледзець.

— Ну-к...— пацісну ён плячыма і дадаў: — Спаць табе трэба болей. Пад вачыма сінія падковы.

— Ведаеш, Анатоль, я рашыла...— і яна расказала яму пра сваю задуму.

Ён слухаў уважліва. Потым сказаў:

— Ах, Ева, ты наіўная, як дзіця. Думаеш, што ўсё гэта так проста. Ты прыйшла, паглядзелі на твае прыгожыя вочы і сказалі: «Мы вас даўно чакалі». Зразумей, там жа цябе ніхто не ведае.

— Я ім прынясу вось гэта,— яна паказала на папку.

— Ну, дапусцім, табе даверацць. І калі гэта ўсё ты будзеш рабіць?

— Вечарамі.

— А мы з сынам будзем хадзіць па сталоўках... Ева, спусціся на зямлю, зразумей, ты такая, як усе, толькі крышку пазней затрымалася ў небе. У маладосці ўсе лунаюць у аблоках, уяўляючы, што створаны для нейкіх высокіх ідэй і імкненняў, потым паціху спускаюцца. І чым хутчэй, тым мякчэйшае прызямленне. Ева, вучыся хадзіць па зямлі!

Яна глянула на яго бліскучымі ад слёз вачыма.

— ...І памятай, ты, апроч усяго, жанчына, маці, жонка. Мне патрэбна добрая жонка...

Ён паспрабаваў прыцягнуць яе да сябе, але яна адхінулася. Вусны яе задрыжэлі.





— Ты... Усё толькі ты... Самае галоўнае ў жыцці — гэта твае формулы, твае станкі, прыстасаванні. Ты за імі не бачыш свету. Ты сляпы і глухі да ўсяго,— дрыготкім, злым шэптам сказала яна.

— Зразумей, не так усё дрэнна,— ён павысіў голас.

— Тс-сс,— прыклала яна палец да вуснаў, бо заварочаўся, замармытаў Ягорка.

— Ты працуеш, прыносіш людзям карысць. Ягорка ходзіць у фабрычны садзік. Я не разумею, чаго ты хочаш, Ева? — шэптам сказаў ён.

— Ты ніколі і не зразумееш,— сумна прашаптала яна.

— Ну, давай кідай малявацць, як ты кажаш, абрыдлыя кветачкі, малюй шэдэўры.

Яна ўстала.

— Хадзем вячэраць.

Ён еў. Яна сядзела і думала пра сваё, маўчала.

— Нічога, Ева, вось падгадуем Ягорку, атрымаем кватэру, тады мы дадзім табе волю. Пачакай трошкі.

Яна не адказала.

«Мне трэба параіцца з ім»,— думала яна.

●

Па дроце ад тэлеграфнага слупа і ад дома насустрач адна адной, як цыркачы, шукаючы раўнавагі, ішлі буйныя кроплі. На сярэдзіне яны сустракаліся, зліваліся і падалі ўніз вялізнай кропляй. Некаторыя не даходзілі да сярэдзіны, зрываліся. Чым мацнейшы станавіўся дождж, тым менш было спадзяванняў на сустрэчу. Яна ведала, што ён любіць працаваць у такія дні. Яна бачыла яго маленькую майстэрню на ціхім Заходнім завулку з прыветлівай галінкай клёну ў акне. Працаваў ён там не адзін, а з мастаком Ціхацкім, лысым, вясёлым дабраком. Наогул, такім ён здаўся ёй тады, калі яны зайшлі перачакаць непагоду. Ах, як яна хацела яго бачыць! Не, не, проста так, каб упэўніцца, што жывы, здаровы, як раней. Трэба было з ім параіцца. Можа, гэтым яна апраўдвала сваё жаданне сустрэцца. Колькі разоў яна давала сабе зарок не думаць пра яго. Але як толькі выходзіла на вуліцу, шукала яго, спадзеючыся на выпадковую сустрэчу. «А сапраўды, чаму б не сустрэцца выпадкова? Здаралася ж гэта раней». Можна зараз прыкласці да вуха трубку, набраць нумар і пачуць яго голас. «Сапраўды, чаму яму не пазваніць? Званіла ж раней». І адрывала руку ад тэлефона. Раптам ён не пазнае яе па голасе, а можа зусім забыў, што яна існуе на свеце.

— Марына Львоўна, давайце зойдзем на хвілінку, паглядзім, што цяпер землякі нашы пішуць. А заадно і дождж перачакаем,— прапанавала Ева.

Па сценах і на размаляваных пад мармур калонах залы былі развешаны карціны, эцюды. Стракатыя, напісаныя вялікімі мазкамі асеннія пейзажы. Ева адышлася, каб паглядзець на іх здалёк. Але позірк яе намацаў у правым кутку залы штосьці светлае, быццам недзе бачанае. Яна памкнулася туды. Марына Львоўна ўзяла яе за плечы.

— Ева, гэта здзіўляючае падабенства. Рудыя валасы, абрысы твару...

Еву ахапіла хваляванне, да сэрца падкацілася цеплыня, бы мяккі, пухнаты каток прылашчыўся. Дрыготкімі вуснамі прачытала яна машынапісную наклеечку: «Мастак А. Мірскі».



— Вы яго ведаеце? — спытала Марына Львоўна.

Ева адмоўна крутнула галавой. Чамусьці ёй не хацелася гаварыць праўду, хаця яна бачыла, што тая не паверыла. «Не можа быць, каб гэта было напісана тады? Цяпер?!. Значыць, не забыў, памятае». Радасна закалацілася сэрца, твар успыхнуў яркай чырванню хвалявання. Гэта адразу заўважыла чэпкім позіркам Марына Львоўна. І Ева нібы адказвала на яе маўклівыя пытанні.

«Кахала яго?»

«Думала, канец свету, як даведалася, што жанаты».

«Хіба не казаў ён?»

«Я не пытала. Гэта не прыходзіла мне ў галаву, ён быў такі малады».

«Ці не збіралася за яго?»

«Проста не паспела пра гэта падумаць. Усё было так імгненна, бы зіхатнула бліскавіца, і вочы шчэ ніяк не звыкнуцца з цемнатой».

Яны выйшлі на вуліцу. Дождж сціх, толькі мокрыя ліпы абтрасалі буйныя кроплі. Хораша свяціла сонца.

●

Сустрэліся выпадкова, твар у твар.

— Дзень добры! — ціха сказала Ева.

— Добры дзень! — адказаў ён.

Яны спыніліся на лесвіцы. Абое маўчалі. Ева падняла вочы. Спачатку трывожны яе позірк сустрэўся з яго цёплым, пацяплеў сам, адказаў шчырасцю. Няўрымслівы вецер бэрсаў яе валасы, гарнуў іх на твар, на вочы. Яна не папраўляла. Тады ён адкінуў іх сам.

Яны пайшлі вуліцай.

●

— От і добра, што вы прыйшлі.— Бабка Мар'я пачала збірацца дадому.— Адвыкла я з дзіцем сядзець,— не ўнімалася яна.— Ды і ён не гуляе са мною: дзікаваты вельмі.

— А дзе ж Ева?

— Спяшалася некуды, папрасіла мяне пасядзець, спаць яго палажыць. А ён мяне не слухае. Кажа, буду мамку чакаць. То і добра, што вы прыйшлі.

Анатоля здзівіла, што няма Евы. Увайшло ўжо ў звычку, што яна заўсёды дома, чакае яго. На момант узнікла трывога, ахапіла прыкрасць, што не зможа сёння скончыць свае разлікі.

Анатоль узяў на рукі сына.

— А дзе мама?

— Сам не знаю. Сказала, хутка прыйдзе.

— Ну, нічога, прыйдзе. Толькі давай з табою дамовімся. Ты зараз жа ляжаш спаць, таму што мне трэба працаваць. Так? Дамовіліся?

Ягорка лёг, скруціўся абаранкам. Анатоль накрыў яго, падаткнуў пад бакі коўдру, пацалаваў у шчаку, ціха зачыніў за сабою дзверы. Сам прыбраў усё са стала, паклаў кніжкі.

У пакоі скупа свяціла настольная лямпа, у шыбы пастукваў дождж. Ягорка сцішыўся. Мякка гарнулася да шчакі падушка, і ад яе ішоў аднаму яму знаёмы водар. Так пахне раніцай, калі мама надушанымі пальцамі дакранаецца да вуха. Ягорка ўткнуўся носам у падушку. Водар быў такі салодкі, прыемны...

— Тата! — паклікаў ён.
— Чаму ты не спіш? — ласкава пагладзіў па галаве Анатоль.
— Я не магу заснуць, так пахне мамай. Ляж са мной.
Анатоль прылёг ля сына: так хутчэй засне. Яны памаўчалі.
— Тата, табе таксама пахне мамчынымі духамі?— азваўся Ягорка.
— Ага. Ты спі.

Ягорка сцішыўся, уткнуўшыся носам у падушку, заплюшчыў вочы, ціха пасопваў.

●

Ева ўскочыла ў лязгатлівы трамвай. Ён перасек людную вуліцу і пайшоў будзіць ціхі завулак. Ён ляцеў насустрач таму прыпынку, дзе стаіць дом пад разгалістым клёнам. Прыпынак усё бліжэй і бліжэй. Еве хацелася цяпер аддаліць сустрэчу, яшчэ крышку падумаць, паслухаць сэрца, спытаць розум. Яна выйшла з трамвая. «Добра, што яшчэ ісці. Супакоіцца сэрца». Не пазнавала яна ціхі завулак. Старыя драўляныя дамы адступілі ўбок, іх засланілі высачэзныя будыніны. Знесены драўляны плоцік і ля майстэрні. Цяпер можна падысці і паглядзець з вуліцы ў акно. Ева спынілася. Яна адчувала, як расло ў грудзях сэрца, як станавілася цяжка дыхаць. «Крышку пастаю»,— падумала яна і падышла бліжэй да палоскі святла. Крадком яна зазірнула ў акно. Ён працаваў. Ева бачыла яго твар, сур'ёзны, задумёны. Яна глядзела на яго колькі хвілін, а ён не падымаў вачэй. «Працуе,— падумала яна.— А я перашкоджу». Ёй было хораша глядзець на яго.
Паціху накрапваў дождж, шастаў па лісцях. Пачало цямнець: насоўвалася хмара. Ева паглядзела на гадзіннік. «Як там дома? Пара класці Ягорку спаць. Ці накармілі яго? Ці надзелі чыстую піжамку?» Чамусьці заныла сэрца. Ева пачырванела ад сораму і віны перад сынам, ціхенька адышла ад акна. Яна памятае, як прыйшла сюды ў першы раз. «Не бойся,— сказаў ён,— ты думаеш, калі мужчына і жанчына застаюцца адны, што-небудзь адбываецца». Цяпер жа яна ведала: адбываецца. Але толькі не сёння. Хай пабудзе яшчэ ў сэрцы вясна.

Яна пайшла на трамвайны прыпынак. У твар ёй хвастаў колкі асенні дождж, да лоба ліплі валасы.

Дамоў яна прыйшла позна. Сцішаная, мокрая. Анатоль нічога не пытаў. Памог распрануцца, павесіў яе мокры плашч, заварыў крута чай, наліў ёй вялікі кубак. Расказваў, што ніяк не мог заснуць Ягорка,— яму пахла мамай...
— І мне таксама,— ён прытуліў Еву да сябе і мякка пацалаваў у вусны, шчокі, нос.
Яна заплакала.

●

— Мамачка, я не магу заснуць. Хтосьці стукае і стукае ў акно.
Ягорка са страхам у вузкіх, сонных вачах глянуў на квяцістую штору, якой было завешана акно. Яна ледзь-ледзь пакалыхвалася: шыўся ў невідочныя шчыліны вецер.

Маці пагладзіла сына па мяккім чубку.
— Гэта вецер. Не бойся. Заплюшчы вочы і спі.
— Я хачу паглядзець на вецер.
Ева ўзяла яго на рукі, паднесла да акна, адхінула занавеску. Час ад часу парываўся вецер, і здавалася, што ў шыбы б'е белым крылом вялікі птах.
— Такі белы вецер... Зусім белы,— здзівіўся Ягорка.
Ева накрыла яго коўдрай, села побач і мякка пагладжвала сына па галоўцы, а ён, скруціўшыся, ляжаў ціхенька.
— Мама, а які яшчэ бывае вецер? — запытаў ён.
— Вецер бывае розны,— ціха адказала яна.— Толькі ты спі.
— А раскажы мне пра вецер...— папрасіў ён.
— Вецер бывае блакітны. Ён вельмі ласкавы і добры. Ён вучыць лятаць птушанят, кліча іх высока-высока ў сіняе неба. А ноччу натрасе табе ў садзе самых смачных, самых спелых яблык.
На імгненне яна змоўкла. Мусіць, думала, што Ягорка спіць. Але праз сон ён прамармытаў:
— А жоўты?
— Ён прылятае восенню. Памахае на развітанне птушкам жоўтай хусцінкай і журбою агорне сэрца.
Ягорка заварушыўся.
— Спі, сынок, гэта вецер для дарослых. Ёсць на свеце яшчэ белы вецер. Белы вецер вельмі мудры. Замяце ён сцяжынкі былых трывог, супакоіць сэрца, развее сумненне. А ўвечары будзе пець табе калыханкі, каб ты спаў ды рос хутчэй.
— Мама, намалюй мне вецер, што трасе яблыкі...



## Фелікс БАТОРЫН

● *Памяці Уладзіміра Маякоўскага* ●● ●●● *Поўня*



●

Стагналі цяжка і дрыжэлі горы,
Каменеспадам рушыліся стромы,
Гулі цясніны рэхам стогалосым,
Трашчалі векавечныя камлі —
То конь імчаў магутнага асілка.
Агнём гарэлі залатыя строі,
Па моцных латах сонца разлілося,
І цень вялізны слаўся па зямлі.
Чапляў шаломам волат за аблокі,
Рукой ганяў арлоў, бы нейкіх мошак.
А ноччу яснай ападалі зоры
Яму на плечы, бы дарожны пыл.
Нябачанаю сілай ён валодаў —
Дзе ступіць крок, там стане яр глыбокі,
Там абуджаюцца зямныя сілы,
Крыніцы невычэрпныя там б'юць.
...Няма даўно дзівоснага асілка.
Зайздроснікаў яго і след згубіўся.
А мы ўсе п'ем і п'ем жывую вільгаць
З глыбокіх, чыстых і святых крыніц.



Мінаючы загоны і аблогі,
Запальваючы сонцам раўчукі,
Світанак, нібы хлопчык басаногі,
Ідзе па мокрых травах напраслкі.
З зямлі змываюць рэшткі змроку росы,
Блакіт нябёсаў свеціцца да дна,
І растае ў палях русавалосых
Калматага туману сівізна.
Глядзі — над самым гарызонтам хмары
Бялеюцца лілеямі ў віры.
Там шамацяць прыглушана над Шчарай
Зачараваных пушчаў гушчары.
Там у нізінах, ад вачэй укрытых,
Спіць багны векавая глыбіня,
І пад імхоў зялёным аксамітам
Хавае безліч таямніц яна.
Гарыць касцёр на ўзлеску сярод красак,
У паветры дым гаркавы колцы ўе.
І дзьмухае на бульбіну падпасак
І, вусны апякаючы, жуе.
Наўкол па абалонным лузе грузкім
Разбрыўся статак.
Ціха шэпча лес.
І хлапчука завуць па-беларуску
Нявыдумана, песенна — Алесь...



Бы на раллю нераспелае зерне з калосся,
Сыплюцца знічкі.
Нябачана светлая поўнач.
Зорнае возера з небам іскрыстым злілося.
Водар мурожны плыве па-над водамі.
Поўня.
Рэха далёкае дзесьці галёкае ў пушчы.
Мо лесавік там блукае між дрэў і гукае?
Вяз на ўзбярэжжы, нібы чалавек невідушчы,
Цемру навокал абмацвае чуйна рукамі.
Цені галінак гайдаюцца ціха на хвалях.
Вецер кранае паверхню вады непрыкметна.
Вось таямніца сівая на дне ажывае
І выплывае з чароўных глыбінь запаветных.
І закружыліся зоры.
Устрывожаным буслам
Я ўжо высока-высока лячу над лясамі.
Тонка, ледзь чутна звіняць серабрыстыя гуслі,
Нібыта ў возеры, нібыта ў сэрцы у самым.
Я распластаны ў начным першародным паветры,
Поўны свабодаю і лёгкакрылы, як мара...
Дзе тая сіла, што зноў на зямлю мяне верне?
Што ты зрабіла са мною, дзівосная Нарач?





**Васіль ГРОДНІКАЎ**

Мал. В. ШРАМЯКОВА

# ПАПАРАЦЬ ЦВІЦЕ НА ДОСВІТКУ

АПОВЕСЦЬ

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### I



Дзверы асцярожна расчыніліся, і ў кабінет зайшоў невысокага росту малады хударлявы чалавек. Зняўшы кепку, ён прыгладзіў далонню валасы і ветліва падзеньдобрыўся з камендантам Фрыдрыхам фон Аўсбергам. Той не адказаў на прывітанне. Сядзеў за сталом і нешта мармытаў сам сабе, чытаючы паперы.

Малады чалавек уважліва агледзеў пакой.

Фрыдрых фон Аўсберг размясціўся ў былым кабінеце першага сакратара райкома партыі. Тут стаяў, як і да вайны, шырокі стол літарай «Т», мяккія крэслы, а на стале зіхацеў ад сонца графін з вадой.

Камендант быў апрануты шчыгульна. Кіцель з зялёнага сукна быццам прыліп да яго. Ля правай нагруднай кішэні звісалі ўзнагароды. Шырокія плечы каменданта зліваліся з бюстам Гітлера, што стаяў ззаду. І выглядала гэта так, быццам галава ў каменданта падстаўная і зусім тут сядзіць не Аўсберг, а сам фюрар вялікай Германіі. Малады чалавек перасмыкнуў плячыма: ён ведаў, што праз шчыліну ў дзвярах за ім сочаць эсэсаўцы. Чуў, як гулка таххае сэрца.

Нарэшце Аўсберг, не паднімаючы галавы, сказаў роўным голасам:

— Я слухаю вас.

— Хайль Гітлер, пан камендант!

— Хайль Гітлер!



Голас каменданта быў мяккі, але абыякавы тон насцярожваў. Нямецкі акцэнт, з якім ён гаварыў па-руску, надаваў яму яшчэ і пагардлівасць.

— Праходзьце, сядайце... Што, захацець узяць у мяне інтэрв'ю? — і строгі твар Аўсберга памаладзіла ўсмешка.— Я вельмі прыемна сустракайт з вамі... Дзенісевіч. Я не памыляюся? Я рады слухайт вашы пытанні. Ну, як гэта ў вас гавораць, смялей у бой!

Дзенісевіч упершыню бачыць каменданта. Аўсберг жа ўжо ведае яго, ведае і прозвішча.

— Я прыйшоў...— Голас у Дзенісевіча адразу сарваўся. Ён кашлянуў, ступіў крок наперад і, не зводзячы з каменданта вачэй, сказаў выразна: — Я прыйшоў да вас на работу.

Камендант быццам рыхтаваўся да такой размовы. Ягоны твар палагоднеў.

— Я журналіст, пан камендант,— паспакайнеў Дзенісевіч,— маю вышэйшую адукацыю. Думаю, што я вам спатрэблюся...

— Што вас прымусіла добраахвотна ісці да нас, пан Дзенісевіч? — Аўсберг абапёрся на стол, і зыркія яго вочы ўпіліся ў Дзенісевіча.— Вы адзін з першых, хто прыйшоў да нас сам. Піянер, як кажуць у вас.

— У мяне вялікая сям'я, пан камендант. Жонка, двое дзяцей, маці ды сястра. Трэба ж накарміць іх, дый саму...

— Мяне цікавіць другая прычына,— камендант звёў бровы.— Чаму вы не захацелі памагаць бярозаўскаму каменданту пану Гансу фон Кухтэ? Ён вам даваў усё. І прадуктовыя карткі адпускаў на вашу сям'ю.

Усё больш насцярожвала дасведчанасць каменданта.

— Што праўда то праўда,— Дзенісевіч пераступіў з нагі на нагу.— Я застаўся ўдзячны пану Кухтэ. А працаваць у яго не хацелася. Зразумейце мяне, пан камендант. Там мяне ведаюць як... савецкага журналіста, паэта... Калі праўду сказаць, я баяўся, што мне ў спіну пусцяць кулю... Ды і жонка ўсе вушы пратрубіла: у горад, кажа, давай пераедзем і ўсё. Пры Саветах нам тут кватэры не далі.

Вочы каменданта загадкава прыжмурыліся.

— Значыць, вы думаеце, што нямецкае камандаванне за адну толькі вашу згоду, пан журналіст, дасць кватэру, смачны паёк, ну, словам, усё, што трэба для шчасця? Дзеля гэтага вы прыйшлі?..

— Вы дарэмна на мяне так, пан камендант,— ліслівa загаварыў Дзенісевіч.— Я да вас з усёй душой. Такі час, што я не магу сядзець дома. Перавага на баку вялікай Германіі, вось я і прыйшоў... памагчы.

Аўсберг слухаў Дзенісевіча, раз-пораз паглядваў на паперы, што былі раскладзены стосікамі на стале. А калі ён пачуў апошнія словы — «прыйшоў... памагчы», бровы яго насупіліся: мусіць, у гэты момант у Аўсберга нарадзілася новае пытанне, якім можна было б канчаткова праверыць Дзенісевіча.

— Каго вы лічайт дурнем,— камендант стараўся гаварыць шчыра.— Вось толькі я падпісаў загад: арыштаваць вас. Можна палюбавацца,— і ён падаў Дзенісевічу аркуш паперы.— Па-нямецку можаце?.. Ну, гэта мы ўдакладнім... Цяпер дзякую вам, што не чакалі нашых салдат, а прыйшлі самі.— Камендант пагардліва адкінуўся на спінку крэсла.— Я разумею, вы не чакалі. Ішлі служыць вялікай Германіі, а трапілі ў гестапа, а потым і — ф'юць! — ён даў зразумець, што мае на ўвазе шыбеніцу,— цудоўны канец?! Задаволены вашы землякі, што мы самі распраўляйт са здраднікамі. Доўга будзе шукаць прычы-



на ваша камандаванне і шкадаваць, што паслала вас на гібель. Ну, як, Дзенісевіч, цудоўны канец?

— Пан камендант, я нічога не разумею...

— Не прыкідвайцеся дурнем, Дзенісевіч. Вось тут, у кабінеце, я сваёй рукою расстраляйт восем вашых разведчыкаў. Яны таксама ішлі працаваць на вялікую Германію. Вы будзеце дзевяты.— Голас строгі, рашучы.— Раю вам — больш разважлівасці. Гэта можа вас выратаваць.

Дзенісевіч не разумеў, што адбылося, чаму так пагражае яму камендант, а галоўнае, аб чым папярэджвае. У горле перасохла.

— Я вас не разумею, пан камендант,— ледзь чутна сказаў Дзенісевіч.— Пра што вы кажаце? Які я разведчык? Ды я з дому нават не выходзіў... Спытайце ў пана Кухтэ.

— Пра гэта нам добра ведаць, што вы нікуды не выходзілі. Да вас заходзілі. Цяпер вы разумееце?

Дзенісевіч адчуваў, што здарылася нешта непрадбачанае.

— Можа выйшла якая памылка, пан камендант. Праверце, калі ласка. А ворагі вашы могуць нагаварыць усякае нават на патрэбных вам людзей...

— Хопіць! — адсек камендант.— Я вам даю дзень падумаць. Падумаць і ўспомніць, хто вы ёсць і якое заданне. Потым раскажаце мне пра ўсё... Яшчэ раз напамінаю,— і камендант паказаў на пісталет. Потым націснуў на кнопку. У кабінет увайшлі двое гітлераўцаў.

— У склеп! — загад Аўсберга прагучаў, як прыгавор.— Допыт робіць Шульц. Ён майстар... Жадаю вам поспехаў, Дзенісевіч.— Камендант задаволена ўсміхнуўся.— Будзеце віхляць хвастом — лічыце капут. Падумайце пра гэта...

— Пан камендант, я ж...— Але Дзенісевіч не паспеў дагаварыць: двое дужых эсэсаўцаў выпхнулі яго за дзверы. Чуваць быў вясёлы смех сакратаркі і пагардлівы голас:

— Нох аін эркундунг...*

## II

Да вайны, мусіць, у гэтым склепе хавалі марожанае. Цяпер ён быў пусты, і з яго патыхала леташняй цвіллю.

Ад скразняку і вільгаці Дзенісевіча пачало калаціць. Ды яшчэ цела смылела ад пабояў. Нарэшце боль анямеў і надышло тупое здранцвенне — ён ляжаў нерухома, і толькі ледзьве мроілася ў галаве...

*) Яшчэ адзін разведчык... (ням.).



Шульц хлыстаў, не зважаючы на стогны. Два разы заходзіў камендант. Усміхаўся. Яму самому карцела ўзяць гумавы хлыст, але колькі можна — са спіны цурчэла кроў.

Грымнула жалезная завала — Дзенісевіч варухнуўся на перацёртай смярдзючай саломе. У дзвярах паказаўся камендант. Ён усміхаўся.

— Як сябе адчуваеце, пан Дзенісевіч? — пацікавіўся Аўсберг і, не дачакаўшыся адказу, заўважыў: — Не так ужо і плёха ваша здароўе. Допыт вы пераносіце цудоўна.

Дзенісевіч адвёў вочы.

— Вытрымка, пан журналіст... Будзьце мужчына.— У голасе Аўсберга чулася пагарда.— Жадаю поспехаў...— і выйшаў.

Паступова вярталіся сілы. Толькі па-ранейшаму, калі трэба было павярнуцца, балела пасечаная спіна. «Не паверань... Павесяць...» — употай думаў ён.

Сярод ночы зноў натужна заскрыгаталі дзверы. Сноп ярка-белага святла балюча ўдарыў у вочы.

— О, у вас тут вельмі ўтульна.— Дзенісевіч пачуў голас Аўсберга: — Гонар які, нямецкае камандаванне ўжо выдала вам асобны пакой. Зараз прынясём стол, чарніла, паперу, і можна пісаць, пан журналіст.

Дзенісевіч маўчаў.

— Ну, не крыўдуйце на мяне. Для поўны шчасця вам не хапае сям'і. Будзе і сям'я. Там ёсць склеп. Корошы склеп. Вы не супраць?

Дзенісевіч нямогла прыўзняўся на ўзлакотках:

— За што вы так? За што?.. За якую віну? — і глыбокі кашаль заглушыў яго голас.

Дзенісевіч адкашляўся і з лютай нянавісцю зірнуў на Аўсберга. Хацелася плюнуць у гэты ліслівы твар і сказаць штосьці едкае, злоснае. Але стрымаў сябе.

— Я слухаю, гаварыце,— камендант нібы ведаў, пра што думае Дзенісевіч, і, зірнуўшы на гадзіннік, спытаў: — Ці маўчаць будзеце?

— Вы ні за што мяне...

— Пан Дзенісевіч, калі не раскажаце нам праўду — расстраляем вось тут, у склепе. А каб не напалохаць людзей, якія хочуць пайсці да нас на службу, скажам, што вы загінулі ад партызанскай кулі. Па радыё перададзім жалобны марш Баха. Новы зондэрфюрар па прапагандзе — нямецкі журналіст — будзе гаварыць над вашай труною развітальнае слова.

— У вас цудоўная фантазія...— безнадзейна ўсміхнуўся Дзенісевіч.

— Гэта мой прыгавор.— Аўсберг устаў з табурэткі.— Бывайце... Шкада мне вас...

— Пан камендант...

— Рашылі сказайт праўду? — Аўсберг крута павярнуўся да Дзенісевіча.

— Скажыце перад смерцю, хто нагаварыў пра мяне такое?..

— Яны ўжо расстраляны...

Глуха грымнулі дзверы, і ў склепе стала вусцішна, як у труне.

## III

Калі немцы па дварах збіралі падатак, Пiлiпiха для адчэпнага вынесла ім дзвюх чубатак. Немцы ад нечаканасці пераглянуліся, староста кіўнуў галавой, маўляў, усё добра. І яны пайшлі далей. Пiлiпiха сама здзівілася з свае хітрасці, але потым дачулася: староста хваліўся блізкім, што пашкадаваў яе — сям'я дужа вялікая. А праз колькі дзён прыйшоў у хату і сказаў, як пад корань падсек:

— Заўтра каб карову адвяла да камендатуры. Такі загад новай улады.

— Чалавеча ты мой,— пляснула рукамі Піліпіха.— Як жа мне з унукамі?

Той насупіўся, як цень, і ўзяўся за клямку:

— Казу купі. Але і без казы не прападуць вырадкі гэтыя.

Акамянела старая ад такіх слоў. Стаяла няўцямная. Нават і не заўважыла, як бразнуў дзвярыма староста. Бразнуў і пайшоў у хлеў, каб паглядзець, ці стаіць там карова. Потым зноў вярнуўся ў хату.

— Дзе карова?

— А ты ў яе спытай,— старая адышлася да акна, прысела на лаву і, ужо не гледзячы на старасту, сказала яшчэ:

— Хоць на той свет загані, а каровы не аддам...

— Пабачым! — прыгразіў староста і выскачыў з хаты.

— Безікі павылазяць, злыдзень праклятры,— агрызнулася Піліпіха, але той пашыбаваў ужо да камендатуры.— Пашукай цяпер яе ў цёмным лесе...

У старое дрыжала ўсё ў сярэдзіне, калаціліся рукі. Але выпіла вады — палягчэла. І зноў завіхалася ля печы. Трэба ж згатаваць снядан дзецям. Яна іх не трывожыла гэтак рана.

За пятнаццаць гадоў без мужа Піліпіха чаго толькі не перажыла, але дзеці былі дагледжаны і накормлены (а іх жа было дзевяць у яе), у хаце ніколі пусткай не пахла. Затым дзяцей у людзі вывела, прыпуціла. Вось і ўнукаў дачакалася і мілавалася імі, як сваімі роднымі дзецьмі. Не ўгледзела, як і Марыя, меншая, узнявесцілася. І ўсе дзеці Дзенісевічавага роду-племя дужыя, абыходлівыя з людзьмі, не сквапныя на чужое і да ўсякага рамяства не з дубовымі рукамі падступаюцца. А цяпер вось матчыну радасць хмара завалакла: Іванкі няма, а немцы наўкола народ катуюць. Употай чакала, што ўсёй немачы хутка прыйдзе канец і зноў стане ўсё ладам-парадкам. Вось бы дзеці яе ўцалелі, Іванка жывы-здаровы вярнуўся.

Старая прысела на ўслончык: нешта зноў памлелі ногі, і млявасць, як у спёку, ахапіла ўсё цела. Ненарокам падумала, ці не зляжа часам. Хацела паслаць Марусю, каб схадзіла да Хвядосіхі. Тая ж ведае словы-замовы. Але перадумала. Можа і так абыдзецца.

— Ты, Аленачка, прыглядзь тут у печы, а я пайду лягу. Нешта мне нездаровіцца...

Нявестка стала ля печы, а старая прылягла. Успомнілася, як прыязджаў Іванка. Яна садзілася ля сына, а нявестка вось так завіхалася каля печы. Шкадавала Піліпіха нявестку. Гэтулькі радасці Алена прынесла ў іхнюю хату. Аднаго падаравала шчабятунчыка, а потым і другога. Дасць бог—і трэці будзе. Хай нацешыцца з дзяцей. І міжволі ўспомніла, як сама свету белага не бачыла з-за іх. Пакуль накорміць, перамые, на калгасную работу збегае, то вечарам упадзе на ложак, як забітая. Ні да яды, ні да гульбы. Іванка напоіць усіх малаком ды спаць укладзе. А сам запаліць лямпу ды ўпрыцемку чытае кніжкі. Піліпіха калі-нікалі не стрывае, скажа:

— Не сляпіўся б ты над гэтымі кніжкамі. Няўжо дня табе мала?

І ён паслухмяна клаўся спаць, але ўсё роўна доўга варочаўся, мусіць, тое, пра што чытаў, не давала яму спакою. Удзень выбера якую

хвіліну і ўсё нешта піша і піша. Хто яго ведае, што крэмзае. Піліпіха ў школе не вучылася.

Апошні раз, калі так занядужала Піліпіха, было даўно. Тады яе сынок, Хвядоска, захварэў на адзёр і памёр. Жвавы быў хлопчык, гарэла на ім усё. Акурат пад Іванкам ён быў. Праўда, не песціла сваіх дзяцей Піліпіха смакавітымі стравамі. Кіслае малако, бульба, гурок ды ў святы скварка і суп з затаўкай — вось была іх яда. І, хвала богу, выраслі. Як дубы ўсе. Праўда, Іванку перападала больш, чым каму. Вучыўся ж ён у Мінску па-нямецку гаварыць. Што лепшае ў хаце было, капейка якая затрымаецца, то ўсё яму ды яму. Прыедзе дамоў — і маці ад радасці заставіць увесь стол і ўсё глядзіць на сына, нацешыцца не можа. Усё расказвае яму і кажа:

— Еш, сынок, еш...

У такія дні і для астатніх дзяцей была радасць. Асабліва для Хвядоскі. Любіў ён тады смакаваць усё, што ляжала і стаяла на стале. А калі не было дома Іванкі, ён папросіць:

— Я хачу салодкага малака...

Піліпіха тады ласкава пагладзіць яго па галоўцы:

— Пацярпі, сынок, вось саб'ю якое кіло масла нашаму Іванку, тады ўжо дам табе салодкага малака.

Або:

— Гэта, дзіцятка, для Іванкі. У яго навука цяжкая. Ты дома, а ён у вялікім горадзе. За ім няма каму там прыглёдзець. Давайце пашлем яму пасылку...

Кожны пакрысе адбіраў ад сябе самога і аддаваў сваю долю старэйшаму брату. І ад гэтага дзецям не рабілася горка, а наадварот, радасці той хапала надоўга.

Калі захварэў Хвядоска, не маглі вылечыць яго ні дактары, ні лякарствы, ні смачныя стравы. І помніць маці той дзень, калі Хвядоска пасмяглымі вуснамі шаптаў:

— Не трэба, мама, мне малака,— бедненькі, аж задыхаўся.— Вы пашліце нашаму Іванку масла. Ён жа там адзін у горадзе...

Крывёю аблівалася тады матчына сэрца, і слёзы засцілі ёй вочы. А неўзабаве ён памёр. Напаследак глянуў на маці, на сясцёр і ціхенька ўсміхнуўся. Такім вось і помніць Хвядоску Піліпіха. І як злягла тады, то ледзь розум не страціла, ледзь выхадзілі яе.

Цяпер тое самае нібы робіцца з ёю зноў. Час ад часу нешта варухнецца пад грудзьмі, заколе і заные, як тады. Цяпер у яе з галавы не выходзіў Іванка. Што ж з ім здарылася? Ці надоўга ён туды? Крый божа што...

І ад гэтай думкі ў Піліпіхі аж пахаладзела ў грудзях, рукі і ногі здранцвелі. Мусіла прыўзняцца, пахадзіць па хаце. І раптам у галаве зазвінела і перад вачыма пачало кружыцца. Піліпіха прылегла зноў і неўзабаве заснула...

## IV

А гэты неўгамонны жаўрук падняўся на самым досвітку. Не спіцца рупліўцу — шчабеча, пырхае ў блакітнай смузе. То знікне з вачэй, сальецца з сінявой, то каменем ляціць у пераспелую збажыну. А потым зноў журчыць сабе, быццам той веснавы ручай...

Дзенісевіч колькі ні сіліўся прыўзняцца, стаць на ногі, але не мог. Зноў падаў на зямлю, дзе прараслі набрынялыя ад дажджу, паасыпаныя з пераспелага жыта зярняты. Ногі адзервянелі, а рукі ўсё яшчэ трымалі аўтамат з пустым дыскам.



Пасля ночы ён апынуўся тут сярод пераспелага жыта. Яму балюча і млосна. У галаве звініць. Толькі заплюшчыць вочы, як паўстае вогненна-чорная здань, што перуном выбухнула перад ім. Устрапянецца — і адчуе, як захлюпае вада пад бокам, зноў задражніцца жаўрук над полем. Мрояцца тады думкі, блытаюцца, як павуцінне. Пасмяглыя вусны раз-пораз просяць адно:

— Піць... Піць...

Суціх жаўрук, і зноў завыў вогненны сноп, а потым усё закружылася, завярцелася і знікла ў страшным галашэнні...

У бруствер затахкалі кулі. Сухі пясок струменьчыкамі пасыпаўся на дно траншэі. Гаворкія дагэтуль хлопцы сцішыліся. Было чутна, як быццам хтосьці побач, прыклаўшы палец да вуснаў, з перасцярогай і ціха свістаў:

— Тс-с-с...

Хлопцы павярнулі галовы.

Шызы дымок узвіўся над траншэяй. Усе насцярожыліся. А Сашка Глымза, ужо бывалы салдат, які ідзе з баямі ад самай граніцы, усміхнуўся і падміргнуў:

— Цікава, пачым такія арэхі ў Гітлера?

Ніхто не адгукнуўся. Зноў мёртвая цішыня. Яна бывае заўсёды перад боем.

Прымоўк і дзядзька Піліп, вусаты яфрэйтар. А калі зноў зацохкалі кулі па пясчаным брустверы, ён не сцярпеў і высунуў угору кукіш:

— На, выкусі, люцыпар чортаў,— але хуценька дзергануў руку назад. Хлопцы зарагаталі:

— Глядзі, таварыш яфрэйтар, могуць і выкусіць.

Стары збянтэжыўся, сеў побач з Іванам Дзенісевічам, які нешта запісваў на пакамечаным кавалку паперы. У дзядзькі Піліпа калі-нікалі набягалі думкі пакпіць з Івана, спытаць у яго:

— План разгрому Гітлера складзеш?..

Але да слова не прыйшлося. Ды ён і паважаў гэтага адукаванага, інтэлігентнага чалавека. Цяпер яфрэйтар падсеў да Івана. Згарнуў цыгарку, і адразу ў траншэі стала дымна.

— Ну і аглобля,— не змоўчаў Сашка Глымза.

Па яго падліках на такую цыгарку ішла добрая жменя тытуню і сама мала паўгазеты. Сам жа Піліп называў яе паходнай кухняй: яна ніколі не тухне, з ёй весялей і не так кішкі марш іграюць, калі часам кухня адстае ад акопаў. Вадзіўся за дзядзькам і яшчэ адзін «грэх». Махоркі яму не давай, без абеду пакінь, а дай удосталь нагаварыцца.

А калі Піліпу прысвоілі яфрэйтара, ён стараўся цяпер, як кажуць, быць на ўзроўні свайго становішча. Слухаць іншых слухаў, але сам абы-якую лухту не малоў. Падкруціць, бывала, свае парыжэлыя вусы і пачне гэткім павучальным тонам, як і належыць старшаму па чыне:

— Павалтузяць яны нас, здорава павалтузяць, ды не здужаюць. У кішках танкаватыя... Ты от мяне вазьмі як індзівіда. Я табе, братка, толькі з выгляду здаюся стары, худы, а от вазьмі-тка мяне пад сілкі, то, браток, жылы надарвеш, а не здужаеш.— Дзядзька Піліп у такія моманты не зважаў на чужую ўхмылку.— Я сабе такі дыягнуз устанавіў: трымаць сілы на чорны дзень. Ты кажаш, што наступіў дзень. Наступіў, я сам знаю, што наступіў. А тут трэба выбраць момант, пік, калі гаварыць па-вучонаму. От тады я табе пакажу, што за дух у маім целе. Скручу гіцаля ў тры пагібелі... Ты дарма ўсміхаешся, Глымза. Кашчлявы мужык заўсёды цягавіты. Яго жылы, браток, крапчэйшыя за канапляныя вяроўкі.

Салдаты моўчкі слухалі даўно вядомы дзядзькаў маналог.

Фашысты расстралялі яго сям'ю, а сам Піліп цудам застаўся. Кінуўся ў ахоплены пажарам хлеў, а адтуль — выскачыў на агарод і ў густы бульбоўнік. Ссівелы, ужо на чацвёрты дзень дагнаў сваю армію.

Зноў заціўкалі над брустверам кулі. І недзе блізка каля Сажа пачалі вухкаць, рвучыся, снарады.

...І вось ціха. Стоена шапаціць пустымі каласамі жыта. Стракочуць конікі. А ў яго ў вушах яшчэ ўсё стаіць грукат учарашняга бою. Раптам Дзенісевіч пачуў брэх сабак, і адразу ёкнула сэрца: «Няўжо даганяюць? Што ж рабіць?..» Адкрыў затвор аўтамата. А можа застаўся хоць адзін патрон? Дыск пусты.

Шалёны лямант набліжаўся. Зямля даносіла да слыху гулкі тупат ног. Прыўзняўся. Рэзкі боль працяў паясніцу, кальнуў, як халодным лязом, у галаву, і зноў Дзенісевіч прыпаў да мокрай зямлі. Ён ужо не чуў ні злоснага брэху сабак, ні чужых слоў:

— Штэен аўф, русіш швайн!.. Штэен аўф!

## V

— Штэен аўф!..

Увайшоў камендант. Плашч на ім шалясцеў, як апалая лістота. Прысеў на табурэт. Закурыў. Дзенісевіч стаяў моўчкі. Ногі падкошваліся, але што было сілы трымаўся. Маўклівая дуэль цягнулася надоўга.

— Ці праўда, пан Дзенісевіч, што вы не хочаце прызнацца, што з'яўляецеся злачынцам нямецкай улады? Вы лічыце гэта геройствам, то вы не корошы чалавек. Вам гэта гульня — капут... Так, так. Шансы — ёсць дружба з намі. Вы разведчык. О, корошо гэта ёсць для вялікай Германіі. Я думаю — вы мяне разумееце?!

Дзенісевіч здагадаўся, куды хіліць Аўсберг. Але што канкрэтнае? За гэтыя дні, што правёў ён у змрочным і сырым каземаце, Дзенісевіч не пачуў ніводнага знаёмага яму прозвішча. Значыць, усё, што надумаў Аўсберг — правакацыя. Але адкуль у каменданта такая дакладнасць, што ён, Іван Дзенісевіч, менавіта партызанскі разведчык?! Проста здагадка? Тады ці варта яму было гэтак валтузіцца? Праўда, Аўсберг расстраляў восем разведчыкаў, якіх накіраваў падпольны райком на работу да немцаў. Але пра тых камендант ведаў. Напэўна, ад сваіх шпікоў. Тут справа іншая. Значыць, трэба трымацца! Толькі б хапіла сілы...

— Пан камендант, я шкадую, што так усё атрымалася... Я ішоў да вас... Хацеў як лепш... У мяне сям'я, дзеці... І вы на маім месцы зрабілі б так.

Аўсберг не разлічваў на такую шчырасць. «І вы на маім месцы зрабілі б так...»

Камендант прайшоў усю вайну, бачыў рускіх салдат, якія стаялі насмерць, а ён, савецкі журналіст, гэтак лёгка мяняе пяро. Ён глянуў на Дзенісевіча з пагардай і задумаўся зноў. А калі гэта разумны чалавек? Германія зойме Маскву, выйграе вайну і ўстановіць новы парадак. Мы ж будзем шукаць падтрымкі ў тых, хто з намі быў заадно. А ён, гэты Дзенісевіч, сам прыйшоў. Значыць, ён не сумняваецца, што перамога будзе наша... А раптам ён і сапраўды рускі разведчык? Прыгрэць яго ў нашым тыле, надзяліць пасадай, раскрыць яму карты, а потым... даведацца, што гэта рускі чэкіст.

— Можа быць...— задуменна прагаварыў Аўсберг.

— Паверце мне — і можа на якую гадзіну раней кончыцца вайна. А гэта важна і для Германіі.



— Як — паверце? — камендант нібы гуляў у жмуркі з самім сабою.— Вы служылі аднаму гаспадар чэсна, цяпер чэсна прыйшлі служайт другому. А вось прыйдзе трэці гаспадар... І яму прадасце вялікую Германію. Вы ведаеце, як гэта называецца?.. Мальчайт... Прастытуцыя. Палітычная прастытуцыя...

У душы Дзенісевіч пагаджаўся са словамі Аўсберга. Сапраўды, ён цяпер выконвае незайздросную ролю. Але бой яшчэ не скончыўся, надзея на выйгрыш не пакідала падпольшчыка.

— Трэцяга быць не можа,— сказаў Дзенісевіч.— Я ведаю гісторыю. Перад такой сілай, як ваша, ого!.. Тым больш, што я ведаю, як узброена Чырвоная Армія.

— Што вас прывяло ў журналістыку? — раптам запытаў Аўсберг.

— Я пісаў вершы...

— Не, я не пра вершы. Вы, відаць, чалавек з галавой. А быць журналістам і чэсным чалавекам — гэта несумяшчальна. Мяне падкупляе ваша шчырасць, але вы больш чэкіст. Ваш камандзір ведаў, каго пасылаць да нас. Я рэдка памыляюся. О, вы можаце працаваць. І корошо. Пяць гадоў газета — гэта корошая школа разведчыка,— і Аўсберг гучна ўсміхнуўся.

Цяпер Дзенісевічу стала ясна, што камендант толькі здагадваецца, што перад ім разведчык. А ў такой справе адных здагадак мала. Значыць, трымацца да канца.

— Вы памыляецеся, пан камендант,— Дзенісевіч загаварыў смялей.— Мне не было часу выбіраць прафесію. Паступіў туды, куды лягчэй было прайсці па конкурсе. Нас у маці было дзевяць. Што ж я мог выбіраць.

— О, гэта ўжо нешта праўда,— камендант на момант затаіў дыханне.— Мне прыйшла ў галаву думка. Вы корошы прапагандыст. Германская прапаганда гэта ест корошо. Вам якраз корошо.

Дзенісевіч не чакаў такой прапановы. Новая пастка Аўсберга пераблытала ўсе яго карты. Райком не пасылаў яго нямецкім агітатарам.

— А я ж падрыхтаваўся да смерці, пан камендант,— Дзенісевіч гаварыў спакойна.

— Ваша смерць, Дзенісевіч, о, тут,— камендант паказаў свае рукі.— Навошта смерць. Вы ест корошы прапагандыст.

На нейкі момант замаўчалі абое. Аўсберг чакаў адказу, а Дзенісевіч думаў. І нарэшце:

— Што вам сказаць?.. Баюся, што я доўга не вытрымаю. Ад разумовай працы ў мяне часта баліць галава. Дактары раілі змяніць прафесію. Мяне і звольнілі з рэспубліканскай газеты... Але вы можаце загадаць, нарэшце... Я пакорны ваш слуга... Калі б знайшлася для мяне якая іншая работа, скажам, лягчэйшая, пісара, вартаўніка, ці яшчэ якое другое месца...

— Іншае месца там, Дзенісевіч.— Камендант паказаў пальцам на падлогу.— Іншае быць не можа... Вы разумны чалавек і вялікі баязлівец. Працаваць на сваю сям'ю? Не. Ест вялікая Германія! Мы вас, Дзенісевіч, прымусім працаваць на нашу перамогу... Вялікі баязлівец — размова кароткая — капут...

Гулкія крокі каменданта аддаляліся і быццам адлічвалі апошнія секунды жыцця.

## VI

На ім шчыгульна сядзела новая форма і на нагах рыпалі ялавыя боты. Выглядаў ён стройна, падцягнута. Але з твару яшчэ не сышлі

сінякі. Ды зноў балела ў паясніцы — усхадзіўся радыкуліт. І ногі сталі цяжкія. Дзенісевічу не хацелася ісці дамоў, у сваю Бярозаўку. Дома нічога добрага не чакае. А ўчора ён думаў інакш. Учора ён быў рады, што выйграў свой першы паядынак. А цяпер... Цяпер ён ведаў, якая служба ў акруговай паліцыі. Камендант паставіць яшчэ не адну пастку, бо сказаў: «Гэта для вас выпрабавальны тэрмін...» Але чаму Аўсберг задумаў завербаваць яго прапагандыстам і сваім разведчыкам, для Дзенісевіча была загадка.

Ногі цяжка ступалі па пульхным пяску, ад цеснай формы рабілася горача і млосна. Дзенісевіч расшпіліў кіцель, прысеў на цёплую купіну, пад кустом альшэўніку. Вакол цвіла лотаць, вытыркнулася ў балацінах асака. Было парна, як ліпеньскім днём. Мусіць, к вечару збярэцца дождж. Можа будзе і гром. Першы, вясновы. Ён падышоў да рэчкі, хацеў зачэрпнуць прыгаршчамі вады і апаласкаць твар, але ў вадзе ўбачыў сябе ў паліцэйскай форме. Нават не паверыў спачатку. Азірнуўся — ззаду нікога. Так, гэта ён. Няма таго Івана ў зашмальцаванай кепцы-васьміклінцы, з доўгім чырвоным гальштукам на белай у палоску сарочцы. Няма таго Івана. Помніцца, як працаваў у раёнцы, падоўгу заседжваўся ў клубе, чытаў свае вершы, да хрыпаты спрачаўся з рэдактарам за вёрстку газеты. Далёка ззаду засталіся сустрэчы з хлопцамі-пісьменнікамі. Гэта было ў Мінску, якраз перад вайной. Тады яго выклікалі на семінар маладых. Помніцца ўсё да дробязей... Дзе ж яны цяпер, сябры па пяры? О, калі б яны ўбачылі мяне цяпер, вось у гэтай форме... Ды што форма... Ён скінуў пілотку, наважыўся быў зняць кіцель, але падумаў: у красавіку падманлівая цеплыня. А здароўе яму цяпер ой як трэба. І дома спытаюць пра здароўе перш за ўсё. Дужа ж шкадуе яго маці. І Алена, мусіць, усе вочы прагледзела, чакаючы. А ён вернецца такім вось чужым, страшным, не сынам, не мужам, не бацькам. Зазвінела ў скронях, пахаладзела ў роце. Прыкра і цесна ў кіцелі. Спарыўся. Хоць бы дыхнуў ветрык.

Яшчэ кіламетр-два, і ён будзе дома. Дома... Што падумае, што скажа маці? Ці выйдзе, як калісьці, сустракаць на вуліцу. Ці скажуць яму суседзі, як некалі, пры сустрэчы: «Шанаванне, Піліпавіч!..» Супакойвала думка, што так патрабуе райком і яго роля як разведчыка, гэтая новая, не вядомая для яго роля. Толькі на выгляд прыслужніка фашызму, а на самай справе ўпаўнаважанага Савецкай улады ў тыле ворага.

За пагоркам паказалася Бярозаўка. Яго родная вёска, якая цяпер станавілася нечым патаемным, асцярожным. Млелі ногі, не хапала паветра. Што ён скажа людзям? Тая ж Язэпіха першая кальне яго:

— Прадаўся, Іванка?

Хацеў пайсці да сваёй хаты загуменнямі. Але цяпер такі час, што ўсе на агародах... А раптам стрэне яго хто-небудзь з падпольнай групы? Не так даўно разам прымалі клятву помсціць ворагу да апошняй кроплі крыві, і, аказваецца, ён здрадзіў сваім таварышам. Што ім сказаць пры стрэчы, як апраўдацца? Праўду гаварыць забаронена. Ён ведаў сваіх хлопцаў — яны спытаюць строга. А могуць і не спытаць — пойдуць на крайнасць. Клятва ёсць клятва. Хто-небудзь выканае прыгавор групы... Трэба папярэдзіць сястру...

Бярозаўка сустрэла яго пустой вуліцай. Праўда, за штыкетнікамі, заўважыў Дзенісевіч, паказваліся белыя хусткі. І нечы голас шаптаў:

— Людцы, родныя, Пілішкоў Іван у паліцэйскія запісаўся... Божа мой, божа...

Язэпіха сустрэлася акурат ля калодзежа. Але ні слова не сказала,





адвярнулася. Пацягнула за вочап і, калі ўбачыла, што блізка нікога няма, спытала злосна:

— За колькі ж прадаўся, Піліпавіч?..

Дзенісевіч не агледзеўся, толькі прыкметна ўздрыгнулі яго плечы. Ён, як цень, пасунуўся да сваёй хаты. Тут якраз насустрач Макар Фядзюня, бярозаўскі стараста. На ўсю вуліцу залепятаў:

— Добрага табе здароўечка, Піліпавіч! — і хістае яму насустрач.— Дай жа я цябе абдыму, дай пацалую.— Ад яго тхнула самагонкай. Ён трымаў Дзенісевіча за руку і хваліўся: — Гэта ж сустрэў я сёння пана Кухту, то ён мне пра ўсё і расказаў, хвалю я цябе, Іванка.

— Ты п'яны, Макар, адчапіся.

— Прабач, Іванка, прабач, галубок... Я з усёй душой...

— Ідзі праспіся...

— Вось ты ўжо і камандуеш мной.— Куды і падзелася ў Макара панібрацтва.— А я ж цябе от такога яшчэ на руках насіў і хвалю сёння. Ну, дык бог з табой.

А ля дома стаяла маці. Строгая, нахмураная, і ў яе вачах была трывога. Ён на хвіліну супыніўся, падумаўшы, што ў матчыных руках зараз з'явяцца матузы. А ён, як у дзяцінстве, шыбне куды-небудзь за гумны, каб там перасядзець да вечара. Ды не такая цяпер была матчына злосць. Яна вось-вось скажа нешта такое, што запомніцца на ўсё жыццё. Іван пакорліва схіліў галаву і, падышоўшы бліжэй, ціха сказаў:

— Абдымі мяне, мама... Так трэба...

Суседзі бачылі з-за плота, як Піліпішыны рукі абнялі сына.

## VII

Мінуў тыдзень, цяжкі і клапатлівы. Начальнік акруговай паліцыі Вуленка заваліў работаю: штодзень прыносіў перапісваць паперы цэлымі стосамі. Тут былі загады, распараджэнні, пратаколы і яшчэ д'ябал ведае што. Іх трэба было правіць, надаваць такую-сякую пісьменнасць. А Вуленка падганяў, вырываў паперы з рук, крэсліў іх, загадваў перапісваць зноў. Рабіў гэта без аніякага такту, пры паліцэйскіх. Дзенісевічу заставалася пакорліва гаварыць «слухаюся» і парабляць тое, што было загадана. Часам хацелася даць здачы, але стрымліваў сябе, стараўся дагаджаць.

Пакой, у якім сядзеў Дзенісевіч, быў прахадны, лічыўся прыёмнай начальніка паліцыі. Тут кожны дзень тоўпіліся начальнікі раённых упраў ды яшчэ той-сёй.

Насупраць стала Дзенісевіча, якраз ля ўваходу, сядзела сакратарка Люся. Дзяўчына яна была не балбатлівая і абы з кім, як сама гаварыла, «ціцімонію не заводзіць». Дзенісевіча, як і самога начальніка паліцыі, яна баялася. Калі даводзілася вітаць каго з начальства, яна ўсхоквала з месца, выкідвала руку наперад, крычала нараспеў:

— Хайль Гітлер!..

На першым часе Дзенісевіч асуджаў у душы Люсю. Хацеў быў спытаць: «Дагаджаеш гэтак ці нос па ветры трымаеш?» Але палічыў, што лепш не звязвацца. Люся спачатку працавала прыбіральшчыцай у ортскамендатуры, а потым яе перадалі Вуленку. Чаму камендант адмовіўся ад такой прывабнай прыбіральшчыцы, пакуль Дзенісевічу было невядома. А сама яна казала:

— Дужа рукаты камендант...

Люся сядзела за сваім сталом ад званка да званка. А вечарамі Дзенісевіч бачыў яе з нямецкімі афіцэрамі. Дзенісевіч жа заседжваўся на рабоце позна. Разы са два давялося начаваць на канапе тут жа, у прыёмнай. Аднаго разу ў яго закружылася галава, пацямнела ўвачу, і ён асунуўся на падлогу. Люся трывожна ўскрыкнула, дастала з кішэні нейкія таблеткі і разам з вадою падала Дзенісевічу. Якраз выйшаў Вуленка.

— Не з вашым здароўем памагаць немцам...

— А што мне рабіць загадаеце? — устаючы з падлогі, спытаў Дзенісевіч.— У мяне ж сям'я...

— Ну, ну...— загадкава прамармытаў Вуленка і падаўся на вуліцу.

Што хацеў сказаць начальнік, Дзенісевіч не ведаў. Выжыць хоча ці папракае, што пайшоў служыць акупантам?

Вуленка — былы старшы лейтэнант Чырвонай Арміі. Трапіў у акружэнне ля Прапойска. Яму заставалася: канцлагер ці служба на немцаў. Падаўся ў паліцыю. Пасяліўся на кватэры ў Аляксея Старавойтава. А там прыгледзелася яму Аляксеева дачка, і Вуленка ажаніўся.

Калі, бывала, прыходзіў Аўсберг, то глядзеў на Дзенісевіча халодна, афіцыйна. Аднойчы толькі спытаў:

— Як, пан Дзенісевіч, перапісваць чужое лепш, чым пісаць свае вершы?

— Не да свайго, пан гебітскамісар *,— усміхаўся Дзенісевіч.— Ды я не думаў, што тут столькі работы.

— Мы вам многа грошай плацім. Пры саветах вы не мелі такога заробку.

На гэтым і скончылася тады сустрэча.

Адчуваў Дзенісевіч, што яму пакуль не давяраюць. Паперы, якія перапісваў, загадзя ведаў, не мелі ніякай каштоўнасці. Гэта былі спісы паліцаяў, загады па адміністрацыйных спагнаннях.

У дзверы пастукалі. У пакой асцярожна зайшла немаладая жанчына. Азірнулася, павіталася. Потым ціха пытае:

— Гэта вы будзеце Дзенісевіч?.. А я, дзеткі, Малання Стахава. Дык чаго ж я да вас. Хадзяіна майго паліцэйскія забралі. Самагонкі прасілі, а ён, Панаска мой, п'яны быў, дык галава не варыла — кукіш тыцнуў іхняму начальніку. Можа б ты, дзетка, заступіўся. Ты ж усёткі наш... Памажы, галубок.

Дзенісевіч строга паглядзеў на кабету:

— Будзе ведаць, як кукіш даваць,— сказаў ён.— А перадачу дазваляю.

Дзенісевіч узяў кавалак паперы, каб напісаць дазвол на перадачу, але кабета раптам ціхенька загаварыла:

— Ды, дзеткі, гэта я так. Каб падазрэння не было. Ад Антонавага я... Прасілі, каб ты перадаў, што ў цябе новага... Не ведаюць, чаму доўга маўчыш. Учора нашы зноў папаліся, ля Дронаўкі на засаду наскочылі... Ой, божухна!.. З Шароеўкі я сама... То калі што ёсць, давай. Бавіцца няма як.

— Я даведку дам, што ты была ў мяне. А гаварыць можна і гучней. Я тут адзін. Ці ж даўно бачылі Антонава? Як ён там?

— А нічога. Кашляе толькі, прастудзіўся. Сёння ў нас начаваў, учора ў Апанаськавых. Наварыла гэта я яму кіпеню з малінамі ды самагонкі дала. За ноч прапацеў. Адлёг кашаль. Расказваў багата чаго пра нашых... Маскву, казаў, немцы не ўзялі.

*) Гебітскамісар (ням.) — акруговы камісар. Галоўны начальнік гітлераўскай акупацыйнай адміністрацыі акругі.

— Што ж яшчэ прасіў перадаць?
— Казаў, што заходзіў неяк да вашых. Алена твая дужа баіцца. Ды што зробіш, час такі... Ну, то калі што ё, то давай. Мне аж у Шароеўку, і цямнее ўжо...
«Можа і гэта пастка каменданта? Тады што ж рабіць з бабай?»
Дзенісевіч, нарэшце, спытаў на поўны голас:
— Дык, кажаш, сёння будзе?
— Але ж, сёння...
— Што ж гэта ён адзін? Галавы сваёй не шкадуе...
— Ды не адзін, дзеткі. У яго цяперака стражы багата. Накарміць іх — цэлы чыгун бульбы трэба.
«Што ж рабіць?» — думаў Дзенісевіч і нарэшце рашыўся:
— Ты, Маланння, са мной пагаварыла, цяпер трэба з камендантам. Ён дужа любіць гаварыць з такімі жанчынамі.
Дзенісевіч устаў з-за стала, але ў руцэ Маланні ўжо быў пісталет, які яна, мусіць, выхапіла з-пад кофты.
— Ступі толькі адзін крок — дзюрак нараблю. Я свой век пражыла, а табе яшчэ вунь і трыццаці, пэўна, няма... Значыць, прадаўся ўсёткі... Але так гэта табе не пройдзе. Выкладвай, што ведаеш,—строга загадала Маланння. Дзенісевіч ніколі не чакаў, што ў гэтай з выгляду добрай і шчырай сялянкі раптам тоіцца столькі строгасці і гневу.— І толькі акажыся, дык я цябе, як шчанюка, на месцы... Не хацеў з намі дабром, цяпер пад куляй будзеш... Ну, хутчэй!
Нарэшце Дзенісевіч апрытомнеў.
— Ну і напалохала, баба дурная...— і строга, як належыць старшаму, загадаў: — Кінь баламуціцца, шалёная, і схавай пісталет. Гэта табе не цацка... Знайшла месца. Каравульны зойдзе. Зараз...
Дзенісевіч спакойна адамкнуў шафу і дастаў стосік папер.
— Вось перадай. Толькі схавай, каб нашы не ўбачылі... Ці зразумела?
— Не бойся,— памякчэла жанчына і ў тую ж хвіліну адвярнулася, каб схаваць паперы. А тым часам Дзенісевіч што было сілы штурхануў жанчыну. Яна грукнулася аб падлогу і ўскрыкнула. Дзенісевіч наступіў на руку — пісталет вываліўся з далоні.
— Цяпер мы з табой пагаворым, шкура бандыцкая... Пан Аўсберг з такімі доўга не важдаецца...— і Дзенісевіч загадаў: — Устаць!
Кабета змянілася з твару.
— Сынок, адумайся... Што ты робіш,— лементавала яна.— За такое на шыбеніцу... Нашы не даруюць. Адпусці з богам, пашкадуй дзяцей сваіх...
— Устаць! — Дзенісевіч узвёў курок кольта.— Марш да камендатуры! Шкура...

## VIII

Раніцай Дзенісевіча выклікаў да сябе начальнік.
— Перапішы акуратна вось гэты спіс,— ён дастаў з сейфа некалькі аркушаў паперы.— Толькі каб і вокам ніхто не зірнуў. Разумееш?.. Гэта для паліцыі. Закончыш работу — спісы адразу мне.— Вуленка быў заўсёды строгі, але цяпер гэтая строгасць межавала з нейкім невядомым даверам.— Трапіць гэта да партызан, табе — канцлагер...
— Разумею,— адказаў Дзенісевіч і павярнуўся да дзвярэй, каб ісці выконваць тэрміновы загад, але Вуленка спыніў яго:
— Перапісвай у мяне. Тут больш надзейна...



Начальнік выйшаў, а неўзабаве на двары чутны быў яго строгі голас. Ён выстраіў чарговы нарад паліцыі і некага адчытваў. На першым аркушы ўверсе стаяў грыф «Зусім сакрэтна». Такіх папер Дзенісевічу яшчэ не даводзілася перапісваць.
Адразу з'явілася нейкая акрылёнасць, натхненне. Нарэшце!
Пад грыфам паспешлівым почыркам было напісана: «Спіс членаў патайной паліцыі акругі».
На чатырох аркушах прозвішчы, клічкі патайных агентаў, месца жыхарства, рэкамендацыі і розныя паметкі на палях. Відаць было, што паперы пабывалі ў гестапа, заўвагі значыліся па-нямецку і рознымі почыркамі. Чыё прозвішча бралася пад сумненне, перад ім стаяла кароткае «ніхт!»
Роўнымі радкамі клаліся літары. Адно прозвішча, другое, трэцяе... дзесятае. Дзенісевіч паўтараў іх сам сабе, запамінаў клічкі, вёскі, рэкамендацыі. Зрабілася жудасна, што яшчэ год назад гэтыя людзі лічыліся надзейнымі, савецкімі. А цяпер... З некаторымі Дзенісевіч быў знаёмы, пісаў пра іх у раёнцы, хваліў за прынцыповасць... І раптам... Семнаццатым па спіску стаяла прозвішча Меранюка Васіля Мітрафанавіча з вёскі Задуб'е, па клічцы «Бізун». Рэкамендаваў яго ортскамендант Ляйхтэр як надзейнага прыхільніка «новага парадку». У яго асобе ўбачылі выдатнага разведчыка. Далей Вольга Чэрнік з Бярозаўкі па клічцы «Джын» і хутарская Шура Кавалёва — «Самсон». Абедзве яны лічыліся членамі падпольнай камсамольскай групы, якую некалі Дзенісевіч стварыў у Бярозаўцы. Затым параіў уладкавацца ім на працу да немцаў, каб на ўсякі выпадак там мець сваіх людзей. І вось...
Што маглі значыць гэтыя спісы. Спакойна клаліся радкі на паперу, рука механічна выводзіла кожную літару.
Меранюк — адзіны чалавек, з якім загадана сустракацца і праз яго перадаваць звесткі, што будуць вывуджаны ў немцаў. І вось табе на — ён патайны агент гестапа. Меранюк ведаў пра падпольную арганізацыю і пра тое, што ён, Дзенісевіч, павінен сустрэцца з Антонавым, і пра апошняе даручэнне райкома... Яму давяраў і Гаспадароў — камандзір разведкі, нават часта раіўся з ім.
Можа праз Меранюка людзі гінуць, не дайшоўшы да чыгункі, хоць і часта мяняе дыслакацыю райком? Няўжо Меранюк правaліў усіх папярэдніх разведчыкаў... Значыць, цяпер чарга за ім, Дзенісевічам... Прыгадвалася ўсё, што звязана з Меранюком. Чаму ён гэтак падрабязна расказваў пра каменданта, начальніка гестапа і афіцэраў СД, пра надзейных людзей у райцэнтры і нават даваў некалькі парад, як трымаць сябе перад нямецкім начальствам. Чаму Меранюк блукае па горадзе і ніхто яго ніколі не затрымаў. Чаму ён, калі заходзіць да паліцэйскіх, яны гавораць з ім адкрыта, як са сваім. А можа... Чаму тады Антонаў не папярэдзіў, што Меранюк не толькі яго сувязны, але яшчэ і калега...
Думкі роіліся неадчэпна. Адкуль такая клічка ў Меранюка — «Бізун»?.. А Вольга з Шурай?.. Дзяўчаты былі чэсныя, не выклікалі ніякіх падазрэнняў. Выконвалі яго даручэнні. А цяпер што? Дзенісевіч не мог даўмецца: як гэта быць падпольшчыкам і адначасова патайным агентам паліцыі... Пра Цялюпікава ж сказалі ў райкоме: працуе перакладчыкам, але не карыстаецца даверам у немцаў. Сказалі і пра Вольгу Зелянюк і Насту Краўцову. А пра гэтых людзей сакратар партарганізацыі атрада разведкі Касцючэнка і словам не абмовіўся. А можа і сам таго не ведаў?..
Дзенісевіч трывожыўся не толькі за сябе, але і за тых, хто па-ра-

нейшаму збіраецца ў матчынай хаце. Туды ж прыходзяць Вольга з Шурай і часам заглядвае Меранюк. А што калі б усё перадаць Антонаву? Маруся прыйдзе і перадасць. Ды нейкі патаемны тормаз стрымліваў яго. А раптам гэта і ёсць першая нітачка з таго клубка, які не могуць разблытаць ні райком, ні асобы аддзел разведкі? А мажліва Меранюк паспеў ужо раскрыць яго, Дзенісевіча, і цяпер гестапа правярае самога Меранюка, ці сапраўды ён, Дзенісевіч, разведчык. А раптам гэтыя людзі зусім не члены патайной паліцыі і ніхто іх ніколі не вербаваў. Можа гэтым спісам правяраюць яго. Паспрабуй перадаць сігнал у райком, як назаўтра асобы аддзел прыгаворыць да пакарання сумленных людзей. Так, мусіць, мяркуе камендант. Расстраляюць рускія сваіх жа актывістаў. Нямецкая прапаганда яшчэ больш распіша свае довады пра лясных бандытаў. А заадно пойдзе на прапагандысцкі «дэсерт» і Дзенісевіч.

Нарэшце ён зайшоў у тупік. Спыніўся на тым, што гэта правакацыя каменданта. Не мог жа Аўсберг пасля таго, як падаслаў правакатарку, адразу даверыць сакрэтныя дакументы гестапа...

Дзверы тоненька рыпнулі. Дзенісевіч умомант накрыў дакументы газетай і заўважыў на парозе Вуленку. Той рашуча падышоў да стала, ірвануў убок газету і, быццам злоўленаму злодзею, сказаў з'едліва:

— У двух экземплярах перапісваеш?

На стале асобна ляжалі гатовыя паперы і чарнавік. Па адным экземпляры, як і было загадана.

— Даставай усё, што ёсць у кішэнях! Хутка!..

Вуленка аблапаў усюды. Папер не знайшоў.

— Боты!..— загадаў нарэшце.

Дзенісевіч разуўся, зняў боты. Праверыўшы, але нічога не знайшоўшы, Вуленка памякчэў:

— Прабач... Такі загад... Малайчына, Іван Піліпавіч. Так заўсёды трэба. Перастрахоўка ніколі не пашкодзіць... Ты цяпер зразумеў, што гэта за людзі? — і падміргнуў: — Вось хто наша сапраўдная апора. А гэта,— ён кіўнуў на паліцаяў, якія тоўпіліся на двары,— пудзілы, а не ваякі. Ім толькі адно ў галаве: нажлукціцца ды з бабамі шуры-муры...

Ніколі такі шчыры не быў Вуленка. Не інакш, выпіўшы.

— Скажу табе па сакрэце,— працягваў ён,— учора мне камендант загадаў, каб я цябе патроху асвойваў. Хваліў цябе. Гэтак лоўка ты яе. Пад спадніцу, кажаш, хавала чыстую паперу. Ха-ха-ха! Камендант цябе да ўзнагароды мецімь.

Вуленка сабраў са стала паперы і адчыніў сейф. Дзенісевіч заўважыў на верхняй паліцы бутэльку і закусь.

— Вы, пан начальнік, асцярожна са шнапсам. Убачыць камендант — няёмка будзе.

— Ён мне давярае,— засмяяўся Вуленка,— а шнапс нямецкі. Гэта з павагі да вялікай Германіі. Вось якая штука.. Ха-ха-ха... А ты кінь мяне панам называць. Які я пан? Давай лепш па чарцы, га? За тваю ўзнагароду. Ну, не саромейся, як дзеўка. Прывыкай да службы...

Ён паставіў на стол бутэльку шнапсу, кансервы і паклаў бохан шэрага нямецкага хлеба.

## IX

Кватэра гебітскамісара Фрыдрыха фон Аўсберга была на другім паверсе, якраз над яго службовым кабінетам. Яна займала большасць



пакояў. Астатнія акупіравалі начальнік гестапа гаўптштурмфюрар Бёлле. Камендантуру і абодвух начальнікаў вартаваў узмоцнены каравул СС. Нанач вокны верхняга паверха былі занавешаны плюшам, і знадворку мала хто здагадваўся, што другі паверх абсталяваны пад жыллё. Са штацкіх і паліцаяў ніхто не ведаў, што знаходзіцца наверсе. Туды, апроч немцаў, нікому не дазвалялася заходзіць. Прыбіралі пакоі салдаты спецыяльнай каманды. Яны ж і гатавалі ежу абодвум начальнікам. Расказвалі яшчэ, што ў каменданта ёсць пакой у рабочым кабінеце, дзе ён наладжвае прыём сваіх ахвяр — прыгожых дзяўчат.

Аўсберг выглядаў молада. Апранаў ён усё новае, толькі што з іголачкі. Бліскучыя, як люстэрка, боты заўсёды парыпвалі, а з рук ён не выпускаў маленькай пілачкі, якою шліфаваў свае пазногці. Нават начальнік гестапа і той, праўда, хоць жартуючы, называў яго чыстаплюем, хадзячым манекенам, радавыя ж трымцелі перад ім ад страху. Аўсберг аддаваў нават самыя жорсткія загады з ухмылачкай і роўным, спакойным тонам. Больш за ўсё на свеце Аўсберга баяліся італьянцы. І тыя, хто вяртаўся з фронту, і хто фарміраваўся на Усход. Калі камендант стрэне каго з іх, прыжмурыцца, быццам не пазнае, а тады клікне і загадвае займацца страявой некалькі гадзін запар. Аўсберг быў фанатыкам у нацысцкай партыі і надзейным служкам гаўляйтара *. Ён не паважаў і тых немцаў, якія называлі сябе беспартыйнымі або прыхільнікамі іншых партый. Аўсберг стараўся ўсяліць нацызм у кожнага, хто з ім меў справу. Таму ўвесь яго апарат складаўся з эсэсаўцаў і работнікаў СД. Гэты прынцып аб'ядноўваў Аўсберга з Бёлле. Зблізкала іх і яшчэ адна акалічнасць, пра якую ведаў хіба толькі адзін Бёлле. Аўсберг быў да вайны разведчыкам абвера. Кар'ера яго пачыналася бліскуча. Адразу пасля школы яго накіравалі да вопытнага шэфа, спецыяліста па Францыі.

Здольнага курсанта рыхтавалі на парыжскага камерсанта. Прыемная знешнасць арыйца, мяккая гаворка, лагодная, на французскі манер, усмешка, уменне там, дзе трэба, уставіць трапнае слова і смешна расказаць нават нясмешны анекдот вылучала Аўсберга сярод іншых курсантаў.

Парыж сустрэў яго весела. «Камерсант» хутка наладзіў сваю вытворчасць, патрэбныя сувязі. І тут падвяла яго ж уласная знешнасць. На Аўсберга заглядваліся парыжанкі, дарылі яму сваё сэрца. І ён не грэбаваў. Браў ад іх усё, што было магчыма. Палюбоўніцтва ён лічыў своеасаблівай канспірацыяй. Праз які час на парыжскіх бульварах ён сустрэў дачку мэра Парыжа. Тая не адштурхнула Аўсберга. Карыстаючыся даверам мэра, Аўсберг пашырыў сувязі з патрэбнымі яму людзьмі. Нарэшце здарылася непрадбачанае. Каханая прызналася, што чакае ад Аўсберга дзіця. А жаніцьба ніяк не пасавала яго задуме і інструкцыям. Неўзабаве абвер даведаўся з французскіх газет, што ў Парыжы паявіўся новы дон-жуан, праз якога дачка мэра горада кінулася ў Сену. Газеты надрукавалі фотаздымкі Аўсберга і тапельніцы, біяграфію «камерсанта». І Фрыдрыху фон Аўсбергу давялося мяняць шыкоўнае парыжскае жыццё на змрочныя берлінскія казематы, дзе стаялі фюрарскія войскі. Цяпер ён ужо быў контрразведчыкам у сябе дома. Потым пачалася вайна, і Аўсберг пайшоў на Усход, настойліва вывучаючы польскую і рускую мовы.

Бёлле быў старэйшы за Аўсберга на добры дзесятак гадоў. Рыжы,

*) Гаўляйтар (ням.)—абласны кіраўнік нацысцкай партыі.

паўнатвары немец вылучаўся маўклівасцю. З яго цяжка было выціснуць лішняе слова. Ён нават рэдка ўсміхаўся. Тут, у кватэры Аўсберга, за плюшавым занавесам, ён адчуваў сябе вальней. Бёлле ў сваёй палавіне дома пасяліўся крыху пазней за Аўсберга. Абодва разведчыкі часта збіраліся разам і без лішніх сведкаў абмяркоўвалі свае планы. У пакоях стаялі тэлефоны, апаратура і розных схем сігналізацыя. Салдаты, што абслугоўвалі начальства, насілі чорныя сурдуты. Пра гэта паклапаціўся Бёлле — ён хацеў далёка ад дому хоць трошкі адчуць хатнюю ўтульнасць.

Салдат-прыслужнік прынёс каву і, па-вайсковаму прыстукнуўшы абцасамі, выйшаў. Бёлле і Аўсберг сядзелі за нізенькім столікам у мяккіх крэслах і маленькімі бліскучымі лыжачкамі мяшалі каву. У чуйнай пакаёвай цішыні мілагучным камертонам пазвоньвалі аб фарфор лыжачкі.

— А ведаеш, што кажуць партызаны пра нашу паліцыю? — парушыў маўчанне Аўсберг.— «Калі прайшоў горад — лічы што заданне выканана...»

Бёлле ўсміхнуўся, паказваючы ўстаўныя зубы.

— На чым гэта мы спыніліся?..— і ў Аўсберга на ілбе паказаліся маршчыны.— Так, так, пра Дзенісевіча... Мне здаецца, што гэты рускі журналіст можа адыграць важную ролю для нас. І ты дарэмна думаеш, што ён разведчык... Пасля майго комплексу ні адзін разведчык не вытрымлівае.

Бёлле грэбліва скрывіўся.

— Хадзячы труп. Каб не прадуктовыя карткі Кухтэ, даўно апух бы з голаду.

— Труп, кажаш? Мне расказвала тая жанчына, якую я падаслаў да яго,—так шпурнуў яе, што ледзь не рассыпалася...

— На гэтым і закончыў свой комплекс? — спытаўся Бёлле. Ён не любіў доўгага красамоўства гебітскамісара.

— Комплекс працягваецца. Гэтымі днямі даў заданне Вуленку пакрыху ўводзіць яго ў курс спраў. Падклалі яму спіс патайной паліцыі, каб перапісаў. І што ты думаеш? Шыта-крыта. Усе, як адзін, цэлыя. Ніхто з партызан не даведаўся... Яны там са скуры вылузваюцца, а не могуць здагадацца, чаму кожная іх аперацыя ляціць дагары нагамі. Каб перадаў спіс Дзенісевіч, тыя не пашкадавалі б нікога...

Зноў усталявалася цішыня.

— А што, калі мы не тых людзей падабралі для гэтага спіса? — задумаўся Бёлле.— Сярод іх шмат савецкіх актывістаў, і Дзенісевіч мог разгадаць наш ход. Хаця не... Прадумана ўсё як мае быць... Што ты далей думаеш з ім рабіць?

Камендант ажывіўся.

— Буду прыглядацца да яго...

— Дапамагчы?

— Не трэба, я сам...

— Мне некалькі разоў прыйшлося выклікаць яго ў гестапа,— прызнаўся нарэшце Бёлле.— Ты не крыўдуй. Такая наша служба... Здаецца, без падазрэнняў. Прагледзеў яго новыя вершы. У нашым духу. Два аддаў зондэрфюрару Дзітмару.

— Разумееш,— перапыніў Аўсберг,— мяне ўвесь час непакоіць адно: чаму Дзенісевіч не згадзіўся ісці да Дзітмара прапагандыстам. Там не цяжка і часу хапае. Быў на крок ад смерці, а не згадзіўся... Спасылаецца на хваробу. Праўда, сэрца ў яго нездаровае. Мой урач так дакладваў...

Бёлле сядзеў моўчкі і смакаваў каву.



— Можа пабаяўся адкрыта служыць нам. Радыё ўсё ж. Але ён жа журналіст. Гэта яго прафесія... Можа імкнецца да большых сакрэтаў? Дык яго ў СД і ў твой апарат, па-мойму, нельга дапускаць.

— А раптам ён нямецкай мовай валодае?

— Сумняваюся...— камендант пачырванеў. Як разведчыку, яму было няёмка перад Бёлле, што да гэтага часу не праверыў такое.— Ва ўніверсітэце нямецкую мову, сам ведаеш, як вывучаюць. Ды ўжо шэсць гадоў мінула, як скончыў вучобу. Калі што і вучыў, то, пэўна, забыўся...

— Тады канчай свой комплекс ды падключай яго да аперацыі «Гарызонт». Думаю, справіцца. А я пайду спаць...

## X

Дом на чатыры пакоі, які да вайны належаў яўрэям Трахтэнбергам, аддалі Дзенісевічу. На наваселле ён запрасіў каменданта і начальніка гестапа. Яны не адмовіліся, прыйшлі. Выпілі па чарцы шнапсу, пажадалі навасёлам шчаслівага жыцця на доўгія гады і развіталіся.

Алену, жонку, Дзенісевіч уладкаваў на пошту. Рускімі жанчынамі і немкамі-радысткамі камандавала фройлен Аўсма, прыгожая маладая немка. Алена расказвала пра яе шмат. Аўсма засталася ўдавой. Муж загінуў у Польшчы ў пачатку вайны. Яна потым папрасілася на фронт, каб адпомсціць за мужа. Прайшла Беларусь, Смаленшчыну і пад Масквой трапіла ў акружэнне. Ноччу пераапранулася ў цывільнае адзенне і прабралася пад кулямі праз хмызнякі да сваіх, і яе адаслалі з фронту. Асаблівай увагай Аўсму акружаў камендант. Яна была частай госцяй у ягоным кабінеце. Бёлле таксама мілаваўся стройным станам фройлен. Маладыя афіцэры баяліся заляцацца да Аўсмы, бо ведалі: далей ад Аўсмы — далей ад гневу вялікага начальства. Спакойней заляцацца да перакладчыц і афіцыянтак рэстарана. Аўсма ж часта сумавала адна. Ёй прыглянуўся новы работнік акруговай паліцыі — Дзенісевіч, але яна пакуль што не рашалася зайсці да яго. Чакала зручнага выпадку. І нарэшце рашылася. Зайшла ў паліцыю і папрасіла:

— Пакажыце мне рускага журналіста. Я вельмі хачу паглядзець на яго.

Яе правялі ў прыёмны пакой. Дзенісевіч якраз перапісваў паперы.

— Хайль Гітлер, пан журналіст! — какетліва прывіталася немка.— Хачу пасядзець каля вас і паглядзець...

— На мой почырк? — усміхнуўся Дзенісевіч.

— На вас, толькі на вас,— усмешка засвяцілася на яе твары.

Дзенісевіч выйшаў з-за стала, падняў адну руку і пакруціўся, як модніца.

— Як? — запытаў ён.

— Брава! Брава!..— запляскала ў ладкі фройлен.

Паліцэйскія і Люся, што былі ў пакоі, засмяяліся. Фройлен незалюбіла:

— Выйдзіце ўсе! Шнэль! Я хачу гаварыць з панам журналістам тэт-а-тэт... Шнэлер!

«Што-небудзь здарылася з Аленай?» — насцярожыўся Дзенісевіч.

Калі ўсе выйшлі, Аўсма прызналася:

— Даўно марыла з вамі пазнаёміцца. Пра вас мне расказвала Алена... Як вам працуецца?

— Дзякуй, фройлен. Працую, як і ўсе.
— Не шкадуеце, што змянілі прафесію?
Дзенісевіч не разумеў — гэта было шчырае спачуванне ці тонкая насмешка.
— Голад не задумваецца над прафесіяй...
— Я спачуваю вам... І разумею... Не будзем пра гэта. Ведаеце, чаго я прыйшла да вас? Хачу запрасіць вас на свой дзень нараджэння... Як прадстаўніка рускай інтэлігенцыі. Не адмовіцеся? Мне будзе вельмі прыемна бачыць вас у сябе дома.— Яна дакранулася да яго рукі і загадкава дадала: — Я вам штосьці хачу сказаць... Толькі прыйдзіце ў цывільным адзенні. Дамовіліся?..
— Дзякуй за ўвагу, фройлен. Але які ж я прадстаўнік інтэлігенцыі...
— У вас вялікая будучыня, пан Дзенісевіч,— адказала на развітанне Аўсма.— Чакаю... Зіг хайль!
Неўзабаве зайшла Люся. Хмурая, надзьмутая. Яна з-пад ілба зірнула на Дзенісевіча, але нічога на сказала. Села за свой столік і апусціла рукі. Відаць было, што настрой у яе сапсаваўся. Дзенісевіч усміхнуўся, а ўголас загадаў:
— Знайдзі мне пласцінку з якім-небудзь цыганскім рамансам.
— Нешта вас, Іван Піліпавіч, пасля фройлен на рамансы пацягнула,— цераз сілу ўсміхнулася Люся.
Дзенісевіч нахмурыўся:
— Не ў вашай кампетэнцыі, Люся, каменціраваць візіты фройлен і мае загады. Ясна? Каб праз гадзіну пласцінка ляжала ў мяне на стале.
Прадчуванне трывогі агарнула Дзенісевіча.

## XI

Здавалася, яды было прыгатавана на добрую роту салдат. Фройлен чула, што беларусы вельмі шчодрыя, таму і пажадала, каб і на яе імянінах віно лілося ракой і сталы ламаліся ад закусак.
Мужчыны пакуль што курылі, гамanілі ў суседнім пакоі. Там, чуваць было, іграў патэфон, хтосьці памагаў яму на губным гармоніку.
Хто б ні паяўляўся на парозе, дакладвалі фройлен. Яна, узрадаваная, як і належыць імянінніцы, выходзіла насустрач і запрашала ў прыёмны пакой. На гэты раз ёй сказалі, што прыйшоў пан Дзенісевіч, сакратар акруговай паліцыі.
— О, майн гот! — усклікнула Аўсма.— Вас не пазнаць, пан Дзенісевіч. Праходзьце, праходзьце.
— Фройлен,— звярнуўся Дзенісевіч да гаспадыні.— Прыміце ад мяне віншаванне у дзень вашага ангела... А гэта цыганскі раманс... На добрую памяць.
Аўсма здзівілася і прыкметна зардзелася. Яна, мусіць, не разлічвала на падарунак.
— О, цыганскі раманс! Я не ведаю, як і дзякаваць вам,— сказала яна дзяжурную фразу, а потым азірнулася і, убачыўшы, што за імі ніхто не сочыць, хуценька пацалавала Дзенісевіча.— У мяне шмат гасцей. Вы будзьце смялейшы, адчувайце сябе як дома.
Яна ўзяла яго пад руку і правяла ў бакавы пакой, да афіцэраў. На хаду спытала:
— Вы не будзеце крыўдаваць, калі я вас прадстаўлю Гансам. На нямецкі манер. Не? Выдатна!



Дзенісевіч адчуў поціск яе рукі.
— Паны! — нібы скамандавала Аўсма.— Прашу пазнаёміцца: рускі журналіст пан Ганс Дзенісевіч...
Хтосьці зарагатаў:
— Рускі — і раптам Ганс... О, гэта корошо!
Высокі худы немец падышоў да Дзенісевіча, падаў руку і пакланіўся. Грымнуў смех. Дзенісевіч не зразумеў, чаму смяяліся. Тады ён мусіў пакланіцца ўсім, хто быў у пакоі. Але раптам усе замёрлі. Дзенісевіч убачыў побач каменданта.
— Паны афіцэры! — голас Аўсберга строгі, роўны.— Прашу заўважыць: пан Дзенісевіч прыйшоў да нас добраахвотна. Ён гісторык і журналіст. Ён можа прынесці карысць вялікай Германіі. Гэта наша апора, і я не дазваляю пасмейвацца з яго... Прашу знаёміцца...
Аўсберг гаварыў па-нямецку і толькі абмежаваўся адной рускай фразай, каб растлумачыць Дзенісевічу:
— Я даваль характарыстык...
Аўсберг прадставіў Дзенісевічу афіцэраў. Некаторыя з іх падавалі руку, астатнія ціха абменьваліся кароткімі паклонамі і з цікаўнасцю пaглядвалі на рускага журналіста.
Нарэшце зайшла Аўсма. На ёй была пышная ружовая сукенка. Усе запляскалі ў далоні, вітаючы прыгажуню-фройлен.
— Прашу вас, паны,— збянтэжаная фройлен пачала ўсаджваць гасцей за стол.
Дзенісевіч быў адзіны з рускіх, каго запрасіла фройлен. Яго пасадзілі разам з малодшымі афіцэрамі там, дзе звонка смяялася чарнявая, падобная на цыганку, перакладчыца, якую ўсе называлі «фройлен Іванова». Аўсма, кінуўшы вокам на яе, жартаўліва папярэдзіла Дзенісевіча:
— Глядзіце, Ганс, яна ашуканка...
Але гэтую ашуканку ўжо абдымалі асалавелыя афіцэры. Дзенісевіч сядзеў ціха. Час ад часу прыгубляў чарку і курыў цыгарэты.
Калі Аўсме нагаварылі тостаў, строгіх прамоў і добразычлівых пажаданняў, грымнуў марш у гонар імянінніцы.
Потым Аўсма папрасіла паставіць цыганскі раманс. «Скатерть белая» расчуліла ўсіх. Афіцэры пачалі прыгадваць розныя ваенныя здарэнні. Дзенісевіч стараўся не выдаваць, што разумее па-нямецку. Ён сядзеў, як глухі. Аўсма сядзела між Аўсбергам і Бёлле. Аўсберг — Дзенісевіч крайком вуха чуў — расказваў пра налёт партызан на паліцэйскі ўчастак у Верамейках. «Нічога страшнага не было,— усміхнуўся камендант.— Толькі напалохалі, і ўсё...»
Аўсма паглядвала на Дзенісевіча, падбадзёрвала, ківаючы галавой, маўляў, не саромейся, і сумна ўсміхалася яму.
А потым танцавалі. Аўсма з камендантам, Бёлле з чарнявай перакладчыцай, астатнія, каму не хапіла дзяўчат, курылі ў суседнім пакоі. Дзенісевіч выйшаў на ганак. Маёвая ноч была ядраная, шапацела ліпкай лістотай бяроза. У прысадах ля прырэчча цохкалі салаўі. У памяці ўсплылі даваенныя майскія ночы. Тады яны з Аленай хадзілі на бераг ракі слухаць салаўёў. І слухалі, пакуль не засцелецца малочным туманам росны луг. Тады яго ўпершыню агарнула не знаёмае дагэтуль і радаснае пачуццё. Алена сказала, што чакае дзіця,
Падышла Аўсма. Святло ад месяца падала ёй на твар.
— Якая цудоўная ноч! — ціха сказала яна.
Наўкруг яе галавы быў арэол ад месячнага святла.

Дзенісевіч перавёў позірк на вартавога, які стаяў воддаль. Гузікі на яго шынялі блішчэлі, як савіныя вочы.

— А ведаеце што, Ганс? — раптам ажывілася Аўсма.— Давайце пакінем гасцей. Пройдземся да жытоў, палюбуемся ноччу. Давайце!

І яна, не дачакаўшыся адказу, як зялёнае бесклапотнае дзяўчо, падскокваючы, гарэзліва пабегла да веснічак, што вялі на агарод. Дзенісевіч паслухмяна пайшоў услед. Наўздагон данёсся голас вартавога:

— Нельга, фройлен. Позна...

— А я з рускім. Не хвалюйцеся!..

— Што ён кажа, фройлен? — запытаў Дзенісевіч і прыпыніўся.

— А вы што, Ганс, зусім не разумееце нямецкай мовы?.. Не?! О, гэта непавага да вялікай Германіі... Вартавы хваляваўся за мяне. Раптам нас схопяць партызаны... А хочаце, я пачну вучыць вас нямецкай мове? Хочаце?..

— Паспрабуйце,— усміхнуўся Дзенісевіч.

Яны выйшлі на ўзмежак жытнёвага поля. Ветрык заснуў, і было ціха-ціха. Толькі чутна было, як блыталася трава пад нагамі. Непрыкметна абняўся з небам пагорак, заснуўшымі хаткамі стаялі стагі леташняй саломы.

— Мне зябка,— ціха прашаптала фройлен і прытулілася да яго. Нейкімі дарагімі духамі пахлі яе валасы. Павеяла нечым прыемным, далёкім. Яго Алена вось ужо год, як не мае духоў.— Пагрэйце мяне, Ганс...

Дзенісевіч зняў пінжак і накінуў ёй на плечы.

...Ішлі назад моўчкі. Гэтак жа ціха шаргатала жыта каля ног, і гэтак жа голасна цохкалі салаўі ў прырэччы. Дзенісевіч падумаў: «А раптам хто-небудзь заўважыў, што нас няма, і гэта стане вядома каменданту. Што будзе потым?» Ён узяў Аўсму за руку і сказаў ціха, лагодна:

— Не крыўдуйце на мяне, фройлен... Я разумею вас... Мусіць, такі ўжо я чалавек. І ў гэтым не магу парушыць законаў... Прабачце мне... Я баюся за вас...

Аўсма маўчала. Вусны надзьмуліся, вачэй не было відаць.

— Я рускай крыві, Ганс...— прызналася яна. Ускінула галаву і смела, па-жаноцку адчайна паглядзела яму ў вочы. Мой бацька рускі памешчык. Адсюль, ад вас. Вось чаму я ведаю рускую мову... І мой муж быў таксама журналіст... Прабачце мне за такую слабасць...

— Я разумею вас, фройлен...

На ганку яна кранула Дзенісевіча за руку, моцна сціснула яе і шапнула на вуха:

— Вы малайчына, Ганс...

Мяккі, як пух, пацалунак лёг на астуджаныя вусны Дзенісевіча.

А ў пакоі накурана, млосна, душна. Патэфон спяваў: «Очи жгучие и прекрасные, как любил я вас...», нехта падыгрываў на губным гармоніку.

## XII

Лес чакаў навальніцы. Насоўваўся прыцемак і было парна. Стаяла даўкая цішыня. Змоўклі птушкі, здаецца, тут іх і не было. Толькі людзі ўвіхаліся каля вазоў. Але баяліся яны не страшнае хмары, што, варочаючыся жаўтаватымі клубамі, ішла на лес. Людзі чакалі блакады.

Жанчыны клалі на падводы пажыткі, садзілі дзяцей. Мужчыны



набівалі патронамі абоймы, ладкавалі ў скрынях гранаты, укрывалі брызентам кулямёты. Камандзіры рабілі апошнюю пераклічку: партызанскі атрад пакідаў стаянку. Старыя, пазіраючы на густую, чорную хмару, раз-пораз хрысціліся:

— Дай божа спакаення ў дарозе,— а камандзіру атрада Антонаву раілі: — Перачакаць трэба, Рыгор Антонавіч. Дужа страшная хмара валіць. Не к дабру гэта... Тут хоць дзяцей і баб у зямлянкі можна схаваць. А ў дарозе...

Камандзір моўчкі слухаў, ківаў галавой, нібы згаджаўся, і ўсё ж стаяў на сваім:

— Страшней за хмару, якая даўно навалілася на нас, людцы добрыя, не будзе. А заставацца тут... Фашыст рыхтуе блакаду...

Зноў блакада... Колькі іх было і колькі яшчэ будзе? А засад? Не справяцца падрыўнікі падысці да чыгункі, з лесу не паспеюць выйсці — засада. Мала хто вяртаўся. І вось за якога паўгода шосты раз даводзіцца мяняць стаянку. Асобы аддзел падпольнага райкома па некалькі разоў правяраў кожнага, а высвятліць нічога не мог. Ясна было адно: у лагеры дзейнічае нямецкая разведка.

Атрады паралізаваны. Небяспечна хадзіць на заданні. Людзі не давяраюць адзін аднаму. Вораг ведае кожны іх крок. Хто ён, здраднік? Хто цікуе за атрадам, хто наводзіць «рамы» на партызанскія базы?

З пяцёх, каго райком у першыя дні вайны пакінуў для падпольнай работы, трое пайшлі з Чырвонай Арміяй, Аляксандру Нікеенкаву западозрыла гестапа. А Васіль Цялюпікаў, хоць і працуе перакладчыкам, пакуль нічога вартага не перадаў. Новых правераных людзей не было.

У лясной цемры глуха тахкалі колы па сасновых карэннях. Калону замыкалі двое: Антонаў і Гаспадароў. Яны ніколі не разлучаліся. Нават калі праводзілі праверку атрада. У іх была і адна трывога: сем'і іх засталіся пад немцамі. Антонаў аднойчы зімой завітаў да сваіх, але ж ці нагаворышся за гадзіну-другую, калі большая воля даецца слязам і маўклівому замілаванню. Хацелася як можна больш запомніць твары дзяцей, бацькоў, жонкі. А тут і світанак. І зноў трывожна-гаманкі лес. Гаспадароў наведаць сям'ю не адважыўся. Вёска была далёка ад лесу, і там стаяў нямецкі гарнізон. Неяк зайздросна было тым мужчынам, якія забралі з сабой у атрад сем'і. Кожная сям'я трымалася дружна. Можа каторыя да вайны і не дужа ладзілі, а тут ніводнай сваркі.

Калона расцягнулася. Антонаў загадаў спыніць першую фурманку — згусціць атрад. Партызаны ішлі насцярожыўшыся.

Лес быў рэдкі — хмызняк, кусты. А міжлессе — самае небяспечнае для партызан. І такіх мясцін да Львінага бору шмат. Пераход кіламетраў на дваццаць. Добра, калі да світання дабяруцца. А калі не паспеюць? Там жа ўзбоч хутары, бойкае месца.

Нарэшце Антонаў спытаў у Гаспадарова:

— А як ты думаеш, прыжывецца ў немцаў Іван, ці не?

Гаспадароў, чалавек разважлівы і гаваркі, цяпер маўчаў, быццам абдумваў пытанне, і толькі буркнуў у адказ:

— Цяжка сказаць...

Антонаў разумеў свайго начштаба. За дзень ён ні на хвілю не прысеў, усё правяраў пасты, людзей. Сам бегаў па лесе, выбіраючы карацейшую дарогу. Стаміўся, і цяпер яму цяжка было нават гаварыць.

— А мне здаецца, што Іван прыйшоўся немцам па душы. Даваць пачалі. І больш смелы, чым Цялюпікаў. Бачыш, і машынку пішу-



чую даслаў нам. Хітрун! Украў машынку, закрыў управу, а тады ўжо разбіў акно. Ды яшчэ сваёй рукой падпісаў загад пакараць паліцая, які выратаваў управу. А, здорава?!

— Рызыкоўна...

— Вядома, што рызыкоўна. Палохаюць мяне хітрыкі Аўсберга. Глядзі, якія спісы падсунуў. На жыўца хацеў клюнуць,— Антонаў зацягнуўся цыгаркай з рукава.— Меранюк расказваў учора, як Іван улізнуў ад немкі. Ну і сцерва ж гэтая фраў.

— Я баюся,— заўважыў Гаспадароў,— каб яна не падставіла яму падножку.

— А мне думаецца, калі Іван так будзе дзейнічаць, то хутка мы смялей ваяваць пачнем.

— Нешта я сумняваюся. Трэці месяц сядзіць, а каб хоць след адзін заўважыў. Падшывае паліцэйскія паперкі ды шнапс з немцамі п'е...

Збоку нешта затрашчэла, быццам ламалася сухое суччa. Гаспадароў выхапіў пісталет, насцярожыўся. Антонаў усміхнуўся:

— Не бойся, Іванавіч, гэта лівень пачаўся...

— Цьфу ты, чорт...

— А пра Івана ты дарэмна так. Думаеш, немцы дурні набітыя. Яны, калі хочаш, сваіх баяцца. СД і гестапа, як на нажах паміж сабой. Гэта толькі Бёлле з Аўсбергам знюхаліся. Ды і то да пары да часу.

— Нам ад гэтага пакуль карысці ніякай,— сказаў Гаспадароў.— Трэба нейкім чынам даведацца пра тайную паліцыю. Спіса Іван не дастане. Калі і ёсць якія звесткі пра патайных агентаў, то ў Бёлле. Галоўнае, уся гэтая поскудзь пад клічкамі і адзін аднаго не ведаюць... Я вось пра што думаю. Ці не даць нам Івану прыкметы нашых людзей. А раптам каго там апазнае... Хоць...— Гаспадароў змоўк, папрасіў акурак.— Чорт яго ведае, што рабіць.

Па лісці заляпалі буйныя кроплі дажджу.

— Здраднік, мусіць, звязаны з адным якім агентам, і ўжо той перадае.— Антонаў углядаўся ў цемру. Яны ішлі ціха, насцярожана.— А з Іванам пачакаем. Няхай абжывецца. Можа што і ўдасца. Добра, што хоць папярэджвае пра засады.

— А як ты глядзіш на гэта,— спытаў Антонаў,— калі б у горадзе арганізаваць групу разведчыкаў? Там шмат ёсць нашых людзей. Ці няхай пакуль Іван лепш прыгледзіцца?

— Рана, Антонавіч, рана. Можам згубіць апошняе. І так колькі чалавек паслалі на пагібель. Я думаю так: калі адно каліва прыжылося, няхай расце. Вырасце — будзе толк.

— Можа твая і праўда...

Дарога пятляла ў гушчарах. Хмара, здавалася, апусцілася на зямлю, спавіла людзей, дарогу, лес. Зыркія маланкі рвалі на кавалкі неба, раскаціста, з трэскам гухкаў пярун. Раптам загаманіў лес вяршалінамі дрэў, і дождж хлынуў ліўнем.

— Ранавата,— Гаспадароў нацягнуў башлык армяка на галаву.

— Самы раз...— сказаў Антонаў.— Паспеем да раніцы. Сляды хоць змые...

## XIII

Вечарам Алена зашморгнула занавескі, зачыніла аканіцы і ўкладвала дзяцей спаць. Віцька, пакуль засне, некалькі разоў спытае: «Мама, дзе наш татка?»

Што можа адказаць маці? Маніць не зманіш і праўду не скажаш. Ды яна і сама добра не ведала, дзе ён вечарамі. Бывае, што і нанач не вяртаецца. Папярэдзіць толькі, каб ніхто староннi не чуў:

— Сёння не прыйду...

Думай, здагадвайся, перажывай. Алена і баялася за яго, часам і злосць брала. Калі заставалася адна, плакала. Сэрца раздзірала горыч. У галаву лезла ўсякае: і Аўсма, і партызаны, і няведама што. А калі спыталася ў яго пра Аўсму, ён адказаў:

— Пра службовыя тайны нават родным забаронена гаварыць... Крыўдуеш на мяне? — а погляд такі ласкава-засмучаны, што аж жаласна робіцца.— Ну, не крыўдуй, любая. Сама ведаеш, час такі...

Час такі... Чужыя вунь мужыкі і на час не зважаюць. Не менш за яго зарабляюць і ля дому сядзяць. Па начах не ходзяць, і жонкі не калоцяцца. Усё па-людску.

— Баюся я за цябе, Іванка,— скажа яму і прыгорнецца ўся, ціхая, баязлівая, гаротная. А тады ўжо з мяккім дакорам дадасць: — Усё бегаеш, усё бегаеш... А толк які з тваёй беганіны? Хоць бы на дзяцей паглядзеў. Усяго не пераробіш. Было б на каго рабіць, а то на шалудзівых гэтых.

— Усё на іх, любая,— смяяўся Іван.— На вялікую Германію.— І зноў смяяўся, ужо неяк сцішана. Толькі ў смеху тым не было чуваць шчырасці, цеплыні.

Здзіўляла Алену і тое, што ён аднолькава ўважны і да немцаў, і да паліцэйскіх. Кожнаму хоча дагадзіць. Ну, навошта яму гэта? На яго і знаёмыя пачалі касавурыцца. Бывала, да вайны, калі яна ішла па вуліцы, ледзь не кожны вітаўся, зачынаў гаворку пра здароўе, а цяпер адварочваюцца, не заўважаюць. Віталіся толькі паліцаі і падлізы.

На рабоце тэлефаністкі глядзелі на Алену падазрона. Называлі яе «пані Алена» і гаварылі толькі пра адзенне, хвалілі «новы парадак». Яна адчувала сябе чужой сярод сваіх. Усё думала пагаварыць з Іванам, каб адрокся ён ад гэтага брыдкага жыцця. Рашалася і на такое: вазьму дзяцей і пайду, куды вочы глядзяць.

Вось і сёння нешта доўга няма Івана. Алена накінула хустку на плечы, падышла да пасцелі, дзе спаў Віцька, пагладзіла яго беленькую галоўку, доўга стаяла ля ложка. У сенцах ляпнула клямка і пачуліся галасы. Супакоілася: увайшлі Іван і Васіль Цялюпікаў, перакладчык. Да вайны ён выкладаў нямецкую мову ў гарадской школе.

— Прымай гасцей, гаспадыня,— ціха сказаў Іван.— Спадзяюся, што знаёміць вас не трэба.

Васіль кіўнуў галавой.

— Вячэраць мы не будзем. Ты кладзіся спаць, а мы з Васілём пагаворым трохі ў маім пакоі...

Убачыўшы, што Алена насупілася, Іван падышоў да яе, растлумачыў:

— Васіль сёння пераначуе ў нас. У мяне з ім дужа доўгая гаворка... Ты не чакай мяне. Мы там і пасцелемся. Ідзі, галубка... Добрае ночы...

Яна ціха, неахвотна пайшла ў спальню, да дзяцей...

«Не давярае, усё баіцца...» — думалася ёй. І гэта было крыўдна, нават абразліва. «Ці ж я чужая яму? Жыла б і ведала, чаго чакаць...»



У пасцелі думала пра фройлен Аўсму. Нейкая яна далікатная стала. Вось і сёння падсела на хвілінку, а прагаварылі добрую гадзіну. Усё распытвала пра здароўе, пра дзяцей, пра Івана. Можа, крыўдзіць, можа, позна дамоў прыходзіць? Дзіўная яна, гэтая фройлен. Ну хто чужому чалавеку на мужа будзе скардзіцца, нагаворваць?! А самую калолі іголкі: чаго ж гэта яна такая ласкавая? А якой жа ёй быць? Адзінокая, без мужа, якога, сама расказвала, забілі яшчэ на польскай граніцы. Вось яна ўважлівая: і да Івана, і да яе, Алены. Ці не хоча разлучыць іх? А не дык пазабаўляцца з Іванам і нарабіць ім сораму на цэлую акругу. Усё намякала на добрую кар'еру, якую зробіць Іван, пра яго адданасць арыйскай нацыі. А спытай, навошта Алене яго кар'ера? Дайце ёй пажыць, як чалавеку. З сям'ёй, без страху, сумненняў, гора. Дайце жаночай душы спакою. Яна кожную раніцу праводзіць мужа, быццам на смерць. А ён усё: «Кінь, дурніца, плакаць. У мяне такая армія, што ад любога ворага абароніць. Сам Аўсберг шкадуе мяне...» Ну што ты яму скажаш?! Знайшоў сабе гульню і пацяшаецца. Вунь яшчэ знюхаўся з гэтым злыднем, Цялюпікавым.

Ад горкіх думак, скрухі і трывог яна не магла заснуць. Хацелася ведаць, чаго яны там, які хаўрус завёў Іван з Цялюпікавым. Якія ў іх сакрэты? І ўсё ж не вытрымала, пайшла на кухню, быццам напіцца вады. Ля дзвярэй, за якімі былі муж і Цялюпікаў, яна сцішылася.

— А я думаў ты мяне на чарку запрасіў...

— Прывык ты ў шклянку глядзець і акрамя яе нічога не бачыш. Сядай! — голас у Івана строгі. Гэтак ён ні з кім дагэтуль не размаўляў.— Пара з табой пагаварыць шчыра... Ты што, на адпачынак да немцаў прыйшоў? Тры месяцы, як паслалі цябе сюды, а ты хоць бы слова перадаў Антонаву. Як загадаеш разумець гэта?

Цялюпікаў доўга маўчаў. Нарэшце азваўся:

— Я не разумею цябе, Іван Піліпавіч...

— Нават дасюль не ўжыўся ў сваю ролю,— дакараў Дзенісевіч.— Прывык да самагонкі...— і строга папярэдзіў.— Глядзі, каб пасля вайны... А можа і ў вайну, калі...

— Я прыйшоў да немцаў добраахвотна,— апраўдваўся Цялюпікаў.— Як і ты... Працую гэтак жа старанна. Я не разумею цябе, Піліпавіч.

— Хопіць віляць. Ты не ў Шульца. Я ў цябе пытаюся, чаму не сустрэўся з Меранюком? Чаму не перадаў ніводнай звесткі райкому?.. Атрады кідаюцца з месца на месца, а ён—бач... Задужа аддана служыць надумаўся. Глядзі, папярэджваю, каб не даслужыўся да горшага...

— Які Меранюк? — не разумеў Цялюпікаў.— Пры чым тут бандыт Антонаў?

— Ты гэта Антонава бандытам лічыш, сволач!..

Алена пачула, як пляснула аплявуха. Яна хапілася за галаву і замерла. Зноў мужаў голас:

— Калі ты, сволач, яшчэ адно дрэннае слова скажаш, я цябе тут жа, у сваёй хаце, як шчанюка...

Цішыня.

— Кінь, Цялюпікаў, прыдурвацца,— ужо спакойна гаварыў Дзенісевіч.— Калі, нарэшце, пачнеш працаваць на райком? Я маю права спытаць у цябе пра гэта. Такое права дадзена мне райкомам.

Цялюпікаў маўчаў.

— Ты доўга будзеш ваду трымаць у роце?— і Дзенісевіч вылаяўся. Ніколі Алена не чула ад мужа такіх слоў. «Ах, божа!»

— Вы дрэнна сябе адчуваеце, Іван Піліпавіч... Я разумею, у вас са здароўем не зусім... Можа я па доктара... Я хуценька...— і рыпнула крэсла. Мусіць, Цялюпікаў устаў, бо голас у Івана пацвярдзеў:

— Не выйдзе так, Цялюпікаў. Сёння ты раскажаш мне пра ўсё, што тут рабіў. Не так проста я запрашаў цябе да сябе. Такі загад Антонава і Гаспадарова. Вось і трымай споведзь, таварыш Цялюпікаў, перад членам райкома, савецкім разведчыкам Іванам Піліпавічам Дзенісевічам. Я табе і трыбунал і сумленне райкома...

Яны стаялі блізка ля дзвярэй, і было чуваць, як цяжка дыхае Цялюпікаў. Нарэшце ён спытаўся:

— Чым можаш даказаць, што ты тут ад райкома?

— Не я павінен даказваць табе, а ты павінен даказаць сваю адданасць партыі. Перад табою я вымушаны пайсці на крайнасць. Май на ўвазе, гэта не жарты і не правакацыя...

І зноў цішыня. Толькі цяжка соп Цялюпікаў.

— Фу, напалохаў...— здаецца ён скінуў з сябе пінжак.

Чуваць было, як яны адышлі да акна і селі на крэслы. Далей гаворкі было не разабраць. Алена вярнулася ў спальню. Доўга яшчэ не было мужа. А калі прыйшоў, яна варухнулася.

— Ты спіш, Алена?— спытаў ён.— Алена, ты ўжо заснула?.. Заснула...

І ціхенька выйшаў.

У тую ноч яна і вокам не звяла...

## XIV

Дзенісевіч аддаваў апошнія загады паліцэйскім, якія павінны былі суправаджаць карны атрад.

— Яшчэ раз напамінаю,— спакойна і строга гаварыў ён,— будзьце асцярожныя і захоўвайце прыстойнасць. Шкурнікаў сам буду расстрэльваць... Запомніце: узвод Сідарэнкі наперадзе, Леўчанка замыкае, астатнія па баках...

Зазваніў тэлефон. Дзенісевіч узяў трубку. Голас каменданта:

— Вы не дужа занятыя, пан Дзенісевіч? Прашу да мяне...

— Слухаюся, пан штурмбанфюрар...

З-пад ілба ён зірнуў на паліцэйскіх:

— Задачы ясныя? Прыступайце да выканання...

«Што ж на гэты раз чакаць ад Аўсберга?— ідучы да камендатуры, думаў Дзенісевіч.— Вядома, будзе збіваць з панталыку, правяраць. Але ж хваліў пры людзях, паднімаў аўтарытэт... І раптам выклікае. А можа западозрылі Цялюпікава? Ён жа сёння ноччу не быў дома».

Гэта быў другі візіт Дзенісевіча да акруговага каменданта. Першы раз, помніць, выклікаў на кансультацыю, як наладзіць паліцэйскую службу ў акрузе, і папрасіў скласці спіс, хто падае жаданне паступіць на службу па ахове «новага парадку».

У кабінеце Фрыдрыха фон Аўсберга сядзелі афіцэры, было накурана.

— Заходзьце, пан Дзенісевіч,— запрасіў камендант, як толькі ўбачыў яго ў дзвярах.— Сядзьце, мы зараз усё закончым.— Аўсберг звярнуўся да афіцэраў.— Не зважайце, паны, гэты рускі не разумее па-нямецку. Яго вучыць нашай мове фройлен Аўсма...

Афіцэры зарагаталі. Кожны з іх добра ведаў пра неабыкавыя адносіны фройлен да гэтага паліцэйскага сакратара.

— Але ж, паны афіцэры, я расстраляў бы яго тады на вечары ў пачаной фройлен, каб не яго адданасць вялікай Германіі і нашым законам... Ён адмовіўся цалаваць Аўсму. Ха-ха-ха...



Зноў выбухнуў рогат. Дзенісевіча апякла абраза. А камендант, усё яшчэ смеючыся, растлумачыў па-руску:

— Гэта смех, хорошы смех. Я гаварыў, што партызанку вы хорошо затрымалі і прывялі да мяне. Паны афіцэры выказваюць задавальненне.— І звярнуўся да афіцэраў на нямецкай мове.— Паапладзіруйце яму...

Тыя, усміхаючыся, запляскалі ў далоні. Дзенісевіч прыўзняўся і, пакланіўшыся, сказаў:

— Дзякуй, паны афіцэры, шчыра дзякую, пан камендант...

Твар у Аўсберга зрабіўся сур'ёзны. Ён устаў і строгім голасам загаварыў:

— Прашу лічыць гэта найстражэйшай тайнай. Акрамя нашых салдат, пра гэта ніхто не павінен ведаць. Паліцыю мы паднімем па трывозе. Падрыхтуйце самых адважных, разбіце на карныя атрады. Збор у пункце нумар сто дваццаць дзевяць.— Камендант паказаў на карту. Дзенісевіч заўважыў, што палец яго накрыў маленькую вёску Алешаўку.— Заўтра ў дзевяць ноль-ноль. Перакрываць дарогу не варта, менш рабіце арыштаў. Стварыце спакойную абстаноўку. Да намечанага часу павінна ў гэтым пункце быць артылерыйскае падраздзяленне обер-лейтэнанта Зігерса...

— Яволь!— адгукнуўся адзін з афіцэраў.

— Усе зразумелі абстаноўку?—запытаўся Аўсберг і загадаў:— Вы свабодны.

— Хайль!— дружна адгукнуліся афіцэры і, прыстукваючы абцасамі, пачалі выходзіць з кабінета.

Засталіся двое: Дзенісевіч і Аўсберг.

— Сядайце да мяне,— загадаў камендант, а сам расчыніў акно. Нейкі час ён глядзеў у бок Сажа. Потым рэзка павярнуўся:— Як ваша здароўе, Дзенісевіч?

— Дзякуй, нішто сабе...

Камендант засмяяўся:

— Нішто сабе? Ха-ха... А як бы вы адчувалі, каб у вас было ўсё сабе?

Усміхнуўся і Дзенісевіч. Праз акно чуваць была нямецкая гаворка, піск губнога гармоніка, раскацісты рогат. Камендант зачыніў акно.

— Якую мову вы вывучалі, пан Дзенісевіч?— запытаў Аўсберг.— Французскую? Чаму французскую?

— Як вам сказаць?— Дзенісевіч на момант задумаўся.— Як толькі паступіў ва ўніверсітэт, мне хлопцы параілі пайсці ў французскую групу. Граматыка там лягчэйшая... Жартавалі мы часам, што на нямецкай мове не толькі язык можна паламаць, а і галаву звярнуць. Можна было застацца без стыпендыі... Вось і пайшоў, куды лягчэй...

Камендант нахмурыў бровы.

— Я хорошо ведаю французскую. У мяне тут Бальзак у арыгінале. Маеце ахвоту паглядзець?— камендант адкрыў сейф, кіўком галавы паклікаў да сябе Дзенісевіча.—«Луі Ламбер». Пачытайце. Я праверу вашыя сілы.

Дзенісевіч сарамліва, як дзіця, усміхнуўся, узяў з рук у Аўсберга кнігу і пачаў чытаць. Камендант, абапёршыся локцем на адчынены сейф, слухаў і крывіўся, пачуўшы няправільнае вымаўленне. Дзенісевіч перагарнуў старонку і пачаў чытаць лепш. Аўсберга распіраў гонар, што ён куды лепш адчувае французскае слова. Як было не пахва-

ліцца Аўсбергу перад Дзенісевічам. Ён узяў кнігу і, перш чым пачаць, сказаў:

— Во як трэба.

Ён чытаў ціха, мякка. Прыемная інтанацыя голасу захапіла Дзенісевіча. Успаміналася, як выкладчыца нямецкай мовы на першым курсе дакарала яго за «дубовы язык». А потым, потым давялося начамі праседжваць , трэніравацца... Вочы міжволі зірнулі ў сейф. З грыфам сакрэтнасці ляжаў спіс тайнай паліцыі, аддрукаваны на машынцы. Такі ж грыф, як на тых фальшывых спісах, якія некалі прымушаў перапісваць Вуленка. Але тут новыя прозвішчы. Пакуль камендант чытаў, Дзенісевіч час ад часу пазіраў у сейф, запамінаў прозвішчы і клічкі, хто даваў рэкамендацыю. Усяго васемнаццаць чалавек.

Нельга было толькі прачытаць апошнія прозвішчы — засланялі дзверцы. Падысці бліжэй нельга. Ён паківаўся на нагах. Позірк выхапіў адно прозвішча, другое... Нарэшце Іван Дзенісевіч узяўся за падбародак, уставіўся ў падлогу.

— Ну, як?

— Цудоўна, пан камендант. Я стаю і думаю, што вас можна палічыць за француза. Такое мяккае вымаўленне, эластычнае. І Бальзак цудоўны пісьменнік, ці не так?.. Вялікая гэта справа, ведаць чужую мову...— І толькі цяпер заўважыў Дзенісевіч, што стаіць перад камендантам, трымаючы рукі ў кішэнях, як роўны з роўным. Ён крыху сумеўся, на твары выступіла чырвань: — Прабачце... Зусім забыўся. Быццам зноў стаў цывільны,— і выцягнуўся ў струнку.

— Ну, гэта ёсць не вялікі памылка,— камендант палажыў руку на яго плячо і спагадліва сказаў: — Эх, рускія, рускія. Шкада... Вы — не цывілізацыя. Вам яшчэ далёка... Універсітэт не вучыць замежный мова, школа таксама. У вас была гімназія. Там вучылі тры мовы і латынь. О, гэта ест корошая школа.

— Так, так...— схамянуўся Дзенісевіч.— Я вас падтрымліваю, пан камендант.

— Вось вайна канец, мы будзем вучыць дзяцей наша мова. Мова вялікай Германіі. Цывілізацыя ест. Арыйская цывілізацыя...

— Хутчэй бы яна скончылася...

— Няўдача пад Масквой нішто. Гэта дасць нашым салдатам сілу. Савецкія няма порах. І зіма. А летам, летам ест наша перамога.— І раптам камендант запытаў: — А фройлен Аўсма гут?

— Цудоўная жанчына...

— О, фройлен Аўсма! Яна вас лібен... Вы не бойцеся мяне. Вы ест корошы чалавек, і я дазваляю каханне. Вы молодзец. Робіце корошо кар'еру. Брава!..

Дзенісевіч пачырванеў, як мак. Аўсберг зарагатаў:

— Яна кахае рускага Івана. Ферштэен? Каханне фраў русіш Іван. Брава! У яе муж быль журналіст. Корошы журналіст. І яна корошы, мілы чалавек.

Аўсберг так і зыркаў на Дзенісевіча.

— Ну, даволі,— быццам самому сабе загадаў камендант.— Цяпер ест сур'ёзная гаворка. Я вас бачыў шпіёна. Малайчына... Вы корошо вытрымалі экзамен. Але ў вас ест вялікі недохоп. Вы прамалінейна робіце. Навошта аплявуха начальніку паліцыі Шупеня. Корошы начальнік! Трэба хітра, Ганс. Дыпламатам трэба быць, Ганс.

— Пан камендант, прабачце, але не стрымаўся...

— Вось, вось,— падхапіў Аўсберг.— Не хацеў, а выйшла. А для разведчыка гэта капут.



— Я не разумею вас...— паціснуў плячыма Дзенісевіч.

— Трэба корошо паслухаць, а тады задаваць пытанне... О, гэты рускі тэмперамент... Хачу сказаць, вы корошы чалавек для Германіі. Вам не сакрэт: у гестапа працуе тайная паліцыя. Працуе корошо. Бёлле стрэляны верабей, а не спадзяваўся, што вы такі. А вы... Корошо. Для нас — знаць партызан. Яны блытаюць карты, нашы карты. Мы рашылі арганізаваць разведцэнтр з рускіх...

— З рускіх?— не стрымаўся Дзенісевіч.

— Гэта ест наша ваенная разведка з рускіх ваеннапалонных. Яны будуць жыць разам з партызанамі... Вы ведаеце корошо рускіх, вы ж журналіст.

Камендант быццам знарок зацягвае пятлю на шыі ў Дзенісевіча, прымушае самому сабе плесці павуцінне, у якім можна так хутка загінуць...

— Задума выдатная,— прамовіў Дзенісевіч.— Чалавек з паўсотні можна падабраць з ваеннапалонных, вывучыць іх... Можа і пан Бёлле паможа...

— О, Бёлле не. Гэта наша сакрэт. Гэта сур'ёзна... Які план, пан журналіст?

Дзенісевіч падумаў, потым прапанаваў:

— Арганізаваць уцёкі, або лепш, каб партызаны паспрабавалі напасці на нас. Толькі гэта ці атрымаецца? Доўга прыйдзецца чакаць. Вось каб у нас быў там хоць бы адзін свой чалавек...

— Ну, корошо, ёсць там нашы людзі. А што далей?

— А потым відаць будзе.

— Не, дарагі Ганс,— усміхнуўся камендант.— Трэба план, корошы план. Корошо арганізаваць уцёкі. Пяцьдзесят чалавек многа. Дваццаць... Корошо. Займацца гэтым будзеце вы. Цяпер у вас два пасты: сакратар і начальнік рускага разведцэнтра...

— Пан камендант, я ў гэтай справе, як баран...

— Вы будзеце выконваць маю інструкцыю. Трэба надзейныя людзі. Патрэбны тыя, каго пакрыўдзіла савецкая ўлада. Пасля вайны — маёнтак, узнагарода.

— А калі хто не згодзіцца?

— Не корошо, Ганс... Хто не хоча ўзнагароды? Патрэбна поўная канспірацыя. Хто падазрэнне — крэматорый... Рыхтаваць у канцлагеры.

— Але, пан камендант, так рызыкоўна. Усякае можа быць.

Камендант уважліва глядзеў на Дзенісевіча.

— Вы маеце рэзон. Так, гэта рызыкоўна... Патрэбен лагер асобнага рэжыму... І лагер не дужа корошо. Будзем рыхтаваць тут, у скляпах камендатуры... Часу многа на падрыхтоўку?

— Цяжка сказаць. Але чым хутчэй, тым лепш...

— Можа і так...

Камендант падышоў да акна і доўга маўчаў. Нарэшце сказаў:

— Ехаць сёння ў канцлагер і прыглядацца да людзей. Вывучыць асабовыя справы... Там ужо ест нашы людзі... Ну, дамовіліся?

— Буду старацца, пан камендант. Дзякуй за давер.— Дзенісевіч пакланіўся Аўсбергу, паціснуў яму руку.— Цяжкую вы мне задачу далі, пан камендант... Ды яшчэ і рызыкоўную.

— Без рызыкі няма Германіі, Ганс. Ну, жадаю поспехаў!..

А за дзвярыма стаяў старшы дарадчык каменданта, мясцовы цырульнік Сцяпан Кручынскі. Ён працаваў у цырульні і да вайны, але ніхто не ведаў яго сапраўднае прозвішча. У спісах жа фашысцкай **раз-**

ведкі ён значыўся Эрыхам Бірманам. Праз шчыліну ён чуў усю размову. Аўсберг заўважыў цырульніка і запытаў:

— Якое тваё ўражанне, пан Бірман? Якое ўражанне пакінуў гэты рускі?

Бірман усміхнуўся. Ён даўно ведаў Дзенісевіча.

— Фрыдрых, ну ты ж разведчык,— нібы ўпікнуў Бірман.—Няўжо табе не здалося дзіўным, што на гэты раз ён не адмовіўся ад такой цяжкай работы. Помніш, як вы сваталі яго да Дзітмара. Наадрэз адмовіўся...

Аўсбергу не падабаўся дакорлівы, павучальны тон Бірмана.

— Думаю, што чалавек увайшоў у сваю ролю. Мы давяраем яму. Памагаем зрабіць кар'еру.

Бірман пацепнуў плячыма, сеў за стол.

— Ты разумееш, Эрых, мне здаецца, што яму іншага выйсця няма. Аддае ўсяго сябе. І раптам ён атрымаў новае заданне. Канешне! Яму можна цяпер прапанаваць ісці да Дзітмара. І пайшоў бы. А чалавек ён круты. Паліцаі баяцца, як агню. Разумееш, тут ёсць свая псіхалогія. Інтэлігент сутыкнуўся з гэтымі свіннямі. А ён патрабуе ад іх службы і прыстойных паводзін...

— Вось гэтая крутасць і палохае мяне, Фрыдрых.— Эрых Бірман узлакаціўся на стол.— Каб не адчуў ён дужа вялікай улады над рускімі. Гэтага не любяць самі рускія... Могуць прыбраць...

— Трэба папярэдзіць... І толк будзе.

— Як сказаць,— не зусім пагадзіўся Бірман.— Рускія кажуць, куранят лічаць увосень...

— Слухай, Эрых, а калі яго падключыць да заўтрашняй аперацыі? Няхай панюхае пораху!

— Не раю, Фрыдрых. А раптам хто з паліцэйскіх пусціць кулю яму ў спіну. Няхай лепш займаецца падборам людзей...

— Ну, добра,— пагадзіўся Аўсберг.

— Мне пара ўжо,— сказаў Бірман.

— Ты не забывай, наглядвай за домам Дзенісевіча і Вуленкі,— папярэдзіў Аўсберг.— Табе гэта зручней...

— Гэта мая пастаянная кліентура,— усміхнуўся Бірман і выйшаў.

## XV

Дзенісевіч сеў у чорны опель, які прыслаў Аўсберг, і коратка загадаў немцу-шаферу:

— У канцлагер!..

— Яволь! — адказаў шафёр і націснуў на стартэр.

У гэтым канцлагеры Дзенісевічу ўжо давялося паваляцца. Ён трапіў сюды пасля кантузіі, калі іх часць адрэзалі і яго ўзялі ў палон. Тады маці выплакала яго, выкупіла за яйкі і масла. Можа яшчэ памагло і тое, што лагерны фельчар западозрыў у яго, акрамя сухотаў, і тыфус.

Цяпер Дзенісевіча сустракаў сам начальнік лагера. На ламанай рускай мове пацікавіўся, якія людзі патрэбны пану сакратару акруговай паліцыі, назваў некалькі імён.

— Дайце мне асабовыя справы вязняў,— папрасіў Дзенісевіч.— Я сам пагляджу... Толькі на рускай мове. Нямецкую не разумею...

Праз акно відаць былі вартавыя вышкі, дашчатыя баракі, абнесеныя калючым дротам. З гэтых баракаў кожную раніцу на досвітку палонных выводзілі пад канвоем на работы. Была тут асобная група з яўрэяў, якіх прымушалі капаць ямы для расстраляных камуністаў.



Стос дакументаў быў яшчэ вялікі, а ўжо бралася на вечар. Вязні вярталіся ў баракі, і Дзенісевіч папрасіў начальніка лагера, каб дазволіў прайсціся па бараках.

— Яволь!..— пагадзіўся начальнік.— Радавы Зімке! Правядзіце пана сакратара акруговай паліцыі ў баракі. Толькі глядзі, балван, каб ніхто не кінуўся на яго. Пан сакратар выконвае асобае заданне штурмбанфюрара Аўсберга.

— Яволь!..

Густы прэлы пах стаяў у бараках. Людзі сядзелі на нарах. Хто латаў сваё абарванае адзенне, хто проста сядзеў ці ляжаў, думаючы пра нешта далёкае.

— Ахтунг!— на ўсё горла гаркнуў Зімке.

На нарах вяла заварушыліся, хтосьці вылаяўся, але пачалі спаўзаць далоў і станавіцца ля праходу.

— Адмяніце каманду,— загадаў Дзенісевіч.— Хто мне трэба, я сам знайду яго.

Зімке выканаў загад і як цень ішоў ззаду.

На нарах насцярожыліся. Мусіць, не часта прыходзяць сюды паліцаі. Дзенісевіч зайшоў у першы праход, прыглядзеўся. Людзі адварочваліся, хавалі свае вочы. У канцы другога праходу на нарах сядзеў чалавек. Дзенісевічу здалося, што недзе бачыў яго. Дзе, успомніць не мог. Зірнуў яшчэ раз. Той нарэшце не вытрымаў і ціха буркнуў:

— Ну, чаго ўставіўся? Мяса выбіраеш?

І ў голасе штосьці знаёмае. На вязня зашыкалі з суседніх нараў, маўляў, не чапляйся, бяды не абярэшся. Дзенісевіч перайшоў у трэці праход. А думка, дзе ж бачыў ён гэтага чалавека, не давала спакою. І раптам загаманілі. Той палонны нешта надрыўна даказваў. Дзенісевіч пачуў:

— Такія вось і прадаюць нас, а вы ў вочы ім баіцеся паглядзець, шкурнікі...

«Дзе бачыў ён гэтага чалавека? У Мінску — не. Чакай, чакай... Ці не сын гэта Пракопа Шыбуні з Верамеек, таго самага кулака Шыбуні, якога ў трыццатым годзе выслалі ў Сібір?»

Лаянка ў другім праходзе не сціхала. Дзенісевіч падышоў бліжэй да Шыбуні, пільна ўгледзеўся і ўспомніў словы каменданта: «Нашы людзі там працуюць ужо».

— Ну, чаго зрэнкі вылупіў? Спадабаўся я табе, мусіць... Зноў вярнуўся? Плюнуць бы табе ў хару, прыхвасцень нямецкі...

«Так і ёсць, увесь Шыбуня»,— пазнаў Дзенісевіч.

— Маўчаць!— загадаў немец.

— Даруйце яму, пан паліцэйскі,— заступіўся нехта з верхніх нараў.— У яго з нервамі штосьці.

— Няхай скажа,— не сціхаў той,— за колькі прадаўся гэты вырадак.

— Як ваша прозвішча?— спакойна запытаў Дзенісевіч.

— Нумар бачыш? У канторы скажуць... Шкура прадажная...

«Аўтарытэт зарабляе ці спецыяльна набіваецца ў групу? Мусіць, гэта зноў хітрыка каменданта»,— падумаў Дзенісевіч і больш строга запытаў:

— Прозвішча?

— Хрыстапрадаўца тваё прозвішча...

Дзенісевіч дастаў з кабуры парабелум, адцягнуў затвор.

— Прозвішча пытаюся, сволач!

— Здаецца, Шыбуня, пан паліцэйскі,— Дзенісевіч пачуў староннi голас, а потым і просьбу: — Шкада ўсё-такі чалавека, наш жа, рускі...

— Няхай страляе,— кіпеў Шыбуня.— І так пойдзем на той свет.

Грымнуў стрэл. Калі ўсталявалася цішыня, Дзенісевіч сказаў:

— Выкіньце сабакам... Пастроіць на двары першы барак.

Немец, колькі было моцы, закрычаў:

— Штэен ауф! На двор! Шнэль!..

Усе выйшлі на двор. Пастроіліся.

Да Дзенісевіча падышоў начальнік лагера, шапнуў на вуха:

— Асцярожней з парабелумам, пан Дзенісевіч. Вы забіваеце нашых людзей.

— Няўжо яго шкадуеце, пан оберштурмфюрар?

— У мяне ёсць заданне вас папярэдзіць...— толькі адказаў начальнік і пайшоў у канец калоны.

«Значыць, не прамахнуўся,— падумаў Дзенісевіч.— А ці раскусілі яго вязні?»

Строй застыў у маўклівым чаканні. Дзенісевіч спытаў:

— Хто з вас лічыць, што я правільна зрабіў, калі прыстрэліў гэтую сволач? Два крокі наперад!..

Пасля кароткай паўзы са строю выйшаў здаровы мужчына гадоў пад сорак. За ім ступіў другі.

— Чаму вы так лічыце?..— запытаў Дзенісевіч у першага.

— Я здаўна яго ведаю.

— І ўсё?

— Прахвост. То нашым, то вашым... Не люблю такіх... Сабаку сабачая смерць...

— Вы камуніст?..

— Не...

— Запішыце,— загадаў Дзенісевіч і тут жа да другога:

— А вы як лічыце?

— Нячэсны ён чалавек. Усё круціў, муціў...

— Даўно ён у лагеры?

— Можа тыдні са два...

— Камуніст?

— Ён? Мусіць, не, пан начальнік. Так ён, ні тое ні сёе.

— Я ў вас пытаюся, вы камуніст?

— Лішняе гэта мне, таварыш начальнік. Так спакайней...

— Запісаць!..

Праз паўгадзіны на пляцы стаялі вязні з другога барака. Дзенісевіч аглядаў валявых, моцных людзей, пытаўся пра партыйнасць, спецыяльнасць, род войск. Раптам убачыў згорбленага дзеда. Гэта быў дзядзька Піліп. Але стрымаў сябе. Толькі кінуў начальніку лагера:

— Ёсць ідэя! Аднаго дзеда ўзяць. Ён нам карысць прынясе.

Начальнік лагера ўсміхнуўся.

— Прозвішча?— запытаў Дзенісевіч у старога.

— Еўдакімаў. Піліп, ваша благароддзе...

Дзенісевіч памацаў плечы старога.

— У вас, дзядзька Піліп, біцэпсы, як канапляныя вяроўкі.

Дзенісевіч паказаў на старога і загадаў суправаджаючаму:

— Запішыце!..

Адабраных пасялілі асобна і прыбавілі паёк.

А назаўтра ля канторы лагера зноў заскрыпеў тармазамі той самы чорны опель. З машыны выйшаў Дзенісевіч. Ён сказаў начальніку:

— Маю заданне гаварыць з адабранымі... З кожным паасобку... І ў вашым кабінеце, пан оберштурмфюрар. Вы не супраць? Вось і цудоўна...



Дзядзька Піліп увайшоў у пакой нехаця, камечачы ў руках шапку.

— Сядайце, дзядзька Піліп. Гаворка будзе сур'ёзная...

— Дзякуй, пастаю...— пакланіўся Еўдакімаў.

— Сядай, дзядзька Піліп, сядай... Сам жа калісьці гаварыў, што ў нагах праўды няма... І не дзьміся.

Піліп прысеў на ўскрайчык крэсла і з нейкай затоенай непрыязню спытаў:

— Вы гэта так, пра... канапляныя вяроўкі, ці што ўспомнілі? Як жа так, Іван Піліпавіч?

— А вось так, дзядзька Піліп. Форма не нутро. Разумееш?

Піліп нахмурыўся, задумаўся.

— У нас з табой часу мала. Нямецкае камандаванне вырашыла даверыць мне арганізацыю разведцэнтра з рускіх ваеннапалонных. Падрыхтуем іх і пашлем працаваць да партызан. Цябе запісваю першым...

— Божа барані, Іван Піліпавіч,— спалохаўся Еўдакімаў.— Як жа гэта я супраць сваіх? Не, галубок, пашкадуй... Але не змагу я.

— А я цябе, дзядзька Піліп, не для гэтага запісваю. Будзеш рабіць тое, што я табе загадаю... Лічы, што ты зноў у Чырвонай Арміі. Толькі пра гэта... Сам ведаеш... Цяпер падкажы, каго з нашых людзей можна завербаваць у гэтую разведку.

Дзядзька Піліп трохі акрыяў, зрабіўся спакайнейшы, больш шчыры.

— Дзякуй богу, што мы спаткаліся, Іван Піліпавіч. А так бы канец... Запішы танкіста Касціка Саўчанку. Харошы хлопец, наш. Можна Макрухіна Васіля, Сідара Завадскага, Аляксея Замошчына... І яшчэ партыец адзін ёсць. Толькі пра тое ніхто не ведае. Праўда, ён слабы, але надзейны чалавек, Змітрок Паўлушкін. Каго б яшчэ?.. Больш няма, здаецца. Тут, браток, цяжка разгадаць. Адзін за другога хаваюцца, не давяраюць... Кажуць, ты прыстрэліў там аднаго. Усякае на цябе гаварыў...

— Нямецкі шпіён... Падкінулі вам... Кулацкі парастак. З суседняй вёскі.

— Вось як?.. Праўда, і такія тутака ёсць.

— У нас часу мала, дзядзька Піліп. Вось табе першае заданне: прыглядайся да кожнага. Хто як будзе сябе паводзіць. Уважліва прыглядайся. Пра ўсё мне тады. Ясна?.. Ідзі... Калі хто будзе пытаць, скажы, што загадана не гаварыць... Да сустрэчы.

— Дзякуй табе, сынок... Няхай беражэ цябе бог...

Пасля таго, як Дзенісевіч пагутарыў з тымі людзьмі, якіх назваў Еўдакімаў, зайшоў начальнік, паклаў на стол папкі. Дзенісевіч, пагартаўшы, сказаў:

— Няўжо вашы людзі, пан начальнік, не разумеюць, што для маёй каманды бальшавікі не падыходзяць. Прыгледзьце за імі... Мне здаецца, вось ад гэтых пахне камунізмам...

— Данке шён,— падзякаваў начальнік.— Яшчэ раз праверым... Данке...

Група падабралася някепская. Былі надзейныя людзі. «А ці ўхваліць усё гэта Антонаў»,— падумаў Дзенісевіч. З галавы не выходзіў і сённяшні бой. Цікава, чым закончыцца аперацыя каменданта. Заўтра, мусіць, будзе жалоба. Аўсберга хопіць інфаркт...

— Які цудоўны дзень,— сказаў Дзенісевіч шаферу.

— Яволь!— адказаў той.

Опель, парыпваючы тармазамі на выбоінах, вяртаўся назад у горад.

## XVI

Фройлен Аўсма не раз заходзіла ў акруговую паліцыю. Здавалася, не было асаблівай патрэбы, а ўсё ж заскочыць, пасядзіць, успомніць што і пойдзе. Калі фройлен заставалася з Дзенісевічам сам-насам, вочы яе глядзелі на яго самотна, быццам прасілі ласкі, добрага слова.

Люся таксама была не раўнадушная да Дзенісевіча. Аднойчы, калі выйшлі ўсе, яна сказала:

— Я вам не падабаюся, Іван Піліпавіч?.. Нямецкія афіцэры расхвальваюць мяне, як толькі могуць. А хоць бы раз пагаварыць з нашым, рускім.

Тады Дзенісевіч як бы паспачуваў Люсі:

— Ты ўжо адвыкла ад нашых. Ды што з іх возьмеш?

— Дарэмна вы так, Іван Піліпавіч...— крыўдзілася дзяўчына.— Наш хоць як чалавек, а яны... Адзін нават пісталетам пагражаў...

— І збаялася?

— Я жыць хачу,— праз слёзы гаварыла Люся.

Дзенісевіч шкадаваў яе. Цяпер Люсі ўсё роўна, хто будзе яе кахаць. Аднойчы падумаў: «А калі даць ёй работу. Усё ж камсамолкай была». А потым мусіў пачакаць. Праз нейкі час яна спытала:

— Іван Піліпавіч, можа мне з'ехаць куды? Чэпяцца яны, ратунку няма...

— Пачакай трохі, можа што-небудзь прыдумаем,— параіў Дзенісевіч.

Люся змоўкла.

Дзенісевіч адчуваў, што яна не любіць Аўсму, хоць заўсёды ветліва яе сустракае. Артыстка!

Дзве гадзіны запар афіцэрскі клуб вартавалі эсэсаўцы. Мусіць, гаворка ішла даволі сур'ёзная. Рускіх туды не пускалі. Вуленка хацеў перадаць нейкія паперы каменданту, але дарогу яму загарадзіў вартавы. Дзенісевіч чакаў Аўсму, каб хоць трохі даведацца, пра што там гаварылі.

Рабочы дзень канчаўся, а фройлен не прыходзіла. Дзенісевіч хацеў пазваніць, жартам прапанаваць праводзіць яе, але перадумаў. Такая настырнасць выкліча падазронасць. І раптам Аўсма паявілася сама.

— А, гэта вы!— усклікнуў Дзенісевіч.— Прысядзьце на хвілінку. Я зараз...— І калі паклаў папкі ў сейф, пацікавіўся:— Што ў вас новага, фройлен?— Ён, быццам, спытаў пра здароўе.— Я тут закруціўся, аж у вачах мільгаціць. З кожным днём работы прыбаўляецца. Праўду сказаў адзін філосаф: калі работа шукае цябе, рабіць няма чаго, а калі сам шукаеш работу, работы шмат...

— Вас можна павіншаваць, Ганс,—лагодна ўсміхнулася фройлен.— Пра вас сёння Аўсберг гаварыў добрае паўгадзіны... Толькі нос не задзірайце.

— Што ж цікавага гаварыў пра мяне пан Аўсберг?

Фройлен какетліва паківала на Дзенісевіча пальцам.

— Хутка састарыцеся, калі ўсё будзеце ведаць... Ну, правядзі дадому, мой целаахоўнік...

На захадзе ў барвовую хмару садзілася сонца. Яны выйшлі на вуліцу. Сустрэчныя стараніліся, давалі дарогу, той-сёй кланяўся фройлен, віталіся з Дзенісевічам. Паліцэйскія аддавалі чэсць.



— Можа заглянем у парк? — прапанаваў Дзенісевіч.— Люблю такімі вось вечарамі пасядзець у цішыні...

Фройлен ледзь дакранулася да Іванавага пляча і звярнула на алею. Якраз пачыналася камендацкая гадзіна, і ў парку нікога не было.

Яны прыселі на лаўку ля духмянага бэзу. Аўсма любіла слухаць цішыню, аб нечым марыць. Дзенісевіч не ведаў, як выклікаць на шчырасць фройлен.

— Аб чым вы думаеце, Ганс?— спытала фройлен.— Можа прачытаеце свой верш? Пра парк гэты, пра старажытныя дрэвы, няскошаную траву...

— Не да вершаў мне, фройлен...

Аўсма разумела, пра што намякаў Дзенісевіч. І яна сказала прама:

— Кожнаму ясна, што нехта выдаў нашы планы партызанам, і аперацыя правалілася. Мусіць, шлюхі гэтыя вывудзілі тайну ў нашых афіцэраў. Аўсберг забараніў сёння сустракацца афіцэрам з неправеранымі дзеўкамі.— Аўсма нейкі час памаўчала, потым, уздыхнуўшы, дадала:— На падыходзе да Алешаўкі партызаны адкрылі агонь і не далі магчымасці сабрацца ў прызначаным пункце. Забітых прывезлі ў горад. Сёння жалоба. У лазарэтах раненыя. Але хутка мы з імі пакончым. Будзем іх вешаць, страляць.. І я зайздрошчу вам, Ганс. Вы будзеце выконваць гэтую місію... Дарэчы, я ўсё ведаю, можаце мяне не баяцца.

— Пра што гэта вы?— не разумеў Дзенісевіч.

— О, вы пачынаеце ўваходзіць у сваю ролю,— засмяялася фройлен.— Гэта выдатна... Я рада за вас, Ганс... Аўсберг сёння сказаў: «У гэтага рускага столькі ўнутранай сілы, што нават мы можам яму зайздросціць. Ён пакажа нам цуды...» Нават Бёлле які ўжо скупы чалавек, і то падтрымаў Аўсберга.

— Ну, так ужо і сказаў,— не паверыў Дзенісевіч.

— Так і сказаў,— пацвердзіла Аўсма і спытала:— А вы бачылі, Ганс, сапраўдных партызан? Ну тых, што нападаюць на нас?

— Не раз допыты рабіў... І жывых і мёртвых... бачыў.

Пытанне яе насцярожвала, але Дзенісевіч чакаў ад яе большай шчырасці.

— А нашых партызан бачылі?

— Якіх гэта «нашых», фройлен? Я не разумею вас.

— Ну хопіць, Ганс. І так я ўжо з вамі заседзелася.

— Сапраўды, вы можаце наклікаць на сябе бяду, Аўсма. А перш за ўсё на мяне. Я ўжо ведаю той склеп.

— А мне Аўсберг дазволіў з вамі сустракацца,— ціха сказала яна.—Ну, што вы на гэта скажаце?

Дзенісевіч праз сілу ўсміхнуўся, а тым часам Аўсма какетліва прытулілася да яго.

— Я спытаю ў каменданта,— прыкінуўшыся строгім, папярэдзіў Дзенісевіч.

— І калі вам захочацца пацалаваць мяне, вы таксама будзеце пытацца дазволу ў Аўсберга?

Яны яшчэ доўга гаварылі. Дзенісевічу не хацелася так хутка развітвацца з фройлен Аўсмай. Ён усё больш і больш адчуваў, што сяброўства з ёю можа прынесці для справы немалую карысць.

У далёка-гулкай ночы хорам зацохкалі салаўі, і стала вільготна ад туману, што поўз ад рэчкі. Яны неахвотна падняліся з лавачкі і паціху пайшлі. Цяпер ужо на тратуары цюкалі абцасікі фройлен і гулка аддаваўся стук ботаў паліцэйскага. Потым недзе за другім ці за трэцім кварталам пачулася «Аўсвайс?», какетлівы смех фройлен, развіталь-

нае «Гутэн нахт...» Таропкія крокі Дзенісевіча ўжо набліжаліся да парку. У густых ценях мільганула постаць. Дзенісевіч падаўся туды, і прыглушаны голас паклікаў яго:

— Піліпавіч...

Гэта быў сувязны.

## XVII

Вуленка прыходзіў на работу акуратна і, пасядзеўшы нейкі час у сваім кабінеце, кудысьці знікаў на цэлы дзень. А вяртаўся п'янаваты.

Дзенісевіч заўважыў, што з Вуленкам нешта рабілася. Ён стаў нервовы, часам і злосны . Нават лаяў «новы парадак» і быццам шукаў сабе прыхільнікаў. Але Дзенісевіч нібы не звяртаў увагі, а калі слухаў яго, даваў зразумець: ты начальнік, табе відней.

Аднаго разу ішлі яны правяраць пасты. Ля парку пачулі жаночы крык. Вуленка кінуўся на дапамогу. Дзенісевіч за ім. На асветленай алеі немец згроб у абдымкі жанчыну, а яна вырывалася, крычала. Вуленка схапіў немца за каўнер і папярэдзіў:

— Прэч адсюль, сволач, бо прыстрэлю на месцы! — і замахнуўся.

— Этшульдзіген зі мір, біттэ...* — спалохаўся немец і хуценька пайшоў з парку.

Перапалоханая жанчына кінулася ў другі бок.

— А каб з ёю быў афіцэр? — запытаў Дзенісевіч.— Ён з табою не палічыўся б.

Вуленка ступіў некалькі крокаў, потым са злосцю працадзіў:

— Думаеш, калі прыйдуць нашы, табе ордэн дадуць?

«Што гэта? Зноў праверка?»

— Роўненькі ты нейкі, Іван,— казаў далей Вуленка.— А я не магу так. Не магу,— голас у яго надрыўны, адчайны.— Гатоў хоць зараз пісталет да вуха—і прападай усё пропадам...

— Рана...

— Дужа ты ведаеш... Рана... А я хачу сам, без прыгавору!

Дзенісевіч ніяк не мог «раскусіць» свайго начальніка. То ён свету белага не бачыць за работай, то, калі вып'е, пачынае баяцца кары. Але быў ён не вельмі шчыры. Аднаго разу нават папракнуў Дзенісевіча:

— З Аўсбергам сяброўства заводзіш. Кар'еру робіш? Ну, давай, давай...

А калі пачуў , што Дзенісевіч ударыў начальніка раённай паліцыі Шупеню, Вуленка пахваліў:

— Малайчына! Гэтай сучцы так і трэба.

Учора, падвечар, Вуленка падышоў да Дзенісевіча і па-сяброўску прапанаваў:

— Кідай ты, Піліпавіч, гэтую пісаніну. Пойдзем ды трыццатку маю размяняем... Імяніны мае сёння...

Дзенісевіч паціснуў яму руку, пажадаў шчасця. Ну, а калі начальнік запрашае, апрануўся і пайшоў.

Па дарозе іх сустрэла Аўсма. Павіталася. Калі адышлі, Вуленка спытаў:

— Каханка твая?..

— Проста чалавек харошы,— адказаў Дзенісевіч.

— Усе яны аднолькавыя.

Дзенісевіч ніяк не мог даўмецца, чаму Вуленка незадаволены — яму ж Аўсберг памагае грашыма. Дык хто ж ён: вораг, шпіён ці ў душы свой чалавек?

У хаце было душна і пахла смажаным. Як толькі яны паявіліся на парозе, жонка Вуленкі, прыветлівая жанчына, ласкава сустрэла:

— А, госці дарагія. Калі ласка, заходзьце, садзецеся. Зараз усё будзе гатова.

— Што, і я ў цябе госць? — падхапіў Вуленка.

— Можа і госць, хто цябе ведае. Час такі. Прыгрэўся во трохі.

— Ну, ты гэта дарэмна, Людміла,— супакоіў яе Дзенісевіч.— Ты ж паглядзі на яго. Увесь высах па табе.

— А кінь мо ты, Іван,— зазлавала яна.— Сам ты цягаешся з гэтай немкай. А мой, думаеш, лепшы. Напояць тыя. Во, дома пі, хоць расперажыся, а на людзях...

— Ды хоць свята маё не пагань.

— А ў цябе кожны дзень свята. Нешта ў лесе здохла, што ты на імяніны свае дадому прывалокся... Паслухай, Іванка,— гаварыла далей Людміла, ставячы на стол закуску.— Так нажлукціцца, а ўначы невядома што трызніць: то партызаны яго палохаюць, то на расстрэл вядуць. Божа, мой божа, чаго толькі не трызніць.

— Ну, хопіць табе! — вызверыўся Вуленка.

— Вось і скажы праўду...

Яны сядзелі за сталом ля расчыненага акна. У садзе ціўкалі вераб'і, гулі пчолы. Стары, абіраючы з яблынь павуцінне і вусеняў, гаварыў з некім, што вось ужо каторы год гіне садавіна.

А ў Дзенісевіча з імяніннікам гаворка не ладзілася, хоць і выпілі патроху. Думалася адно: чаму Вуленка запрасіў на свае імяніны толькі аднаго яго, нават жонку і старога не паклікаў. Хіба можа хоча расскрыць Дзенісевічу які-небудзь сакрэт?

Вуленка наліў і выпіў яшчэ. Абодва маўчалі.

— Што ў цябе з гэтай фройлен? — раптам запытаў Вуленка.— Нешта яна кожны дзень да цябе ходзіць.

— Ды проста так. Муж у яе быў журналістам...

— А-а...— быццам здагадаўся, у чым справа, Вуленка.— Пісацель, кажаш...

Выпілі яшчэ. Без тоста. «Будзь здароў!» — і ўсё. Калі Людміла бразнула на кухні вядром, не інакш пайшла даіць карову, Вуленка спытаў:

— Скажы чэсна, што ты за арэшак? Я так і не зразумеў цябе. Часам хочацца шчыра з табой пагаварыць. Здаецца, ты павінен успрымаць усё, як барометр, а глядзіш на цябе, ты як каменны. Сяджу і баюся, быццам перад камендантам...

— А ты не бойся.

— Лёгка сказаць,— ён дапіў самагонку.— Я прыйшоў сюды з канцлагера. У мяне выбар быў такі: або крэматорый, або... А ты сам прыйшоў... Вернуцца нашы — капцы табе... Я ваенны. Я прывык да смерці. А ты мог бы стаць пісацелем... А так... Прыстрэляць нас з табой, Іван, прыстрэляць...

І шкада было Вуленку, і ў той жа час прыкра слухаць. Дзенісевіч не стрымаўся:

— Рана памінкі па сабе спраўляеш...

Вочы ў Вуленкі загарэліся злосным агнём.

— Рана, кажаш?.. А гэта ты не чытаў? — Ён дастаў з кішэні запіску.

Дзенісевіч прачытаў: *«Сволач, калі не адумаешся, расстрэлу табе не мінаваць. Камандзір партызанскага атрада Аўтухоў»*.

* Прашу прабачэння... **(ням.)**

«Правільна, почырк Аўтухова. Антонаў перадаў праз Меранюка ўзоры почыркаў усіх партызанскіх камандзіраў. Значыць, за Вуленкам палююць. Але чаму ніхто не параіўся са мной і чаму піша Аўтухоў, а не Антонаў? Ці не зрабіў Аўтухоў гэта самавольна? Трэба папярэдзіць Антонава...»

— Правільна пішуць,— Дзенісевіч адкрыта і строга глянуў на Вуленку. Потым выйшаў на кухню і было відаць, як кінуў тую запіску на чырвонае вуголле, якое дагарала на комінку. Калі паперка ўспыхнула, ён строга спытаў: — Дык што ты думаеш?

— Не ведаю... Ды што гэта ты на мяне, як камандзір?— не разумеў Вуленка.

— Права маю!

— Якое?— вочы Вуленкі пабольшалі.— Ты можа вестачкі для Аўсберга збіраеш?

— Спакойна!— загадаў Дзенісевіч.— Што думаеш адказаць Аўтухову?

— Ты што?..— у голасе Вуленкі былі і сполах, і адчай. Ён прыўзняўся.

— Сядзь на месца,— папярэдзіў Дзенісевіч.— Адно тваё неасцярожнае слова, і я выканаю загад Аўтухова...

Вуленка збялеў, як палатно.

— Не ўздумай прадаць,— спакойна гаварыў Дзенісевіч.— Тут я не адзін. Прадасі мяне, загад усё роўна ёсць каму выканаць... Не круці, гавары праўду, што надумаўся рабіць?

— Дык ты наш?— прашаптаў Вуленка.— Наш, Іван?

— Я пакуль не ведаю, чый ты.

Вуленка зрабіўся цвярозы.

— Ды я хоць зараз гатоў да партызан,— ён агледзеўся.— Парай, Іван Піліпавіч, як быць?

— Будзеш працаваць пад маім кіраўніцтвам. Ясна?

— У паліцыі?— здзівіўся Вуленка.

— Я ж працую... Толькі запомні, што з гэтай хвіліны ты ў першую чаргу разведчык, афіцэр Чырвонай Арміі, а потым ужо начальнік акруговай паліцыі... Піць я табе забараняю!.. Пра нашу сённяшнюю размову ніхто не павінен ведаць. Ясна?.. Прысяга — армейская... І паспрабуй толькі яе яшчэ раз парушыць!.. Наконт запіскі не бойся. Я перадам... Ну, бывай. Мне пара... Дзякуй за пачастунак... Усё запомніў?

Вуленка памкнуўся праводзіць, але Дзенісевіч параіў:

— Прытварыся п'яным. І ні гу-гу. Будзь здароў, імяніннік!

Вуленка апусціў цяжкую галаву на сціснутыя ў кулакі рукі, потым, падумаўшы, наліў яшчэ адну шклянку самагонкі. Зноў злёг на кулакі і ўжо не чуў, як распранула яго жонка, не помніў, як абяцаў ёй больш не піць, стаць чалавекам...

## XVIII

Раніцой, стоячы ля акна ў сваім кабінеце, Дзенісевіч заўважыў высокую постаць Вуленкі. Той мінуў управу і папраставаў у камендатуру. «Няўжо за ноч перадумаў?»— скаланула Дзенісевіча.

Ён стаяў доўга на адным месцы і не заўважыў, як у кабінет зайшла Марыя, сястра. Яна ціха падкралася да яго, працягнула рукі і закрыла далонямі вочы. Ад нечаканасці Дзенісевіч рэзка павярнуўся.

— А, гэта ты, сястра. А я думаў... Чаго рана так? Можа здарылася што?



— Ды не. Прыйшла во, можа солі дастану.

— Усё ў жмуркі гуляеш?— не паверыў Дзенісевіч.— Я ж прывёз цэлы мяшок солі.

Марыя збянтэжылася, пачырванела.

— Як там наша падполле?— ён пасадзіў сястру побач з сабой.— Усё туды рвецеся?

Гэта ён пра партызанскі атрад.

— Ага...

— Дарэмна... Я таксама не супраць. Але што зробіш? Усюды свае людзі патрэбны...

Зазваніў тэлефон. Ён падняў трубку.

— Слухае сакратар акруговай паліцыі Дзенісевіч... Так точна... Яволь!..

Марыя заўважыла, як брат адразу змяніўся, пабялеў, на ілбе выступілі кропелькі поту. Ён вяла апусціўся ў крэсла. Сумнымі вачыма глянуў на сястру.

— Што з табой, Іванка?

Іван падняўся, падышоў да акна, моўчкі глядзеў на вуліцу.

— Слухай, Марыя,— ён абярнуўся да яе.— Учора я быў у Вуленкі. Прапанаваў яму працаваць на нас... Сёння ён адразу пайшоў у камендатуру. Сюды нават не заглянуў... Мусіць, прадасць... Толькі што званіў Аўсберг. Прасіў тэрмінова прыйсці... Ты павінна зараз жа пакінуць горад... Калі не вярнуся, ведай, што мяне выдаў Вуленка. І яшчэ. Перадай Антонаву, няхай папярэдзіць Аўтухова, каб больш самавольна не пісаў ніякіх паперак.—Дзенісевіч коратка расказаў Марыі пра ўчарашнюю гутарку з Вуленкам.— Ну, бывай, сястра...

Ён абняў яе, пацалаваў і правёў за дзверы. Сам падышоў да люстра, апраўіў форму, кінуў Люсі, якая толькі што зайшла, «Добрай раніцы», потым дадаў:

— Будзь, Люська, чалавекам, а не паненкай...

Тая паціснула плячыма. Маўляў, што гэта за намёкі, але адказаць нічога не паспела. Дзенісевіч выйшаў.

«Навошта спаліў запіску? Трэба было на ўсякі выпадак пакінуць. Гэта ж галоўны козыр. Дурань... Ну, пачакай, сволач, адплата цябе не міне. Калі выкручуся, сам да сцяны пастаўлю...» Успомніўся Шульц, склеп са скразнякамі, крывая грымаса каменданта, напаленае да чырвані жалеза...

Ногі цяжка ступалі па лесвіцы, у роце перасохла, у скронях звінела. «Апошнія крокі,— падумаў ён.— Добраахвотна іду на смерць...» І якраз з прыёмнага пакоя каменданта выйшаў Вуленка. Сустрэліся твар у твар. Абодва нейкі час стаялі нерухома, варожа глядзелі адзін на аднаго.

— Спакойна, Вуленка,— паспяшаўся папярэдзіць Дзенісевіч.— Учарашняя дамоўленасць застаецца ў сіле... Май вытрымку,— і ступіў на парог прыёмнага пакоя. Яго адразу прапусцілі да каменданта.

У кабінеце сядзелі Аўсберг і Кісцянкоў, начальнік следчага аддзела. Камендант устаў з-за стала, па-сяброўску падаў руку і пазнаёміў з Кісцянковым:

— Ваш намеснік, пан Дзенісевіч...

Гэтага чалавека ведаў Дзенісевіч даўно. Да вайны ён працаваў загадчыкам сельпо, і яны часта сустракаліся на раённых нарадах. Праўда, блізка знаёмыя не былі, але пры сустрэчах віталіся.

— Вельмі прыемна,— адказаў Дзенісевіч і прысеў там, дзе прапанаваў Аўсберг.

— Ну, што ж. Будзем рабіць пачатак,— без ніякага тлумачэння аб-

вясціў камендант і націснуў на кнопку званка.— Па адным, Шульц!— І толькі цяпер ён растлумачыў Дзенісевічу.— Апошняя праверка разведчыкаў. Першы Саўчанка Канстанцін. Танкіст, трыццаць адзін год, палонны, з-пад Масквы...

Увайшоў каржакаваты чалавек у зашмальцаваным адзенні. Аўсберг разгарнуў папку, якая ляжала перад ім, і спытаў:

— Хто ваш бацька, Саўчанка?— і раздушыў цыгарэту ў попельніцы.

— Кулак.

— Узнагароды?

— Адну далі, і то не ведаю, за што...

— Спецыяльнасць?

— Танкіст я, пан камендант.

— Спецыяльнасць дома?— скрывіўся Аўсберг.

— У эмтэсэ рабіў і токарам, і на рамонце, і за рулём быў.

— Вас прымушалі у разведку?—Аўсберг перавёў позірк на Дзенісевіча. Яму падабалася, як гаварыў палонны.

— Не, ніхто не прымушаў. Сказалі, што трэба. А калі трэба, то я чалавек такі... Дзякуй вам, паны, што ад смерці выратавалі. Я за гэта ўсёй душой...

Камендант зноў закурыў, падышоў да карты і паклікаў да сябе Саўчанку:

— Вось ваша зямля. Дваццаць гектараў. І тры гектары лесу... Рэчка тут... Гэта на той выпадак, калі выканаеце нашы планы. Не зробіце, толькі два метры.

— Дзякуй вам, паночкі, дзякуй. Век буду помніць вашу дабрату. Буду служыць верай і праўдай.

Дзенісевіч час ад часу пазіраў то на каменданта, то на Кісцянкова.

Потым увайшоў чалавек з мангольскімі рысамі твару.

— А гэта вам, пан Дзенісевіч, мой асабісты падарунак,— паказаў Аўсберг.— Нашчадак чачэнца. Швідко Уладзіслаў. Яму можаце давяраць усё.

— Дзе ваявалі?— запытаў Дзенісевіч, ацэньваючы папаўненне.

— Пад Смаленскам. Нас там многа палягло. Мяне кантузіла, прысыпала зямлёй.

— У якіх канцлагерах быў?

— Шмат у якіх...

— Канкрэтна!

Чачэнец збянтэжыўся. Дзенісевіч зірнуў на каменданта.

— Нічога, навучым,— сказаў Аўсберг.

Прыводзілі новых людзей. Дзенісевіч прыглядаўся да кожнага, хоць і ведаў іх, сустракаўся некалькі разоў, і ўсё знаходзіў у кожным нешта такое, што радавала і насцярожвала. Усе згаджаліся, дзякавалі, ледзь не цалавалі рукі каменданту, Кісцянкову і яму, іхняму «шэфу». Ці так хутка зжыліся са сваёй новай прафесіяй, ці адчулі блізкае збавенне ад пакут, ці шчыра былі ўдзячны за той кавалак зямлі, які кожнаму шчодра абяцаў камендант. Паспрабуй адгадай!

Нарэшце выклікалі Піліпа Еўдакімава. Перад яго прыходам камендант заўважыў:

— На гэтага старога асобны стаўка. Чырвоныя застрэлілі яго жонку і дачку — старшыню калгаса. Дачка выгнала ў лес усю калгасную жывёлу. Акружэнцы хацелі загубіць статак, а яна бараніла... Застрэлілі. А ён уцёк. Рухавы стары!..

— Праверка пацвердзіла?— спытаўся Кісцянкоў.

— Усё правільна,— буркнуў Аўсберг.





Дзенісевіч не разумеў: камендант схлусіў ці сапраўды пацвердзілася?

— Ну, што, дзед, паваюеш супраць саветаў?— бадзёра спытаўся камендант.

— Я іх, трасцу матары, ніводнага не пашкадую...

Усе засмяяліся. Дзенісевіч раптам стаў сур'ёзны:

— Як вы трапілі ў нямецкі палон, Еўдакімаў? Такіх старых не мабілізоўвалі...

— Мая дачка была старшынёй калгаса. Прыйшлі немцы... Я ў лес падаўся. Ішоў аднаго разу ў разведку, а дакументаў не было. Вось і схапілі. Спачатку ў Бабруйску сядзеў, а потым сюды вось прывезлі...

— Добра,— пахваліў камендант.— А дзе праўда? Вас падабралі параненага на полі бою. Вы былі ў вайсковай форме?

Дзенісевіч насцярожыўся. Яны не гаварылі пра гэта. Палонны і ўсё. А тут Піліп сам наплявузгаў лішняе і вось-вось заблытаецца.

— Мне ўжо язык забалеў тлумачыць, што ніякі я не ваенны,— казаў стары.— Калі забілі маю дачку, царства ёй нябеснае, то я кінуўся куды вочы глядзяць. Бадзяўся галодны, пакуль не напаткаў акружэнцаў. Яны накармілі мяне... А ці ж буду я ім казаць пра сваё гора?.. Ну і павялі яны мяне з сабой за лінію фронту, хацелі да сваіх дабрацца... Але з мяне вока не спускалі. Баяліся, што ўцяку, ды немцам скажу пра іх... Абнасіўся я, як бяздомнік. Яны знялі з аднаго забітага адзежу, боты ды і апранулі мяне ў вайсковае... Ужо да Смаленска было якіх кіламетраў з дзесятак. Чуем — страляніна. Мы бліжэй. Ну, сабе думаю, тут я пад паніку і ўцяку ад іх. Яны кінуліся ў адзін бок, а я што было сілы — у другі. У кусты. І тут мяне сцебанулі ззаду... Свае ж... Там ужо немцы і знайшлі мяне ледзь жывога... Во які я ваенны...

Аўсберг слухаў недаверліва, час ад часу пазіраючы на Кісцянкова і Дзенісевіча. Нарэшце Піліп скончыў расказваць, і Аўсберг паклікаў яго да карты. «Пранясло»,— з палёгкай падумаў Дзенісевіч. Але камендант папрасіў паказаць на карце дарогу, па якой Піліп ішоў з акружэнцамі. Дзенісевіч насцярожыўся.

— Пан камендант, я ж непісьменны. Толькі расказаць магу...— знайшоў выйсце стары і пералічваў вёскі, гарады.

— А цяпер я пакажу вам, Еўдакімаў, дзе вы будзеце пасля вайны дажываць свой век... Вось тут... Пятнаццаць гектараў зямлі, цагляны дом...

— Дзякуй вам, пан камендант... Гэта для мяне зашмат. Хату б мне невялікую ды агарод, і з мяне даволі. Сілы не тыя...

— Прыслуга дадзім. Будзеце шчасліва век дажываць... Ну, жадаю поспехаў.

— Рад старацца, ваша благароддзе,— прыстукнуў абцасамі стары.

Камендант весела запытаў:

— Служыў у царскай арміі?

— Так точна, пад яго благароддзем Калчаком!..

— Як вам падабаецца ваш новы шэф, пан Дзенісевіч?— бліснуў позіркам на Піліпа камендант.

Еўдакімаў пацiснуў плячыма:

— Хто ж яго ведае. Нядаўна ён у нас. Быццам і харошы чалавек, ды круты толькі дужа... Вось не разабраўся ў чалавеку ды адразу кулю ў лоб... А чалавек той, царства яму нябеснае, харошы быў.

Аўсберг і Кісцянкоў загадкава пераглянуліся.

— Ну, добра, Еўдакімаў. Можаце ісці...



Да абеду праверка закончылася.

— Я двух не далічыўся, пан штурмбанфюрар,— паведаміў Дзенісевіч.

Кісцянкоў і Аўсберг гучна зарагаталі.

— І не далічыцеся, пан Дзенісевіч,— ледзь стрымліваўся камендант.— Учора мы ім экзамен зрабілі. На «партызан» звадзілі. А «партызанамі» былі нашы салдаты. Гэтыя двое і давай да іх перабягаць. І ўцяклі... ад свайго жыцця. Ха-ха-ха... Камендант быў, мусіць, задаволен учарашнім «экзаменам».

— Ну, як, паны?— запытаў расчырванелы ад смеху камендант.— Ці ёсць якія сумненні?.. Не?! Тады бярыцеся за работу. Месяц тэрміну... Гэтых людзей кожны дзень будуць прывозіць спецыяльныя машыны для нарыхтоўкі дроў. Займацца ў нашых скляпах. Спецыялістаў я прышлю заўтра.

— Яволь!..

— О, вы пачынаеце гаварыць па-нямецку, пан Дзенісевіч,— камендант пацiснуў на развітанне руку.— Работа фройлен Аўсмы?

Дзенісевіч пачырванеў, але прымусіў сябе ўсміхнуцца, казырнуў, і яны з Кісцянковым выйшлі на вуліцу. На развітанне новы памочнік пажартаваў:

— Вы чырванееце, як дзіця, Дзенісевіч... Не губляйцеся. «Любови все возрасты покорны».

— «Любовь — дело серьезное»,— у тон яму адказаў Дзенісевіч.

## XIX

Вярнуўшыся з камендатуры, Дзенісевіч зайшоў да начальніка. Ад учарашняга перапою, ад таго, што здарылася ў апошнія дні ці можа пасля сённяшняга візіту да Аўсберга, Вуленка сядзеў хмуры, паніклы. Ды яшчэ, мусіць, думаў, што Дзенісевіч пайшоў да каменданта, каб расказаць пра ўчарашняе. Убачыўшы Дзенісевіча, начальнік устаў. Ён неяк вінавата глядзеў, потым адвёў вочы ўбок.

— Ты, што, гэтак кожны раз будзеш хадзіць да каменданта?— строга запытаў Дзенісевіч.

— Прабач, Піліпавіч, але такая сітуацыя,— вінавата гаварыў Вуленка.— Нервы... А чаму ты пытаеш і за каго ты мяне лічыш?..

— Пакуль толькі за начальніка акруговай паліцыі... Я таксама думаў, што пайшоў стукаць. Таму і папярэдзіў ужо Антонава... На ўсякі выпадак... Ну, ты не палохайся. Цяпер лягчэй адмяніць, чым было папярэдзіць... Пойдзем да мяне, паабедаем разам. Ды і гаворка ёсць.

Запрашаць Цялюпікава Дзенісевіч не хацеў. Пакуль сам не раскусіць да канца Вуленку, не варта раскрываць яго. Іх тут пакуль двое.

Яны зачыніліся ў глухім бакавым пакоі. Тут ён гаварыў з Цялюпікавым, Меранюком, Марыяй. Пакой без вокнаў. Быццам знарок для сакрэтных сустрэч і гутарак. Дзенісевіч паставіў на стол бутэльку «гары», заадно захапіў і пустую.

— Ну, Валодзя, за тваё ўваскрэшанне? — прапанаваў Дзенісевіч тост.

Вуленка аглянуўся, быццам спалохаўся гэтых слоў. Потым ціха, са шчырасцю адказаў:

— Дзякуй, Піліпавіч, табе. А то, паверыш, ледзь рукі адзін раз не налажыў... Сам лёс паслаў цябе... Давай вып'ем за нашу перамогу!

Вуленка выпіў прагна.

— Ты ведаеш, Піліпавіч, кожную ноч слухаю Маскву... Жонка ад-

бірае пісталет. Ох, хоць бы адзін дзень пабыць там, пад Масквой. Няхай бы і загінуў, але ведаў бы, за што. А тут. Давай сіганём у лес... Расстраляюць, дык хоць свае... Не гэтыя сволачы...

Дзенісевіч адказаў спакойна, як старэйшы.

— Я прыйшоў сюды з лесу і назад вярнуся тады, калі мне загадаюць. Я і цябе папярэдзіў, што будзем тут працаваць да асобага загаду... Ты паступаеш у маё поўнае распараджэнне. Па ваенным часе... Без майго дазволу ніводнага самастойнага кроку...— Дзенісевіч перадыхнуў, закусіў.— А цяпер прыступім да справы. Што ты можаш мне перадаць з таго, што я не ведаю і што ты да гэтага часу хаваў ад мяне... З самага пачатку тваёй работы?

— Там у мяне ў сейфе. Пойдзем на работу — пакажу...

— Ты мне напамяць давай, а не з сейфа. Да яго мы дабрацца паспеем,— больш строга, чым звычайна, сказаў Дзенісевіч.

Вуленка задумаўся. Потым недаверліва глянуў:

— Ёсць такое, пра што ведаюць я ды Бёлле...

— Напрыклад?

Вуленка яшчэ вагаўся: гаварыць ці не. Так хутка ўсё выйшла. І ўтойваць няма як.

— Напрыклад, патайную паліцыю...—Вуленка сказаў шэптам.

— Ты не бойся. Я не буду ахвяраваць і табой і сабой. Падумаем разам, як інсцэніраваць... Ты пра якую гэта патайную паліцыю? Тую, што партызаны ліквідавалі на мінулым тыдні?

— Ёсць яшчэ адна. Асноўная... То былі дублёры, якіх падсунуў Бёлле каменданту. Цяпер яны адзін аднаму не давяраюць...

— Спісы ў цябе?

— У Бёлле. Я толькі правяраў гэтых людзей і рэкамендаваў гестапа. Там іх адбіралі. Чалавек сорак... Можа яшчэ хто. Цяжка сказаць. Усе яны працуюць пад клічкамі і адзін аднаго не ведаюць...

— Хто рэкамендаваў іх табе?

— Шупеня... Усе яны з нашага раёна. А можа ёсць і з іншых... Бёлле скрыта ўсё робіць. Яго адразу не раскусіш.

Тое, што гаварыў Вуленка, было вельмі важна. Сярод патайных паліцаяў маглі быць сувязныя партызанскіх атрадаў, нават партызаны.

— Шупеню трэба тэрмінова выкрасці. Адправіць да Антонава. Падазронасць будзе толькі на яго. Як думаеш?..—Дзенісевіч пільна глянуў на начальніка, стараўся заўважыць у ім кожную змену, кожны рух.— Мы пастараемся даведацца, хто падказаў яму гэтых людзей, і расстраляем. Па-мойму, іншага выйсця няма...

— Можа і так...— задумаўся Вуленка. І тут жа пацягнуўся да бутэлькі. Дзенісевіч узяў яго за руку.

— Спярша пастарайся ўспомніць кожнага, каго пасылаў у гестапа.

— Запісвай,— Вуленка паставіў на месца бутэльку і марудна называў прозвішчы, вёскі. На твары ў яго выступілі чырвоныя плямы. Ён аж заплюшчыў вочы, але памяць падводзіла. Зноў пацягнуўся да пляшкі. Дзенісевіч не пярэчыў. Можа гарэлка паможа, і не памыліўся. Памяць праяснілася. Вуленка назваў яшчэ некалькі прозвішчаў.— Толькі ты, Іван, ведай, не кожны з іх прайшоў праз Бёлле. Многіх адсеялі. Каго, не ведаю... Але ўсе яны сволачы. Я сам экзаменаваў іх... Ім добра плоцяць. Смажанае, сволачы, пачулі. На фальварку зубы ашчэрылі...— І тут жа сумеўся, сцішыўся і сказаў як бы па сакрэце: — Слухай, Іван, колькі мне прыпаяюць пасля вайны?

— Што ж ты ў мяне, як у пракурора, пытаеш? Па-мойму, гадоў



дзесяць-пятнаццаць... Але ў цябе ёсць магчымасць адсядзець іх тут, у паліцыі... Так, так, не здзіўляйся. Усё залежыць ад цябе.

Той уздыхнуў і сказаў ціха, безнадзейна:

— Дзякуй, рэабілітаваў...

— Ты ж сам вінаваты. Чаго цябе панесла сюды? Ратунку шукаў?

— Па-твойму, лепш у крэматорый?!

— Лепш не лепш, ды і тут, бачыш, не соладка. Не мог зрабіць так, як людзі робяць... Ці можа лесу пабаяўся?

— Ды пры чым тут лес?— махнуў рукой.— Думаеш, лёгка было знайсці іх?..

— Не выкручвайся, Вуленка. Хто-хто, а ты ведаў, дзе партызаны. Не вельмі хацелася табе іх шукаць, пакуль немцы ішлі на Маскву. А цяпер, глядзі, ён спахапіўся, зразумеў. І ты не дарэмна слухаў Маскву...

Вуленка маўчаў. Апраўдвацца не было як.

— Яшчэ раз гавару табе,— Дзенісевіч склаў паперку з данясеннем, паклаў яе за кляёнку ў пілотцы, а чарнавік падпаліў,— лічы, што на год-два менш табе засталося хадзіць у «зэках»,— і ўсміхнуўся больш спагадліва.— Дзякуй, Валодзя. Ты проста не ўяўляеш, якую цудоўную справу зрабілі мы сёння... А цяпер вось што... Падбірай пакуль добрага хлопца на Шупенева месца. Сёння-заўтра яго тут не будзе. А нам цяпер трэба надзейныя людзі.. Можа каго прыйдзецца прызначыць са сваіх. І яшчэ. Хто ў цябе на прыкмеце з тых, каго можна падключыць да нашай работы?

— Якой работы?— не зразумеў Вуленка.

— А ты думаеш, што толькі гэтым мы будзем займацца.— Дзенісевіч паказаў на грубку, дзе ляжаў попел ад паперкі з данясеннем.— То скажу табе, што гэта яшчэ курорт. Рыхтуйся да большага. Гэта пачатак... Трэба людзям наглядна паказаць, што і тут, пад носам у гэтых гадаў, дзейнічае савецкі фронт. Сам ведаеш, што ў горадзе з самай акупацыі ціха. Немцы сюды прыязджаюць, як да сябе дамоў... А для ўсяго гэтага, браце, нам трэба жалезныя людзі. Няхай сабе пакуль і з паліцэйскіх. Гэта не так рызыкоўна... Ды і падазрэнняў менш... Цяпер разумееш, якая ў нас работа? Вось як...

— Будзем ваяваць, таварыш камандзір,— лагодна сказаў Вуленка.— Ты цяпер маё збаўленне, Іван Піліпавіч. А таму любое тваё заданне выканаю...— Вуленка моцна пацiснуў руку.— Слухай, а як у цябе з новай пасадай?..

Дзенісевіч здзівіўся:

— Ты пра што гэта?

— Камендант раіўся са мной. Я тады падтрымаў цябе.

— А цяпер?— усміхнуўся Дзенісевіч, яшчэ добра не ўпэўніўшыся, пра што ідзе гаворка.

— Табе відней... Толькі з гэтай разведкай ты лезеш у самае пекла...

— Значыць, ведаеш... Ну, гэта можа і лепш. Думаю, што адно другому не пашкодзіць... А можа і паможа...

— Глядзі, Піліпавіч, будзь асцярожным!

— Буду,— не адразу адказаў Дзенісевіч.

Яны выйшлі на ганак, адзін аднаму падміргнулі, маўляў, вышэй галаву, паплечнік, і абодва пакрочылі па сцішанай вуліцы.

(Далей будзе)



Тацяна ДЗМІТРУСЁВА



● ———— ●● *Лес* ●●● *Госць*



●

Сэрца маё гарачае,
Згарыш ад жыцця, няйначай.
Хаваць цябе не баруся —
Памерці ціха баюся.
Згары, маё сэрца шчырае,
У самым трывожным вырai.
Вось толькі песняй апошняю
Сагрэй чалавека кожнага.

●●

*Ты цяжкі, лес, для думак і для сэрца —*
Шуміш, а зразумець я не магу,
Чаму бярозка гордая, а гнецца?
І што сагнула елку у дугу?
Па твары б'е балюча злосны вецер
Асінку так, што тая лісцем плача,
Дрыжыць, заходзіцца ад болю вецце,
А сонца па лісточках скача, скача...
І белыя бярозы, што бінты
На раны свежыя балючыя яе.
Хоць у вачах зялёных боль застыў,
Ды сэрца ў цёплых промнях адтае.

●●●

Да бацькі сябра завітаў у госці —
Вясковы дзядзька, рыжы, як жыты.



Пілі па чарцы, смакавалі косці,
Разумна гаварылі аб жыцці.
Забытая, сядзела ў кутку я,
Глядзела на барвовыя насы,
На рабага ката, які смакуе
Пад лаўкаю кавалак каўбасы;
На маці, што з усмешкаю на вуснах
І смуткам невыказным у вачах
Бутэльку несла новую сівухі
У жыццём і працай стомленых руках.

# На чарзе
## публікацыя вершаў Сяргея ЗАКОННІКАВА, Казіміра КАМЕЙШЫ, Петруся МАКАЛЯ, Алеся ШПЫРКОВА



Барыс САЧАНКА

Мал. В. САКАЛОВА



МІНІЯЦЮРЫ

## ХЛЕБ

Было гэта даўно. Адразу ж пасля вайны.

Маці прынесла аднекуль акрайчык хлеба. Доўга-доўга разглядала яго, нюхала, паварочвала і так і гэтак, нібыта не верыла вачам сваім, што на далоні ў яе ляжыць хлеб — сапраўдны жытні хлеб, спечаны з чыстай, без ніякае домесі, мукі, на паду печы, на свежым дубовым лісці, пражылкі якога так прыгожа адбіліся на скарынцы. Потым яна нейк, як мне падалося, аж надта борзда і неахайна разламала акрайчык напал: адзін кавалак дала мне, а другі палажыла на стол, пад абрус.

— Гэта Толіку... Вернецца з лесу — то павячэрае...

Сама ж, узяўшы капаніцу, пайшла на гарод акопваць бульбу.

Я вельмі хацеў есці. І той кавалачак хлеба, што дала мне маці, з'еў, праглынуў мігам. І, вядома, ані не наеўся, толькі растравіў яшчэ больш свой голад. Хвілін колькі я не мог нідзе знайсці сабе месца: чамусьці лазіў на печ, пад ложак, выбягаў на двор, і зноў — каторы раз! — вяртаўся назад у хату. Потым усё ж не вытрымаў. Падсеў да стала, адгарнуў абрус, узяў у сваю руку той кавалачак хлеба, што пакінула была маці Толіку, майму старэйшаму брату. Не есці ўзяў. Проста так, паглядзець. Палюбавацца хлебам, як любавалася кагадзе маці. І тады раптам мне здалося, што маці мяне абдзяліла, брату пакінула хлеба намнога больш, чым дала мне. Ад братавага кавалачка я адшчыкнуў крошачку. Толькі крошачку. Адну маленечкую, малюпасенькую крошачку. Укінуў яе ў рот. Пачаў жаваць. Калі пракаўтнуў, не заўважыў, як пальцы мае самі, не пытаючы ў мяне на тое згоды, адшчыкнулі яшчэ крошачку. Маленечкую, малюпасенькую крошачку...





...Схамянуўся я тады, калі на маёй далоні асталася абшчыканая з усіх бакоў скарыначка. Што я нарабіў? Што скажа маці, брат, калі вернуцца дахаты?..

Хуценька-хуценька я палажыў скарыначку на стол, акрыў яе абрусам. Але спакуса з'есці хлеб увесь, каб яго і духу не было ў хаце, каб ім і не пахла нават, была такая вялікая, такая неадольная, што я не выцерпеў — зноў падсеў да стала, узяў скарыначку ў рукі і ўкінуў яе ў рот...

Брат вярнуўся з лесу як заўсёды позна, на змярку. Ён цэлы дзень быў на леспрамгасаўскай дзялянцы, абсякаў сучча, зарабляў грошы, каб было за што нашай сям'і жыць. Дома есці ў нас не было нічога. І спаць брат лёг у той вечар галодны. Ён доўга варочаўся на пасцелі, не засынаў: няйнакш, яму мроіўся той кавалачак хлеба, які пакідала яму маці і які з'еў я...

Ніхто — ні маці, ні Толік — ні ў чым мяне не папракнулі. Ні ў той вечар, ні пасля. Яны былі старэйшыя, я меншы.

Але калі я цяпер успамінаю той хлеб, які належала з'есці брату і які з'еў я, і той вечар, калі брат лёг праз мяне спаць галодны, мне робіцца не па сабе. Здаецца, аддаў бы ўсё, каб толькі не было ў мяне такога ўспаміну, каб як-небудзь пазбыцца, выкінуць яго са сваёй галавы. Лепей бы я быў тады галодны, лепей бы я лёг спаць не еўшы! Хай бы не я, а брат з'еў мой хлеб!..

Ды не! Таго, што было, не вернеш, не пераробіш. І з памяці сваёй, як бы ні хацеў, не выкінеш. Не, не выкінеш!..

## ЛЯ ДАЎНЯГА СЕЛІШЧА



Ясны жнівеньскі дзень. Даўняе, пазарастанае палыном і быльнягом селішча наводзіць на думку... вялікай палескай вёскі...

Ля селішча двое: высокі аднарукі мужчына і яго сын — хлопчык год шасцісямі.

— Тата, чаго ты зноў прыйшоў сюды,— пазіраючы на селішча, пытае

хлопчык.— І летась, калі прыязджалі ў вёску, мы былі тут, і вось цяпер, сёлета...

— Чаго? — перапытвае не то сам у сябе, не то ў сына бацька і, нібыта адумаўшыся, раптам змаўкае.

Дый што ён можа сказаць? Хіба зразумее, уявіць дзіця, што тут, дзе сівее, раскашуецца на волі палын ды быльнёг, некалі стаяла хата. Хата, у якой жыў ён, Мікалай, жыла добрая, мілая Надзя, жонка. І ў хаце той бегаў, звінеў званочкам шустры Косцік, Косцік-хвосцік... Іхні, Мікалаеў і Надзін, сынок... Яны з Надзяй не зводзілі з сына вачэй, любаваліся, як борзда перабірае ножкамі, тупае па чыстых, вымытых да жаўцізны маснічынах маленечкі чалавечак, і ціха смяяліся ад радасці...

Потым... Потым пачалася вайна. Яго, Мікалая, на фронт не ўзялі — пакінулі партызаніць. Немцы аднекуль даведаліся, што ён тут, у лесе. Некалькі дзён пільнавалі яго ў засадзе, спадзеючыся, мабыць, што партызанскі камандзір наведаецца дадому, да жонкі. І, не дачакаўшыся таго, спалілі хату. Яго, Мікалаеву, хату. А ў хаце і тых, каго ён любіў больш за ўсё на свеце...

...Ясны жнівеньскі дзень. Даўняе, пазарастанае палыном і быльнягом селішча наводшыбе вялікай палескай вёскі...

Ля селішча двое: высокі аднарукі мужчына і яго сын — хлопчык год шасці-сямі.

— Тата, а, тат? — пазіраючы на селішча, пытае хлопчык.— Скажы, га, чаго мы зноў прыйшлі сюды?..

Нічога не кажа бацька, маўчыць, сцята маўчыць...

Дый што ён можа сказаць? Хіба зразумее, уявіць дзіця, што і сын у бацькі не першы, і жонка таксама не першая, што ў яго былі ўжо і жонка, і сын...

Былі...

І на вачах у бацькі нагортваюцца, блішчаць слёзы. Ці то ад сонца, якое надта ж шчыруе, аж слепіць, быццам спяшаецца аддаць назапашанае цяпло і святло, ці то ад чагосьці іншага, таго, пра што пытае і ніяк не можа пачуць ад бацькі адказу хлопчык, сын...

Другі сын...

## НЯЎЖО?



Цёмнай жнівеньскай ноччу нёс я яе, лёгкую, трапяткую на руках сваіх. Нёс за вёску, у поле, туды, дзе ў маўклівай адвечнасці і цішыні чарнелі сцірты свежай жытняй саломы. Яна горача дыхала, раз-пораз прыпадала вуснамі да маёй шыі, шаптала:

— Апомніся, што ты робіш?..

І ў голасе яе чуўся страх. Страх і радасць. Нязведаная таямнічасць таго, што павінна было вось-вось здарыцца, палохала і вабіла яе...

Я быў як п'яны, ані не помніў, што раблю. Я спяшаўся, бег, каб быць як мага хутчэй далей ад вёскі, быць там, дзе драмала пераспелае лета, дзе былі сцірты, была свежая духмяная салома, цішыня. І ноч...

Нядаўна я сустрэў яе зноў. Яна ішла, мабыць, з магазіна з дзвюма поўнымі гаспадарчымі сумкамі, мажная, безуважная да ўсяго. І я адвярнуўся, зрабіў выгляд, што не пазнаў яе. Няўжо і праўда гэта была яна, калісьці такая лёгкая, трапяткая? І няўжо я нёс яе на руках сваіх, нёс у поле, за вёску, туды, дзе ў маўклівай адвечнасці і цішыні чарнелі сцірты свежай жытняй саломы? І няўжо была хоць калі ў нас з ёю тая цёмная жнівеньская ноч, якая і цяпер яшчэ пры адным успаміне п'яніць мяне хмелем, прымушае зусім, здаецца, па-маладому горача і тлумна біцца сэрца?.. А мо ўсяго гэтага і не было, мо гэта выдумка, фантазія галавы маёй, сон?..

## НАША РАДАСЦЬ І ШЧАСЦЕ



Усе мы, падрастаючы, хочам як мага хутчэй пакінуць дом, вёску, горад, дзе нарадзіліся і ўзгадаваліся, і вырвацца ў свет. Там, за лясамі, за даламі, нам здаецца ўсё не такое, да чаго мы прывыклі і што нам абрыдла бачыць штодзень,— там жыццё, там наша радасць і шчасце...

І з гадамі мы вяртаемся зноў дадому. Калі не ў сапраўднасці, то ў думках. І адчуваем, бачым — жыццё наша, наша радасць і шчасце былі дома, там, адкуль мы некалі так ірваліся, так хацелі ў свет...

## НА ПАЛЯВАННІ



Я ляжаў са стрэльбаю ў руках за камлём дрэва і не зводзіў вачэй з лісы — прыпаўшы ўсім сваім целам да зямлі, яна стаілася ў лагчынцы і чакала моманту, калі можна будзе знянацку накінуцца на каршуна, схапіць яго ў свае вострыя зубы. Каршун сядзеў на пні і быў таксама нечым заняты... Ён сачыў...

Ага, за кім жа сачыў ён? Прыглядзеўшыся, я убачыў ля пня маленькую нару — з яе час ад часу паказвала і тут жа зноў хавала вострань-кую пыску мышка...

«Як толькі ліса накінецца на каршуна, зоймецца ім, я стрэлю ў яе»,— думаў я.

І тут раптам заўважыў яшчэ адны прагныя вочы — воўчыя: воўк стаяў за аброслым мохам вываратнем і таксама, як і я, пільна сачыў за лісой...

Па спіне ў мяне прабеглі халодныя мурашкі.

Са страхам я азірнуўся — ці не цікуе і за мной хто-небудзь?

## ІДЫЛІЯ



Я н ы сустрэліся напрадвесні, калі ўжо добра прыгравала сонца, раставаў снег і ў прыродзе ўсё ажывала — дрэвы, кусты, трава, розныя казюркі, чарвячкі, мошкі. І адразу, з першай жа сустрэчы, спадабаліся адно аднаму. Мінула некалькі дзён, і я н ы пабраліся.

Жылі я н ы дружна, весела, ніколі не сварыліся. Дый, шчыра кажучы, не было за што сварыцца. Ё н кахаў я е, я н а кахала я г о. А ўсяго астатняга, за што звычайна сварацца людзі, у і х хапала: было што есці, было што піць, было дзе жыць. Што ж яшчэ і м трэба было?..

Прайшоў пэўны час, і ў і х нарадзіліся дзеці. І ё н і я н а не шкадавалі ні сіл, ні часу, разам іх і кармілі, і выхоўвалі. І дзеці выраслі на славу — дужыя, прыгожыя, а галоўнае — вясёлыя, такія ж, як і бацькі. Бацькі навучылі дзяцей усяму, чаму і трэба было навучыць, і аднойчы, калі ўжо зажаўцеў дзе-нідзе на дрэвах ліст, выправілі іх на свой хлеб...

І расталіся бацькі з дзецьмі і дзеці з бацькамі добра, без слёз, нават як бы з радасцю: дзеці не патрабавалі нічога ад сваіх бацькоў, а бацькі таксама не патрабавалі нічога ад сваіх дзяцей. Рабіць тое, што звычайна робяць усе людзі, калі ў іх вырастаюць дзеці, і ўсе дзеці, калі ў іх старэюць бацькі, ні тым, ні другім не трэба было, бо я н ы і не былі людзі, а ўсяго толькі птушкі. Самыя звычайныя дзікія птушкі...

## КОНІКІ

У вушах маіх звіняць конікі. Цэлы вялізны луг конікаў. Яны не пераскокваюць з месца на месца, нікуды не ўцякаюць. А толькі звіняць і звіняць. Звіняць улетку і ўзімку, удзень і ўночы. Звіняць даўно. Так даўно, што іншы раз мне пачынае здавацца, што я і нарадзіўся з гэтым звонам. Але не, не, нарадзіўся я зусім-зусім здаровы. Звон жа гэты ў маіх вушах з таго спякотнага летняга поўдня, калі я ляжаў, хаваўся на лузе і побач са мною вывярнула ямку бомба. Бомба, якую скінуў нямецкі самалёт. Вось з таго поўдня і пасяліліся ў маіх вушах конікі. Цэлы вялізны луг конікаў. Яны не пераскокваюць з месца на месца, нікуды не ўцякаюць. А толькі звіняць і звіняць. Звіняць улетку і ўзімку, удзень і ўночы...



Каб вы толькі ведалі, як надакучыў, як абрыд мне гэты звон!..



**У бліжэйшы час**
**мы надрукуем**
**апавяданні**
**Уладзіміра ХАЧЫРАШВІЛІ**





## Хаім МАЛЬЦІНСКІ

●———— ●●———— ●●●———— ●●●●————
●●●●●———— ●●●●●●———— ●●●●●●●————
●●●●●●●●———— ●●●●●●●●●————



●

А дождж ідзе — і размывае мары.
І табуном імклівым па баках
Бягуць, бягуць нядоеныя хмары —
Каровы з вымем, поўным малака.
О, колькі раз я ў гэтакія дні
Сушыў шынель салдацкі пры агні...

●●

Не цешылі нас
Ані жарты, ні кпіны:
Паблізу хрыпелі
Варожыя міны.
Зацята сціскаліся
Скіўіцы самі,
І ледзь не выскоквала сэрца
Часамі.
Асколкі навокал
Пургою свісталі,
Нагадвалі ўладна,
Што ты не са сталі...
Ды тулячы з лютасцю ўпартай
Вінтоўку,
У ворага цэлішся
Зноўку і зноўку.
І верыш,
Што цёмную смерць
Пераможаш,



Бо жыць без народу ніколі
Не зможаш.



Бывае цяжка часам — у душы
Адчуеш непазбыўную трывогу.
Шукаеш вобмацкам
з лясной глушы
Сцяжынку, што выводзіць на дарогу.
Ступаеш — то налева, то направа,
Хмызняк калючы абдзірае твар.
З усіх бакоў навокала гушчар,
Як пастка, як няўмольная аправа...
І толькі ўранку,
Стрэнуўшы зару,
Знядужаны,
Выходзіш з гушчару.



Гляджу я, шпацыруючы па лесе,
На месяц, што лунае ў паднябессі.
Ах, што з табою, яснатвары, будзе?
Ужо ў тваіх каменнях пыльных людзі
Капаюцца, як цёмныя краты...
Ці па нутру табе такія госці?
Баюся я: не страціў толькі б ты
Прывабнасці сваёй і прыгажосці!



Часамі агортвае
Смутак лагодны,
Згадаю маленства і Віцебск мой
родны —
І зернем нальецца ізноў адмыслова
Калоссе майго палінялага слова,
Што траціць вагу залатога запасу
Пад цэпам штодзённым
Няўмольнага часу.



Я неяк слова добрае па чэсці
Сказаў табе — і ты рашыў, што я
Цяпер яго заўжды павінен несці,
Табе выконваць ролю салаўя,
Гукаць штодзённа:
— Слава і хвала!..

Як часам блізка ад дабра да зла.



Цябе, непрыступная,
Не раскусілі,

Ты, цвёрды арэшак,
І мне не па сіле...
І думаю ўпотай
Я ў роспачы горкай:
Ах, стаць бы на міг мне
Зубастай вавёркай!..

●●●●●●●●

Ты, матылёк мой,
Модніца мая,
Цяпер, калі ад сонейка ўдвая
Заззяла ўсімі фарбамі зямля
І з лісцем ветрык шэпча спакваля, —
Давай лунаць на пару ў вышыні...
Чаго маўчыш?
Гукай мне:
— Дагані!..

З яўрэйскай.
Пераклад Петруся МАКАЛЯ.

●●●●●●●●●

Благаслаўляю маўчанне.
Прашу прабачэння ў мовы,
Бо веру —
часіна настане
І мы вас паклічам, словы.

Хай вочы ніколі не плачуць
І добрую робяць паслугу,
Каб лепей маглі мы ўбачыць
Прывабнасць маўклівую ў другу.

Усмешка твая і свежасць —
Ад іх не знайсці ратунку.
Тут слову нішто не належыць,
Належыць усё пацалунку.

У сэрцы сваім глыбока
Хаваю, як скарб, жаданне
Сказаць табе неяк на золку:
— Жыццё маё,
добрага рання!

З яўрэйскай.
Пераклад Артура ВОЛЬСКАГА.



● Павел КАБЗАРЭЎСКІ
● Пятро ЮРЭВІЧ

● Мал. К. ЦІХАНОВІЧА

# АРТЫЛЕРЫІ ПАДПАРУЧНІК АМЯЛЬЯН

## ГІСТАРЫЧНАЯ БЫЛЬ

Міністр імператарскага двара і ўдзелаў генерал-ад'ютант Пётр Міхайлавіч Валконскі лёгкай хадою прайшоў доўгую анфіладу раскошных залаў Зімняга палаца і спыніўся перад царскім кабінетам. Вышкалены камер-лакей з вышытымі арламі на ліўрэі ціхутка расчыніў абедзве палавіны разбярных дзвярэй. Міністр пачціва схіліў галаву.

Мікалай I са строгім і пагардлівым тварам, у вайсковым сурдуце, стаяў за пісьмовым сталом. Ён ледзь прыкметна кіўнуў галавою, пільна цікуючы, як міністр ішоў да стала, але глядзеў міністру не ў твар, а недзе на гузік на яго сурдуце. Цар не зносіў, калі хто-небудзь, дакладваючы, парушаў належны рытуал.

Пачуўшы, як мякка шчоўкнулі шпоры, ён апусціўся ў крэсла і, не мяняючы паставы, падняў на Валконскага свае вадзяністыя вочы.

— Я слухаю, князь.

— Ваша імператарская Вялікасць! Удава Санкт-Пецярбургскага калежскага саветніка Марыя Токарава ўчыніла грашовы іск наконт манумента вашага прашчура імператара Пятра Вялікага, што на Сенацкай плошчы. Сума восем тысяч семсот семдзесят дзевяць рублёў і дваццаць сем капеек.

У цара паднялося брыво.

— Які іск? І чаму наконт манумента? І што значыць гэтыя дваццаць сем капеек?

— Ваша вялікасць! Памянёная Марыя Токарава, дачка надворнага саветніка Ушакова, што быў жанаты на дачцы падпаручніка артылерыі Амяльяна Хайлова, таго самага Хайлова, што адліў манумент Пятра Вялікага і за гэта з простых мужыкоў бабкай вашай Кацярынай II быў узведзены ў афіцэрскае званне, памянёная Марыя Токарава лічыць, што яе дзеду, які меў кантракт, зацверджаны прэзідэнтам Акадэміі мастацтваў, тайным саветнікам Іванам Бяцкім, названая сума, што ўключае і гэтыя дваццаць сем капеек, падманным шляхам не выдана. Марыя Токарава, лічачы сябе прамою і адзінаю спадчынніцаю падпаручніка Амяльяна Хайлова, патрабуе: або выплаціць азначаную ў іску суму, або яна возьме ў непадзельнае валоданне той

манумент, названы «Медным коннікам», каб прадаць яго з таргоў і вярнуць учыненую дзеду яе страту.

— Скажыце гэтай дзёрзкай бабе, што ў імперыі нашай узяць што-небудзь можна толькі з найвышэйшага дазволу.

— Так, Ваша Вялікасць. Гэта ўжо сказана.

— І што ж?

— Марыя Токарава страшыць граззбою, што перадасць іск да ведама публічнасці і Сенацкага судовага разбору. Вядома, гэта усё можна спыніць, аднак лічу сваім абавязкам выказаць Вашай Высокасці перасцярогу, што пойдуць канфузныя чуткі, якія зганьбяць імя Пятра Вялікага і дзяржаўных дзеячаў мінулага, нашчадкі якіх будуць абражаны.

— І што вы раіце, князь?

— Асмелюся прапанаваць, Ваша міласць, каб вы загадалі навесці даведку: ці павінны былі плаціць таму падпаручніку Амяльяну грошы, за што, колькі і чаму яны не заплочаны? А потым ужо рашаць, як памяркуе Ваша Высокасць.

—Добра, няхай падрыхтуюць даведку.

Цар уважліва глядзеў, як міністр, адступаючы і кланяючыся, дайшоў да дзвярэй, і яны, адчыненыя нечай рукою, выпусцілі яго з кабінета.

У той жа дзень гофкур'ер прынёс у Гофінтэндацкую кантору пакет з афіцыйным запросам міністра Двара:

*«Паводле Найвышэйшага загаду Гасудара Імператара перасылаю да Вашага Высокаправасхадзіцельства на разгляд найпакорлівейшае прашэнне ўдавы 6 класа Токаравай, каб выдалі ёй тую суму, што належала дзеду яе падпаручніку Хайлову за тое, што ён адліў ўстаноўлены на Ісаакіеўскім пляцы манумент Гасудару-Імператару Пятру I і іншых, для перавозу Гром-каменя, прылад. Прашу Вас, як будуць сабраны належныя звесткі, вярнуць гэтае прашэнне са сваім тлумачэннем, чаму Хайлоў не задаволены. І ці была заключана з ім якая-небудзь умова на гэтую работу, і ці не было загаду заплаціць яму грошы за яе?*

*Міністр Імператарскага Двара князь Пётр Валконскі красавіка 2 дня 1842 года Санкт-Пецярбург».*

На асобным лістку князь пісаў:

*«Глыбокашаноўны Фёдар Пятровіч! Прыватным чынам спадзяюся быць азнаёмлены з падрабязнасцямі пабудовы манумента і шэрагам тых пытанняў, пра якія я павінен ведаць, каб адказаць Я. І. В. на ўсё, што ён пажадае спытаць.*

*Чакаю паведамлення пра сустрэчу. Ваш П. В.»*

Праз некалькі дзён пасля гэтага Прэзідэнт Гофінтэндацкай канторы Фёдар Пятровіч Апачынін сядзеў у асабняку Валконскага, расказваючы гаспадару пра эпізоды будаўніцтва манумента, якія даўно забыліся, але якія знайшоў акуратны канцылярыст у запыленых архіўных папках.

— Дык вось, Петр Міхайлавіч! Галоўны наглядчык за будаўніцтвам Іван Бяцкой сваю дзейнасць пачаў 25 лютага 1768 года запіскай у кантору будавання дамоў і садоў. Вось яна: «Яе Імператарская Вялікасць вусна загадала ў гонар добрай памяці Гасудара Імператара Пятра Вялікага манумент паставіць на пляцы паміж Нявы-ракі, Адміралцейства і дома, у якім урадавую службу мае Правіцельствуючы Сенат, дзеля чаго і цэнтр месца перстам на плане мела ласку пазначыць. Дзеля выканання гэтага, на тым месцы, як пану асэсару шэвалье Дэласкар ад мяне загадана, фундамент-гару або п'едэстал дзеля гэтага падрыхтаваць і іншыя прылады, каб ні ў чым адтэрміноўкі не было. Іван бяцкой».— Звярніце ўвагу, тут, апрача ўсяго іншага цікавасць мае нават сам подпіс. Як вядома, Бяцкой — пабочны сын генерал-фельдмаршала Івана Трубяцкога і шведскай баранесы Врэдэ, якая нарадзілася ад марганатычнага шлюбу ў Стакгольме, не мог атрымаць у спадчыну ад бацькі ні тытулу, ні нават прозвішча. Ён узяў толькі яго канчатак «бяцкой» і таму знарок падпісваўся не з вялікай, а з малой літары, гэтак напамінаючы пра сваё знакамітае паходжанне.





Што датычыць самой справы, то, як бачыце, клопаты пра фундамент-гару даручаны начальніку будаўнічага батальёна і асабістаму сакратару Бяцкога шэвалье Дэласкару. З ім, падарожнічаючы ў 1766 годзе па Францыі, Бяцкой пазнаёміўся ў невялікім гарнізоне, дзе Дэласкар быў кавалерыйскім афіцэрам.

Кемлівы, разбітны француз неўзабаве аб'явіў, што шукае вялікі камень і кожнаму, хто пакажа, дзе ён ляжыць, заплоціць узнагароду. Сяляне з вёскі Лахці Сямён Вішнякоў і Антон Анікееў знайшлі такі камень і атрымалі па 300 рублёў узнагароды. Гэта і быў «Гром-камень». Некалі ў яго стрэліў пярун і расшчапіў, але камень вядомы быў яшчэ тым, што даўней на ім любіў сядзець, пазіраючы на Фінскі заліў, Пётр Вялікі. Лёс склаўся так, што, паслужыўшы падножжам вялікаму чалавеку пры жыцці, камень пасля стаў п'едэсталам для яго помніка.

Але як прывезці камень у сталіцу? Ніхто да гэтага ў Расіі, ды не толькі ў ёй, і ў іншых краінах, не перавозіў такія камені. Нават каменныя глыбы, з якіх будавалі старажытныя піраміды, нельга параўнаць з «Гром-каменем», які важыць каля 150 тысяч пудоў. Не знайшоўшы іншага выйсця, Дэласкар хацеў цягнуць камень поцягам па брусах, падкладаючы пад яго жалезныя валы. На беразе заліва камень трэба было ўзваліць на затопленую напалавіну баржу, якая пасля таго, як з яе выпампуюць ваду, магла трымаць на вадзе гэты цяжар. Далей, буксіруючы баржу вёславымі лодкамі па заліве,

Малой і Вялікай Неўках, а потым па Няве, і каля Зімняга палаца, прытапіўшы баржу да дна, узваліць камень на бераг.

Але ўсё было інакш. Начальнік Санкт-Пецярбургскага арсенала генерал-маёр Апрэлеў сказаў Дэласкару, што арсенальскі гарматны ліцейшчык Амяльян Хайлоў ведае, як даставіць камень іншым спосабам і ўсё належнае дзеля гэтага сам зробіць.

А што ж меўся зрабіць арсенальскі ліцейшчык? Ён прыдумаў «ядравую дарогу». У медныя жалабы-рэйкі накласці гарматных ядраў і накрыць іх зверху гэтакімі ж жалабамі-рэйкамі, зрабіць памост, а на яго ўзваліць камень. Верхнія рэйкі разам з памостам і каменем лёгка пакоцяцца па гарматных ядрах. Пасля таго, як памост разам з каменем праедзе колькі, свабодныя жалабы і ядры пераносіць наперад, каб надбаўляць дарогу. Усяго прайсці «Гром-каменю» поцягам трэба было: у Лахці 4173 сажні і 75 у сталіцы.

20 студзеня 1770 года ў Лахці завітала са світай імператрыца Кацярына, каб на свае вочы ўбачыць гэтае дзіва.

Тлумачыў усё Бяцкой.

Па яго сігнале людзі пачалі круціць калаўроты, і напятыя, як струны, канаты плаўна пацягнулі па «ядравай дарозе» памост з Гром-каменем.

Уражаная, імператрыца спыталася: «А хто інвентаваў гэтую махіну?»— «Дэласкар, Ваша Вялікасць»,— адказаў Бяцкой.—«Прэзентуйце яму... сем тысяч рублёў і вось гэта,— здымаючы з пальца дарагі пярсцёнак, сказала Кацярына.— Хітрасць гэтага іншаземца — сведчанне вялікага розуму, якім можа ганарыцца Еўропа. Праславім яго, загадаўшы манетчыкам выбіць медаль з дэвізам: «Адвазе падобна».

Такім чынам, дарагі Пётр Міхайлавіч, «ядравая дарога», інвентаваная арсенальскім гарматчыкам, была прыпісана шэвалье Дэласкару, а ўвенчаная прызам і медалем, назаўсёды злілася з яго імем. Праўда ж схавана вось тут,— дастаючы з папкі ліст шчытнай паперы, гаварыў Апачынін:



*«Па даведцы пры падліковай экспедыцыі мінулага 1770 года... па кнігах значыцца... што ад вышэйпамянёнага майстра Хайлова прынята вылітых з казённай медзі шароў пяцьдзясят адзін, вагою дзевяноста пяць пудоў адзін фунт, жалабоў дзевяноста два, вагою тысяча трыста дваццаць дзевяць пудоў дваццаць адзін фунт. Гаек вялікіх для трубаў, гаек трохвугольных і гаек для дамкратаў і іншае — усяго разам вагою тысяча пяцьсот трыццаць два пуды дваццаць тры фунты. У грашовых выдатках выдана яму, Хайлову, за тое, што выліў для вялікага каменя тысяча пяцьсот трыццаць двух пудоў дваццаці трох фунтаў казённай медзі жалабоў, шароў і іншых штук, тысячу рублёў. Звыш таго па тых кнігах больш нічога не значыцца.*

*Канцылярыст Сцяпан Іваноўскай».*

Валконскі жэстам перапыніў Апачыніна і пасля кароткага маўчання, расцягваючы словы, загаварыў сам:

— Вось што, Фёдар Пятровіч, копія даведкі падліковай экспедыцыі, якую вы мне зараз прачыталі, мне здаецца дакументам даволі значным. Яна сведчыць, што прэзент і медаль за «ядравую дарогу» ўручаны Дэласкару несправядліва, што сапраўдны інвентатар, які рабіў дарогу, заставаўся невядомы і пакрыўджаны, і ўсё ж не тлумачыць, як набраўся доўг Амяльяну Хайлову і ці справядлівая скарга яго ўнучкі, каб ёй аплацілі такую вялікую суму. І, акрамя таго, ці не скажаце вы, як арсенальскаму ліцейшчыку, чалавеку простага звання, быў наданы чын падпаручніка артылерыі.

— Будзьце ласкавы, Петр Міхайлавіч, паслухаць. Вы, напэўна, заўважылі, што ў канцы даведкі падліковай экспедыцыі напісана: «Яму, Хайлову, за тое, што адліў для вялікага каменя... выдадзена тысяча рублёў, а болей па тых кнігах нічога не значыцца». Выходзіць, трэба знайсці, якую суму належала выплаціць арсенальцу і колькі яму не дадалі?

Вы, напэўна, ведаеце, што праз год пасля таго, як быў перавезены камень, у Санкт-Пецярбург прыехаў выпісаны з Парыжа бронзаліцейшчык Эрсман, якога пагадзіў Фальканэ адліць манумент за сто сорак тысяч ліўраў. Але неўзабаве высветлілася, што такая работа не па ім. Скульптар, каб дасягнуць раўнавагі коннай статуі, патрабаваў самай нязначнай таўшчыні бронзавых сценак, а ліцейшчыкі не браліся за такую работу, бо ў выпадку чаго брак ішоў за іх кошт.

Эрсман скасаваў кантракт і, перадаўшы сваю справу нейкаму Мур'елю, вярнуўся ў Парыж. Але і гэтаму бронзаліцейшчыку не пашанцавала — халера, што хадзіла ў гэты час па сталіцы, скасіла яго. Вось тады Фальканэ і звярнуўся да Амяльяна Хайлова, які здзівіў яго сваім майстэрствам, вынайшаўшы ядравую дарогу. Але Хайлоў, зняважаны тым, што яго вынаходства прыпісана Дэласкару і што не ўсе грошы яму за работу выплачаны, наадрэз адмовіўся. У скарзе, якую ён падаў у Кантору будавання дамоў і садоў, значыцца:

*«Вылітыя мною ў 1770 годзе для манумента валы, гайкі і іншае, на што была ў мяне дамоўленасць з майстрам Мур'елем коштам за кожны пуд пяць рублёў, але грошы гэтыя за аб'яўленую работу, якія я патрабаваў ад пана падпалкоўніка Дэласкара, мне не выданы, бо іх не было ў казне, і да сённяшняга я іх не атрымаў.*

*Амяльян Хайлоў».*



Разэлаваны Бяцкой прыстрашыў гарматчыка суровай карай, а ўпарты арсеналец стаяў на сваім. Бяцкой адступіўся і паабяцаў заплаціць яму за работу пасля таго, як будзе адліты манумент. Хайлоў, якога, дарэчы, прымусіў гэта зрабіць начальнік арсенала, згадзіўся.

Не трацячы дарэмна часу, вопытны ліцейшчык заключыў з падрадчыкамі кантракты, каб пастаўлялі вугаль, гліну, пясок, дровы і іншыя матэрыялы, і, наняўшы сабе чатырох чаляднікаў, пад наглядам Фальканэ ўзяўся рыхтаваць адліўку манумента.

Вялізная гліняная глыба з замураванай у ёй і пакрытай воскам гіпсавай фігурай каня і конніка стаяла ў ліцейнай каля свірна, у якім працаваў скульптар.

Ад катлоў, у якіх кіпела бронза, да ямы цягнулася нагрэтая да чырвані распаленымі на ёй вогнішчамі ганчарная труба — па ёй вось-вось у гліняную глыбу пальецца расплаўлены метал і, растапіўшы воск, зойме яго месца. Амяльян, які ведаў сакрэт свайго майстэрства, вызначыў, ці гатовы расплаў, і, падаўшы знак, прабіў шпуравую дзірку, выпусціўшы метал. Ён не ведаў, што адзін з чаляднікаў, напіўшыся, ноччу не падкладваў дроў у агонь і сярэдняе звяно ганчарнай трубы засталося не напаленае. Як толькі растоплены метал дабег да ненапаленага месца, труба лопнула і бронза палілася на памост, на вугалле, на дровы.

Людзі, што збегліся паглядзець на нябачны цуд, з енкам і крыкам кінуліся хто куды. Сталі ўцякаць і тыя, хто працаваў тут.

Фальканэ, убачыўшы, што гіне яго праца, а разам з ёю рэпутацыя і спадзяванне на вялікую ўзнагароду, з адчаю кінуўся ў свіран, каб накласці на сябе рукі. З плачам за ім пабегла яго жонка і памочніца Мары-Анн-Кало...

Не разгубіўся толькі Амяльян Хайлоў.

Смелы і дужы чалавек, які ўжо звыкся быць каля распаленага металу, ён скінуў з сябе суконную світку, памачыў яе ў бочцы з вадою і абкруціў трубу. Потым гэтае месца абмазалі мокрай глінай і навілі яшчэ пяньковы канат. Бронза пацякла ў форму. Калі Фальканэ вярнуўся да ліцейнае ямы, абгарэлага Амяльяна Хайлова тут ужо не было — яго павезлі ў Пятроўскі шпіталь.

Праз дваццаць дзён, разбіраючы ўжо астылую форму, усе ўбачылі, што манумент адліўся добра, акрамя галавы каня і тулава конніка. Гэта можна было лёгка выправіць дадатковай адліўкай і дакладнай чаканкай.

Фальканэ акрыяў. Захапіўшыся работаю, ён забыўся пра адважнага бронзаліцейшчыка, які выратаваў яго тварэнне.

Мінула паўтара года, Хайлоў выпісаўся са шпіталя і прыйшоў у ліцейную арсенала. Генерал Апрэлеў толькі паківаў галавою, глянуўшы на абпаленыя рукі і грудзі ў свайго лепшага майстра. На іх чырванелі шрамы і рубцы — сляды страшэнных пакут.

— Гэтак ты, Амяльян, абпаліўся. Дзіва, што жывы яшчэ астаўся. Але ўсё ўжо мінулася. Чакай вялікую ўзнагароду. Подзвіг твой усе бачылі.

Пэўна, тады і паскардзіўся Хайлоў генералу, што яму за работу не заплацілі грошай. Бо яшчэ ў шпіталі да яго прыходзілі падрадчыкі і рабочыя і патрабавалі, каб заплаціў ім за прыпасы, якія яны выдаткавалі на помнік.

— Я спадзяюся, Пётр Міхайлавіч, што вам не шкодзіць пазнаёміцца са скаргаю Амяльяна Хайлова, якую ён паслаў у Кантору будавання яе Імператарскай Вялікасці дамоў і садоў.

*«Санкт-Пецярбургскага арсенала гарматных спраў*

*ад майстра Амяльяна Хайлова. Кастрычніка 9 дня 1777 года.*

*У мінулым 1770 годзе, каб прывезці да агледжанага месца пад манумент добрай і вечнай хвалы, вартыя памяці Гасудара-Імператара Пятра Вялікага, Вялікі камень, названы «Громам», вылітыя мною з казённай медзі жалабы, шары і іншыя штукі, што належаць дзеля гэтага. Усяго вагою тысячы чатырохсот васьмідзесяці трох пудоў з дадаткам*





*дзеля гэтай работы свайго ўласнага матэрыялу, а менавіта: вугалю, дроў і іншых, неабходных для ліцця прыпасаў, а таксама работных вольных людзей наймаў вельмі дарагой цаною...*

*За гэта і спадзяваўся... бяскрыўдную плату мець, бо пра яе таксама яго Высокаправасхадзіцельства пан сапраўдны тайны саветнік і кавалер Іван Іванавіч Бяцкой меў ласку абнадзейваць.*

*...У тым 770-м годзе ад былога пры тым мануменце камандзіра пана падпалкоўніка Дэласкара выдана мне да сапраўднага наперад са мною разліку толькі тысяча рублёў, якую атрымаўшы, з некаторымі маімі крэдыторамі, за тое, што браў у іх дзеля выплаўкі матэрыялы, хоць і разлічыўся, аднак зусім недастаткова... але я... спадзяваўся, што тая плата, што належыць мне, у казне прапасці не можа.*

*А між іншым той Дэласкар у 1773-м годзе выехаў у чужы край, а часу мінула шмат, то крэдыторы мае неадступна прасілі, каб заплаціў ім доўг, ды і цяпер бесперастанку пра гэта просяць...*

*Да гэтага данашэння Санкт-Пецярбургскага арсенала гарматных спраў майстар Амяльян Хайлоў руку прыклаў».*

Бяцкой, якому кантора будавання дамоў і садоў паказала скаргу Хайлова, адказаў: «Грошы яму выдаваць не варта. Асоба Гасудара і конская фігура адліліся з заганай. А ліццё яго! Ён ці не ён вінаваты ў гэтым, невядома, аднак разлік выкананы будзе толькі тады, калі ён скончыць агатняе ліццё».

Дачуўшыся пра адказ Бяцкога, падрадчыкі падалі ў суд на неплацежаздольнага даўжніка. Пасля першага допыту Хайлова арыштавалі і пасадзілі ў турму. Адсюль яго вадзілі пад вартай на работу ў ліцейную, спаганяючы ўвесь заробак у карысць крэдытораў.

І, напэўна, доўга сядзеў бы ў турме гарматчык, каб не камісар будаўніцтва манумента асэсар Ушакоў. Аднойчы ён убачыў у майстэрні Фальканэ вельмі прыгожую дзяўчыну, якая рыхтавала для скульптара гіпс. Гэта была дачка Амяльяна Хайлова, Тацяна. Праз некаторы час Ушакоў стаў яе мужам.

Разбітны чалавек, спрактыкаваны ў канцылярскіх справах і складанні дзелавых папер, ён напісаў падрабязнае пісьмо, пералічыўшы ўсе заслугі цесця і як несправядліва да яго аднесліся, і перадаў гэтае пісьмо генералу Пятру Іванавічу Мелісіна.

Герой Куніерсдорфа, Ларгі і Кагула Пётр Іванавіч ростам і паставай быў падобны да Пятра Вялікага, і нездарма скульптар выбраў яго натуршчыкам. Мелісіна звярнуўся да свайго сябра генерал-фельдцэйхмейстра Івана Мелер-Закамельскага. Гэты чалавек, як самы непасрэдны ўдзельнік звяржэння з прастола Пятра III, карыстаўся асаблівай павагай у Кацярыны. Ён з грубаватай салдацкай прастатою расказаў ёй аб непрыстойных учынках Бяцкога і пра тое, што адважнага гарматчыка, які выратаваў манумент, пасадзілі ў турму і збіраюцца там згнаіць. Толькі тады Кацярыне і стала вядома, хто стварыў «ядравую дарогу».

Думаючы пра арэол разумнай і справядлівай манархіні, яна не ўпусціла выпадак, каб падкрэсліць гэтыя якасці свайго характару, клапоцячыся пра тое, каб усё належным чынам абяцана і ўслаўлена было. Але дбала, і каб дабрадзейнасць яе да простага гарматчыка не раніла самалюбства вяльможы Бяцкога. Трэба было тонка і хітра заглушыць крыўду, якую ўчынілі Хайлову, і не выставіць Бяцкога лгуном і ашуканцам.

Вызваленага з турмы Амяльяна прывезлі ў палац. Тут акружаная прыдворнымі і гасцямі імператрыца, выйшаўшы з пакояў, накіравалася да гарматчыка, які адзінока стаяў пасярод залы. Крануўшы яго за плячо, яна загаварыла: «За добрую стараннасць, якую ты паказаў, выконваючы жаданне наша, за прыналежнасць да стварэння вобраза Пятра Вялікага — продка нашага, узнагароджваю цябе, Амяльян, медалем «Адвазе падобна» і медалем «За стараннасць». Каб разлічыўся ты з крэдыторамі сваімі і дастатак меў, даю табе дзве з паловаю тысячы рублёў срэбрам. За подзвіг твой, які ты здзейсніў пры адліўцы статуі, заслужыў ты, каб нічыя рука цябе не чапала з пакараннем і каб на старасць і калі нядужы будзеш не застаўся ты без пенсіёну, надаю табе, Амяльяну, званне артылерыі падпаручніка, залічваючы ўсю арсенальную службу. Хай будзе так!»

25 лістапада 1777 года пачалі адліваць верхнюю частку помніка. Рабіў адліўку, як і некалі, Амяльян Хайлоў, цяпер ужо не просты ліцейшчык, а падпаручнік артылерыі. Маючы 65 год, ён пайшоў у адстаўку і толькі тады ўпершыню надзеў артылерыйскі мундзір, упрыгожаны двума медалямі. І пецярбуржцы, ідучы каля знаёмага манумента, не раз бачылі, як воддаль яго, на лаўцы, успёршыся рукамі на палку, сядзеў сівы дзядок у вайсковым мундзіры, гледзячы на Меднага конніка.

Аднаго дня 1796 года дзядок не прыйшоў...

●

Счакаўшы месяц пасля тае гутаркі, што была ў доме Валконскага, Пётр Міхайлавіч з папкаю ў руцэ зноў выйшаў з кабінета ад Мікалая І. У папцы ён нёс іскавае прашэнне Марыі Токаравай, на якім рукою самадзержца было напісана:

*«Адмовіць. Амяльян і так быў задаволены звыш меры.*
*Н».*

*Пераклад з рускай мовы.*

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Мікола АДЗІНЕЦ
- Алег СЛУКА
- Міхась РЫЛКО
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Людвіг АСЕЦКІ
- Васіль СУХАМЛІНСКІ
- Ніна ШАПАВАЛАВА
- Ганна ВАЛАШЭНКА
- Рэм ВАДЭЙКА
- Мікалай ВАРАКСА
- Сяргей ГРАХОЎСКІ
- Дзмітры ГАЛЬМАКОЎ
- Уладзімір ЮРЭВІЧ
- Алесь КОРШУНАЎ
- Віктар МАРТЫНАЎ
- Арнольд МІХНЕВІЧ
- Васіль СВЯТЛОЎ
- Аляксей СУЭЦІН
- Макс ШАВЕЛЬ
- Гігла ПІРЦХАЛАВА





# XVI КАМСАМОЛЬСКІ ФОРУМ

У канцы мая ў Маскву сабраліся пасланцы ленінскага камсамола нашай Радзімы на свой чарговы XVI з'езд. Форум камсамола прайшоў як вялікая падзея грамадска-палітычнага жыцця краіны. Лепшыя прадстаўнікі ВЛКСМ запэўнілі партыю, што савецкая моладзь з яшчэ большай упартасцю і настойлівасцю будзе ўдзельнічаць у камуністычным будаўніцтве, у выкананні запаветаў вялікага Леніна.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ў сваім прывітанні з'езду вызначыў, што «важнейшая задача камсамола — пастаянна павышаць дысцыпліну і арганізаванасць у сваіх радах, ініцыятыву і баявітасць кожнага камсамольскага калектыву, яшчэ больш узмацніць камуністычны ўплыў на ўсю моладзь, вучыць яе па-ленінску жыць, працаваць і змагацца. Авалодваць ленінскім стылем работы, заўсёды даводзіць пачатую справу да канца, выхоўваць пачуццё высокай адказнасці ў кожнага члена ВЛКСМ за справы Саюза моладзі».



● Мікола АДЗІНЕЦ

# ЗАРА ЮНАЦТВА НАШАГА

## ЗАПІСКІ ПЕРШАГА КАМСАМОЛЬЦА

Вясна 1919 года. Мне шаснаццаць гадоў. Я закончыў Рудабельскую двухкласную народную школу і ўладкаваўся на работу ў валасны харчовы аддзел. Мы збіралі хлеб і адпраўлялі ў горад для рабочых і Чырвонай Арміі. Час быў вельмі трывожны. У навакольных лясах арудавалі варожыя банды. Не раз яны рабілі напады і на валасны рэўком у вёсцы Карпілаўка. Нам, тады яшчэ юнакам, даводзілася брацца у рукі вінтоўкі і станавіцца на ахову народнай Савецкай улады ад бандытаў і кулакоў.

Той вясною ў мяне наспела думка стварыць у Карпілаўцы камсамольскую ячэйку, але ажыццявіць яе не ўдалося — увосень пачалася белапольская інтэрвенцыя, і мы сталі партызанскімі разведчыкамі, правадыікамі Чырвонай Арміі.



Сакавіцкім днём 1923 года інструктары Бабруйскага павятова-гарадскога камітэта КСМБ пасля працы зайшлі да фатографа, каб засведчыць на здымку сваю дружбу. Сядзяць: Мікола Чугайла, Яфім Пінскі, Віктар Воінаў, Айзенштат. Стаяць: Мікола Адзінец і Пятро Пячонка.

У сваю вёску я вярнуўся пасля таго, як ад Беразіны прагналі акупантаў. На 20 жніўня 1920 года быў прызначаны сход моладзі. У маленькую хату вартаўніка рэўкома Адзінца сабраліся карпілаўскія і рудабельскія хлопцы, прыйшлі таксама актывісты з Рудні, Ляскоў, Старой Дубровы і іншых навакольных вёсак. На вуліцы сабралася шмат вяскоўцаў — дарослыя і старыя таксама зацікавіліся нашым сходам.

А сход мы падрыхтавалі самым сур'ёзным чынам. Прынеслі ад суседзяў лаўкі, знайшлі чырвоны паркаль, заслалі ім стол для прэзідыума. Я выступіў з невялікім дакладам пра задачы Саюза моладзі. Памятаю, што рыхтаваўся да яго па брашуры «Пад чырвоны сцяг Саюза». Пасля кароткіх прамоў аб'явілі запіс. Запісалася 18 чалавек. Сваю арганізацыю мы назвалі «Рудабельскі валасны саюз камуністычнай моладзі Беларусі». Старшынёй выбралі Івана Падуту, а сакратаром мяне.

На тым жа сходзе было вырашана адкрыць у Карпілаўцы клуб-чытальню. Для гэтага вырашылі выкарыстаць будынак колішняй манапалькі. Домік гэты быў на два пакоі. Мы вычысцілі падлогу, памылі вокны, прынеслі з рэўкома брашуры, плакаты, газеты, павесілі лямпу, а над уваходам — шыльду з назвай нашага саюза моладзі.

У той жа час, увосень 1920 года, узніклі камсамольскія ячэйкі і ў іншых валасцях Бабруйскага павета. У вёсцы Гарбацэвічы, што непадалёк ад Бабруйска, яе арганізатарамі сталі Андрэй Бародзіч і сын вартаўніка валрэўкома пастушок Іван Галодка, які цяпер працуе дацэнтам Стаўрапольскага сельскагаспадарчага інстытута. У вёсцы Бацэвічы камсамольскую ячэйку ўзначаліў сын бедняка Іван Белакурскі.

Адразу ж пасля сходу мы парашылі наладзіць сувязь з павятовым камітэтам камсамола, бо лічылі, што такі камітэт, мусіць, ужо ёсць. І не памыліліся. У Бабруйску ўжо даўно існаваў павятова-гарадскі камітэт Камуністычнага Саюза Моладзі. Ён размяшчаўся ў доме па Пушкінскай вуліцы.

Нас там сустрэлі ветліва. Камітэтчыкі вельмі здзівіліся, што недзе там, у далёкай палескай вёсцы, нарадзілася камсамольская ячэйка. Нам парэкамендавалі назваць сваю арганізацыю «Рудабельскай валаснoй ячэйкай КСМБ». Выдалі нам анкеты, растлумачылі парадак прыёму ў камсамол і паабяцалі прысылаць патрэбны матэрыял па пытаннях палітыка-асветнай работы.

У сем'ях жа камсамольцаў разгарэліся самыя гарачыя спрэчкі. Бацькі некаторых юнакоў заявілі, што яны не хочуць, каб у іх доме быў бязбожнік, каб над ім вісела пагроза нападу бандытаў, якія зноў паўзнімалі галовы. Абстаноўка ўскладнялася. З польскага фронту ішлі трывожныя весткі. Чырвоная Армія цярпела няўдачы і вымушана была адступіць з-пад Варшавы. Усё гэта, вядома, не магло не адбіцца і на справах нашай ячэйкі. Неяк на сходзе была скасавана пасада старшыні. Сакратаром ячэйкі пакінулі мяне. З 18 юнакоў, якія запісаліся раней, анкеты згадзіліся запоўніць толькі сямёра.

Мы ўсе гэта балюча перажылі, але не расчараваліся ў сваіх імкненнях. Сямёрка наша рашыла смела несці сцяг камсамола па нязведаным яшчэ шляху наперад.

Хто былі гэтыя першыя юнакі, што, не баючыся небяспекі, крочылі наперад? Карпілаўскія хлопцы Сцяпан Губскі, Віктар Пальцаў, Іван Падута, Уладзімір Хвасько. З Ляскоў было двое: Майсей Афанасенка і Павел Званковіч. Першых пяцярых у студзені 1920 акупанты ўзялі як заложнікаў, і яны толькі цудам ратаваліся ад смерці.

У пачатку 1921 года з Парэчча ў ячэйку ўступілі Сцяпан Пуцята, Мікола Чугайла, Іван Касцюковіч і Сяргей Адзінец. З Рудабелкі ў камсамол уступілі маладыя рабочыя Адам Шалапёнак, Валяр'ян Палуян, Алесь Гарон, Пятро Будзевіч і Рыгор Лось. З вёскі Ломавічы далучыўся Ахраменка (нажаль, не памятаю яго імя). Нас ужо было каля семнаццаці. Усе хлопцы. Дзяўчат у ячэйцы яшчэ не было.

Усіх камсамольцаў залічылі ў атрад ЧОНа (часці асобага прызначэння па барацьбе з контррэвалюцыяй). Байцам-чонаўцам выдалі зброю — пісталет, вінтоўку і па дзве-тры гранаты. Пісталет заўсёды ў кожнага быў пры сабе, а вінтоўка і гранаты захоўваліся ў валасным рэўкоме.

Намі кіравалі праслаўленыя героі грамадзянскай вайны, якія вярнуліся дадому па стане здароўя: валасныя ваенкомы Драпеза і Каласоўскі, сакратар партыйнай ячэйкі Карп Жулега і старшыня валаснога рэўкома Нічыпар Званковіч.

Чонаўцы змагаліся з бандамі Булак-Балаховіча, Кісяля, Лукомскага, Караткевіча, Савінкава і іншых. У цяжкі момант, калі на валасць рабілі налёты балахоўцы, нам на дапамогу прыходзілі чырвоныя кавалерысты. Мне, камсамольскаму сакратару, на працягу трох гадоў давялося быць памочнікам камандзіра атрада ЧОНа. Мы часта цэлымі тыднямі не заходзілі дамоў. Бацькі хваляваліся, каб чаго не здарылася, каб не трапілі дзе на

**Такія яны былі — пасланцы рабочай і сялянскай моладзі ў Цэнтральны Камітэт камсамола Беларусі. Здымак зроблен у часе пленума, які праходзіў у Мінску з 9 па 13 ліпеня 1923 года.**







**Група першых рудабельскіх камсамольцаў: Валяр'ян Палуян, Сцяпан Губскі, Мікола Адзінец, Сцяпан Пуцята. Здымак 1924 года.**

засаду. Але, на шчасце, усё ішло добра.

А з бандытамі былі вострыя сутычкі. Неяк у лесе, між Ломавічамі і Нястанавічамі, чонаўцы абяззброілі бандыцкі атрад. Чонаўцы нахапіліся, калі бандыты атабарыліся на прывал. Ім скамандавалі ўзняць рукі. Верхавода банды ад злосці павесіўся ў валасным пакоі, дзе яго разам з хаўруснікамі трымалі пад канвоем.

Байцы-чонаўцы праходзілі сапраўдную падрыхтоўку, вывучалі зброю, тактыку ваеннай справы — абарону, наступленне і г. д. У нас былі два кулямёты, адабраныя ў ворагаў.

Насельніцтва воласці вельмі паважала чонаўцаў. Як толькі паказваліся бандыты, адразу нам паведамлялі, і мы спяшаліся на покліч сялян-землякоў.

На пачатку 1923 года банд не стала. Сяляне маглі спакойна займацца сваімі справамі. Чонаўцы пераключыліся на барацьбу з хуліганствам, з самагоншчыкамі і зладзеямі. Праз некаторы час атрады ЧОНа былі зусім распушчаны. Сакратар Акцябрскай камсамольскай ячэйкі Іван Лук'яновіч адвёз усю зброю ў Глуск, здаў у райаддзел міліцыі. Так закончылася адна са слаўных старонак рудабельскай камсамоліі. Мы сумленна выканалі свой абавязак.

Другая старонка нашага камсамольскага юнацтва — аматарскі тэатр, душою якога былі камсамольцы, байцы ЧОНа. Гісторыя яго ўзнікнення адносіцца аж да 1918 года, калі ў Рудабельскую школу, пасля выгнання немцаў, з Бабруйска прыехалі настаўнікі Стрэле — дзве сястры і два браты. Яны і пачалі наладжваць у школе спектаклі. Мы тады былі толькі гледачамі.

У пачатку 1920 года на Рудабелку насунуліся белапольскія легіянеры, нашы настаўнікі выехалі і больш у вёску не вярнуліся. Калі акупантаў прагналі, мы, камсамольцы, прыгадалі добры пачын тых энтузіястаў. Пачалі самі наладжваць спектаклі. У нашым рэпертуары — баявыя п'есы-агіткі, якія клікалі гледача да абароны Савецкай улады, што дала працоўным свабоду і радасць новага жыцця.

Добра прымалі вяскоўцы і п'есу Я. Купалы «Паўлінка». Спрабавалі паставіць «Тры сястры» А. Чэхава, але ў нас нічога не атрымалася: не знайшлося артыстак на жаночыя ролі.

Са спектаклямі мы выязджалі амаль ва ўсе вёскі воласці. Сустракалі нас усюды з вялікай радасцю, пасля спектакляў запрашалі на пачастунак, давалі фурманкі, каб адвезці артыстаў дамоў.

На такіх вечарах часта чыталі вершы Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Кальцова, Дзям'яна Беднага, Уладзіміра Маякоўскага, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота. Сяляне слухалі вершы са сцэны з неаслабнай увагай і цікавасцю.

●

Камсамольскія сходы адбываліся два разы ў месяц. Пачыналі сходы, памятаю, а дванаццатай гадзіне. Такі час выбіраўся таму, што камсамольцы жылі ў розных вёсках, многія ад Карпілаўкі аж за трыццаць кіламетраў. Амаль усе прыходзілі пешшу, рэдка хто прыязджаў на конях. Нас не палохалі ні бездараж, ні слата, ні халадэча...

На кожным сходзе быў даклад аб міжнародным становішчы. Кожны камсамолец павінен быў ведаць пра падзеі, што адбываюцца ў нашай краіне і за рубяжом, і ўмець расказаць пра ўсё дарослым і моладзі. Часта абмяркоўваліся пытанні культурна-асветнай работы, у прыватнасці, ліквідацыі непісьменнасці.

Вельмі шырока абмяркоўвалася прамова У. І. Леніна на III з'ездзе РКСМ «Задачы Саюзаў моладзі». Праўда, тады многае з гэтай прамовы мы не разумелі ці разумелі вельмі наіўна. Тым не менш, мы абавязалі кожнага камсамольца, хто не скончыў народнай школы, прадаўжаць вучобу.

Вельмі заўзята пасля прамовы У. І. Леніна мы заселі за палітэканомію. Можа ад таго, што мы шчыра захапіліся навукай, для некаторых яна вызначыла ўвесь жыццёвы шлях. Сцяпан Пуцята, напрыклад, стаў прафесарам, загадчыкам кафедры палітэканоміі Маскоўскай ордэна Леніна сельскагаспадарчай акадэміі імя Ціміразева, я стаў дацэнтам палітэканоміі, а Мікола Чугайла — прафесарам гісторыі.

Барацьба за аднаўленне народнай гаспадаркі патрабавала аграномічных ведаў. У вёсках узнікалі агратэхнічныя гурткі. Пасылаліся дэлегаты на першую Усерасійскую сельскагаспадарчую і саматужна-прамысловую выстаўку, якая адбылася ў 1923 годзе. Сялянскія дэлегаты ўбачылі там доследнае поле акадэміка Пранішнікава, дзе выкарыстоўваўся торф на ўгнаенне. Гэты прыклад памог нам у агітацыі сялян за асваенне тарфянікаў.

Камсамольцы былі першымі пайшчыкамі кааператываў, якія пачалі ўзнікаць пасля 1921 года, яны ж сталі потым і першымі калгаснікамі, калі пачалася калектывізацыя ў вёсцы.

Як вядома, у 1921 годзе Паволжа ахапіў голад. Людзі засталіся без хлеба, а дзяржава запасаў яго амаль што не мела. Партыя і Савецкі ўрад заклікалі сялян усёй краіны памагчы працоўным Паволжа. Гэтае пытанне абмяркоўвалася і ў нас на камсамольскім сходзе.



**Важакі камсамола — сакратары вясковых і местачковых ячэеек Мінскага павета сабраліся ў Мінску на нараду 24 сакавіка 1924 года.**

Дакладчыкам выступіў старшыня валаснога выканкома Нічыпар Званковіч. Слухалі дзядзьку Нічыпара ўсе вельмі ўважліва, бо ён умеў запаліць людзей прачулым, гарачым словам.

Адразу ж пасля сходу актывісты, падзяліўшыся на невялічкія групы, рушылі ў вёску і расказвалі пра гора, якое напаткала Паволжцаў. Пачаўся добраахвотны збор збожжа. Неўзабаве на станцыю Ратміравічы пайшоў наш абоз з хлебам.

Камсамольцы прымалі актыўны ўдзел у так званых валасных зямельных камісіях, якія дзейнічалі тады ва ўсіх валасцях і паветах. Гэтыя камісіі разбіралі спрэчныя справы сялян аб падзеле зямлі, і тут вельмі важна было аўтарытэтнае слова, якога і трымаліся камсамольцы.

Як у наш час праводзіўся прыём у камсамол? Прымалі мы новых членаў на сходзе ячэйкі. Захоўваўся строгі класавы адбор. Моладзь з сялян-беднякоў, батракоў, сераднякоў, рабочых саўгаса прымалася без абмежавання, але строга індывідуальна. У камсамол таксама прымалі дзяцей вясковых саматужнікаў, якія не мелі наёмнай рабочай сілы. Дзеці настаўнікаў, аграномаў, урачоў і іншых служачых прымаліся таксама ў індывідуальным парадку. Не прымалі ў камсамол дзяцей гандляроў і кулакоў.

Пасля VI з'езда РКСМ (ліпень 1924 года) дзеці служачых і саматужнікаў праходзілі кандыдацкі стаж — паўтара года. З кандыдатаў пераводзілі ў члены толькі тады, калі камсамолец на працягу гэтага часу добра працаваў у ячэйцы, павышаў сваю палітычную пісьменнасць, умеў адрозніваць сяброў ад ворагаў Савецкай улады, строга захоўваў камсамольскую этыку.

●

Ішоў час. Перад камсамолам паўставалі новыя задачы. На працягу першых сямі гадоў наша Акцябрская і іншыя вясковыя ячэйкі поўнасцю абнавіліся. З першых камсамольцаў у вёсцы застаўся толькі Віктар Пальцаў. Завёў гаспадарку, а ў 1930 годзе стаў адным з арганізатараў калгаса. Мы ўсе разышліся хто на камсамольскую, хто на савецкую работу, на вучобу ці на службу ў Чырвоную Армію...

Першы паехаў на вучобу Сцяпан Пуцята. Скончыў курсы землеўпарадчыкаў, потым Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках, інстытут Чырвонай прафесуры ў Маскве і застаўся там. Мікола Чугайла закончыў саўпартшколу, інстытут Чырвонай прафесуры і працаваў у Самары (цяпер горад Куйбышаў).

На вучобу накіраваліся Сяргей Адзінец, Сцяпан Губскі, Іван Падута. На змену нам прыйшлі новыя: Навум Голуб, Іван Адзінец, які стаў адным з арганізатараў калгаса ў Карпілаўцы, а потым доўга быў яго старшынёю.

У нашай ячэйцы з'явіліся і дзяўчаты. Хочацца прыгадаць такіх, як Насця Адзінец, цяпер заслужаная настаўніца БССР, Хадора Адзінец, таксама настаўніца, якую ў 1942 годзе расстралялі фашысты; Марыя Марціновіч, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны славілася як баявая партызанка, а цяпер партыйны работнік; Вольга Гарон, якую з двума сынамі-падлеткамі спалілі фашысты, і многіх, многіх іншых.

●

У 1923 годзе, калі мне было дваццаць гадоў, мяне прызначылі інструктарам Бабруйскага павятова-гарадскога камітэта камсамола. Вельмі шкада было развітвацца з роднай Карпілаўкай, з бацькоўскім домам. Я хадзіў з вёскі ў вёску пехатою і ўсюды знаходзіў новых сяброў. Было прыемна, як раслі і сталелі нашы камсамольскія ячэйкі. За кароткі час я абышоў (ездзіць не было на чым) больш як палову ўсіх ячэек у павеце. У той час інструктарамі працавалі такія ж вясковыя хлопцы, як і я: Мікола Чугайла, Яфім Пінскі, Віктар Воінаў, Пятро Пячонка. Былі і дзяўчаты-інструктары Маня Давідовіч, Вера Харужая.

Неўзабаве мяне адклікалі на работу ў Мінск, прызначылі інструктарам Мінскага павятовага камітэта камсамола. Зноў давялося больш шасць часу праводзіць у камсамольскіх ячэйках. На пытанне, чым у ячэйках займаўся тады інструктар, можа ў некаторай ступені даць адказ мандат: у ім указвалася, што інструктару даручаецца інструктаванне і абследаванне ячэек КСМ Мінскага павета, а таксама скліканне сходаў сялянскай моладзі па сельсаветах, валасцях і калгасах.

На ўсіх сходах інструктар абавязкова рабіў даклад аб міжнародным і ўнутраным становішчы. На сходах прысутнічалі і пажылыя сяляне, якія задавалі шмат пытанняў.

Дакладных даведак аб выкананай рабоце ў ячэйках інструктары не пісалі. Прыехаўшы ў гарком, яны ў прысутнасці членаў камітэта абменьваліся думкамі, намячалі планы для будучай паездкі. Тры дні знаходзіліся ў горадзе, наведвалі гарадскі камсамольскі клуб, прысутнічалі на камсамольскіх сходах у гарадскіх ячэйках, а потым зноў ехалі ў вёску.

21 студзеня 1924 года памёр Уладзімір Ільіч Ленін. Вестка аб смерці правадыра з хуткасцю маланкі разнеслася па гарадах і сёлах. Уся краіна была ў жалобе. У дзень пахавання ўсюды праходзілі жалобныя мітынгі. Спыніліся паязды, фабрыкі, заводы. Пад гукі трывожных гудкоў і сірэн працоўныя праводзілі Ільіча ў апошні шлях.

Мне трэба было выступаць на мітынгу ў Самахвалавічах. Ехаць не было на чым, і я па глыбокім снезе ў дваццаціпяціградусны мароз пайшоў пешшу.

На мітынг сабраліся ўсе — старыя, моладзь, дзеці. Залезшы на высокі плот, я гаварыў пра смерць Ільіча. Усе плакалі. І я плакаў, гаварыць было цяжка. Нават салдаты і тыя не стрымаліся, па іх тварах цяклі слёзы. Гэта не забудзецца ніколі!

Мне давялося быць дэлегатам VI з'езда РКСМ, які прыняў рашэнне назваць Саюз моладзі Ленінскім. Дэлегаты ўрачыста кляліся заўсёды ісці па шляху, які ўказаў У. І. Ленін. Перад з'ездам ішла шырокая і вострая дыскусія аб ро-




Улетку 1927 года на Усебеларускія курсы раённых бюро арганізацыі юных піянераў з'ехаліся прадстаўнікі з розных куткоў рэспублікі. Сярод іх былі кіруючыя работнікі ЦК ЛКСМБ. У другім радзе: **Мікола Адзінец** (шосты злева) і **Платон Галавач** (чацвёрты справа).



**Гэта—ячэйка камсамола Беларускага педагагічнага тэхнікума. Здымак зроблен у 1927 годзе. У той час у тэхнікуме вучыліся Паўлюк Трус** (у белай кашулі, першы рад), **Пятро Глебка** (другі справа, перадапошні рад). **Зіна Бандарына** (сёмая злева, апошні рад).

**Фота з асабістага архіва аўтара.**

лі камсамола, аб яго прызначэнні, аб адносінах да сялянскай моладзі. Па гэтых пытаннях былі розныя погляды і на з'ездзе. Адна частка дэлегатаў лічыла, што камсамол з'яўляецца рэзервам і інструментам РКП(б), што ён рабоча-сялянская арганізацыя моладзі. Другая частка з'езда супрацьстаўляла паняцце «рэзерв» паняццю «інструмент» партыі. Гэтыя дэлегаты лічылі, што камсамол з'яўляецца арганізацыяй рабочай моладзі, а калі так, то ў яе шэрагі можа прымацца толькі рабочая і бядняцкая моладзь з сялян.

Такія спрэчкі ішлі і ў часе перапынкаў на з'ездзе, у інтэрнаце на Садова-Карэтнай, дзе мы жылі. Было выражана пасланне дэлегацыю ў ЦК РКП(б). Камсамольцаў прымаў Генеральны сакратар ЦК І. В. Сталін. Дэлегатам было растлумачана, што камсамол з'яўляецца масавай арганізацыяй рабоча-сялянскай моладзі, што ў камсамол трэба прымаць таксама і серадняцкую моладзь, што РКСМ з'яўляецца і рэзервам, і інструментам партыі. Спрэчкі аціхлі.

Пасля з'езда мяне выбралі сакратаром Мінскага павятовага камітэта камсамола. На павятова-гарадской канферэнцыі, якая праходзіла 17—20 мая 1924 года, была утворана адзіная павятова-гарадская арганізацыя і выбраны павятова-гарадскі камітэт.

У жніўні 1924 года Мінскі павятова-гарадскі камітэт быў пераўтвораны ў Мінскі акруговы камітэт камсамола, які дзейнічаў да Першай акруговай канферэнцыі. Яна адбылася 25 кастрычніка 1924 года. Замест паветаў і валасцей былі ўтвораны раёны. Мінская акруга мела 3 гарадскія і 11 сельскіх раёнаў. Тады ў Мінску дзейнічала 54 ячэйкі, якія налічвалі звыш дзвюх тысяч членаў і кандыдатаў камсамола. Сельскіх ячэек было 59, а ў іх амаль паўтары тысячы камсамольцаў.

У кастрычніку 1924 года на 1-й Калінінскай акруговай канферэнцыі (акруга ўтворана з Клімавіцкага, Мсціслаўскага і Чэрыкаўскага паветаў) мяне выбралі ў састаў акруговага камітэта, а на пленуме—сакратаром акругкома.





Актыўнаць моладзі расла. Задача наша была ў тым, каб наблізіць яе да камсамола, а з гурткоў і ініцыятыўных груп стварыць новыя камсамольскія ячэйкі. Трэба было ўлічваць мясцовыя ўмовы, гутарыць з кожным, высвятляць яго погляды на камсамол. Гэту работу нам памагалі праводзіць партыйныя камітэты, вясковыя камуністы.

У той час пачаў набываць масавы характар і дзіцячы камуністычны рух. Піянерскія арганізацыі ствараліся ў мястэчках, у дзіцячых дамах, у вёсках. Піянерскія атрады ўтвараліся пры камсамольскіх ячэйках. Пры школах існавалі так званыя піянерскія фарпосты. У лютым 1926 года на VIII з'ездзе камсамола Беларусі я быў выбраны ў склад ЦК, а на пленуме—членам бюро ЦК ЛКСМБ і старшынёю Цэнтральнага Бюро юных піянераў. Нам прадстаяла абагуліць вопыт піянерскай работы, вызначыць новыя формы кіраўніцтва дзіцячым рухам. Праз год, у студзені 1927 года, у Беларусі ўжо налічвалася 70 тысяч камсамольцаў і столькі ж піянераў.

На VII з'ездзе ВЛКСМ мяне выбралі ў склад ЦК ВЛКСМ. На VIII з'ездзе камсамола я быў апошні раз як дэлегат. Перад моладдзю тады стаяла адказная задача—вучыцца, вучыцца, самым сур'ёзным чынам, каб стаць спецыялістамі ў розных галінах народнай гаспадаркі. Падаўся вучыцца далей і я.

Нам, пажылым ужо людзям, якія былі першымі камсамольцамі і піянерамі, сёння прыемна і радасна бачыць, што наша мара збылася, што эстафету старэйшага пакалення напераж па шляху будаўніцтва камунізма нясе сучасная моладзь. Пяцьдзесят гадоў таму назад на I з'ездзе камсамола Беларусі, у верасні 1920 года, было прадстаўлена 20 камсамольскіх арганізацый ад 3000 камсамольцаў, а цяпер, напярэдадні свайго юбілею, камсамольская армія нашай рэспублікі налічвае звыш 900 тысяч юнакоў і дзяўчат. Гэта радуе і хвалюе.

Прывітанне вам, маладая гвардыя актыўных і высокаадукаваных будаўнікоў камунізма!

**г. Сімферопаль.**

# ТАК ПАЧЫНАЎСЯ ЛЕТАПІС

**Гераізм моладзі першых гадоў савецкай улады стаў жыццёвым крэда для шматмільённай арміі Ленінскага камсамола. Захапляльная рамантыка таго часу спалучае ў сабе трагізм і веліч подзвігу, прагу жыцця, поўнага трывожнага шчасця, выпрабаванняў і перамог. З цягам часу многае знікае з памяці людзей, а найбольш яскравыя факты вырастаюць у прыгожую легенду, становяцца спадчынай народнай творчасці. Між тым у музеях і архівах ляжаць маўклівыя сведкі падзей 20-х гадоў — газеты і часопісы камсамола, якія захавалі для нашчадкаў дыханне рэвалюцыі, багацце гістарычных фактаў.**

**Друкаванае слова камсамола было факелам камуністычнай маралі, надзейным памочнікам моладзі ў яе змаганні супраць шматлікіх ворагаў. Друк моладзі Беларусі ўзнік разам з першымі камсамольскімі ячэйкамі. Характэрна, што выдавецкая дзейнасць камсамола пачынаецца з выпуску часопісаў.**

**Піянерам камсамольскага друку Беларусі з'яўляецца часопіс «Факел коммунизма», што выдаваўся як орган ЦК КСМ Літвы і Беларусі з 2 сакавіка 1919 года. Рэгулярнаму выданню часопіса перашкаджала белапольская акупацыя. Было надрукавана толькі чатыры нумары, адзін з іх у мінскім падполлі. «Факел коммунизма» адразу за-**

свяціў святлом новага жыцця, расказваў моладзі аб страшэнных, бесчалавечных злачынствах белапольскіх карнікаў на беларускай зямлі. «Яшчэ многа ворагаў пагражае рэвалюцыі,— гаварылася ў першым нумары часопіса,— але нашы ахвяры павінны аб'яднаць змагароў у адзіную сілу, мы павінны стаць яшчэ мацнейшымі і стойка змагацца за будучыню». Пад гэтым разумелася актыўнае ўцягненне моладзі ў барацьбу супраць акупантаў, самаахвярная праца на фронце народнай гаспадаркі. «Факел коммунизма» загінуў у засценках польскай дэфензівы разам з расстралянымі і пасаджанымі ў турмы мінскімі камсамольцамі, але кліч да абароны Радзімы, узняты часопісам, быў падхоплен моладдзю ўсёй рэспублікі.

Эстафету ад «Факела коммунизма» прынялі шматлікія камсамольскія органы, якія абуджалі пачуцці чалавечай годнасці, узнімалі свядомасць юнакоў і дзяўчат да ўзроўню змагароў рэвалюцыі. Гэты пачэсны абавязак з гонарам выконваў орган Віцебскага губкома **«Молодой горн»**. Пачынаючы са студзеня 1920 года, выйшла восем нумароў часопіса. Ён звяртаўся да чытачоў з бадзёрым словам праўды, адлюстроўваў вялікую энергію грамадскай актыўнасці людзей. Апраўдваючы сваю назву, часопіс вёў наступальныя спрэчкі з тымі, хто не разумеў задач камсамола, ён выкрываў усіх, каму наўмысна хацелася адарваць моладзь ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва. У полі зроку «Молодого горна» было тэхнічнае, палітычнае і агульнаадукацыйнае выхаванне, шмат месца адводзілася працы сялянскай моладзі, арганізацыі камун, арцелей, апрацоўцы камсамольцамі ленінскіх дзесяцін. Часопіс лічыў неабходным, каб пры кожнай павятовай і акруговай газеце былі створаны камсамольскія старонкі для аператыўнага адлюстравання жыцця моладзі.

Разам з асвятленнем штодзённага жыцця рабоча-сялянскай моладзі патрэбен быў тэарэтычны камсамольск. орган, які б мог падрабязна растлумачыць сутнасць палітычнага становішча ў краіне, данесці да ячэек слова кіруючых камсамольскіх органаў. 1 жніўня 1920 года пры падтрымцы ЦК Кампартыі БССР быў выдадзен **«Вестник Центрального Бюро коммунистического союза молодежи Литвы и Белоруссии»**. Увесь нумар быў прысвечан надзённым задачам камсамола на вызваленай ад белапалякаў тэрыторыі.




Асабліва цікавы другі нумар «Вестника», які выйшаў 25 верасня. У ім змешчаны «Тэзісы па дакладзе аб юнацкім друку», які аб'яўляўся асноўнай ударнай сілай прапаганды і агітацыі бальшавіцкіх ідэй. Гэтыя тэзісы і паслужылі штуршком для арганізацыі шматлікіх старонак моладзі ў павятовых і губернскіх газетах рэспублікі. Камсамольскія старонкі пачалі з'яўляцца ў гомельскіх газетах «Путь Советов», «Новая деревня», «Полесская правда», «Соха и молот» (Магілёў), «Известиях Витебского Губревкома и Губкома РКП», а таксама ў павятовых гарадах Полацку, Сянно, Оршы, Барысаве, Бабруйску, Мсціслаўлі, Мазыры і ў іншых кутках нашай рэспублікі. У 1920 годзе на Беларусі, не лічачы аднадзённых выданняў, выходзіла 3 маладзёжныя газеты, 6 часопісаў і выдавалася каля пятнаццаці старонак чырвонай моладзі. Праўда, не ўсе яны былі даўгавечныя, не ўсе выходзілі рэгулярна, але, чытаючы іх сёння, яскрава ўяўляеш праўдзівую карціну гераізму і мужнасці юнакоў і дзяўчат у першыя гады савецкай улады.

Перад камсамольскімі выданнямі стаяла задача — сабраць у адзіны кулак сілу моладзі і накіраваць яе на хутчэйшы разгром контррэвалюцыі. Віцебская **«Красная молодежь»** у сакавіку 1920 года аб'явіла «Тыдзень фронту». «Віцебская арганізацыя,— ад імя ўсіх камсамольцаў пісала «Красная молодежь»,— як і пры папярэдніх наступленнях царскіх генералаў, будзе знаходзіцца ў першых радах. Лепшых, самых свядомых таварышаў яна аддасць Чырвонай Арміі».

Тыя ж задачы перад моладдзю ставіла і магілёўская «Красная молодежь». Поўнымі гневу словамі заклікала яна моладзь да барацьбы: «Цяпер, калі рабоча-сялянская ўлада акружана вогненным кальцом, калі з усіх бакоў на нас наступаюць гады ўсіх масцей, мы, асабліва рабоча-сялянская моладзь заходняга краю, якая перажыла польска-нямецкую акупацыю, ведаем, хто ідзе зноў забіваць і рэзаць рабочых і сялян...» На старонках гучалі заклікі да арганізацыі камсамольскіх атрадаў, у паведамленнях з фронту расказвалася, як з асаблівай упартасцю і мужнасцю змагаюцца юнакі і дзяўчаты за справу рэвалюцыі.

Старонкі чырвонай моладзі былі тым падмуркам, на якім пачалі ўзнікаць самастойныя маладзёжныя газеты. Адным з першых не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй краіне зрабіў спробу выдаць самастойную газету Гомельскі губком камсамола. У канцы 1919 года ён выпускае штотыднёвы **«Голос коммунистической молодежи»**. Сціслыя памеры — усяго адна паласа — не давалі магчымасці адлюстраваць увесь размах сацыяльнай барацьбы моладзі таго часу. Тым не менш «Голос коммунистической молодежи» увайшоў у арсенал савецкага друку, як адзін з першых узораў магутнай зброі камсамола.

Неўзабаве газета «Голос коммунистической молодежи» спыніла свой выхад, але губернскі камітэт партыі дазволіў камсамольцам выпускаць свае старонкі ў газетах «Полесская правда» і «Новая деревня». Старонкі выходзілі нерэгулярна і не маглі задаволіць запатрабаванні камсамольскай арганізацыі губерні. Тады губком камсамола ў жніўні 1920 года прыступіў да выпуску часопіса **«Набат молодежи»**. Першы нумар быў выдадзен на грамадскіх асновах камуністычнай ячэйкай друкароў на адным з суботнікаў. Нумар адкрываўся артыкулам «Юнацкі друк», у якім падаецца праграма часопіса. Ён павінен быў стаць інструктыўным органам для мясцовых камсамольскіх арганізацый. Часопіс узнімаў пытанне аб «Партыі і саюзах моладзі», пісаў аб свяце Міжнароднага юнацкага дня 5 верасня, рыхтаваў камсамольцаў да III-га губернскага з'езда, змяшчаў таксама шырокую інфармацыю аб жыцці моладзі. Другі нумар часопіса «Набат молодежи» выйшаў у снежні 1920 года.

Замежная інтэрвенцыя і ўнутраная контррэвалюцыя пад гэты час былі разгромлены. Моладзь пераходзіла да станка і плуга. Мірныя ўмовы ставілі перад камсамолам вялізныя задачы эканамічнай і культурнай рэвалюцыі, якія немагчыма было вырашыць, не ўзброіўшыся прынцыпамі марксісцка-ленінскай навукі аб грамадстве. Гэтыя веды павінна была несці моладзі газета. 1 мая 1921 года выйшаў першы нумар газеты рабоча-сялянскай моладзі «Набат молодежи» — штотыднёвага органа Гомельскага губернскага камітэта Расійскага камуністычнага саюза моладзі. У пачатку свайго існавання «Набат молодежи» выходзіў невялікім тыражом, фарматам цяперашняй раённай газеты. Здараліся частыя перабоі ў яго выпуску. Але баявы наступальны дух, правільнае тлумачэнне палітыкі партыі, прынцыповая абарона інтарэсаў моладзі зрабілі газету папулярнай і дзейснай.












Ужо ў 1922 годзе Губком адзначыў, што тыраж «Набата молодежи» дасягнуў 1 000 экземпляраў і ён «вельмі бойка чытаецца рабоча-сялянскай моладдзю». Газета ўвесь час паляпшала якасць матэрыялаў, наладжвала шчыльную сувязь з рабочымі і сельскімі карэспандэнтамі, яна амаль уся разыходзілася па індывідуальнай падпісцы.

Актыўную выдавецкую дзейнасць разгарнуў Віцебскі губком камсамола. У маі 1921 года выходзіць першы нумар газеты **«Юный творец»**. Газета выходзіла адзін раз на тыдзень на чатырох старонках фармату цяперашняй «Праўды». Трохтысячны тыраж разыходзіўся вельмі хутка. Газета вабіла смелай пастаноўкай важных праблем, канкрэтным асвятленнем самых актуальных пытанняў жыцця моладзі, высокім літаратурным узроўнем і цікавай вёрсткай.

У адным з нумароў газета звярталася да чытачоў:

«Молодежь! Всего ты выше! Молодежь! Всего ты краше!
Кто, как ты, в дороге к счастью все препятствия берёт?
Так следи же, чтобы к солнцу устремлялись души наши,
Чтобы верили мы только в слово красное «Вперед!»

Пафас гэтых слоў не разыходзіўся з надзённымі справамі віцебскіх камсамольцаў. Нумары «Юнага творца» былі запоўнены матэрыяламі, якія паведамлялі пра ўдзел моладзі на ўсіх франтах гаспадарчага будаўніцтва, пра камуністычныя суботнікі, дапамогу галадаючым Паволжа, беспрытульным дзецям. Газета вяла размову пра адкрыццё школ, клубаў, няспынна клапацілася пра ўмацаванне камсамольскіх ячэек. Гэта была адна з лепшых газет камсамола нашай краіны ў 20-я гады. За вялікую працу па камуністычным выхаванні моладзі, за арганізацыю яе на абарону Радзімы і аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі губернскі камітэт партыі задаволіў жаданне камсамольцаў і перайменаваў пасля смерці У. І. Леніна газету ў **«Юный ленинец»**.

Камсамольскія органы друку Віцебшчыны вялі шырокую дзейнасць па арганізацыі моладзі на гаспадарчае і культурнае будаўніцтва. «Юный ленинец», маладзёжныя старонкі ў газетах «Заря Запада», «Полоцкий пахарь», «Юная коммунистическая мысль» Оршы і многія іншыя задавалі баявы тон усёй арганізацыі камсамола губерні. Старонкі органаў друку Віцебшчыны таго часу паказваюць, што пяцітысячны атрад камсамола губерні вызначаўся высокім узроўнем рэвалюцыйнай свядомасці, дысцыплінаванасцю сваіх шэрагаў. «Такая адналітнасць,— як адзначалася ў газеце «Юный ленинец» 22 снежня 1924 года,— была дасягнута за кошт папаўнення арганізацыі выключна выхадцамі з рабочых і сялян». Пільны адбор людзей патрабаваў вялікай працы, пошуку новых форм і метадаў прапагандысцкай дзейнасці. У газеце «Юный ленинец» і на шматлікіх старонках выступалі вядомыя ўдзельнікі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, актывісты камсамольскага жыцця, дэлегаты I-га Усерасійскага з'езда камсамола, заснавальнікі камсамола ў губерні. У «Юном пахаре» (Полацк), напрыклад, друкаваліся пісьмы шэфа аднаго з піянерскіх атрадаў, правадыра японскага пралетарыяту Сен-Катаямы, газеты пісалі пра легендарных палкаводцаў Чырвонай Арміі Яна Фабрыцыуса і ўраджэнца Віцебскай губерні камсамольца-камдыва Уладзіміра Азіна.

У маі 1921 года ў Віцебску быў выдадзен **«Бюллетень Витебского губернского комитета Российского коммунистического союза молодежи»**. Гэта выданне было разлічана ў асноўным на камсамольцаў-актывістаў, у ім змяшчаліся пастановы, інструкцыі, даклады камітэтаў. Часопіс прызначаны быў для ўмацавання сувязей ячэек з вышэйстаячымі арганізацыямі, але тыраж яго быў невялікі, а выданне дарагое, і выпуск спыніўся. Задачы бюлетэня былі ўскладзены на газету «Юный творец».

Да газет, якія выдаваліся ў губернях, неўзабаве дадалася рэспубліканская **«Красная смена»**. Яна пачала выходзіць 21 красавіка 1921 года. Гэта была знамянальная падзея ў жыцці моладзі рэспублікі, сведчанне таго, што моладзь Беларусі з'яўляецца моцным і дзейсным атрадам Усесаюзнага камсамола, што асноўная маса юнацтва рэспублікі стала ў шэрагі свядомых байцоў за сацыялізм. Перыядычныя органы моладзі пачыналі свой выхад якраз у той момант, калі асабліва павялічыўся ўплыў буржуазнай ідэалогіі на найбольш адсталыя колы моладзі. Дробнабуржуазнай псіхалогіі, ідэалогіі адурманьвання і эксплуатацыі трэба было супрацьпаставіць ідэалогію марксізма, паказаць, што нясе людзям Савецкая ўлада. «Красная смена», «Юный пахарь», «Юный ленинец», «Набат молодежи» з гонарам выконвалі гэтую задачу, што было адзначана ў прывітанні ЦК РКСМ з выпадку юбілею камсамола Беларусі.

Магілёўскія камсамольцы не мелі сваёй самастойнай газеты, таму што амаль уся цяперашняя тэрыторыя вобласці ўваходзіла тады ў склад Гомельскай губерні. Тым не менш магілёўчане адны з першых праявілі клопат пра друк. Яшчэ ў 1918 годзе, 6 снежня, была выпушчана аднадзённая газета **«Юный коммунист»** — орган магілёўскай арганізацыі РКСМ. Праз год быў выпушчан яшчэ адзін нумар гэтага выдання, прысвечаны юбілею арганізацыі камсамола. А ў 1920 годзе газета «Соха і молот» пачала рэгулярна друкаваць старонку «Красная молодежь», якая ў 1924 годзе была перайменавана ў «Комсомолию». У Мсціслаўлі ў 1921 годзе на старонках газеты «Думы бедняка» друкавалася «Страничка молодежи», якую потым перайменавалі ў «Юную рать», бабруйскі «Коммунист» у 1920 годзе друкаваў старонку «Красная молодежь», якая ў 1925 годзе выходзіла на беларускай мове пад назвай «Малады селянін».

Найбольш цікавай была газета **«Малады камуніст»** — орган Калінінскага акруговага камітэта ЛКСМБ. Яна выходзіла на працягу 1925 года ў Клімавічах. І хоць і лічылася дадаткам да газеты «Наш працаўнік», але выдавалася асобна на двух палосах. Шмат творчых сіл для стварэння «Маладога камуніста» прыклаў вядомы беларускі паэт Андрэй Александровіч, які быў у той час рэдактарам газеты «Наш працаўнік».

На старонках чырвонай моладзі, у маладзёжных газетах і часопісах друкавалася шмат твораў беларускіх пісьменнікаў. Міхась Чарот, Кузьма Чорны, Максім Лужанін, Уладзімір Дубоўка, Паўлюк Трус, Алесь Дудар і многія іншыя, хто закладваў падмурак беларускай савецкай літаратуры, былі тады маладыя і першай трыбунай для свайго слова выбіралі камсамольскія органы. Цікавым прыкладам з'яўляецца дзіцячы часопіс «Зоркі», першы нумар якога выйшаў пад рэдакцыяй Змітрака Бядулі 25 лютага 1921 года. Аўтарамі часопіса выступалі Янка Купала, Мікола Раманоўскі (Кузьма Чорны), Міхась Чарот і іншыя.




Удзел пісьменнікаў у друку моладзі ўзнімаў літаратурны ўзровень выданняў, разнастаіў іх тэматычна і жанрава, узбагачаў іх мову. Гэта адразу прыемна адбілася на якасці выданняў. «Набат молодёжи» і «Юный ленинец», акрамя шырокага інфармацыйнага матэрыялу, друкавалі шмат вершаў, апавяданняў, фельетонаў. Адным з найбольш пашыраных жанраў быў фельетон.

Па прыкладзе «Красной смены» губернскія газеты змагаліся за павелічэнне шэрагаў камсамола, за яго баявы ўдзел на гаспадарчым фронце. Адной з пашыраных форм работы камсамола былі тады тыдні дапамогі. Тыдзень дапрызыўніка змяняўся тыднем дапамогі чырвонаармейскім сем'ям, тыдзень чырвонага сейбіта—тыднем лесу, тыдзень барацьбы з рэлігіяй—тыднем школы, настаўніка і г. д. Гэтыя кампаніі праходзілі пад непасрэдным кантролем газет, якія імкнуліся падтрымліваць цікавасць моладзі да пытанняў надзённага жыцця краіны. Прынцыпы камуністычнай маралі атрымалі на старонках камсамольскіх газет практычнае асвятленне.

Пад няспынным агнём прынцыповай партыйнай крытыкі газеты трымалі кулакоў, папоў, бандытаў. У селькораў стралялі, палілі іх хаты, а мужныя камсамольцы слалі і слалі допісы ў сваю газету, выкрываючы ненавіснікаў Савецкай улады. Беларуская камсамолія ведае не адно слаўнае імя селькора, сярод якіх Фёдар Ракушаў, Рыгор Лапіцкі, Маставы, Жлобіч і многія іншыя, хто газетным радком ваяваў супраць папоўскага дурману, кулацкіх абрэзаў і перамагаў, часам цаной асабістага жыцця. Гібель кожнага камсамольца-селькора вылівалася ў вялікую палітычную кампанію. Кожная ахвяра была новым штуршком для гуртавання моладзі, для ўмацавання сувязі газет са сваім актывам, выхоўвала ў рабселькораў мужнасць і нянавісць да сваіх ворагаў. «Красная смена», «Юный пахарь», «Юный ленинец» і «Набат молодежи» выступалі адзіным фронтам супраць зверстваў контррэвалюцыйных элементаў.

Віцебскі «Юный ленинец» спыніў свой выхад у сакавіку 1924 года пасля далучэння вобласці да Беларусі, а Гомельскі «Набат молодежи» выходзіў аж да канца 1925 года. За гады свайго існавання яны адлюстравалі складаны працэс фармавання новага чалавека, выкаранення ўласніцкай псіхалогіі.

З той пары прайшло амаль паўстагоддзя. Камсамол нашай рэспублікі вырас у магутную арганізацыю будаўнікоў камунізма, выхаваў не адно пакаленне савецкіх людзей. Але гераічнае жыццё моладзі 20-х гадоў, засведчанае першымі камсамольскімі газетамі, з'яўляецца пастаяннай крыніцай мужнасці, школай выхавання высокай грамадзянскай свядомасці, узорам самаадданага служэння Айчыне.

**Алег СЛУКА.**



# ПАПЛЕЧНІК ГЕНЕРАЛА КАРБЫШАВА

Да бляску нацёрта падлога. Нічога лішняга. Стол, табурэты, ложак. На ўсім адзнака строгай і бездакорнай ахайнасці.

Уся паўната ўлады ў доме належыць Паліне Мікалаеўне.

— Абедаць, Жэня! —кліча жонка захопленага работай Яўгена Варфаламеевіча.

— Хвіліначку, маці... Апошні абзац,— не адрываючыся ад паперы, адказвае муж.

Яна добра ведае гэту «хвіліначку», і таму рашуча адсоўвае ўбок недапісаны ліст. Яўген Варфаламеевіч вымушаны падпарадкавацца.

— Вось так у яго заўсёды,— тлумачыць гаспадыня.— Не думае чалавек пра сваё здароўе.

☆

Генерал Яўген Варфаламеевіч Леашэня быў намеснікам начальніка Ваенна-інжынернай акадэміі імя Куйбышава. У 1960 годзе падаў у адстаўку — сэрца... З таго часу кожны год прыязджае сюды, у фабрычны пасёлак, у бацькоўскі дом, прыстасаваны пад дачу. У шыбы акон заглядваюць галіны клёнаў. Побач стары сад. Добра раніцою гуляць між дрэў. Нараджаюцца новыя думкі, усплываюць дарагія сэрцу ўспаміны...

...Самая кароткая дарога ад пасёлка да Слоніма — праз чыгунку. Жэня Леашэня пераскокваў шпалы надзіва лёгка. Усю дарогу ішоў босы, боты віселі за спіною. Так было лягчэй, а галоўнае — эканомна. З тых грошай, якія зарабляў ён на фабрыцы, нялёгка было сабраць на боты, таму ён іх берог. Яны ў яго заўсёды блішчэлі, як люстэрка.

Каб мець магчымасць вучыцца, Яўгену Леашэню давялося падлеткам працаваць і рамшчыкам, і круцільшчыкам, і адліўшчыкам. Вышэйшае пачатковае вучылішча ён скончыў у Петраградзе, куды бацькі эвакуіраваліся ў першую імперыялістычную вайну. Яго бацька пад той час працаваў на Выбаргскай старане і ўжо быў бальшавіком.

...Генерал Леашэня задумваецца: «Дзіўная логіка ў медыкаў: калі баліць сэрца — нельга шмат працаваць. А яно ж і баліць ад таго, што работа не закончана».

Вось «Інжынернае забеспячэнне бітвы пад Масквой» — засталіся апошнія раздзелы... Каму, як не начальніку інжынернай службы пад Масквой у час мінулай вайны, паказаць уклад сапёраў у справу разгрому фашыстаў на подступах да сталіцы...

— Нам, ветэранам,— гаворыць Яўген Варфаламеевіч,— выпала перадаць свой вопыт і веды маладой змене. У маладзі — цудоўнае жыццё. Але за гэтае жыццё трэба змагацца, быць гатовымі ў кожную хвіліну выступіць са зброяй у руках. І змагацца за сваю Радзіму трэба так, як умелі гэта рабіць лепшыя яе сыны, такія, як генерал Карбышаў.

...Яўген Леашэня пасябраваў з Дзмітрыем Міхайлавічам Карбышавым у трыццатыя гады, калі вучыўся ў акадэміі імя Фрунзе. Многім тады гэтая дружба здавалася загадкавай: просты слухач акадэміі і начальнік кафедры, буйнейшы спецыяліст ваенна-інжынернай справы.

Яўген Варфаламеевіч усміхаецца. Яму прыгадаўся сяброўскі шарж з насценнай газеты акадэміі: генерал Карбышаў вядзе за ручку на лекцыю малюсенькага капітана Леашэню...





**На пасяджэнні тэхнічнага камітэта Галоўнага ваенна-інжынернага ўпраўлення Чырвонай Арміі 20 мая 1940 года. Сярод прысутных: Я. Леашэня** (другі злева), **Д. Карбышаў** (шосты злева), **А. Храноў** (старшынюе).

— Сапраўды, чаму сярод многіх слухачоў Карбышаў вылучаў іменна вас? — не ўтрымаўся я ад нясціплага пытання.

Генерал на хвіліну задумаўся:

— Перш за ўсё, я паступаў у акадэмію, маючы за плячыма дзесяць гадоў службы ў інжынерных войсках. Такіх сярод слухачоў было не густа. Па-другое, я родам з Беларусі, дзе Карбышаў неаднойчы бываў. Як вядома, ён прымаў удзел у мадэрнізацыі Брэсцкай крэпасці. Напярэдадні другой сусветнай вайны кансультаваў будаўніцтва абараняльных ліній каля многіх прыгранічных гарадоў Беларусі, у тым ліку Гродна. Апрача таго, яго жонка была родам з нашых мясцін...

Яўген Варфаламеевіч на хвіліну змаўкае і глядзіць на мяне:

— Што вы ведаеце пра Карбышава?

Я пералічваю некалькі кніг. Між іх «Калі крэпасці не здаюцца» Сяргея Голубава.

— Во-во,— падхоплівае генерал.— Голубаў напісаў добрую кніжку, дзе ўсё праўдзіва. Дарэчы, капітан Якімаха ў гэтай кнізе — гэта я. Перачытайце, і вы знойдзеце адказ на сваё пытанне...

І вось я гартаю старонкі.

«У імклівасці думак Якімахі, у яго ўменні самастойна думаць і абараняць абдуманае Карбышаў бачыў многае з таго, што было ўласціва яму самому... Карбышаў бачыў у Якімаху свайго паслядоўніка, сваю змену».

— Я жыў з Карбышавым у адным доме па Смаленскім бульвары, 15,— расказвае далей Яўген Варфаламеевіч.— Дзмітры Міхайлавіч заўсёды запрашаў мяне: «Заходзь, без усялякіх умоўнасцей». Мне заўсёды хацелася быць поплеч з гэтым чалавекам, які ніколі не скупіўся на свае веды. Мне прыгадваецца, як ён, буйнейшы спецыяліст акадэміі Генеральнага Штаба, прыходзіў запраста да мяне на кафедру і даваў сваю новую лекцыю ці даследаванне: «Бяры, няхай у цябе будзе не горш, чым у мяне».

Генерал Я. В. Леашэня выступаў як самы таленавіты паслядоўнік карбышаўскіх ідэй на шматлікіх франтах Вялікай Айчыннай вайны.

Генерал любіць цяпер паўтараць думку: «Мы, сапёры,— чорнарабочыя вайны». З гэтымі «чорнарабочымі вайны» генерал Леашэня будаваў непрыступныя загароды для ворага. Радзіма высока ацаніла яго подзвіг. На генеральскім мундзіры — 23 баявыя ўзнагароды: ордэны Кутузава, Багдана Хмяльніцкага, Айчыннай вайны, Чырвонага Сцяга... Гэта — за ўзяцце Варшавы і Берліна, за абарону Севастопаля і за разгром немцаў пад Масквой, за ўдзел у разгроме Квантунскай арміі...

У 1969 годзе выйшла ў свет кніга «50 гадоў Ваенна-інжынернай акадэміі імя Фрунзе». У ёй дадзена высокая ацэнка дзейнасці генерал-лейтэнанта інжынерных войск, кандыдата ваенных навук дацэнта Я. В. Леашэні.

— Усе свае заслугі я непарыўна звязваю з імем Дзмітрыя Міхайлавіча Карбышава, майго дарагога настаўніка і выхавацеля,— гаворыць Яўген Варфаламеевіч.— Добрую памяць аб ім я зберагу на ўсё жыццё...

☆

У Маскве, на праспекце Вярнадскага,— звычайны шматпавярховы дом. Ніжні паверх займае паштовае аддзяленне, а на астатніх паверхах — кватэры. У адну з іх, асабліва ў нядзелю, беспярэстанку званяць паштальёны. Аддаючы генералу пісьмы і тэлеграмы, яны жартуюць:

— Сёння наша пошта працуе выключна на вас, Яўген Варфаламеевіч...

Генерал вядзе вялікую перапіску з усімі піянерскімі атрадамі, дружынамі і школамі, якія носяць імя Карбышава. Ён актыўна ўдзельнічае ў рабоце ваенна-навуковага таварыства пры ЦДСА імя Фрунзе, узначальвае арганізацыйную камісію Усесаюзнага таварыства «Веды» па РСФСР, удзельнічае ў камісіі Таварыства савецка-польскай дружбы і ў рэдакцыйным савеце Савецкага камітэта ветэранаў вайны.

У 1969 годзе завершана вялікая праца «50 гадоў інжынерных войск». Падрыхтавана да друку новая кніга.

У Яўгена Варфаламеевіча знаходзіцца яшчэ час, каб пісаць гісторыю роднай Слонімшчыны. Тры гады — тры тамы машынапісу.

Сапраўды, старасць адступае перад моцнымі людзьмі.

**Міхась РЫЛ[illegible]О.**

**г. Слонім.**




# 1970

## ЖНІВЕНЬ



А. Е. Кучар.

**6**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) А. Е. Кучара, беларускага драматурга і крытыка.

**7**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) Г. І. Цітовіча, беларускага кампазітара, этнографа і фальклярыста, народнага артыста СССР, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага народнага хору БССР.



Я. С. Ермаловіч.

60 гадоў з дня нараджэння (1910) беларускага празаіка Я. С. Ермаловіча.

**10**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) В. С. Лютавай, беларускай паэтэсы і празаіка. Памерла ў 1954 г.

В. С. Лютава.



**10 жніўня — 1 лістапада**

40 гадоў назад (1930) у Мінску працавала І Усебеларуская сельскагаспадарчая і прамысловая выстаўка.

Прамысловы павільён на выстаўцы.




**11—13**

10 гадоў назад (1960) у Мінску праходзіў з'езд настаўнікаў Беларусі.

**19**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) Алеся Жаўрука (А. Д. Сінічкіна), беларускага паэта. Загінуў у 1942 годзе.



Алесь Жаўрук (А. Д. Сінічкін).

**25**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) У. І. Корбана, беларускага байкапісца.

60 гадоў з дня нараджэння (1910) П. Ф. Пратасені, доктара філасофскіх навук, прафесара, загадчыка кафедры філасофіі Беларускага політэхнічнага інстытута.



П. Ф. Пратасеня.

**Жнівень.**

65 гадоў назад (1905) адбылася І абласная канферэнцыя прадстаўнікоў РСДРП Паўночна-Заходняга краю.

30 гадоў назад (1940) быў здадзены ў эксплуатацыю Дняпроўска-Бугскі канал.

## У наступным нумары чытайце новыя матэрыялы З ГІСТОРЫІ КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ



# ІМЯ ПАРТЫЗАН

ФОТАРЭПАРТАЖ ВАЛЯНЦІНА ЖДАНОВІЧА



◀ Гаспадары праспекта. Тут жывуць і працуюць. Былы лётчык Герой Савецкага Саюза Рыгор Васільевіч Ксяндзоў вельмі ганарыцца медалем «Партызану Айчыннай вайны», які ён атрымаў за паспяховыя палёты да беларускіх партызан. Партызанкай была яго жонка Людміла Ільінічна. Там, у партызанскім атрадзе, яна пасябравала з Аленай Францаўнай Пяхотай (крайняя злева). Адважныя разведчыцы таксама маюць узнагароды.

Ён нядаўна стаў праспектам. Дагэтуль была проста Магілёўская шаша, якая ў горадзе выглядала вузкай павыбіванай вуліцай. Абступалі шашу пачарнелыя драўляныя хаткі, запыленыя хісткія платы, прыватныя садочкі. А воддаль — шчыльныя платы фабрык і заводаў.

Горад рос на ўсход і на поўдзень, выраслі новыя жылыя масівы, пашыраліся прадпрыемствы, і вулічны рух не змяшчаўся больш у вузкім рэчышчы шашы.

Вось тады і нарадзіўся праспект Партызанскі.

Па гэтай вуліцы ў 1944 годзе беларускія партызаны ўваходзілі ў Мінск. Але ж яны ішлі і па другіх вуліцах, а ганаровую назву

◀ Рэчышча праспекта Партызанскага перапоўнена. Людзі спускаюцца ў падземны пераход, каб не замінаць транспарту.





А ён расце і расце, праспект. Не толькі ўдоўж, ушыркі але і ўвышкі.

атрымала іменна гэтая. І нездарма, бо праспект Партызанскі — адна з трох самых вялікіх мінскіх магістралей.

Пачынаецца ён ля фабрыкі «Камунарка», ідзе ўздоўж мотавелазавода, падшыпнікавага і аўтамабільнага заводаў і выходзіць на скрыжаванне з кальцавой дарогай, якая 60-кіламетровым поясам абхапіла Мінск.

Увогуле, кожны праспект — прасторная шырокая вуліца. Але па традыцыі, якая склалася ў Еўропе і ў нашай краіне, на праспектах месцяцца разнастайныя навуковыя,

У напружаным тэмпе працуе Мінскі аўтамабільны завод. Сёння наперадзе—кавальскі цэх. Першыя пра гэта дазналіся эканамісты завода Генадзь Грышановіч і Георгі Барысевіч.





На Рэспубліканскім вылічальным цэнтры вы сустрэнеце ўдумлівых працаўніц—аператара Ліду Дрозд і начальніка змены Тамару Лагунову.

На праспекце—філіял Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі. Інтэр'ер кабіны трактара ДТ-75М для Волгаградскага завода распрацоўваюць канструктары і мастакі Станіслаў Андрыеўскі, Аляксандр Лаўрыненка, Барыс Барэль і Вячаслаў Гур'еў.





У вялікай аўдыторыі інстытута народнай гаспадаркі адразу слухаюць лекцыю 250 студэнтаў.

культурныя, грамадскія і адміністрацыйныя ўстановы. І ў гэтым сэнсе праспект Партызанскі мае чым пахваліцца. Тут даследуюцца прынцыпы навуковага кіраўніцтва вытворчасцю, канструіруюцца звышсучасныя паўправадніковыя прыборы, у Рэспубліканскім вылічальным цэнтры электронныя машыны выконваюць разлікі для Дзяржплана БССР, розных ведамстваў і прадпрыемстваў. Філіял Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі распрацоўвае форму станкоў і машын, прыбораў і бытавых прадметаў. На праспекце ўбачыш вясёлыя чароды студэнтаў. Адны з іх займаюцца ў Інстытуце народнай гаспадаркі імя Куйбышава, другія — у філіяле Беларускага політэхнічнага, іншыя — у тэхнікумах, вучылішчах.

Адпачыць таксама ёсць дзе: кафэ, сталовая, «Бульбяная», «Чабурэчная», рэстаран «Сосны». Гэты рэстаран своеасаблівы, бо працуюць у ім выпускнікі Мінскага кулінарнага вучылішча, якое ў тым жа будынку.

Самая ж адметная рыса праспекта — яго працоўная слава. Мы неаднойчы расказвалі ў часопісе пра здабыткі падшыпнікавага, мотавеласіпеднага, аўтамабільнага заводаў. Уся Беларусь ганарыцца гэтымі прадпрыем-







Калі мінула дваццаць, хіба не спынішся ля вітрыны магазіна «Шчасце»?!



У прысадах праспекта адчуваеш сябе ўтульна, асабліва калі ўдваіх.

ствамі, бо іх прадукцыя вядома ў многіх краінах свету, а на шпаркіх грузавіках з эмблемай зубра ездзяць шафёры амаль усіх нацыянальнасцей Еўропы, Азіі, Афрыкі.

Каб звацца праспектам, вуліца павінна мець яшчэ адну якасць: цэласнасць, ансамблевае архітэктурнае вырашэнне. Былой шашы можна было б зрабіць скідку — яна забудоўвалася няроўна, кавалкамі, у 50-я і 60-я гады, калі прынцыпы ў архітэктараў мяняліся з такой жа хуткасцю, як тыпы самалётаў. Праспект і сёння цалкам не забудаваны. Якім чынам звяжуцца ў адзінае цэлае двухпавярховыя ружовыя дамкі 50-х гадоў з 16-павярховай гасцініцай «Аўрора», з новым мікрараёнам, што насупраць яе,— вядома, бадай, толькі архітэктарам. І хоць праспект Партызанскі — вуліца 70-х гадоў, усё ж хацелася б, каб было на ёй гэтак жа ўтульна і міла вачам, як на Ленінскім у Мінску ці Неўскім у Ленінградзе. Бо адна толькі назва чаго варта! Хоць, шчыра кажучы, яшчэ лепш, больш дакладна было б назваць яго праспект Беларускіх партызан.

Тое паўнакроўнае, паўнагучнае жыццё, якое напаўняе працоўны праспект, таксама варта архітэктурнай прыгажосці — не святочнай, калі мігцяць лямпачкі ілюмінацыі, а штодзённай, дзелавой і ўтульнай прыгажосці, засведчанай у камені навечна.



# МОЙ ДАРАГІ СААЎТАР

Колькі б ні прыязджаў да мора, заўсёды хвалюешся, як і яно само, то густа-сіняе апоўдні, то ружова-залацістае перад заходам сонца, а то шэра-блакітнае, калі сонца за хмарамі. Ветрык або вецер, белыя чайкі, гоман прыбою. Неабсяжныя далягляды. Пясок на пляжы, як манна нябесная. Прадзьмутыя вятрамі, паточаныя пенай марской, шчарбатыя скалы. І як белая хусцінка — удалечыні — карабель.

Не, я не агаварыўся. Толькі некалі караблямі зваліся вялікія пасудзіны з ветразямі, іх ужо мала засталося на свеце. А цяпер карабель — гэта браніраваная аграмадзіна сталёвага колеру, з рэзкімі, выразнымі абрысамі. На велізарным крэйсеры ці на маленькім тарпедным катэры аднолькава ідэальны марскі парадак. А зброя — гарматы, ракеты, міны, тарпеды — так утульна прымацавана на палубе, быццам гэта і не зброя, а ўпрыгожванні, архітэктурнае аздабленне.

Зроблена ўсё гэта для бою. Мне ж здалося, што ваенныя караблі створаны спецыяльна для нас, графікаў. І цяпер не было мне аніякай справы да каляровых эфектаў мора, да яго таямнічай глыбіні, бо перад вачыма паўстала іншая прыгажосць, суровая і велічная. Я маляваў алоўкам і фламасцерам, пісаў акварэллю — не элегічную марыну, а тое, што было на ёй. І з'явіліся на маіх акварэлях строгія і крутыя лініі, чоткія штрыхі. Так маляваліся караблі і так маляваліся маракі, бо навошта ж было выдумляць нейкую пластыку, калі тут была гатовая пластыка, зусім не падобная на тую, што даводзілася бачыць раней. А рытмы!... Іх можна было перадаваць бясконца, яны спляталіся ў гарманічную мелодыю, і мелодый было столькі, колькі песень на свеце. Вунь, у кубрыку, вісяць бушлаты, вісяць яны па ранжыры: на правым флангзе — бушлат старшыны першай стацці. Здаецца, калі зайграе боцманская дудка, яны сарвуцца з вешалак і з крыкам «палундра» выскачаць наверх.

Я разгубіўся спачатку — столькі новага навалілася на мяне — і маляваў усё падрад, без разбору, а пасля захапіўся характарамі. Маракі — народ мужны і моцны, бо ўвесь час змагаюцца са стыхіяй. На кожным караблі абавязкова ёсць спартыўная пляцовачка ці куток, дзе маракі практыкуюцца з гірамі, штангай, гантэлямі. Я глядзеў, як зачараваны, на моцныя, прыгожыя целы і з асалодай маляваў іх. Сіла прыйшла да іх тут, на моры, як прыйшоў спрыт і шырокая, мужчынская, марская грацыя. Неяк убачыў навабранцаў, нязграбных юнакоў, на якіх бушлаты тырчэлі дыбам. Смехата адна. А вось пройдзе год — ого, якімі арламі яны станучь! Уся складаная сучасная тэхніка, якой абсталяваны і ўзброены гэтыя крэйсеры, эсмінцы, падводныя лодкі і ракетаносцы, патрабуе вялікіх ведаў, дасціпнага розуму, кемлівасці. Каб мне спатрэбілася знайсці сінонім да слова «матрос», я адказаў бы: эрудыт. Акрамя ўсяго, маракі — гэта значыць, дружбакі, іх самаадданае сяброўства не разбіваецца ні дзевятым валам, ні гарматным агнём.

Я шукаў самых тыповых сярод іх, каб паказаць характар марской душы. Тут, на Чарнаморскім флоце, працавалася цікава. Мадэлі — вунь іх колькі, толькі паспявай маляваць. Асабліва спадабаўся мне матрос Мікалай Казлоў. Ён спалучаў у сабе ўсе рысы ваеннага марака.



З серыі «Мінскае падполле». Лінагравюра.

Лёгка маляваліся эскізы будучых эстампаў, пераводзіліся на цынкавыя пласціны. Зразумела, гэта — адносная лёгкасць. Яно, сказаць папраўдзе, цяжка рабіць добра, дасканала, па-сапраўднаму, каб не чырванець перад калегамі і гледачом. Але рытміка флоцкага жыцця, імклівасць і вастрыня сілуэтаў вызначылі тэхніку гравіравання — афорт. Жывыя ўражанні віхурай запалілі лініі, незабыўная суровая рамантыка чарнаморцаў натхняла разец.

Ці ўсё атрымалася, ці вычарпаў я тэму? Пра гэта думаеш пасля, калі работа скончана, думаеш заўсёды, што б ні рабіў. Вунь на паліцы стаяць кнігі А. Куляшова, М. Танка, А. Фадзеева, І. Мележа, Я. Маўра, І. Шамякіна, П. Кавалёва, да якіх я рабіў ілюстрацыі і вокладкі. Ці перадаў я рух пісьменніцкай думкі, ці прачытаў сэнс твора, ці ўзбагаціў яго зрокавымі вобразамі і ці падобны яны на тыя вобразы, якія бачыў перад сабой пісьменнік і бачыць глядач? І тым цяжэй мастаку ілюстраваць кнігі, чым бліжэй да яго часу літаратурныя героі, бо сучаснікі ведаюць усе, і фальш, падмена вобразаў мастаку ніколі не даруецца, як бы ні валодаў ён тэхнікай, якім бы гучным не было яго імя.



Матрос Мікалай Казлоў.

Я думаю пра гэта цяпер, калі працую над другой серыяй з будняў Чарнаморскага флоту. Думаю, збіраючыся ў падарожжа па Беларусі, у падарожжа, якое прывядзе мяне да нашых нафтавікоў, да калгаснікаў, да рабочых Беларускага аўтазавода. Я з нецярплівасцю чакаю сустрэчы з імі, з маімі сучаснікамі і землякамі, з маімі сааўтарамі на ніве працоўнай творчасці.

**Людвіг АСЕЦКІ.**

Ілюстрацыя да рамана Івана Мележа «Людзі на балоце».



Ілюстрацыя да аповесці Янкі Маўра «У краіне райскай птушкі».



Людвіг АСЕЦКІ. Падводнікі перад спускам. З серыі афортаў «Будні Ваенна-Марскога Флоту».

Людвіг АСЕЦКІ. Сігнальшчык. З серыі афортаў «Будні Ваенна-Марскога Флоту».



Янка РАМАНОЎСКІ. Партрэт бацькі Янкі Купалы.

Вобраз маці Янкі Купалы нам захаваў фотаздымак. А пра бацьку мы доўгі час мелі даволі прыблізнае ўяўленне і ўзнаўлялі яго аблічча толькі па апісаннях, што параскіданы ва ўспамінах родных ды блізкіх да Купалавай сям'і людзей.

Мастак Янка Рамаyскі — сын малодшай Купалавай сястры Леакадзіі Дамінікаўны наважыўся зрабіць партрэт Дамініка Ануправіча. Задача была вельмі цяжкая, бо ні фотаздымкаў, ні малюнкаў час не захаваў, ды іх, мабыць, і не было. Роспыты ў Купалавых сёстраў, вывучэнне мемуарнай і аўтабіяграфічнай літаратуры далі магчымасць мастаку ўзнавіць вобраз Дамініка Ануправіча Луцэвіча — бацькі народнага песняра Беларусі.



Валянцін ЖДАНОВІЧ. Партызанскі праспект у Мінску.



# ШЧАСЦЕ БЫЦЬ ЧАЛАВЕКАМ

Як назваць гэтыя нататкі? Сам аўтар сціпла вызначыў іх так: тэмы для гутарак пра маральнае выхаванне.

Ведаючы, што Васіль Аляксандравіч Сухамлінскі ўжо нямала год вядзе ў сваёй школе навукова-даследчую работу, мэтаю якой ён паставіў выпрацаваць пэўную праграму этычнага і эстэтычнага выхавання, я зацікавіўся яго вопытам. Васіль Аляксандравіч прыслаў мне тэмы сваіх гутарак. У сваім лісце ён піша: «Зараз мяне найбольш турбуе маральнае выхаванне, фармаванне душы людское. Далёка не ўсё добра на гэтым полі. Часта, аж занадта часта вырастае на ім пустазелле...»

Гэтыя яго нататкі мне здаліся не толькі тэзісамі для размовы, але і тым дзейсным, жывым словам, якое ведае свой дакладны адрас — і розум, і сэрца чалавека.

Гэта — удзячны, глыбокі роздум пра тое, якім павінен быць маральны кодэкс сучаснага маладога чалавека. Матэрыял, вельмі багаты і ўдалы па сваім падборы, безумоўна, прыдасца кожнаму педагогу, прапагандысту, лектару — усім, хто па высокім грамадзянскім абавязку вядзе выхаваўчую работу з нашай моладдзю.

Аднак у першую чаргу гэты роздум і развагі будуць карысныя і неабходныя для самой моладзі, для кожнага юнака і дзяўчыны, якія прачытаюць іх. Праўда, гэта не лёгкае, не займальнае чціва. Тут кожнае слова — запавет, наказ, парада, пажаданне старэйшага малодшаму, тут вопыт і сусветных аўтарытэтаў, і скарбы нашай народнай мудрасці.

Кожны сказ будзіць думку. Кожнае пытанне вымушае да роздуму. Тым больш, што на многія пытанні, пастаўленыя педагогам і вучоным, адказваць павінны самі чытачы — не адразу, не спяшаючыся, але заўсёды так, як падкажуць ясная думка і шчырае сэрца, сумленне і адчуванне высокай годнасці чалавека.

В. А. Сухамлінскі — шырока прызнаны аўтарытэт навуковай педагагічнай думкі. Чацвёрты дзесятак год бязвыезна працуючы ў вясковай школе на Кіравагградчыне, ён напісаў шмат кніг, навуковых даследаванняў, падручнікаў і дапаможнікаў па педагогіцы. Дасканала валодаючы тонкім інструментам роднага слова, ён выступае і як пісьменнік, аўтар глыбока псіхалагічных навел.

Асабліва шырокую вядомасць набыла яго кніга «Сэрца аддаю дзецям», што выйшла ў мінулым годзе і адразу ж зрабілася бібліяграфічнай рэдкасцю.

Многім чытачам вядомы яго артыкулы ў газетах «Правда», «Комсомольская правда», «Литературная газета», у часопісе «Юность». Кожнае яго выступленне ў друку — гэта заўсёды задушэўная гутарка, поўная роздуму, хвалявання і высокай адказнасці за працу выхавацеля, старэйшага — за малодшага, настаўніка — за вучня, бацькі — за сына.

На першы погляд малапрыкметная тая работа, якую з дня ў дзень вядзе Сухамлінскі ў сваёй школе, у сваім сяле Паўлыш. Але, натхнёная яго душэўным гарэннем, яго нястомным энтузіязмам, гэтая работа прынесла яму не толькі вялікі послех, але і сапраўдную асалоду, сапраўдную радасць творчасці. Звычайная сельская школа, якой ніхто не ствараў адмысловых умоў, зрабілася асяродкам навуковай думкі, асяродкам пошукаў новых магчымасцей у выхаванні чалавека камуністычнага грамадства. Сялом Паўлыш, працай Сухамлінскага цікавяцца педагогі многіх братніх краін. «Сэрца аддаю дзецям» і шмат іншых кніг Сухамлінскага перакладзены на дзесяткі замежных моў.

Высокае права вучыць, стаць любімым настаўнікам ужо не аднаго пакалення людзей Сухамлінскі здабыў самаадданай, самаахвярнай любоўю да дзяцей, да моладзі, да сваёй Радзімы.

Вера Сухамлінскага ў чалавека, у веліч, у хараство яго душы і сэрца прайшла праз нечуваныя выпрабаванні. У 1942 годзе, калі малады настаўнік быў на фронце, яго жонку, таксама настаўніцу, якая ратавала параненых чырвонаармейцаў, памагала ім перабірацца цераз Днепро, азвярэлыя фашысцкія акупанты схапілі і кінулі ў гестапаўскі засценак. Яна была ўдзельніцай камсамольскага падполля, пісала і распаўсюджвала сярод насельніцтва антыфашысцкія лістоўкі. Не дамогшыся прызнання, раз'юшаныя каты сталі чыніць над ёй самыя жахлівыя здзекі. У турме ў яе дачасна нарадзілася дзіця. Паліцэйскі забіў яго, вынес і кінуў на сметнік перад турэмным акном. Там яно ляжала тры дні. А дваццацігадовая маці, уся пасівелая ад гора, ухапіўшыся рукамі за краты, глядзела на свайго першынца. Яе ўжо ніхто не мог адцягнуць ад акна. Тады фашысцкія нелюдзі выкалалі ёй вочы, потым павесілі.

Колькі ж трэба было мець душэўнай сілы Васілю Аляксандравічу, каб перажыць усё гэта, не знямець, не адранцвець сэрцам і каб сваю мужнасць ператварыць у сапраўдны подзвіг усяго свайго жыцця ў імя вялікай любові да чалавека, да яго запаветнай будучыні!

Я маю шчасце ведаць гэтага чалавека, адметнага між людзей сваёй асаблівай сціпласцю, прывабнай душэўнай далікатнасцю і чуласцю, якія, мабыць, і вызначаюць сапраўдны талент настаўніка, выхавацеля па прызванні.

З прыемнасцю знаёмлю чытачоў «Маладосці» са сваім добрым сябрам і з яго нататкамі, якія, спадзяюся, знойдуць жывы водгук у сэрцах нашых юнакоў і дзяўчат.

**Васіль ВІТКА.**





## юнаку, які абдумвае жыццё

**Васіль СУХАМЛІНСКІ,**
**Герой Сацыялістычнай Працы,**
**член-карэспандэнт Акадэміі**
**педагагічных навук СССР**

# ВЫСОКІ АБАВЯЗАК

Хто дае табе радасць шчаслівага маленства? Каму ты абавязаны тым, што жывеш, радуешся, карыстаешся ўцехамі быцця?

Маці, бацька, Савецкая Радзіма — найдаражэйшыя, найрадаснейшыя твае багацці.

Можна ўсё на свеце выбіраці,
Ды не можна выбраць толькі маці, — сказаў паэт.

Ты не заўсёды будзеш дзіцем, падлеткам, юнаком — ніколі не забывайся пра гэта.

Што такое шчасце?

Акрамя шчасця, у жыцці чалавека ёсць і гора, трывогі, боль, турботы, клопаты, неспакой, засмучэнні і адчай.

У маленстве, у раннім юнацтве ты ўсё бярэш у доўг у бацькоў, у народу, у Радзімы — памятай пра гэта заўсёды.

Чым раней ты пачнеш аддаваць гэты доўг, тым спакайнейшым будзе тваё сумленне.

Ты сустрэў на вуліцы старую бабульку, якая плача. Што ты павінен зрабіць?

Бязлюднаю вуліцай ідзе дзіця. У вачах у яго адчай, страх — што ты павінен зрабіць?

Чаму чалавек **павінен**? Увесь сэнс нашага жыцця ў тым, што ўсе мы **абавязаны.** Ці можа быць інакш?

Што было б, каб чалавек рабіў тое, што яму захочацца? Уяві сабе, што бацька, маці і ты робіце не тое, што трэба рабіць, а тое, што захочацца.

Ніколі не забывай, што ты жывеш сярод людзей.

Калі ты на адзіноце, сам-насам з сабою робіш нешта нядобрае, ты глыбока памыляешся, думаючы, што пра гэта ніхто не будзе ведаць. Звычка рабіць нядобрае, благое і твая безадказнасць да сябе прывядуць да таго, што твае ўчынкі пабачаць людзі.

Рабі дабро не толькі тады, калі цябе бачаць людзі, куды больш сіл трэба для таго, каб заставацца сапраўдным чалавекам тады, калі цябе ніхто не бачыць.

Калі ты будзеш думаць, што толькі ўсе табе павінны, а ты — нікому, ты вырасцеш хамам і нахлебнікам.

Самае дарагое, бясцэннае ў свеце — Чалавек.

У кожнага — права на шчасце, свабоду, творчую працу, прадаўжэнне роду чалавечага.

«Выхаванне, калі толькі яно жадае чалавеку шчасця, павінна рыхтаваць яго не для шчасця, а для працы», — гаварыў вядомы рускі педагог Ушынскі.

Шчасце, свабода немагчымы без абавязку. Хто спадзяецца пражыць шчасліва без абавязку, той стане няшчасным чалавекам.

## РАДАСЦЬ І ГОРА

Умей адчуваць і бачыць чалавека, яго душу, чытаць у вачах яго пачуцці, яго радасць, гора, няшчасце.

Думай, як твае ўчынкі адгукнуцца ў сэрцы другога чалавека.

Не рабі сваімі ўчынкамі, сваімі паводзінамі болю, засмучэння, зняважгі, цяжкіх перажыванняў другому чалавеку.

Умей падтрымаць, падбадзёрыць чалавека, у якога — бяда, гора. Памятай, што такое ж гора можа напаткаць і цябе. Гора прыходзіць нечакана.

Будзь чулым, спагадлівым і ніколі — абыякавым. Абыякавасць — гэта здзервянеласць і скасцянеласць сэрца. Абыякавы, раўнадушны — душэўна сляпы чалавек.

Памятай, што ёсць жыццё і смерць. Смерць чалавека — вялікае гора для сям'і. Умей спачуваць людзям у горы.

## СЛЕД У ЖЫЦЦІ

Чалавек нараджаецца не дзеля таго, каб знікнуць бясследна, нікому не вядомаю пылінкаю. Чалавек нараджаецца дзеля таго, каб пакінуць па сабе след вечны.

Ты жывеш дзеля таго, каб пакінуць сябе ў чалавеку. У гэтым найвышэйшае шчасце і сутнасць жыцця. Калі ты хочаш пасля смерці сваёй застацца ў сэрцы людскім — выхавай сваіх дзяцей.

Беражы і шануй памяць пра нябожчыкаў. У каго няма ў душы мінулага, у таго не можа быць і будучыні.

Кожны чалавек — гэта непаўторны свет. Пад кожным магільным каменем — сусветная гісторыя, — гаварыў нямецкі паэт Генрых Гейнэ. Умей пазнаваць гэты непаўторны свет, паважай самабытнасць чалавека, шануй яго асобу.

Могілкі — гэта людская святыня. Умей шанаваць і берагчы гэтую святыню.

Калі ў цябе памёр дзядуля ці бабуля памерла — ведай, што памерла часціна самога цябе. Трымай жалобу. Пэўны час ты не павінен хадзіць на розныя вясёлыя відовішчы, тым болей — на танцы.

Смерць маці, бацькі, брата, сястры — няўцешнае гора, страта, якую нічым не заменіш. Такое гора вымагае ад цябе не толькі вечна берагчы ў сэрцы памяць пра памёршых, але і быць мужным.

Магіла памёршага дарагога для цябе чалавека — гэта люстэрка тваёй душы. Забытая магіла — гэта твая бяздушнасць і абыякавасць. «Мёртвыя помсцяць жывым за непавагу да сябе», — кажа народная прымаўка.

Даражы здароўем бабулі, дзядулі, у іх не шмат гадоў у запасе — няхай шчасліва дажываюць свой век.





Бабулі і дзядулю — самае пачэснае месца ў доме. Дзяліся з імі сваімі радасцямі і поспехамі. Гэта іх радасць і ўцеха.

На свята заўсёды віншуй іх, забудзешся — зробіш ім крыўду.

Уважліва слухай, што гавораць табе, чаму вучаць цябе старыя. Яны маюць на гэта права. Умей браць у іх мудрасць жыцця.

Калі бабуля або дзед пасля сваёй смерці пакінулі дарагія іх сэрцу рэчы — рэліквіі — свята шануй іх, перадавай сваім дзецям і ўнукам.

Памятай, што і ты будзеш стары. Прыглядзься ўважліва да дзеда і бабулі — такім будзеш і ты праз некалькі дзесяткаў год.

Старасць спакойная, а таму і шчаслівая толькі тады, калі яе паважаюць дзеці і ўнукі, калі яны шануюць чэсць роду. Занядбанне і адзінота ў старасці — вялікае гора. Не ператварай старасць сваіх блізкіх і родных у такое гора.

Памятай, што бацька і маці далі табе жыццё і жывуць дзеля твайго шчасця. Беражы іх здароўе і спакой. Не рабі ім засмучэння і прыкрасці.

## НЕ ТОЛЬКІ ДЗЕЛЯ СЯБЕ

Умей кіраваць сваімі жаданнямі. Не ўсё, чаго табе хочацца, можа стаць рэальнасцю. «Калі хочаш загубіць чалавека, дай яму ўсё, чаго ён захоча», — гаворыць старадаўняе мудрае выслоўе.

Найбольшае шчасце для бацькоў — тваё сумленнае жыццё, твая працавітасць, твае поспехі. Нясі ў дом шчасце.

Калі людзі лічаць цябе благім чалавекам, гэта вялікае гора для тваёй маці і твайго бацькі. Па-сапраўднаму любіць бацьку і маці — гэта значыць прыносіць у дом, у сям'ю шчасце.

Калі твая маці вельмі стамілася на рабоце і ёй трэба адпачыць — зрабі ўсё, што табе па сіле, для яе спакойнага адпачынку.

Даражы чэсцю сям'і. Ведай, што твая сям'я — гэта не толькі бацька і маці. Гэта і вы, дзеці. Гэта і твае ўчынкі, і твае паводзіны.

Не патрабуй ад бацькоў немагчымага і непатрэбнага. Наогул, ты не маеш права патрабаваць ад сваіх бацькоў нічога. Яны даюць табе ўсё, што патрэбна і што могуць даць.

Будзь праўдзівы з бацькам і маці. Пытайся ў іх дазволу на тое, што без іх волі рабіць не можна. Памятай, што сапраўдная свабода сына і дачкі — быць паслухмянымі дзецьмі.

Расказвай бацьку і маці пра ўсе поспехі і няўдачы. Нічога не ўтойвай ад іх.

Умей адчуваць найтанчэйшыя рухі душы маці і бацькі. Хвароба кожнага з іх — не толькі тваё засмучэнне, але і асаблівая ўвага і клопат.

Калі ў сям'і гора, няшчасце, непрыемнасці — твая адказнасць за сям'ю павялічваецца яшчэ болей. Толькі сваёй душэўнай чуласцю, дапамогай і працай ты зможаш зрабіць палёгку сваім бацькам.

«Вялікае гора для бацькоў — ліхія дзеці, — гаворыць народная мудрасць. Ад ліхіх дзяцей хату трэба берагчы, як ад агню». І гэта залежыць не толькі ад бацькоў, а і ад вас — сына і дачкі.

Быць харошым чалавекам, прынесці шчасце маці і бацьку, не дапусціць, каб іх старасць стала іх горам — няхай усё гэта стане клопатам усяго твайго жыцця.

Чалавек — гаспадар сваіх жаданняў. Выхоўвай у сабе жаданні, вартыя Чалавека. Быць харошым чалавекам — гэта значыць, каб пра цябе гаварылі і думалі толькі харошае — і праз усё тваё жыццё, і пасля тваёй смерці.

## ЧУЙНАСЦЬ ТВАЙГО СЭРЦА

Жыць для людзей — гэта значыць быць сапраўдным сынам, сапраўднай дачкою сваіх бацькоў. Умей жыць для людзей. Гэтае ўменне не вывучаецца па падручніку. Яно набываецца жыццём, працаю.

«Любіць чалавецтва лягчэй, чым зрабіць дабро суседу», — пісаў калісьці ўкраінскі філосаф Скаварада. Умей рабіць дабро суседу.

«Харошыя дзеці — спакойная старасць, благія дзеці — старасць пераўтвараецца ў пекла», — кажа народная мудрасць. Памятайце, як вы абыходзіцеся са сваімі бацькам, маці, так і вашы дзеці будуць абыходзіцца з вамі.

Умей быць ласкавым і добрым да людзей.

Чаму мы звяртаемся да чалавека з просьбай і гаворым: **«Калі ласка»?** Што мы выказваем сваёй просьбай?

Чаму мы, сустрэўшыся са знаёмымі, гаворым: **«Добры дзень»?** Што выказвае гэтае вітанне? Які сэнс закладзены ў ім?

Што азначае пажаданне: **«Добрага вам здароўя?»** Чаму мы выказваем такое пажаданне? У якіх выпадках народная мараль вымагае гэтага пажадання?

Умей звяртацца да чалавека з просьбай. Умей адчуць, што ёсць такія хвіліны, калі да чалавека не можна звяртацца ні з якой просьбай.

Умей адчуць, што для чалавека, да якога ты звяртаешся, у гэты момант твая просьба можа быць недарэчнай, можа быць абразаю і нават дзікунствам.

У чалавека гора, а ты запрашаеш на танцы — значыць, ты маральны невук.

Трэба быць чулым да чужога гора, да чужых засмучэнняў. У прысутнасці чалавека, які нядаўна перажыў гора, недарэчна, нетактоўна весяліцца.

У вашага сябра цяжка захварэла маці, яе жыццё ў небяспецы. Ваш таварыш у бядзе, у горы, а вы прызначылі на гэты дзень вясёлую калектыўную пагулянку. Падумайце, што трэба зрабіць.

Умей выказаць спачуванне свайму сябру, знаёмаму ў яго бядзе. І не толькі словамі, а і справаю — гэта самае галоўнае.

## ПЕРАМОГА НАД САБОЙ

З маленства, з юнацкіх год навучыся выяўляць душэўную мужнасць, душэўную адвагу — укладаць свае духоўныя сілы ў чалавека, які табе, здавалася б, чужы. Хай неспакойным будзе тваё сэрца ад таго, што побач з табою чалавек пакутуе.

«Чалавек асабліва голасна крычыць, калі ў яго баліць», — заўважыў Максім Горкі. Але ўмей пачуць не толькі галоснае, але і маўклівае гора.

Ведай, што ў чалавека ёсць род — браты, сёстры, дзеці братоў і сясцёр твайго бацькі і маці. Не забывайся пра свой род. Шануй чэсць роду.

Памёр твой настаўнік — пайдзі на пахаванне. Гэты чалавек, як і бацька і маці, уклаў у цябе часцінку сваёй душы.

Спачуванне, калі за ім няма ніякага ўзрушэння пачуццяў, — горш за абыякавасць.

У чалавека радасць — яго трэба павіншаваць. З чым можна і з чым не можна віншаваць? Які маральны сэнс укладаем мы ў слова віншую?

Высокаю людскою радасцю ёсць **нараджэнне чалавека.** Павіншаванне з днём нараджэння — гэта адзін з элементарных паказчыкаў этычнай культуры.

Колькі чалавек у сям'і — столькі і дзён нараджэння. На ўсё жыццё запомні дзень нараджэння маці, бацькі, бабулі, дзеда, братоў, сясцёр, сябра. У гэты дзень віншуй іх і рабі падарунак.

Падарунак на свята нараджэння — выяўленне тваёй культуры. Падарунак — сімвал, памяць сэрца.

Умей зрабіць або выбраць падарунак. Лепшы падарунак для маці — кветкі, якія ты вырасціў сваімі рукамі. Добры падарунак — малюнак, верш, альбом, у якім твае малюнкі і вершы.

Непрыгожа прасіць у маці ці бацькі грошы, каб купіць ім падарунак на дзень нараджэння. Здолей адмовіць сабе ў самым неабходным, каб купіць падарунак, калі сам не можаш зрабіць уласнымі рукамі.





Не забудзь дня нараджэння **старога свайго настаўніка.** Няхай у гэты дзень нагадае яму пра сябе як мага болей яго выхаванцаў.

Пасадзі каля свайго дома Яблыню Маці, Яблыню Бацькі, Яблыню Бабулі, Яблыню Дзеда.

Першыя плады з гэтых дрэў — маме, бабцы, бацьку, дзеду. «Што аддаў — тваё, што схаваў — страчана навекі», — сказаў вялікі грузінскі паэт Руставелі.

Нават калі ты жывеш у вялікім горадзе, дык і там можна вырасціць у кватэры Сад Маці, Сад Бацькі. Галоўнае — умець адчуваць і любіць працу.

Заўсёды заставайся дзіцем сваёй маці, таму што ты для яе нават у 60 год, нават у 70 год — дзіця. Пытайся ў яе парады, нясі ёй свае радасці і засмучэнні.

Ты стаў камсамольцам, атрымаў пашпарт — нясі сваю радасць бацькам.

Ты атрымаў свой першы заработак — купі падарунак маці, бабулі. Гэты падарунак — твая ўдзячнасць.

Паслухмянасць маці, бацьку — гэта школа этычнага самавыхавання. Умей даваць маці, бацьку слова, абяцанне, умей заўсёды выканаць іх. Прымушай сябе рабіць тое, што **неабходна, трэба, належыць.**

Калі ты не навучыўся быць паслухмяным перад воляю маці, бацькі, ты не зможаш стаць дысцыплінаваным чалавекам.

«Найбольшая перамога — гэта перамога над сабой», — сказаў вядомы савецкі пісьменнік Леанід Ляонаў. З малых год вучыся загадваць сам сабе.

Загадваць самому сабе, валодаць сабою — значыць выпрацоўваць, загартоўваць характар, волю.

Калі ты ўмееш быць толькі паслухмяным — ты застанешся бледным ценем чалавека. Сапраўдны чалавек умее загадваць сам сабе і быць паслухмяным сваёй суровай волі.

Ты станеш сапраўдным чалавекам толькі тады, калі спазнаеш, што такое цяжка. Калі ў маленстве, у малалецтве, у раннім юнацтве табе было ўсё лёгка — ты можаш вырасці пустацветам.

Не выбірай лягчэйшага шляху, не палохайся цяжэйшага. Пераадоленне цяжкасцей падымае чалавека. Той, каму нясцерпна цяжка і хто перамог цяжкасці, падобны на альпініста, што падняўся на самую высокую вяршыню.

Калі ты ў гады малалецтва і ранняга юнацтва не навучышся перамагаць цяжкасці — ты бязвольны на ўсё жыццё.

Пастаў над сабою і сто настаўнікаў — яны не навучаць цябе, калі ты не здолееш сам прымушаць сябе і сам патрабаваць ад сябе.

Калі чалавека прымушаюць працаваць іншыя, прымушаюць вучыцца іншыя, прымушаюць быць харошым сынам, харошай дачкою сваіх бацькоў і харошымі бацькамі сваіх дзяцей іншыя, — такі чалавек — цяжар, бяда для грамадства.

## ДА ЧАЛАВЕКА ПРЫЙШЛО КАХАННЕ

Ты адчуў сімпатыю да дзяўчыны. Гэта ў табе прачнулася спрадвечнае пачуццё прадаўжэння роду. Гэтае пачуццё чалавек зрабіў самым узвышаным, высакародным.

Ты — чалавек. Але твой спрадвечны інстынкт, калі ён не стане людскім разуменнем кахання, можа прывесці цябе да становішча «двухногага казла».

Бойся стаць «двухногім казлом». Маральнае невуцтва і дзікунства ў пачуццях, у каханні робяць нашаму грамадству найвялікшую шкоду. Той, хто лічыць каханне толькі задавальненнем, прыносіць іншым людзям гора, слёзы, няшчасце.

Дзеці, пакінутыя бацькамі, дзеці, якія не ведаюць сваіх бацькоў, дзеці, бацькі якіх не рады, што іх дзеці з'явіліся на свет — усё гэта вынікі ды-

мучага невуцтва ў сферы таго, што мусіць быць самым узвышаным і чыстым у людскіх пачуццях.

Інстынкт, патрэба прадаўжэння роду — гэта толькі адзін пялёстак у кветцы кахання. Чалавека ад жывёлы адрозніваe адказнасць за свае ўчынкі, за будучыню. Каханне вядзе да нараджэння новага чалавека.

Паважай дзяўчыну, беражы яе чэсць, годнасць і гордасць. Памятай, што дзяўчына, якую ты пакахаў, — гэта твая будучая жонка, маці тваіх дзяцей, яна, толькі адна яна, здольна паўтарыць цябе.

Душа людская невычэрпная ў лепшых пачуццях. Каханне — гэта вялікае выпрабаванне, якое вымагае, па словах К. Маркса, найвышэйшага напружання сіл. Гэтыя сілы лёгка можна патраціць на дробязі — не забывайся пра гэта.

Кахаць — гэта аддаваць сілы сваёй душы, укладаць іх у чалавека, якога кахаеш. «У харошага мужа і жонка харошая, у харошае жонкі і муж харошы», — гаворыць народная прымаўка.

Кахаць — гэта не значыць быць толькі ў фізічнай блізкасці. Калі ты думаеш, што шлюб і доўгія гады сямейнага жыцця могуць трымацца толькі на фізічнай блізкасці — ты невук у маральных уяўленнях, а ў жыцці можаш стаць нягоднікам.

Перад тым, як палюбіць у дзяўчыне жонку, палюбі ў ёй чалавека.

Для таго, каб быць верным каханаму чалавеку ўсё жыццё, трэба ўсё жыццё бачыць яе прыгажосць, аддаваць ёй свае духоўныя сілы, укладаць у яе сілы сваёй душы. Але трэба мець **што аддаваць** — памятай гэта.

«Кахаць — гэта не значыць глядзець адзін на аднаго. Гэта значыць — глядзець наперад у адным кірунку», — сказаў французскі герой-лётчык і выдатны пісьменнік Сент-Экзюперы.

Шануй чэсць змоладу. Не раскідай па драбніцы сілы сваёй душы. Калі будзеш раскідацца ў юныя гады, калі будзеш бясконца захапляцца — увойдзеш у сваю сталасць чалавекам з пустой душою.

Любоў твая да жонкі, твая любоў да мужа — гэта сфера найтанчэйшага духоўнага жыцця. Самая моцная і высакародная любоў у чалавека тады, калі яна адзіная на ўсё жыццё.

Быць адданым, верным сваім пачуццям — гэта значыць захаваць часцінку сябе ў любімым чалавеку. Здрадзіць свайму каханню — гэта значыць зруйнаваць багацце і красу, створаныя намаганнямі сваёй душы.

Улюбёны ў сябе не можа быць здольным на сапраўдную любоў. Эгаізм — гэта атрута для любові. Калі ты эгаіст — лепш не ствараў сям'і.

Жыццё сямейнае — гэта не асалода вячэрніх сустрэч. Гэта вялікае ўмельства кіраваць сваімі жаданнямі, абмяжоўваць свае жаданні.

Жыць сям'ёю — значыць адказваць за другога чалавека, адказваць за будучыню дзяцей.

## САМЫ АДКАЗНЫ КРОК У ЖЫЦЦІ

Стаўшы мужам, ты стаў грамадзянінам двойчы. Сям'я — моцны і жыватворны корань, што жывіць дрэва, імя якому — сацыялістычнае грамадства.

Перад тым, як ствараць сям'ю, правер сябе, ці гатовы ты да гэтага: 1) ці няма ў тваёй душы чэрствасці, абыякавасці, эгаізму; 2) ці забяспечыш ты сям'ю матэрыяльна, таму што жонка твая можа працяглы час і не працаваць — яна выхавацельніца тваіх дзяцей.

Перад тым, як ажаніцца, выйсці замуж, трэба параіцца з бацькамі. Іх жыццёвы вопыт дапаможа табе зрабіць самы адказны крок у жыцці.

Алкагалізм — самы злосны вораг шчасця. Калі твае дзеці зачаты ў «п'яную хвіліну» — яны могуць нарадзіцца знявечанымі на ўсё жыццё.

Галоўны сэнс і мэта сямейнага жыцця — выхаванне дзяцей. Галоўная школа выхавання дзяцей — гэта ўзаемаадносіны паміж бацькам і маці.

Выхаванне дзяцей — сумесны адказны абавязак. У выхаванні, у фармаванні новага чалавека кожны можа дасягнуць вяршыні дасканаласці — стаць сапраўдным майстрам, мастаком, паэтам, мудрацом, вялікім грамадскім дзеячам.





## У ЧЫМ ЯНО, ШЧАСЦЕ СЯМ'І?

Бацька мусіць ведаць, што найважнейшая сфера яго грамадскай дзейнасці, яго патрыятычнага служэння Радзіме — гэта выхаванне сваіх дзяцей, гэта — сям'я.

Любога работніка — ад стоража да міністра — можна замяніць такім жа або яшчэ болей здатным работнікам. Харошага ж бацькі замяніць такім жа харошым бацькам немагчыма.

Маці з дзіцем на руках, маці над калыскай. Яна творыць будучыню, яна творыць веліч нашай Радзімы. Маці — слуга Дзяржавы.

З таго часу, як вы пачулі крык свайго дзіцяці, пачалася ваша выключна важная грамадская дзейнасць.

Вы выхоўваеце дзяцей сваіх кожным сваім крокам, кожным учынкам. Першыя ўяўленні ў дзяцей пра дабро і зло, гонар і знявагу, справядлівасць і ашуканства складаюцца на падставе таго, **што яны адкрываюць у сваіх бацьках.**

Харошыя ці благія дзеці — гэта люстэрка вашай маралі, вашых паводзін, вашай культуры.

Калі ты грубы, бессардэчны са сваёй маці, бацькам, такімі ж будуць і твае дзеці. У маральных адносінах усё «паўтараецца спачатку».

Умей любіць маці тваіх дзяцей; умей даражыць яе здароўем, чэсцю, красою. Маці тваіх дзяцей — гэта жанчына двойчы, тройчы, колькі ў цябе дзяцей — столькі разоў яна жанчына.

Сямейнае жыццё не можа быць і ніколі не бывае суцэльным святам. Умей дзяліць не толькі радасці, а і гора, бяду, непрыемнасці.

«Жанчына стала рабыняю раней, чым паявіўся раб», — трапна заўважыў нямецкі рэвалюцыянер і філосаф Аўгуст Бебель. Умей усцерагчы яе ад пакут дамашняга рабства. Як агню, бойся ўласнага тыранства.

У сямейным жыцці трэба ўмець раіцца з думкамі, перакананнямі і пачуццямі другога чалавека. Трэба ўмець саступаць адно аднаму.

Самае вялікае, але і самае нялёгкае шчасце, якое ты павінен даць сваім дзецям, — гэта шчасце працы.

У тваёй сям'і заўсёды павінна быць павага да чалавека і да працы.

Умей мужна перамагчы гора, няшчасце, якія могуць спасцігнуць тваю сям'ю. Бо, як зазначае М. Горкі, усё «тое, што прыгожае, прыгожае і тады, калі вяне».

## САМЫЯ ЗАПАВЕТНЫЯ ПАЧУЦЦІ ЧАЛАВЕКА

Пачуцці адданасці і вернасці выпрабоўваюцца часам. Ведай, што твая маладая жонка-прыгажуня стане старою, а ты — старым. Сапраўдная любоў — любіць да скону дзён. Любіць і тады, калі чалавек памёр. Любіць памяць пра чалавека. «Тое, што мы любім, мы любім і тады, калі паміраем» (М. Горкі).

Каханне — інтымнае, запаветнае пачуццё. Беражы таямніцы кахання. Даражы чэсцю дзяўчыны.

Не выстаўляй напаказ свае інтымнае, таемнае, запаветнае. Абдымацца на вачах у людзей — амаральна і пошла.

Словы пра каханне ў людскіх вуснах могуць быць толькі самыя ўзвышаныя і чыстыя. Калі ты вымавіў брудныя, ганебныя — ты зняважыў сваю маці.

Дзяўчына, будзь мудраю і патрабавальнаю ў каханні. Гэта — гарачае пачуццё, але ўладаром над ім мусіць быць людскі розум, разважлівасць.
Ты — будучая маці. Прыродаю ўскладзена на цябе найвялікшая адказнасць. Ты жанчына, а сапраўдная жаноцкасць — гэта спалучэнне пяшчотнасці і суровасці, ласкі і непахіснасці.
Памятай, што твая мудрасць, стрыманасць, патрабавальнасць — галоўныя выхавацелі юнацтва. Мудрасць жанчыны выхоўвае сумленнасць мужа.
Толькі дзякуючы суровасці і патрабавальнасці дзяўчыны — жанчыны юнак становіцца сапраўдным мужчынам.
Дзяўчына, памятай, што ў жыцці ёсць аматары лёгкіх асалод. Умей пазнаваць «двухногіх казлоў», як трапна ахрысціў іх М. Горкі.
Калі б усе дзяўчаты былі строгія і патрабавальныя, маральнасць грамадства стаяла б у нас на вышэйшым узроўні.
Дзяўчына, памятай, што чалавек, якому чарка гарэлкі прыносіць болей асалоды, чым кніга, не можа прынесці табе шчасця.
Каханне і лёгкадумнасць несумяшчальныя. Ты рызыкуеш стаць няшчасным чалавекам, калі паспяшаешся хутчэй «выскачыць замуж».
Свайму мужу ты давяраеш сваё жыццё. Не вер байкам, што «з мілым рай і ў будане».
Не можа стаць надзейным мужам той, хто не можа быць верным другам.
Дзяўчына, для таго, каб быць любаю, трэба быць разумнаю, багатаю душой і сэрцам.
Невуцтва, убоства розуму і пачуццяў у нашы дні — маральная загана.

## ЛЮДСКАЯ ЎДЗЯЧНАСЦЬ

Людская выхаванасць немагчыма без людской удзячнасці. Калі ў шчаслівага чалавека няма пачуцця ўдзячнасці — ён халодны, бяздушны эгаіст.
**Умей дзякаваць і быць удзячным.** Найперш дзякуй маці і бацьку за тое, што яны даюць табе шчасце быцця, рупяцца і клапоцяцца пра цябе.
У чым маральны сэнс слова **дзякуй?** Паміж старэйшымі і малодшымі ў сям'і заўсёды павінны быць **узаемаадносіны ўдзячнасці.** Там, дзе пануе ўдзячнасць, не можа быць безуважнасці, абыякавасці паміж людзьмі.
Для таго, каб тваё слова ўдзячнасці адгукнулася ў сэрцах тых людзей, да якіх ты звяртаешся, удзячнасць павінна жыць у **тваіх пачуццях.**
Умей дзякаваць старэйшым, асабліва дзеду, бабулі, і, наогул, старым людзям за тое, што яны вучаць цябе. Пачуў пахвалу — дзякуй і абяцай жыць па-людску. Пачуў дакор, папрок, заўвагу — дзякуй за тое, што цябе вучаць жыць па-людску.
Умей дзякаваць настаўніку. Выслухаўшы добрую параду, дзякуй за навуку. Пачуўшы самыя горкія, самыя суровыя словы, таксама дзякуй за навуку.
Дзякуй за найменшае дабро, зробленае дзеля цябе, будзь удзячны за чуласць, за паслугу. Дзякуй за тое, што за цябе заступіліся, і за тое, што ўтрымалі ад неабдуманага кроку, што паказалі табе тваю памылку.
Высокі гонар для чалавека — заслужыць удзячнасць другога чалавека. Заслужыць удзячнасць бацькі і маці — яшчэ большы гонар.

## ЧАЛАВЕК МІЖ ЛЮДЗЕЙ

Заўсёды думай, як твае ўчынкі ацэньваюцца і перажываюцца людзьмі, сярод якіх ты жывеш, працуеш. Не ўсё тое, што прыемна і даспадобы табе, прыемна і даспадобы іншым.
Непрыстойна парушаць цішыню ў прысутнасці іншых людзей, асабліва там, дзе цішыня — галоўная ўмова адпачынку. У чалавека незнаёмага трэба спытацца дазволу звярнуцца да яго.



Непрыстойна, нетактоўна, дзіка насіць з сабой радыёпрыёмнік і ўключаць яго ў прысутнасці іншых людзей. Гэта — дрымучае невуцтва і хамства.
Беражы і шануй чуласць, уражлівасць, кволасць іншага чалавека. Не рабі іншым зла, абразы, болю, трывогі, неспакою.
Калі ты дапусціў нетактоўнасць, прычыніў зло, абразу, боль, трывогу іншаму чалавеку, умей перапрасіць, прынесці яму сваё выбачэнне, выказаць сваё засмучэнне.
Адчуванне віны і вінаватасці — высакароднае пачуццё выхаванага чалавека. Не адчувае, не перажывае віны толькі дурань і дрымучы маральны невук.
Адчуванне правіннасці, дакору сумлення — гэта не самабічаванне, а імкненне да высокай чалавечнасці, да маральнай чысціні.
За якія неасцярожныя, лёгкадумныя, памылковыя ўчынкі трэба абавязкова прасіць прабачэння — кожны чалавек адчувае сваім сумленнем, чуласцю сэрца.
Трэба развіваць у сабе эмацыянальную чуйнасць і эмацыянальную памяць — памяць сэрца.
Найважнейшаю школаю выхавання тваёй чуласці і эмацыянальнай памяці ёсць тваё стаўленне да маці, да дзяўчыны, да жанчыны. Стаўленне да жанчыны — найтанчэйшая мера душэўнай чысціні.
Тваё абыходжанне з людзьмі — найтанчэйшае дакрананне да іх пачуццяў. Ведай, што кожнае тваё няўдалае слова можа зняважыць, засмуціць, уразіць, збянтэжыць, збіць з тропу...
Пра што можна і пра што не можна гаварыць у прысутнасці чалавека, які перажыў або перажывае гора, — няхай вам падкажа ваша сэрца.
Што такое людскія слабасці, якія нікому не робяць зла? — Відаць, пэўныя звычкі. Ёсць яны ў кожнага з нас.
Будзь цярплівым да людскіх слабасцей. Умей быць асабліва цярплівым да слабасцей старых людзей. Умей не заўважаць гэтых слабасцей.
Праяўляй выключную чуласць і тактоўнасць у абыходжанні з людзьмі, якія маюць фізічныя недахопы.
Пра што можна гаварыць і пра што не можна гаварыць у прысутнасці цяжка хворага — ведае кожны, хто мае чуйнае сэрца.
Што можна выказваць у сваім пажаданні старому чалавеку і чаго не можна — няхай падкажа вам ваша душэўная чуласць.
Пра што непрыстойна гаварыць у прысутнасці дзяўчыны, асабістае жыццё якой склалася нешчаслівае або няўдала, — падкажа вам ваша душэўная тактоўнасць.

## ЯК ПАДКАЗВАЕ СУМЛЕННЕ

Не можна блытаць людскія слабасці і зло. Супраць зла трэба змагацца. Зло нельга цярпець. Прымірыцца са злом — значыць, самому стаць амаральным чалавекам.
Найвялікшае зло, па вызначэнні Дастаеўскага, — «жыць дзеля ўласнага чэрава», быць яго эгаістам, не бачыць нічога далей свайго парога, не адчуваць трывог, болю і клопату грамадства.
Твае актыўныя адносіны да зла — гэта, перш за ўсё, твая нянавісць да яго. Ужо тое, што ты ненавідзіш зло, — ёсць твая барацьба з ім.
Калі бачыш зло ў сям'і — кажы маці, бацьку, бабулі, дзеду тое, што думаеш пра зло. Паўставай, будзь змагаром супраць зла.
Вялікае зло — крывіць душой, быць двудушным, падхалімам і прыстасаванцам. Умей пазнаваць гэтае зло ў розных праявах.
Першае ўзрушэнне сумленнае душы — самае высакароднае. Не раздумвай, што рабіць, убачыўшы зло, — змагацца супраць яго ці зрабіць выгляд, што не бачыш. Рабі так, як загадваюць сэрца, сумленне. Высакародныя пачуцці — верныя вартавы сумлення.
**Вялікае зло — прыніжаць годнасць чалавека,** здраджваць сябру, жонцы, дзецям, быць здраднікам вялікага людскога абавязку мужа, бацькі, маці, жонкі.

Здраджваць у сяброўстве, у бацькоўстве — недаравальнае злачынства. Да яго не можна заставацца абыякавым.

Здрадніку не падаюць руку, яго не запрашаюць у кампанію, з ім не садзяцца за адзін стол, на яго глядзяць з пагардай.

Вялікае зло — абыякавасць. Абыякавы, раўнадушны чалавек тоіць у сабе вялікую небяспеку для іншых людзей, для грамадства.

Мужны чалавек хутчэй на смерць пойдзе, чым здрадзіць сваім перакананням.

Найвялікшае зло нашага грамадства — п'янства. Калі твой бацька п'яніца, — не ідзі па яго слядах. Калі ў цябе хопіць сіл — уратуй яго ад пагібелі.

П'янства — агіднае прыніжэнне чалавека. П'яніца часта сам сябе даводзіць да становішча жывёліны.

Вялікае зло — гэта лянота, нядбальства, прагнасць да лёгкага жыцця. Нідзе і ніколі не мірыся з гэтымі ганебнымі праявамі ў сваім асяроддзі.

## ЖЫЦЬ ІНТАРЭСАМІ ГРАМАДСТВА

Дарагі мой дружа! Заўсёды кіруйся інтарэсамі грамадства. Будзь сапраўдным мужчынам. «Мужчына, не захоплены грамадскімі інтарэсамі, — толькі істота, падобная на чалавека, якая голіць вусы і бараду», — зазначаў М. Г. Чарнышэўскі.

Веды — зброя ў барацьбе за камунізм. У багацці ведаў членаў грамадства — моц нашай дзяржавы.

Авалодваючы матэматыкай, фізікай, хіміяй, біялогіяй, ты рыхтуешся служыць Радзіме сваім розумам, сваімі ведамі.

Лянота, нядбальства, слабаволле ў навучанні азначаюць, што ты закладаеш корань свайго паразітычнага існавання ў гады сваёй сталасці.

Будзь мужчынам у навучанні, мой дружа! Твая годнасць і гордасць — вучыцца ў поўную меру сваіх сіл. Годнасць мужчыны — не быць паразітам, дармаедам. Зневажай ляноту думкі.

Найвялікшае багацце, якое здабываецца ў гады маленства, малалецтва і юнацтва, — гэта веды.

Дзень без думкі, без чытання, без разумовага напружання — марна пражыты дзень. Небяспека, якое трэба баяцца, — марнатраўства часу.

«Навучанне без выхавання — гэта меч у руках вар'ята», — вельмі вобразна сказаў вялікі рускі вучоны Мендзялееў.

Умей заўсёды ставіць свае веды на службу Савецкай Айчыне, камуністычным ідэалам.

Як агню бойся ў юныя гады пустаты душы, лёгкасці ў думках, танных разваг.

Вучыся думаць, шукаць, здабываць веды. «З усіх народаў першым заўсёды будзе той, што апярэдзіць іншых у галіне думкі і разумовай дзейнасці», — сказаў славуты французскі вучоны Луі Пастэр, якому за яго выдатныя адкрыцці ўдзячна ўсё чалавецтва.

## ЦІ ЛЮБІШ ТЫ КНІГУ?

Самай галоўнай крыніцай ведаў, невычэрпнай крыніцай твайго духоўнага ўзбагачэння ёсць кніга. Стварай сваю бібліятэку. Чытай і перачытвай кнігі.

Чытанне — гэта праца, творчасць, напружанне духоўных сіл.

Умей стрымаць сябе ад спакусы захапіцца заняткам, у якім мінімум напружання і максімум задавальнення. Лёгкія, бяздумныя задавальненні нясуць чалавеку толькі ўбоства думкі і душы.

Жыві ў свеце думак, авалодвай ідэямі, выхоўвай у сабе ўласную пазіцыю, перакананні, погляды.

Умей мысліць. Умей думаць, чытаючы, і чытаць, думаючы.





«Каля ўваходу ў навуку, як і каля ўваходу ў пекла, павінна быць выстаўлена патрабаванне: «Тут трэба, каб душа была цвёрдаю; тут страх не можа даваць парады», — вось запавет К. Маркса. Дамагайся шчасця працы над кнігаю.

Старайся зрабіць болей, чым табе задаюць. Стаў перад сабою задачы і заданні сам.

Ніколі не адкладвай работу на заўтра. Прымусь сябе зрабіць сягоння частку таго, што трэба зрабіць заўтра.

«Когіто, эрго сум». У перакладзе з латыні гэта: думаю — значыць, жыву.

«Умей сказаць сабе: я невук», — даваў добрую параду акадэмік Паўлаў. Ведайце, што курс сярэдняй школы — гэта толькі азбука навукі.

«Калі хочаш, каб у цябе было мала часу, нічога не рабі». У гэтай жартоўнай парадзе А. П. Чэхава закладзены глыбокі сэнс.

## ВЫСОКАЕ ЗВАННЕ КАМУНІСТА

Наша Радзіма — вялікі Савецкі Саюз. Ты сын краіны, дзе сто гадоў таму назад нарадзіўся Уладзімір Ільіч Ленін — вялікі правадыр працоўных усяго свету, стваральнік нашай савецкай дзяржавы, заснавальнік Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Любі веды, навуку, кнігу, працу, любі свой народ, як любіў наш вялікі правадыр.

Высокае званне камуніста-ленінца — гэта ідэал нашай маралі, нашых паводзін, нашага жыцця, нашай працы ў імя шчасця, велічы і магутнасці Савецкай Радзімы.

Запаветы Уладзіміра Ільіча Леніна — гэта тая светлая дарога твайго жыцця, ідучы па якой, ты станеш чалавекам, вартым нашай вялікай Радзімы.

Ты жывеш у многанацыянальнай дзяржаве, народы якой яднаюцца ў адну сям'ю непарушнаю ленінскаю дружбаю. Кожны працоўны нашай Радзімы, да якога б народу ён ні належаў, — твой суайчыннік, брат і друг.

Кожны працоўны і прыгнечаны, у якім бы куточку зямное кулі ён ні жыў, — твой друг і таварыш. Капіталісты, эксплуататары — ворагі нашай Радзімы, ворагі тваёй сям'і, твае асабістыя ворагі. Умей горача ненавідзець ворага, будзь гатовы да абароны Савецкай Радзімы.

Не крычы пра любоў да Радзімы, а працуй дзеля яе дабра, шчасця, незалежнасці і магутнасці.

«Патрыятызм — пачуццё самае сарамяжлівае», — заўважыў найвялікшы рускі патрыёт Л. М. Талстой. Шануй святыя словы, не раскідайся імі.

Даражы імем, чэсцю, годнасцю сваіх бацькоў.

Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях.

Многіх савецкіх людзей Радзіма пасылае працаваць далёка за свае рубяжы, напрыклад, у краіны, якія развіваюцца, будуюць новае жыццё. У якім бы далёкім куточку нашай планеты ты не апынуўся, выконваючы свой абавязак, памятай, што ты сын сацыялістычнай Радзімы. Па тым, як ты паводзіш сябе, як працуеш, людзі мяркуюць пра тое, якая наша краіна, які наш народ.

Радзіма — твой дом, твая калыска. У родным доме не ўсё гладка і не заўсёды ўсё добра. Ёсць у нас свае беды і болі. Гаворачы пра іх, памятай: ты гаворыш пра беды і болі свайго роднага дома.

Для таго, каб мець маральнае права гаварыць пра беды і болі свайго народа, каб адзін раз сказаць, трэба дзесяць раз зрабіць што-небудзь канкрэтнае для ўзвышэння і ўмацавання сваёй Радзімы.

Крычаць пра недахопы — для гэтага вялікага розуму не трэба. Зневажай дэмагогію і балбатню. Думай і рабі ўсё дзеля таго, каб перамагалі дабро і справядлівасць.

Ты сустрэў чалавека на мыліцах і з медалем на грудзях. Нізка пакланіся інваліду Вялікай Айчыннай вайны. Ён грудзьмі бараніў жыццё тваіх бацькоў. Дзякуючы яму, ты жывеш на свеце — шчаслівы і вольны.

Сустрэўшы воіна, афіцэра Савецкай Арміі, пакланіся ім: яны берагуць тваё жыццё, тваё шчасце.

Беражы сямейныя рэліквіі Вялікай Айчыннай вайны — пісьмы твайго дзеда і прадзеда, медалі і ордэны, фотакарткі. Гэта — чэсць твайго роду.

Беражы і шануй помнікі мінуўшчыны, старыя кнігі, рукапісы. Гісторыя нашага народа — гэта тваё духоўнае багацце.

## У ІМЯ ШЧАСЦЯ НАРОДНАГА

Дзе б ты ні быў — у чарзе ў магазіне ці ў аўтобусе, у тэатры ці ў клубе — ніколі не забывай, што самаю галоўнаю нормаю тваіх паводзін ёсць павага да Чалавека.

Будзь высакародным у сяброўстве і ў таварыскасці.

Не кідай слова на вецер, не давай лёгкадумных абяцанак. Заўсёды будзь гаспадаром свайго слова.

Умей слухаць старэйшых. Умей даражыць мудрасцю мінулых пакаленняў. «Слова — срэбра, маўчанне — золата», — гаворыць даўняя народная прымаўка.

Трэба ўмець тактоўна запярэчыць, калі ты не згодны з кім, але яшчэ большага цярпення дамагайся ад сябе ва ўменні слухаць пярэчанні іншых.

Паважай савецкія законы. Закон — гэта канцэнтрацыя шматвяковай мудрасці і шматвяковага імкнення народу да перамогі дабра. Закон ахоўвае і аберагае, перш за ўсё, цябе, тваю сям'ю, тваё шчасце, будучыню тваіх дзяцей.

Парушаць савецкі закон — гэта ўсё адно, што падсякаць галіну, на якой ты сядзіш.

Умей падпарадкавацца закону, дысцыпліне, нормам сацыялістычнага жыцця. Уменне падпарадкавацца самым гуманным у свеце законам — найвышэйшае выяўленне свабоды.

Не будзь бязмоўным, абыякавым сведкам парушэння закону. Калі ты хоць раз заплюшчыш вочы на што-небудзь, ты прывыкнеш заплюшчваць вочы на ўсё — гаворыць народная мудрасць.

## ЗАПАВЕТНАЯ МЭТА ТВАЙГО ЖЫЦЦЯ

«Нікчэмны той, хто жыве без ідэалу», — сказаў славуты рускі пісьменнік І. С. Тургенеў.

У скарбніцы маральных багаццяў чалавецтва ўмей знайсці свой ідэал.

Умей не толькі глядзець, але і бачыць. Выпрацоўвай свае погляды на свет. Дзеля таго, каб мець свой пункт погляду, трэба ўкласці часцінку сэрца ў тое, што наўкол цябе, побач з табою.

Светапогляд выпрацоўваецца толькі тады, калі побач з табою ёсць штосьці дарагое для цябе, да стварэння чаго прыкладзены твае рукі, твой розум, твая душа.

Без гарэння сэрца для стварэння дарагога і святога самыя правільныя ісціны застануцца для цябе мёртвымі і халоднымі літарамі. Іх можна прачытаць, скласці з іх словы, але яны не закрануць твае душы.

У шаснаццаць гадоў ты павінен ужо свядома паставіць перад сабой пытанне: дзеля чаго я жыву на свеце? І даць на яго адказ грамадзяніна.

У шаснаццаць гадоў, азірнуўшыся назад, ты ўжо мусіш убачыць плён сваёй працы, зрабіць першы падрахунак свайго жыцця.

Ты не толькі будучы працаўнік, але і воін. З малых год рыхтуйся да ваеннай службы. Будзь моцным, цярплівым, не бойся цяжкасцей.

З малых год вучыся быць верным слову, прысязе. Вернасць слову — твая асабістая чэсць.



«Сам прападай, а таварыша выручай», — патрабуе народная мараль, у якой закладзена глыбокая мудрасць.

Прысвяціць сваё жыццё абароне Айчыны — вышэйшы абавязак і чэсць савецкага юнака.

«Багацце страціш — не шмат страціш, годнасць страціш — шмат страціш. Мужнасць страціш — усё страціш, лепей бы табе зусім не нарадзіцца», — сказаў вялікі паэт і філосаф Гётэ. Выхоўвай у сабе мужнасць.

Самае цяжкае — гэта мужнасць штодзённай, шматгадовай працы. Знайдзі сабе ідэал гэтай мужнасці і неадступна ідзі за ім.

Не хныкай перад цяжкасцямі. Мужнага чалавека можна забіць, можна спаліць, але перамагчы немагчыма.

**Пераклад з украінскай мовы.**



*Дарагая рэдакцыя!*

***Я заканчваю дзесяты клас. Мару стаць педагогам. Напішыце, калі ласка, пра ўступныя экзамены па мове і літаратуры для паступаючых на філалагічны факультэт педінстытута. Якая была летась і будзе сёлета праграма ўступных экзаменаў?***

*Высокаўская сярэдняя школа Аршанскага раёна.* *Ніна Шапавалава.*

# КАЛІ ХОЧАШ СТАЦЬ НАСТАЎНІКАМ

Кожны, хто паступае ў педінстытут, павінен падумаць, робіць ён гэта свядома, па прызванні, ці мяркуючы, што сюды лягчэй трапіць. Конкурс пры паступленні ў Мінскі педагагічны інстытут у апошнія гады быў даволі вялікі. На тое, што лёгка паступіць у інстытут, спадзявацца нельга. Добра, калі ўжо за школьнай партай юнак ці дзяўчына пераканаліся, што ім падабаецца прафесія настаўніка, што іх сапраўды цікавіць высакародная, але нялёгкая праца педагога. Юры Гагарын сказаў неяк: «Гэта так важна — з дзяцінства вызначыць свой жыццёвы шлях і ісці па ім, не збочваючы».

Адразу скажам — прафесія педагога не церпіць абыякавых. Раўнадушны чалавек не здолее стаць сапраўдным настаўнікам.

Для здзяйснення мары неабходны веды. Тыя, што выбіраюць філалагічны факультэт, павінны добра засвоіць змест усіх праграмных твораў мастацкай літаратуры, разбірацца ў іх ідэйнай накіраванасці. Пры аналізе твора неабходна ўлічваць яго мастацкае, гістарычнае і грамадскае значэнне.

Важна пры гэтым ведаць напамяць вершы і ўрыўкі з празаічных твораў, умець правільна, выразна іх прачытаць.

Праграмай для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы прадугледжваецца таксама засваенне асноўных звестак па тэорыі літаратуры. Трэба ведаць, што такое крытычны і сацыялістычны рэалізм, умець вызначыць літаратурныя жанры, аналізаваць мастацкія сродкі і г. д.

Той, хто марыць стаць філолагам, павінен ведаць, акрамя праграмных матэрыялаў, лепшыя мастацкія творы савецкіх паэтаў і празаікаў.

Праграма па рускай мове патрабуе ведання правіл фанетыкі, марфалогіі (састаў слова, часціны мовы), сінтаксісу, умення прывесці прыклады для ілюстрацыі таго ці іншага правіла. Акрамя гэтага, абітурыентам даецца сказ для граматычнага разбору. Спачатку неабходна даць агульную сінтаксічную характарыстыку сказа, вызначыць, які ён — просты ці складаны.

Вось, напрыклад: *«Надо мной, как гигантский шатёр, расстилалось голубое*

*небо, по которому тихо плыло и таяло сверкающее облако».* Гэта складана-залежны сказ. *«Надо мной, как гигантский шатёр, расстилалось голубое небо»* — галоўны сказ з адасобленым параўнаннем; *«по которому тихо плыло и таяло сверкающее облако»* — даданы азначальны сказ, звязаны з галоўным пры дапамозе злучніка-вага слова.

*Небо* — дзейнік, выражаны агульным назоўнікам ніякага роду 2-га скланення ў назоўным склоне адзіночнага ліку;

*расстилалось* — выказнік, выражаны зваротным дзеясловам у форме прошлага часу, незакончанага віду, адзіночнага ліку, ніякага роду.

Некаторыя словы (іх звычайна ўказвае экзаментар) разбіраюцца па саставе, г. зн. у іх вызначаецца аснова, канчатак, корань, прыстаўка, суфікс.

Пры паступленні на філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага абітурыенты пішуць сачыненне па рускай мове і літаратуры (па беларускай мове і літаратуры здаюць вусны экзамен і таксама пішуць сачыненне).

Паступаючым даюцца тры тэмы для сачыненняў, дзве з якіх літаратурныя і адна вольная. Напрыклад:

1. Шлях Нілаўны ў рэвалюцыю (М. Горкі, «Маці»).
2. Народ у паэме М. А. Някрасава («Каму на Русі жыць добра»).
3. Я слаўлю Айчыну, што ёсць, і тройчы, што будзе... (У. Маякоўскі) — і г. д.

Большасць абітурыентаў звычайна выбірае вольную тэму. Прычына, відаць, у тым, што выпускнікі недастаткова глыбока ведаюць праграмны матэрыял па літаратуры і імкнуцца не рабіць канкрэтныя разважанні, якіх патрабуе літаратурная тэма. Ім здаецца, што вольную тэму можна раскрыць у агульных выразах, без прыкладаў з мастацкай літаратуры, з нашага жыцця. У выніку — тэма сачынення застаецца нераскрытай, думкі, якія ёсць, не падмацаваны прыкладамі, няма глыбокіх вывадаў, стыль прымітыўны, паўтараюцца адны і тыя ж словы, аднастайныя сказы. Характэрна, што на любую вольную тэму паступаючыя пішуць амаль аднолькава. Змест многіх работ, незалежна ад тэмы, прыкладна зводзіўся да такога плана: «1917 год. Грамадзянская вайна. Адбудова народнай гаспадаркі. Вялікая Айчынная вайна. Цаліна. Космас». Зразумела, што кожная вольная тэма патрабуе свайго вырашэння.

Некаторыя сачыненні наогул не мелі зместу. Для іх характэрныя ілжывы пафас, набор клічных ці пытальных сказаў, часта зусім непатрэбных.

Так, сачыненне Н. К. на тэму «За гонар Айчыны ідзі ў агонь» пачалося з заклікаў («Радзіма! Як многа азначае гэтае слова! Любіце Радзіму! Як яе не любіць!..») і заканчвалася такімі ж агульнымі сказамі.

Сачыненне на вольную тэму патрабуе прадуманай працы. У ім, як і ў сачыненні на літаратурную тэму, трэба выкарыстаць прыклады з мастацкіх твораў, з жыцця, умець выказаць свае думкі ў лагічнай паслядоўнасці.

У сачыненнях на літаратурную тэму галоўным з'яўляецца ўменне правільна разумець і аналізаваць літаратурны матэрыял, карыстацца ім пры раскрыцці тэмы, самастойна ацэньваць факты, учынкі герояў, іх паводзіны. Між тым многія абітурыенты імкнуцца падрабязна пераказаць тэкст школьнага падручніка або перадаць кароткі змест мастацкага твора.

Неглыбока асвятляюцца тэмы, якія патрабуюць параўнальнай характарыстыкі герояў. Звычайна пішуць спачатку пра адзін «вобраз», потым характарызуюць другі, без паралельнага супастаўлення, без аналізу, вывадаў, абагульненняў.

Сачыненне дае магчымасць вызначыць не толькі ступень пісьменнасці абітурыента, але і меркаваць пра яго агульнакультурны ўзровень.

**Ганна ВАЛАШЭНКА,**
**старшы выкладчык**
**Мінскага педагагічнага інстытута**
**імя А. М. Горкага.**

●

**Сачыненні па рускай і беларускай мовах і літаратуры ў мінулым годзе былі пераважна на вольную тэму. Ставілася задача выявіць, ці ўмее абітурыент творча, самастойна мысліць, проста і дакладна выказваць свае думкі. Падаем некаторыя з гэтых тэм.**

### РУСКАЯ МОВА І ЛІТАРАТУРА

1. Каб вечна пад сонцам квітнела савецкая наша зямля.
2. Ворагі новага жыцця (па рамане М. Шолахава «Узнятая цаліна»).
3. Народ і партыя ў паэме У. Маякоўскага «Добра».
4. Вобраз савецкага чалавека ў лірыцы У. Маякоўскага.
5. Ленін у творчасці Горкага і Маякоўскага.
6. Ленін з намі, несмяротны і вялікі.
7. Хатынская трагедыя не павінна паўтарыцца.
8. Мір і шчасце — народу.
9. Як я ацэньваю пратэст Кацярыны ў драме Астроўскага «Навальніца».
10. Яго ворагам была пошласць, і ён усё жыццё змагаўся з ёй (паводле А. П. Чэхава).
11. Ад Дзмітрыя Старцава да Іёныча (паводле апавядання А. П. Чэхава «Іёныч»).

### БЕЛАРУСКАЯ МОВА І ЛІТАРАТУРА

1. Каб стацца хоць кропляй малою падобным на Ільіча (П. Броўка).
2. Вялікі і магутны Ленін сярод жывых ідзе жывы (П. Глебка).
3. Камуністы — гэта Леніна салдаты, воляй партыі з'яднаныя сыны (па творчасці А. Куляшова).
4. Вобраз маці ў беларускай літаратуры.
5. Праца прыносіць нам славу, працай ствараем свой лёс.
6. Асуджэнне пакорлівасці і прымірэння ў драме Я. Купалы «Раскіданае гняздо».
7. Услаўленне чалавека працы ў паэме Я. Коласа «Новая зямля».
8. Тэма Вялікай Айчыннай вайны ў беларускай літаратуры.

# ПЕРАД ЭКЗАМЕНАЦЫЙНЫМ СТАЛОМ

Ты скончыў школу. Ззаду выпускныя экзамены на атэстат сталасці. Хваляванні і трывогі. Але калі ты вырашыў прадаўжаць сваю адукацыю, то наперадзе цябе чакаюць яшчэ ўступныя экзамены ў вышэйшую навучальную ўстанову ці тэхнікум, праверка тваіх ведаў, як ?о будуць праводзіць не настаўнікі, а члены экзаменацыйнай камісіі. І ты для іх будзеш не вучнем, а абітурыентам — адным з многіх, хто скончыў сярэднюю школу і трымае шлях у навуку далей.

Што ж можна табе параіць, каб ты паспяхова адолеў гэтае адказнае выпрабаванне — уступныя экзамены?

Па-першае, ты павінен сур'ёзна падысці да выбару сваёй будучай прафесіі, памятаючы, што толькі любімая справа прынясе табе задавальненне, напоўніць жыццё глыбокім сэнсам і зместам, зробіць працу максімальна карыснай для грамадства. Калі ж ты не паспеў у школе вызначыць свае інтарэсы і схільнасці, не спяшайся паступаць у любы інстытут і на любы «лёгкі» факультэт, не прытрымлівайся прынцыпу «толькі б дыплом». Калі нават у цябе хопіць ведаў паступіць у інстытут і скончыць яго, ні табе, ні людзям дыплом асабліва шчасця не прынясе. Вельмі бывае крыўдна за тых маладых людзей, якія паступаюць у вышэйшую навучальную ўстанову, не вызначыўшы свайго прызвання, і, патраціўшы многа сіл і энергіі на вывучэнне нялюбай спецыяльнасці, або кідаюць вучобу, або становяцца проста дыпламаванымі няўдачнікамі.

Перад экзаменамі ты павінен прывесці ў сістэму свае веды па прадметах, актывізаваць іх у памяці, трымаць, як гаворыцца, на баявым узводзе.

Рыхтавацца да экзаменаў пачынай загадзя. Гэта паможа арганізаваць і сканцэнтраваць увагу на вучэбным матэрыяле ў час яго паўтарэння. Але калі ты стаміўся паўтараць матэрыял, дык займіся іншай справай (папрацуй фізічна), а пасля праз паўгадзіны-гадзіну зноў вярніся да работы над падручнікам. Перыядычнае чаргаванне вучэбнай работы з іншымі заняткамі — зарука падтрымання тваёй працаздольнасці і ўстойлівай увагі на больш працяглы час.

Пакой, дзе ты працуеш, павінен быць добра праветраны, радыё і тэлевізар выключаны. Кісларод патрэбны для актывізацыі мазгавой дзейнасці, а пабочныя шумы і гукі адцягваюць увагу ад работы.

Ты павінен падрыхтавацца да экзаменаў так, каб ведаць праграмны матэрыял. Трываласць запамінання матэрыялу ў многім будзе залежаць ад таго, як ты яго зразумееш. Гэтая сувязь паміж разуменнем і запамінаннем вучэбнага матэрыялу даўно вядома псіхолагам. Вось чаму ў працэсе паўтарэння прадмета ты павінен перш за ўсё яшчэ раз асэнсаваць кожную тэму. Асэнсаваць матэрыял — значыць вылучыць у ім галоўнае, істотнае, звязаць гэта істотнае ў лагічную сістэму, г. зн. знайсці сувязь паміж элементамі матэрыялу, устанавіць падабенства і розніцу паміж фактамі, з'явамі, законамі, раскрыць узаемазалежнасць паміж з'явамі, іх заканамернасці.

Калі ты перакананы, што добра зразумеў сэнс, логіку матэрыялу, паспрабуй аднавіць яго ў сваёй памяці. Гэта будзе гарантыяй таго, што ў час экзаменаў ты лёгка адновіш у памяці матэрыял у лагічнай паслядоўнасці, з фактамі і выкладамі. Замацаваць матэрыял у памяці табе паможа складанне кароткага плана, у якім трэба пазначыць істотныя, галоўныя моманты тэмы.

Важнай умовай прадукцыйнага запамінання вучэбнага матэрыялу з'яўляецца паўната яго ўспрымання. Калі ты чытаеш *які-небудзь раздзел з падручніка ўголас*, маеш перад сабой наглядныя дапаможнікі, ілюстрацыі, канспектуеш асноўныя думкі, то запомніш гэты матэрыял больш трывала і хутчэй.

Псіхолагам добра вядомы закон рэтраактыўнага, гэта значыць, адваротнага тармажэння, паводле якога запамінанне новага матэрыялу часткова выцясняе з памяці раней вывучаны. Вядома таксама, што рэтраактыўнае тармажэнне ўзмацняецца, калі наступны матэрыял больш складаны, чым ранейшы. Таму, калі ты будзеш паўтараць да ўступных экзаменаў розныя прадметы, спачатку паўтарай той, які для цябе найбольш цяжкі, і *заканчвай паўтарэнне самым лёгкім прадметам*.

І вось надышоў пачатак экзаменаў. Застаецца некалькі дзён да першага з іх. Прагледзь яшчэ раз матэрыял па тым прадмеце, па якім табе трэба здаваць экзамен, пастарайся ўспомніць самыя істотныя пытанні. Напярэдадні экзамену добра адпачні і выспіся. А назаўтра, у адказны для цябе дзень, пастарайся сканцэнтраваць сваю ўвагу на прадмеце, які табе трэба здаваць. Не думай пра іншыя экзамены!

А цяпер пра экзамены, незалежна ад таго, здаеш ты фізіку, біялогію, геаграфію або мову.

*Найбольш спрыяльны псіхічны стан* для паспяховай здачы экзаменаў характарызуецца адносным спакоем, верай у свае сілы, сканцэнтраванасцю.

Студэнт-выдатнік у гутарцы з псіхолагам неяк сказаў: «Каб быць у форме ў час экзаменаў, я раблю ўсё, каб выключыць залішнія хваляванне і страх: ніколі не займаюся перад экзаменамі позна вечарам, добра высыпаюся, а раніцай «не падчытваю». Выкладчыкі адзначылі вялікую сабранасць гэтага студэнта на экзамене, якая, бясспрэчна, памагала яму атрымліваць выдатныя адзнакі. Пастарайся і ты быць такім жа сабраным.

Натуральны стан абітурыентаў, якія збіраюцца пераступіць парог аўдыторыі, дзе працуе экзаменацыйная камісія,— гэта хваляванне. Але чалавек намаганнем волі можа падавіць яго. Ты павінен пераканаць сябе, што добра падрыхтаваны да экзамену,— і гэтая думка дапаможа табе ўзяць сябе ў рукі, не дасць хваляванню перайсці ў страх. Страх — гэта тое пачуццё, якое зніжае актыўнасць увагі, памяці, тармозіць свядомасць. У такім стане цяжка асвятліць добра вядомыя пытанні. Умей стрымліваць і ў час экзаменаў сваё хваляванне!

Ты атрымаў канкрэтнае заданне (пытанні для вуснага адказу, тэму сачынення або заданне па фізіцы, матэматыцы і г. д.). Не спяшайся адказваць на пытанні, удумайся ў змест задання, добра ўяві, чаго яно ад цябе патрабуе. Ад умення сканцэнтраваць сваю ўвагу на змесце задання ў многім залежыць паспяховасць прыпамінання таго матэрыялу, які будзе патрэбны для адказу.

Прыпамінанне — гэта напружаны, часам пакутлівы псіхалагічны стан. Ён робіцца асабліва напружаным тады, калі ты забыўся штосьці добра вядомае, а час на тое, каб успомніць, вельмі абмежаваны. У такім выпадку не паддавайся нарастаючаму хваляванню, а пастарайся ўспомніць які-небудзь факт, падзею, з'яву, звязаныя з тэмай, над якой ты напружана думаеш. Калі ты вучыў матэрыял, ты запамінаў розныя элементы яго зместу не ізалявана, а ў лагічных суадносінах. Таму ў час прыпамінання бывае дастаткова ўспомніць асобны факт — і ён па асацыяцыі выклікае актывізацыю ў памяці ўсяго матэрыялу, неабходнага для поўнага адказу.

Далей матэрыял, які ты прыпомніў, неабходна прывесці ў стройную лагічную сістэму. Для гэтага лепш за ўсё скласці план адказу (план вуснага адказу, сачынення, рашэння задач і г. д.). Калі ж ад цябе патрабуецца вусны адказ, яшчэ раз прыпомні прыкінуты ў думках план і лічы, што ты ўжо гатовы да адказу.

*Перш чым адказваць, не забудзься* назваць пытанні свайго білета, пачынай гаварыць адразу па сутнасці, не адхіляйся ад намечанага плана. Падыход да тэмы здалёк, размова не па сутнасці пытанняў білета выклікаюць непрыемнае ўражанне ў экзаменатараў. Памятай, што тэарэтычнае палажэнне, не падмацаванае прыкладамі, або простае апісанне фактаў без тэарэтычнага абагульнення намнога зніжаюць якасць твайго адказу.

Сачы за паслядоўнасцю выказвання думак і культурай мовы як вуснай, так і пісьмовай. Пісьмовую работу афармляй акуратна і старанна правер, перш чым здаць экзаменатару.

На экзамене не забывайся пра час. Суб'ектыўная ацэнка аб'ектыўных прамежкаў часу ў людзей бывае розная: адны схільны пераацэньваць час (іх у псіхалогіі называюць «брадыхронікамі»), другія — недаацэньваюць яго («тахіхранічны» тып успрымання часу), у трэціх — суб'ектыўная ацэнка часу адпавядае аб'ектыўным яго прамежкам. Калі ты належыш да трэцяга тыпу людзей, табе пашанцавала. Калі ж ты брадыхронік, то час можа здацца табе больш доўгім, чым ён ёсць на самай справе. Брадыхронік не адчувае набліжэння канца экзамену. Яму здаецца, што ў запасе яшчэ ёсць час, таму не спяшаецца і не паспявае *падрыхтавацца* ў тэрмін. Тахіхронік схільны спяшацца, баючыся, што час канчаецца, хоць на самай справе яго дастаткова. Паспешлівасць жа ніколі не была сястрой поспеху.

Калі табе цяжка самому арыентавацца ў часе, які адводзіцца для падрыхтоўкі да адказу, незаменным тваім памочнікам стане гадзіннік. Толькі не забывайся на яго паглядваць!

Калі ты атрымаў высокі бал, то натуральная радасць не павінна выклікаць у цябе самазаспакаення, ну, а калі — недастаткова высокі, не апускай рукі: самае галоўнае для цябе — паспяхова здаць астатнія экзамены.

Псіхолагі заўважылі, што мабілізацыя валявых сіл студэнта ў пачатку і ў канцы экзаменацыйнага перыяду больш актыўная, чым у сярэдзіне. Пачатковы валявы ўздым тлумачыцца жаданнем добра пачаць справу, паспяхова стартаваць. Канчатковы валявы ўздым наступае тады, калі студэнт бачыць блізкі фінал напружанай працы і прадбачыць жаданыя вынікі. Ведаючы гэтую заканамернасць, пастарайся падпарадкаваць волю сваёй свядомасці і не зніжай упартасці і мэтанакіраванасці ў дасягненні выдатных вынікаў на працягу ўсіх уступных экзаменаў.

**Рэм ВАДЭЙКА,**
**кандыдат псіхалагічных навук.**



# СТАРШАКЛАСНІКАМ

**Выдавецтва «Народная асвета» выдала шэраг кніжак, адрасаваных вучням старэйшых класаў. Гэтыя кніжкі дапамогуць у пашырэнні і паглыбленні ведаў па вучэбных прадметах, у арганізацыі грамадскай работы, а таксама ў прафесіянальнай арыентацыі. Знаёмім з некаторымі з іх.**

**І. ЛЕПЕШАЎ. ЛІТАРАТУРНА-КРАЯЗНАЎЧЫ ГУРТОК.**

Аўтар, настаўнік Бярштоўскай сярэдняй школы Шчучынскага раёна, падрабязна расказвае пра работу літаратурна-краязнаўчага гуртка. Старшакласнікі гэтай школы збіраюць фальклор і мясцовыя гаворкі, вывучаюць гісторыю роднага краю. Найбольш цікавыя падзеі і факты з мінулага становяцца тэмай нарысаў і апавяданняў. Вучні выдалі рукапісныя зборнікі «Бярштаны», «Шляхамі бацькоў», «Карчагінцы нашых дзён», «Народныя ўмельцы», «Партызанскі край» і іншыя. Работа ў літаратурна-краязнаўчым гуртку памагае вучням авалодваць мовай і літаратурай, развівае творчыя здольнасці.

**В. ЧЫСЦЯКОЎ. ГІСТАРЫЧНЫЯ ЭКСКУРСЫ НА ЎРОКАХ МАТЭМАТЫКІ Ў СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЕ.**

У папулярнай форме аўтар расказвае пра асноўныя этапы ўзнікнення і развіцця *матэматыкі, паходжанне лічбаў і метрычных мер, дае кароткую гісторыю арыфметыкі,* алгебры і літарнай сімволікі, а таксама гісторыю адмоўных лічбаў і квадратных ураўненняў.

Даюцца таксама кароткія звесткі з біяграфій выдатных матэматыкаў свету — Галілея, Лейбніца, Дэкарта, Архімеда, Гауса, Лапласа, Кавалеўскай, Лабачэўскага і іншых.

**В. МЯРЗЛОВА. ВІКТАРЫНЫ ПА ГІСТОРЫІ СТАРАЖЫТНАГА СВЕТУ І СЯРЭДНІХ ВЯКОЎ.**

Гэты дапаможнік прызначаецца для юных гісторыкаў. У ім яны знойдуць займальныя пытанні, красворды, галаваломкі па гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў. Пытанні складзены ў выглядзе віктарын. Матэрыял адпавядае школьнай праграме і можа быць скарыстаны на занятках гістарычнага гуртка, пры правядзенні школьных вечароў.

**Е. КАЗАКЕВІЧ. ШКОЛА ПРЫРОДЫ (нарысы пра біёніку).**

Аўтар знаёміць чытача з самай маладой навукай — біёнікай, расказвае пра арыентыровачныя, рэгулятарныя і іншыя здольнасці жывых арганізмаў. Чытач даведаецца, як вучоныя і інжынеры ў супрацоўніцтве з біёлагамі выкарыстоўваюць прынцыпы дзеяння і структуру арганізмаў жывых істот, каб канструяваць тэхнічныя сістэмы, што саманастройваюцца і самаарыентуюцца.

**Яўхім ІВАНОВІЧ.**

# У ГРАМАДСТВЕ ГВАЛТУ

### «ЗВЫЧАЙНЫЯ» НАЛЁТЫ...

Забойствы прэзідэнтаў, прафсаюзных лідэраў, актывістаў моладзі, не гаворачы ўжо аб «простых смяротных», сталі ў Амерыцы зусім звычайнай справай. «Грамадства ўсеагульнага працвітання», якое ў свой час было аб'яўлена Лінданам Джонсанам, ператварылася цяпер у «грамадства масавага гвалту».

Якое ж становішча займае ў гэтым грамадстве моладзь, значная частка якой яшчэ нядаўна была інертнай, пакорлівай? Буржуазная журналістыка ў пяцідзесятыя гады назвала яе «маўклівым пакаленнем».

А вось што піша зараз амерыканскі часопіс «Лайф»: «Тое, што было вядома ў пяцідзесятыя гады як «маўклівае пакаленне», стала ў шасцідзесятыя гады найбольш гаваркім, у сапраўднасці самым шумлівым пакаленнем, якое калі-небудзь уражвала і здзіўляла бацькоў».

Так, бацькам і афіцыйным уладам ёсць чаго здзіўляцца. Хлопчыкі і дзяўчынкі ў прыстойных, забяспечаных сем'ях уцякаюць з дому, бадзяжнічаюць па вуліцах. Універсітэцкія карпусы ператвараюцца ў арэну змагання з паліцыяй, дзесяткі тысяч маладых людзей уключыліся ў паходы, каб прымусіць усю Амерыку асудзіць брудную вайну ў В'етнаме. У правядзенні дзён «в'етнамскага маратарыума» ўдзельнічала да 20 мільёнаў чалавек.

Амерыканская моладзь з цёмным колерам скуры была наперадзе вулічных выступленняў за правы абяздоленай часткі насельніцтва ЗША. Многія такія выступленні скончыліся бязлітаснымі сутычкамі з паліцыяй. Над многімі гарадамі Амерыкі ўзнімаўся дым пажарышчаў, разносілася рэха кулямётных чэргаў, верталёты і самалёты скідвалі кантэйнеры са слёзатачывым газам. Актывістаў пасля забівалі ва ўласных кватэрах. А пачаты паводле патрабавання грамадскасці судовы працэс над забойцамі лідэраў прагрэсіўнай маладзёжнай арганізацыі «Чорныя пантэры» скончыўся пакараннем ахвяр.

Амерыканская Феміда ўжо не раз здзіўляла свет «логікай» сваіх учынкаў. Так здарылася і на гэты раз. На лаве падсудных апынуліся ахвяры, а забойцы ў паліцэйскіх мундзірах выступалі ў ролі абвінаваўцаў. Як жа разгортваліся падзеі, што папярэднічалі судоваму працэсу?

На досвітку паўтара дзесятка паліцэйскіх, узброеных аўтаматамі, пісталетамі і вінтоўкамі, акружылі нічым не прыкметны дом. У адной з кватэр дома жыў Фрэд Хэмптан, кіраўнік «Чорных пантэр» у штаце Ілінойс. Праз некалькі мінут Хэмптан быў знойдзены ў ложку мёртвым з прастрэленай галавой. А ў другой кватэры ляжаў забіты 22-гадовы Марк Кларк. Яшчэ траіх членаў арганізацыі павезла з сабой паліцыя, а чацвярых тэрмінова адправілі ў шпіталь моцна параненых.

Праз чатыры дні ў Лос-Анжэлесе гісторыя паўтарылася. Батальён паліцэйскіх да 300 чалавек акружыў штаб-кватэру «Чорных пантэр». Перастраляць сонных на гэты раз не ўдалося. Члены арганізацыі вымушаны былі абараняцца.

На вуліцы з'явіўся бронетранспарцёр. У паветры кружылі верталёты. З іх дапамогай паліцэйскія дынамітам узарвалі дах дома. Сілы, вядома, былі няроўныя. «Чорныя пантэры» выкінулі белы флаг. Паліцэйскія, уварваўшыся ў дом, арыштавалі ўсіх членаў арганізацыі, шэсць з іх былі паранены.

Паліцэйская версія крывавых падзей такая: нічога істотнага не здарылася, звычайны налёт з мэтай адабраць зброю. Самі ж негрыцянскія дзеячы перакананы ў іншым: урад мае патаемны план знішчыць «Чорных пантэр». Пацвярджэннем служаць словы юрыста «Чорных пантэр» Чарльза Гары, які заявіў, «што ад рук паліцыі ўжо загінула 28 членаў гэтай арганізацыі і што ўрад ЗША і дзяржаўныя арганізацыі і далей маюць намер ажыццяўляць акты генацыду супраць «Чорных пантэр» і актывістаў негрыцянскага руху».

Што ж гэта за арганізацыя, якая так дапякла тым, хто «ўладу мае»? Яе ўзнікненне звязана з назвай газеты «Чорная пантэра», якая з'явілася на свет тры гады таму назад. Двое студэнтаў каледжа Мерыт Джуніёр у Аклендзе, штат Каліфорнія, прыйшлі да высновы, што неграў у Амерыцы ніхто не абараняе і не мае намеру абараняць. Трэба за справу ўзяцца самім. Для пачатку вырашылі арганізаваць газету, якая выступала б ад імя ўсёй негрыцянскай моладзі. Студэнтаў звалі Бобі Сіл і Хьюі Ньютан. У дваіх знайшлося яшчэ двое аднадумцаў. Так чацвёра студэнтаў паклалі пачатак газеце. «Чорная пантэра» з распушчанымі кіпцюрамі стала сімвалам абароны неграў. Свіння ў паліцэйскім мундзіры сімвалізавала праціўніка.

Уплыў і аўтарытэт газеты «Чорная пантэра» рос з дня на дзень. Тыраж дайшоў да 90 тысяч экземпляраў. Прыбыткі ад газеты ішлі ў фонд дапамогі тым, хто галадае ў негрыцянскіх гета. У тым жа годзе разам з газетай узнікла і арганізацыя пад назвай «Чорныя пантэры».

Афіцыйныя колы ўспрынялі ўзнікненне новай арганізацыі скептычна, як з'яву «экзатычнага» парадку. Пачаўшы сваю дзейнасць з самаабароны, арганізацыя ў хуткім часе зразумела абмежаванасць мэты і пачала выступаць за роўныя правы неграў з белымі, за спыненне вайны ў В'етнаме. Аўтарытэт «Чорных пантэр» рос хутка. Праз некаторы час арганізацыі «Чорных пантэр» з'явіліся ў 30 гарадах ЗША. Урад забіў трывогу. Гэта і паслужыла прычынай масавых паліцэйскіх рэпрэсій. Так, у 1968 годзе ў Аклендзе быў забіты сакратар партыі Бобі Хатан. У адзін дзень з ім атрымаў раненне загадчык аддзела інфармацыі Олдрыдж Клівер. Даўно ўжо сядзіць у турме адзін з заснавальнікаў партыі Хьюі Нью-



**Не схіліўшы галаву.** Фота **У. Ракейзера** (ЗША).



**Амерыканская паліцыя дзейнічае ў негрыцянскім гета.**

тан. Усяго ў турмы кінута каля ста членаў партыі. Каб апраўдаць крывавыя сутычкі, дырэктар Федэральнага бюро расследаванняў Эдгар Гувер заявіў, што «Чорныя пантэры» з'яўляюцца найвялікшай пагрозай для будучай бяспекі краіны.

Але, нягледзячы на цэлы шэраг распраў, «Чорныя пантэры» пачалі карыстацца значнай падтрымкай грамадскасці. 23 арганізацыі ЗША заявілі аб сваёй падтрымцы «Чорных пантэр». Уся сусветная грамадскасць глыбока абурана самавольствам «свіней у паліцэйскіх мундзірах».

## «МЫ БУДЗЕМ ЗМАГАЦЦА, ЯК ЗМАГАЛІСЯ ВЫ...»

Іх аднойчы ўжо чакалі. Але прыехаць нікому не ўдалося. Групу выдаў правакатар, і ўсіх пасадзілі ў турму. Пра гэта паведамілі іншыя, якія прыехалі пазней. Прыехалі таемна, рызыкуючы ўласным жыццём. Яны былі ў нас у Мінску, цікавіліся, як арганізавана работа Саюза моладзі, як жывуць савецкія людзі, з тым, каб потым расказаць праўду свайму народу.

Іх было пяцёра, членаў дэлегацыі — чацвёра маладых хлопцаў і дзяўчына. Размова ў нас пачалася неяк сама па сабе, непрыкметна, як бы з жартаў. Хаця жарты гэтыя, як выявілася пасля, маюць горкі сэнс.

У час абеду я пацікавіўся, чаму Вісэнт мала есць і ўсё п'е ваду.

Кіраўнік дэлегацыі Луіс, усміхаючыся, адказаў:

— Самая смачная страва для Вісэнта — вада.

— Вада?!

— Не здзіўляйцеся — вада! Вісэнт — ураджэнец сертана на паўночным усходзе Бразіліі. Сертан — гэта пустынная, засушлівая раўніна. Раз у тры-чатыры гады тут абавязкова бывае засуха і раз у 15—20 гадоў здараецца страшэнная засуха. Зямля трэскаецца, становіцца чырвоная. Распаленае паветра, насычанае чырвоным пылам, нясе смерць усяму жываму. Губляючы пер'е, ляцяць птушкі, чароды кажаноў носяцца сярод белага дня над раўнінай, змей выпаўзае столькі, што аж дрыжыкі працінаюць усяго... Рэчкі перасыхаюць зусім. Потым, калі пойдзе дождж, грымлівыя патокі вымываюць з берагоў кучы касцей... Сяляне жывуць тут бедна, як наогул ва ўсёй Бразіліі. Зямельнае пытанне і да гэтага часу не вырашана. Зямлёй валодаюць памешчыкі-фазендэйра. Зразумела, што ні пра якое прагрэсіўнае вядзенне гаспадаркі, будаўніцтва ірыгацыйных сістэм не можа быць і гаворкі. Сяляне не раз са зброяй выступалі супраць сваіх прыгнятальнікаў. У народзе жыве памяць пра Канудас...

— Канудас, — у размову ўступае Вісэнт, дваццацігадовы юнак, — гэта назва горада. 80 гадоў таму назад, у самым глухім месцы сертана, сяляне, якія ўцяклі з-пад прыгнёту памешчыкаў, стварылі агульную гаспадарку. Сумесна працавалі, сумесна пабудавалі горад. Прадукты працы здавалі на агульны склад і пасля размяркоўвалі паміж членамі сям'і. Чуткі пра горад хутка разнесліся па ўсёй Бразіліі. Урад тры разы пасылаў войскі, каб знішчыць горад, тры разы ім давалі адпор. У чацвёрты раз, калі паход войск узначаліў сам маршал Бетанкур, горад і ўсе да аднаго жыхары былі знішчаны. Так, народ наш жыве ў страшэннай галечы. Моладзь, ужо не кажучы пра старэйшых, амаль уся непісьменная. Зараз я жыву ў горадзе. Але і тут становішча не лепшае. У вёсцы на ўсіх дарогах вас літаральна хапаюць за ногі тысячы маленькіх абшарпаных жабракоў. Можа хто-небудзь падасць. У горадзе амаль той жа малюнак — тысячы абшарпаных чысцільшчыкаў абутку, жабракоў... І як радасна глядзець на чысценькіх, ахайных дзяцей у дзіцячых садах вашай краіны, бачыць вясёлыя твары юнакоў і дзяўчат у аўдыторыях вашага ўніверсітэта.

... Вісэнт змоўк. За сталом на нейкі час усталявалася паўза. Прыгадаліся слёзы на вачах членаў дэлегацыі, калі яны наведвалі дзіцячы сад. Дзеці ўручылі ім беларускія сувеніры. Нашы сябры вельмі шкадавалі, што правезці іх у Бразілію нельга.

Я прашу кіраўніка дэлегацыі Луіса расказаць аб становішчы рабочай і студэнцкай моладзі ў краіне.

— Горш за ўсё ў Бразіліі жывуць маладыя сяляне, — пачаў Луіс. — Рабочая моладзь жыве крыху лепш. Але і яе прыгнятае капітал. Моладзь — гэта найбольш танная рабочая сіла. Маладому чалавеку за роўную працу з дарослымі можна заплаціць менш. Бо калі гэта зрабіць з дарослым рабочым, то можа ўспыхнуць забастоўка. Рабочыя на працягу доўгіх год змагання дабіліся некаторых уступак. Моладзь іх, як правіла, не мае. Гэта прымушае маладых арганізоўвацца ў маладзёжныя саюзы разам з сялянамі, студэнтамі, становішча якіх таксама вельмі цяжкае. Але пасля таго, як быў зрынут прагрэсіўны рэжым прэзідэнта Гуларта і ўладу захапілі вайскоўцы, рабіць гэта вельмі цяжка. Усякія прагрэсіўныя арганізацыі забаронены законам. Удзельнікам іх пагражае смерць. Дазволены і на ўсю моц твораць свае чорныя справы арганізацыі тыпу ККК, што азначае «каманда паляўнічых за камуністамі».

— Луіс, раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра гэтую арганізацыю.

— Гэтыя злавесныя каманды з'явіліся нядаўна, у супрацьвагу выступленням студэнцкай і рабочай моладзі. Але зарэкамендавалі сябе яны даволі поўна: забойствы з-за вугла дэманстрантаў, страляніна па вокнах універсітэтаў... У тэатрах, якія адважваюцца ставіць творы прагрэсіўных бразільскіх і зарубежных драматургаў, у часе спектакляў «невядомыя асобы» наладжваюць хуліганскія ўчынкі, правакуюць скандалы, зневажаюць акцёраў. Дарэчы, робіцца гэта ўсё таемна. Яны не любяць афішыраваць свае імёны, стараючыся лепш дзейнічаць з-за вугла. Захоўваючы інкогніта, лідэры ККК разам з тым шырока прапагандуюць сваю «праграму». У адным з часопісаў можна было прачытаць заяву прадстаўніка *«каманд паляўнічых за камуністамі»*. «З дапамогай насельніцтва, — аб'явіляў гэты дзеяч, — мы выклікаем рэакцыю ўрада, каб знішчыць усіх прыхільнікаў левых сіл і ў першую чаргу — камуністаў». Да камуністаў бандыты з ККК адносяць і студэнтаў, якія змагаюцца за паляпшэнне сістэмы адукацыі і пратэстуюць супраць пранікнення ва ўніверсітэты агентаў ЦРУ. Сюды далучаюць і выкладчыкаў, рабочых і служачых, якія патрабуюць павышэння заработнай платы, і сялян, якія змагаюцца за радыкальную аграрную рэформу. Натуральна, што ў першую чаргу малойчыкі з


**Дзеці Лацінскай Амерыкі.**


**Уперад!** Фота **А. Аквадра** (ФРГ).

ККК праследуюць кіраўнікоў прагрэсіўных арганізацый, прафсаюзных і студэнцкіх лідэраў. Але моладзь Бразіліі гэтым не запалохаць. Мы будзем змагацца, не шкадуючы ўласнага жыцця. У нас ёсць у каго вучыцца—у камуністаў. У цяжкіх умовах падполля камуністычная партыя Бразіліі вядзе плённую работу па згуртаванні мас. Вопыт падпольнай барацьбы камуністаў з'явіцца для саюза моладзі вельмі каштоўным набыткам. Многаму мы навучыліся ў вас. Мы будзем змагацца за новае грамадства так, як змагаліся вы.

### АБВІНАВАЧВАЕ МОЛАДЗЬ

Самаму старэйшаму суддзю 26 гадоў, самаму малодшаму—16. Пракурор—27-гадовы электрык Ёнс Флегель. Такі ўзроставы склад маладзёжнага суда, які адбыўся ў 1969 годзе ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі.

Падсудныя—урад і манаполіі ФРГ. Абвінавачваюцца ў эксплуатацыі, прыгнёце моладзі. На стале ў суддзяў вялікая дакументацыя, якая пацвярджае абвінавачанне. Урады і манаполіі абвінавачваюцца ў злачынных дзеяннях супраць 1 мільёна 360 тысяч маладых людзей ва ўзросце ад 15 да 18 гадоў.

Вось некаторыя дадзеныя з абвінавачання. Шэсцьдзесят працэнтаў падлеткаў не могуць атрымаць кваліфікаваную падрыхтоўку. У прамысловасці ФРГ дзейнічае статут, напісаны яшчэ ў 1869 годзе. У статуце запісана: «Вучань абавязаны падначальвацца «пану навучаючаму». На самай справе навучанне спецыяльнасцям на прадпрыемствах абмяжоўваецца мыццём машын «пана навучаючага», прыбіраннем яго дома, беганнем па піва...

На выпускных экзаменах мінулага года ў Эсэне 23 працэнты вучняў-бляхароў і 44 працэнты вучняў-механікаў не атрымалі дыпломаў. Сістэма так званага «паступовага навучання» на прадпрыемствах—гэта, фактычна, рабунак маладых рабочых. Па гэтай сістэме 90 працэнтаў маладых рабочых не могуць атрымаць вышэйшыя разрады, нават калі яны і выконваюць работу па вышэйшым разрадзе. Капіталістам гэта выгадна. Нездарма ўжо больш за сто гадоў прадпрыемцы шалёна супраціўляюцца ўвядзенню адзіных правіл навучання прафесіям.

**Мікалай ВАРАКСА.**

**У бліжэйшых нумарах — артыкул кандыдата тэхнічных навук Ізота Ліцяніцкага ПРА ТАЯМНІЦЫ ПАМЯЦІ**



*Уладзіміру Дубоўку семдзесят гадоў*



# ПАЭТ—ЗАЎСЁДЫ ПАЭТ

Сустракаючыся з Уладзімірам Мікалаевічам Дубоўкам, заўсёды дзівішся: які прыгожы чалавек! Якія добрыя, разумныя і шчырыя вочы ў гэтага барадатага казачніка! Яны, здаецца, бачаць усё навылёт і праменяцца святлом шчодрай душы.

Успамінаюцца словы Б. Пастарнака, што кепскі чалавек не можа быць добрым паэтам. Цудоўны чалавек і нястомны працаўнік Уладзімір Дубоўка — наш выдатны паэт, перакладчык, казачнік, знаўца фальклору і сусветнай літаратуры, батанікі і пчалярства, чалавечых характараў і сакрэтаў будаўніцтва. Ён дасканала ведае Беларусь і Закаўказзе, Сібір і Крым, Поўнач і Далёкі Усход. Слухаць яго можна гадзінамі і бясконца чэрпаць новае і невядомае з гэтай жывой і шчодрай энцыклапедыі. Такі ён у жыцці, такі і ў творчасці.

Чытаеш яго паэмы, вершы і казкі, глядзіш на яго высокую дужую постаць — і не верыцца, што ўжо сем дзесяцігоддзяў ён прахадзіў па зямлі, што столькі зрабіў дабра людзям, столькі прынёс радасці сваім талентам, маладой энергіяй і мяккаю дабратой. Здаецца, юнак адгадаваў бараду і прыкідваецца дзедам.

Калі б спатрэбіўся тыпізаваны вобраз беларуса для скульптуры або мастацкага палатна, многія перш за ўсё назвалі б Уладзіміра Дубоўку. Не толькі аблічча і постаць, а нейкае ўнутранае свячэнне спыняе ўвагу сустрэчных: яму доўга глядзяць услед. Зразумела, чаму наш паэт натхніў вядомага скульптара лаўрэата Ленінскай прэміі М. К. Анікушына, і ён высек з мармуру яго партрэт. Гэта сведчанне таго, што толькі чалавек багатай і добрай душы можа быць выдатным паэтам. А калі б Дубоўка не быў паэтам, ён

бы стаў геолагам ці дойлідам, аграномам або вучоным. Але ён паэт ад нараджэння, паэт у кожнай справе, бо паэт — заўсёды паэт.

Колькі памятаю і ведаю творчасць Дубоўкі, ён з першых вершаў — майстра, нястомны шукальнік новых тэм, жанраў, формы. Ён паэт, які не быў пачаткоўцам. Я памятаю яго вершы і імя з далёкага маленства, калі яшчэ не ведаў ні Маякоўскага, ні Ясеніна. У 1924 годзе выйшаў першы нумар часопіса «Беларускі піянер». Яго рэдактарам быў Уладзімір Дубоўка. Адразу запомніўся ягоны верш «Бліскавіцы над лясамі», які на некаторы час стаў піянерскай песняй.

На вокладцы першага нумара дзіцячага часопіса была намалявана карта нашай рэспублікі, перакрэсленая пакручастаю мяжою. За ёю — Маладзечна, Гродна, Брэст, Вілейка, Навагрудак і Слонім. На фоне карты піянер аддаваў салют. Рука хлопчыка паднялася якраз над «заходнімі» гарадамі.

Праз многа гадоў я нагадаў Уладзіміру Мікалаевічу пра першы нумар «Беларускага піянера». Ён усміхнуўся і сказаў:

— А ведаеце, той малюнак на вокладцы ледзь не выклікаў дыпламатычную ноту ўрада былой панскай Польшчы. У кожным разе, консул звярнуўся з афіцыйным пратэстам да старшыні ЦВК А. Р. Чарвякова, абвінаваціўшы хлапчука на вокладцы часопіса ў агрэсіўных намерах. Выклікалі і мяне, але ўдалося ўсё звесці на жарт. Хоць малюнак быў і прымітыўны, але ў некаторай ступені прарочы.

Пазней я не мінаў нічога, напісанага Уладзімірам Дубоўкам. Сама сабою запомнілася паэма «Там, дзе кіпарысы» (1925 год). Усё ў ёй было незвычайнае: экзотыка ніколі не бачанага Чорнага мора, Ай-Петры, хлапчук, што «кусаў на сонцы памідор». Геаграфія нашай паэзіі, абмежаванай рамкамі роднай вёскі, адразу пашырылася. Зачараваў натуральны, ёмісты і дакладны верш, шырокае дыханне рытму, жывая і вобразная лексіка. Гэта я так разумею цяпер, а тады дванаццацігадовы вясковы хлапчук быў проста захоплены музыкай слова, навізною малюнкаў сонечнага краю нашай зямлі. Пасля Дубоўкавай паэмы амаль у кожнага маладога паэта пачалі з'яўляцца нізкі крымскіх вершаў. У Дубоўкі пераймалі рытм, асанансныя рыфмы, крышку незвычайную, нават часам архаічную лексіку. Яму прысвячалі вершы, многія лічылі сваім настаўнікам.

У Дубоўкі за плячыма была добрая школа. Пасля службы ў Чырвонай Арміі ён закончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Брусава, слухаў лекцыі гэтага праслаўленага паэта, выдатнага майстра і знаўца паэтыкі, вучыўся ў П. С. Когана, М. А. Цяўлоўскага, прагна лавіў кожнае слова А. В. Луначарскага, сустракаўся з выдатнымі рускімі паэтамі, авалодваў скарбамі сусветнай літаратуры. І, зразумела, быў на галаву вышэй за сваіх сяброў па «Маладняку».

У тыя далёкія гады я і мае сябры не разлучаліся з тоненькай кніжачкай у жоўтай вокладцы з незразумелаю назваю «Credo». Кожны верш і кожны радок хвалявалі і адкрывалі незвычайны свет паэтычных вобразаў:

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет,
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
На дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй, пад колер сталі,
Праменне яснае люблю.

Усё было незвычайна, ні на кога не падобна, хоць не заўсёды мы маглі дайсці да сэнсу кожнага радка і слова, але цягнуліся да навізны і свежасці дасканалых Дубоўкавых вершаў. Нават само прозвішча нагадвала зялёны шумлівы дуб.





А ўпершыню загледзеўшыся на дзяўчынку, кожны з нас успамінаў радкі з Credo»:

Дзіваваўся і так кахаў,—
Наглядзецца не мог калісьці.
Зубцамі чорных валос —
галава
Васільком здавалася шалясцістым.

І пазней у наіўным юначым каханні мы часта прызнаваліся радкамі з вершаў Дубоўкі. Здавался, паэт угадаў нашы пачуцці і за нас сказаў пра іх.

Вершы гэтыя помняцца вось ужо сорак з лішнім гадоў, а многае, што лёгка тады запаміналася з іншых маладнякоўцаў, даўно забылася. Паэзія Уладзіміра Дубоўкі хвалявала юнакоў дваццатых гадоў свежасцю пачуццяў і думак, дасканаласцю формы, багаццем каларытнай і сакавітай роднай мовы. І цяпер здзіўляешся, як паэт не растраціў моўныя скарбы беларускай зямлі, таго Нарачанскага краю, дзе нарадзіўся і з якім расстаўся пятнаццацігадовым хлапчуком. Бежанства прывяло бацькоў паэта ў 1915 годзе ў Маскву.

Не раз лёс яго кідаў у самыя розныя куткі краіны, у стыхію розных моўных плыняў, а ён толькі багацеў скарбамі жывых і вобразных гаворак, знаходзячы самыя яскравыя фарбы для сваёй паэтычнай палітры.

«Я ніколі не вучыўся ні ў якіх беларускіх школах,— піша паэт у аўтабіяграфіі,— усё маё веданне беларускай мовы ад маці і з вёскі. Вось чаму я маю поўную падставу называць беларускую мову — матчынай мовай». Яна ў Дубоўкі свая, адметная, сапраўды вобразная і паэтычная (*«вусны тваё кармазынам асмужаны»*, *«палыны пасівелі на ўзгорку, запрыгоршчыць і кіне іх вецер»*, *«толькі дрвівасць, невыразная мара непрадонныя цеплівіць зірку агні»*). Не ўсе моўныя вынаходніцтвы Дубоўкі прыняла наша літаратурная мова, не ўсё вытрымала выпрабаванне часам. А вось такое пашыранае «адлюстроўваць» на пачатку 20-х гадоў у нашу лексіку ўвёў Уладзімір Дубоўка. Ды ці мала з яго лёгкай рукі ёмістых і вобразных слоў увайшло ў нашу паэтычную мову!

У дваццатыя гады не было часопіса, газеты, літаратурнага дадатка, дзе б не друкаваліся вершы Дубоўкі. Адна за адною выходзяць яго кнігі «Трысцё», «Credo», «Наля» (выдадзена ў 1927 годзе ў Маскве). Кожная з іх выклікала не толькі вялікую цікавасць, але і гарачыя спрэчкі. Адны агулам без крытычнага аналізу прымалі ўсю творчасць Дубоўкі, другія шукалі ў ёй толькі памылкі і ідэйныя хібы. Была ў маладога паэта і неўсталяванасць светапогляду, былі філасофскія тупікі, а захапленне пошукамі часам прыводзіла да невыразнасці, спрэчнасці, да памылковасці некаторых поглядаў, як, напрыклад, у нізцы вершаў «Пярэсты букет». Гэта давала падставу для добразычлівых літаратурных спрэчак, якія маглі памагчы паэту разабрацца ў сутнасці сваіх пралікаў і ўнікнуць іх. Але вульгарызатары, далёкія ад літаратуры, у сваіх артыкулах безапеляцыйна абвінавачвалі Дубоўку ва ўсіх смяротных грахах, закрэслівалі ўсю творчасць паэта.

У друку 30-х гадоў крытыкі шмат пісалі пра неапублікаваную паэму Дубоўкі «Камбайн», даводзілі, што яна «лье ваду на варожы млын», «падрывае асновы», нават нешта цытавалі з нікому не вядомай паэмы. Толькі праз шмат гадоў стала вядома, што ў Дубоўкі паэмы пад назваю «Камбайн» наогул ніколі не было.

«Яшчэ ў 1926 годзе я задумаў напісаць тры паэмы,— успамінае аўтар у прадмове да твора «Штурмуйце будучыні аванпосты»,— у якіх, паводле магчымага, адлюстраваць пераход нашае, пераважна сялянскае краіны да вышэйшых форм жыцця — да калектывізацыі, да індустрыялізацыі».

Тры паэмы —«Кругі», «І пурпуровых ветразяў узвівы» і «Штурмуйце будучыні аванпосты»—пошук новай формы, у якой *камбінаваліся* розныя жанры: аўтарскі маналог, дыялогі герояў, пераклады класічных твораў, каз-

кі, легенды, вершаваныя заўвагі і зноскі. Таму не паэму, а жанр У. Дубоўка назваў «камбайнам».

А сутнасць гэтых паэм?

Аўтарская пазіцыя ў паэме «Кругі» дакладна выказана ў заключных радках:

Здзейсняцца ўсе нашы летуценні,
Знішчыць чалавек прыгоны ў свеце.
Ідучы па шчасце пакаленням,
Вы кажыце ўсім:
— Далей ідзеце!

Ідэйная пазіцыя аўтара і пафас другой паэмы з гэтага цікавага трыпціха, на маю думку, сфармуляваны хоць бы ў такіх радках:

А мы ішлі з імпэтам віратлівым,
А мы ішлі няспынна і упарта.
І пурпуровых ветразяў узвівы
Трымалі курс на сонечнае заўтра.

Тут, як кажуць, каментарыі не патрэбны.

Заключныя строфы трэцяй паэмы «Штурмуйце будучыні аванпосты», у свой час ахрышчанай «Камбайнам», зноў гранічна дакладна выяўляюць аўтарскую пазіцыю:

Сячэце ў камені трывалыя усходы,
Да яснай мэты шлях кладзеце просты.
Нягледзячы на хібы, перашкоды,—
Штурмуйце будучыні аванпосты.

Гэтыя тры паэмы пісаліся ў 1926—29 гадах. Кожная з іх скіравана ў сацыялістычнае заўтра. Праз напластаванні супярэчнасцей і перашкод аўтар імкнуўся зазірнуць у наш сённяшні дзень. У гэтым няцяжка пераканацца, разгарнуўшы другі том «Выбраных твораў» Уладзіміра Дубоўкі, выдадзеных у 1965 годзе.

Можна было прымаць ці не прымаць фармальныя і кампазіцыйныя пошукі і эксперыменты паэта, аспрэчваць яго довады і вывады, крытыкаваць слабыя мясціны, але не было падставы закрэсліваць усю творчасць паэта.

Успамінаючы той час, у 1959 годзе Пятро Глебка пісаў: «З адлегласці часу відаць, што крытыкі, у тым ліку і я сам, у сваіх ацэнках паэзіі У. Дубоўкі часта перабольшвалі адмоўныя яе моманты, абагульняючы творчасць паэта і пашыраючы недахопы і памылкі паасобных твораў на ўсю яго літаратурную дзейнасць».

На тры дзесяцігоддзі выдатны паэт быў адарваны ад літаратурнага і грамадскага жыцця. «Дзе б я ні быў, на якой бы працы ні стаяў,—успамінае Уладзімір Мікалаевіч,— я ўсюды знаходзіў шмат прыгожага, шмат цікавага, сустракаў вельмі добрых людзей. Для мяне ніякая работа ніколі не была пакутай — яна заўсёды была для мяне жаданай, бо ўрэшце — ішла на карысць нашай сацыялістычнай бацькаўшчыны».

У 1929 годзе Уладзімір Дубоўка прадбачліва пісаў:

Жыццё закон нязломны мае:
Ніколі праўда не ўмірае.

Хоць і доўгай была дарога выпрабаванняў, але праўда ўзяла верх. Камуністычная партыя аднавіла ленінскія нормы сацыялістычнай законнасці. Прагны да працы і нястомны Уладзімір Дубоўка ў 1958 годзе зноў вярнуўся ў літаратуру.

Тады мы ўпершыню і сустрэліся ў пісьменніцкім доме творчасці пад Мінскам. Уражаны яго чалавечай прыгажосцю, ласкавасцю, далікатнасцю і высокай культурай, я прыглядзеўся да рук паэта. Часта рукі гавораць пра чалавека больш за вочы, твар і словы. Шырокія дужыя далоні са слядамі даўніх парэзаў і глыбокіх шрамаў, здавалася, пахнуць жывіцаю і свежымі стружкамі. Гэта былі рукі рабочага чалавека, якія заўсёды шукаюць занятку і працы. Верылася, што яны шмат зробяць для нашай паэзіі, парадуюць чытачоў чыстымі і шчырымі радкамі. А Уладзімір Мікалаевіч неяк прызнаўся:

— Прывёз цэлую скрыню сталярнага інструменту. Калі не ўдасца пісаніна, вазьмуся за свае фуганкі.

Ён, вядома, жартаваў, а можа сапраўды думалася, што адстаў, страціў «сакрэты» паэтычнага рамяства. Але талент ніколі не заглухне, калі ён сапраўдны талент, а душа і сэрца жывуць паэзіяй.

Згаладалы па любімай працы, паэт з вялікай адказнасцю і бязлітаснай патрабавальнасцю пераглядае ўсё напісанае раней для кнігі выбраных вершаў і паэм, піша новыя творы, плануе паездкі па рэспубліцы. Яму хацелася ўбачыць адноўленую расквітнелую радзіму, сустрэцца і пазнаёміцца з цікавымі новымі людзьмі. Паэт едзе ў родныя мясціны, у славуты Нарачанскі край, потым цэлае лета вандруе па гарадах і вёсках Палесся. Вынік — кніга вершаў «Палеская рапсодыя», адзначаная літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы.

Знікаюць вобразы, адлюстраваныя
ў вадзе,
Знікаюць пушчы і гаі ў тумане.
А вобраз твой, Палессе,
І тваіх людзей —
У сэрцы у маім ніколі не растане.

Чытаючы кнігу, дзівішся, як Уладзімір Дубоўка ўмее ў самых будзённых з'явах убачыць сапраўдную высокую паэзію.

Радуюць і хвалююць яго новыя паэмы «Чакае ля берага човен мяне», «Беларуская Арыядна», «Перад іменем любові». Беларускім дзецям добры і мудры чараўнік Уладзімір Дубоўка падараваў каля двух дзесяткаў цудоўных казак. У кнізе прозы «Жоўтая акацыя» ён адкрыў паэтычны свет роднай прыроды, расказаў пра дрэвы, кветкі, травы, пра работу вясковых юных натуралістаў.

За сталярны інструмент больш брацца і не прыйшлося. Вершы, паэмы, казкі, кнігі прозы адна за адною выходзяць з-пад пяра Уладзіміра Дубоўкі. Ён неяк прызнаваўся, што над «Жоўтай акацыяй» працаваў без выхадных дзён па 15 гадзін у суткі. Сапраўды юначы ўзлёт таленту!

Яшчэ ў маладосці, на самым пачатку літаратурнага жыцця, Уладзімір Дубоўка шмат увагі аддаваў перакладам на беларускую мову твораў Байрана. «Шыльёнскі вязень», «Бронзавы век» з'яўляюцца лепшымі ўзорамі яго перакладчыцкага майстэрства. У 1964 годзе выйшла з друку кніга санетаў В. Шэкспіра ў выдатным перакладзе на беларускую мову Уладзіміра Дубоўкі. Кожны санет, кожны радок гучаць так натуральна, так паэтычна і афарыстычна, што забываешся пра іх першааснову. А пераклады твораў У. Сыракомлі, І. Гётэ, Ю. Славацкага, Ду Фу, М. Рыльскага, П. Тычыны складаюць духмяны і яскравы букет, што расцвіў на беларускай глебе дзякуючы клопатам і майстэрству таго ж Дубоўкі.

Аднаму з пачынальнікаў беларускай паслякастрычніцкай паэзіі Уладзіміру Дубоўку споўнілася 70 гадоў. Семдзесят нялёгкіх дарог праз пакуты імперыялістычнай і віхуры грамадзянскай войнаў, праз радасці і трывогі, узлёты і страты прайшоў наш слаўны паэт, заўсёды застаючыся песняром і патрыётам сваёй сацыялістычнай Айчыны. А рукі і сэрца ў доўгіх вандроўках загартаваліся, каб рабіць людзям дабро і адкрываць сапраўдную паэзію, бо душа ў яго маладая і песенная, заўсёды натхнёная і нястомная. Веру, што наперадзе ў паэта яшчэ многа сонечных творчых гадоў, дарог і сцежак па роднай зямлі.

Лёгкай вам хады, дарагі Уладзімір Мікалаевіч, радасных сустрэч з добрымі людзьмі і нязгаснага натхнення.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**




**Аркадзь КАНДРУСЕВІЧ.**
**ЧАРПАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# КРОК ПЕРШЫ

Першая кніжка пісьменніка, як правіла, заўсёды нясе зарад лірызму. Гэтую даволі банальную ісціну ўспамінаеш, калі чытаеш зборнік апавяданняў Аркадзя Кандрусевіча «Чарпак Вялікай Мядзведзіцы». Суб'ектыўны момант характэрны не толькі для паэтычных мініяцюр-імпрэсій, у якіх вобраз героя атаясамліваецца з асобаю аўтара. Ён, хоць і ў меншай ступені, выяўляецца ў тых апавяданнях, дзе аўтарскае «я» непасрэдна не прысутнічае.

А. Кандрусевіч — лірык у прозе. У яго невялічкіх навелах аналітычны погляд на з'явы рэчаіснасці саступае месца эмацыянальнаму іх успрыманню, роздум — настрою. Аднак пісьменніка нельга папракнуць ні ў «чыстым лірызме», ні ў камернасці, ні тым больш у грамадзянскай інертнасці. За вонкавай стрыманасцю, мяккасцю пісьменніцкай манеры адчуваецца чалавек актыўнай грамадскай пазіцыі, няўрымслівай, неспакойнай думкі.

Прыгадаем хоць бы яго навелу-мініяцюру «Белая радасць»:

«На снезе глыбокія шрамы. Прамыя, як коп'і. Тонкія, як джалы. Нечы стрэл рассыпаў тут свінцовыя гарошыны смерці.

«Забіў ці не? Забіў ці не?» — хвалюецца сэрца.

Вузлаваты заечы след імкліва рвануў наперад, ускочыў на цвёрды спрасаваны снег і згубіўся. Я пільна ўглядаюся ў чыстае палатно поля, імкнуся разгадаць тайну жыцця і смерці».

Усхваляванасць, занепакоенасць гэтай невялічкай інтрадукцыі неяк адразу ж перадаецца чытачу. Яму па-сапраўднаму карціць знайсці разгадку гэтай «заечай» тайны. І вось яна.

Падвечар, праблукаўшы па лесе, герой сустракаецца з двума паляўнічымі.

«— Дзе ж ваш здабытак?

— І не пытайся, чалавеча,— паскардзіўся мне старэйшы.— Няўдалы дзень... Ды і без сабакі. Праўда, на ўзлеску сцебануў па шараку і прамазаў...

— Дзе?

— Ды вунь там, у лагчыне.

Ён яшчэ доўга бядуе пра няўдачу, расказвае мне, як і што было. Але я не слухаю. Мне радасна».

Складаная гама пачуццяў, перажыванняў, роздуму, выліваючыся ў гэту адкрытую ўрачыста пераможную радасць, раскрывае перад намі натуру жыццялюба, закаханага ва ўсё жывое.

Пейзаж, нягледзячы на сваю маляўнічасць, у апавяданнях Кандрусевіча пазбаўлен вонкава дэкаратыўнага значэння, эстэтычнай сузіральнасці. Для героя «Белай радасці», «Пялёсткаў», «Жнівеньскай элегіі», «Апошняга спаткання» і некаторых іншых менш «жывапісных», а больш сюжэтных навел А. Кандрусевіча прырода — адначасова і храм, і майстэрня, лабараторыя. Ён уваходзіць у яе шматгалосы свет гаспадарліва і заклапочана.

Унутраная патрэба яднання з прыродаю, захапленне ўсім прыгожым і «жывым», відаць, не толькі прыроджаная рыса натуры пісьменніка, іншы раз яна — вынік нялёгкага знаёмства з навукай жыцця. Таму так балюча адгукаецца ў душы адзінокага пажылога бакеншчыка, героя апавядання «Чарпак Вялікай Мядзведзіцы», смерць падстрэленай кімсьці чайкі. Тонка, ненадакучліва падводзіць гэта невялічкая дэталь у экспазіцыі да разумення жыццёвай трагедыі чалавека, які некалі ў час веснавой паводкі страціў жонку і дзіця.

А вось «Завіруха» — вострасюжэтны, драматычна напружаны твор. Тут у завочнай, але тым не менш вострай і бескампраміснай дуэлі сутыкнуліся сапраўдная чалавечнасць, сардэчнасць і чуласць з раўнадушшам, абывацельскай пошласцю і чэрствасцю.

Цынізму ваяўнічых мяшчан аб'яўляе вайну А. Кандрусевіч і ў апавяданні «Сіні кобальт». Добрыя сяброўскія адносіны ўзніклі паміж маладым мастаком — настаўнікам чарчэння — і яго вучаніцай дзевяцікласніцай Лідаю. У свядомасці нармальнага чалавека такая дружба выглядае натуральна. А вось у вачах тых, хто глядзіць на свет праз замочную шчыліну, гэта парушэнне ўжо ўсіх маральных норм. Так, прынамсі, думаюць дырэктар школы Мядзведзеў і помслівая «хімічка» Ніна Аляксандраўна, якую мастак пакрыўдзіў сяброўскім шаржам. Абражаны бруднымі падазрэннямі, настаўнік знішчае карціну — свой падарунак школе — і звальняецца з работы. Але, прыйшоўшы на вакзал, ён прымае другое рашэнне — абараніць ад брудных плётак годнасць дзяўчыны *і сваю* — і застаецца.

Цікавае па думцы апавяданне «Краснапёркі», у якім пісьменнік звяртаецца да важнай і асабліва актуальнай у нашы дні праблемы міграцыі вясковай моладзі. Нажаль, твору гэтаму нестае сапраўднай глыбіні асэнсавання пастаўленай праблемы.

Невыразным у сюжэтных *адносінах* атрымалася апавяданне «Краіна медуніц». Тут ёсць настрой, добрая апавядальная фактура, правільна ўзятая інтанацыя. А вось што хацеў сказаць аўтар апавяданнем з такой загадкавай рамантычнай назвай, незразумела. Гераіня апавядання Волька ўвесь час марыць пра нейкую казачную краіну медуніц і таму *не звяртае асаблівай увагі на заляцанні* дзівакаватага Міколы. Той пакутуе, бо, акрамя прыгожай вольчынай мары, на яго шляху стаіць яшчэ Сцёпка з яго гармонікам... Чытач у прадчуванні калі не вельмі вострага, дык, ва ўсякім выпадку, не ардынарнага вырашэння інтрыгі. Але яго чакае расчараванне. Фінал твора «змазаны». Мікола, лежачы на беразе Прыпяці, розныя «думы думае», як раптам нейчы голас з другога берага: «Падай лайбу-у-у!» — вырывае яго з улады бязмэтных мар і вяртае на грэшную зямлю да звычайных, будзённых спраў.

Сюжэтная неаформленасць, эскізнасць апавяданняў «Краснапёркі», «Краіна медуніц», «Юр'еў вал» — вось, бадай, тое галоўнае, што не дазваляе залічыць іх у актыў пісьменніка. Не зусім арганічна ўпісваюцца ў агульны змест кніжкі па-свойму цікавыя, але надта ўжо «дзіцячыя» рэчы «Мятныя цукеркі» і «Стракатыя парасонікі».

Увогуле ж «Чарпак Вялікай Мядзведзіцы» — сціплы, але ўдалы дэбют. А. Кандурсевіч, *безумоўна, здольны* празаік. Пра гэта сведчаць і яго мастацкі густ, і добрае адчуванне фарбаў мовы, і, нарэшце, уменне тонка весці псіхалагічную лінію характару.

**Дзмітры ГАЛЬМАКОЎ.**




**Алесь СТАВЕР. ПАД КАНВОЕМ.**
**З перажытага.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# У ПАЛОНЕ НАЗІРАНАГА

Калі ў якасці адзнакі жанру на кнізе пісьменніка бачыш нейтральнае — «З перажытага», міжволі неяк усміхнешся. Усміхнешся наіўнаму ўяўленню і аўтара, і рэдактараў пра псіхалогію творчасці. Хто з пісьменнікаў адважвaецца прапаноўваць чытачу не перажытае, не пераплаўленае ў сэрцы, не пераасэнсаванае розумам, адпаведна той ідэйнай задачы, якая дае права на існаванне кнігі. Дык навошта ж акцэнтаваць гэты асноватворны элемент мастацтва?!

Алесь Ставер, на кнізе якога «Пад канвоем» якраз і стаіць гэтае няпэўнае «З перажытага», належыць да пакалення, у чыёй свядомасці вайна пакінула глыбокі след. Гэта былі тыя «мілыя, любыя хлопчыкі», якіх суровы лёс параскідаў па свеце, гвалтам адарваўшы ад маці, ад роднага кута. Гэта былі тыя, хто заўчасна сталеў, бо рэчаіснасць узнікала ва ўсім сваім страшным агаленні — голад, холад, страх гвалту, здзеку, выгнанне на чужыну, смерць.

І ўсё ж ці можна вызначыць жанр кнігі Алеся Ставера «Пад канвоем»? І ці трэба было гэта рабіць? Мабыць, можна, і, вядома ж, трэба было. Неа-

крэсленасць жанравая — вынік неакрэсленасці ідэйнай. А ці можам мы такі папрок кінуць А. Ставеру? І не, і так. Сацыяльная ідэя яго кнігі вельмі нават пэўная. Яшчэ раз, не зважаючы на тое, што гэта рабілі да яго і адначасова з ім, робіць пасля яго, робіць зноў і ён сам, спрабуе глянуць на нядаўнюю трагедыю чалавецтва вачыма ўжо не толькі ўдзельніка трагедыі, але і мастака, чыё сэрца павінна змяшчаць у сабе болі многіх сэрцаў, чый розум павінен узняцца над прыватнымі фактамі рэчаіснасці і паспрабаваць даць абагульнены адказ на пытанне: чаму народ, які апынуўся пад пятой ворага, не скарыўся яму і не толькі выжыў, але яшчэ і здолеў паставіць яго на калені перад судом справядлівасці?

Але ж ідэя сацыяльная — толькі той грунт, на якім вырастае мастацкая ідэя, што, улічваючы індывідуальнае ў таленце пісьменніка, выяўляе яго ўменне бачыць цэласнасць жыцця, заканамернасць і ўзаемаабумоўленасць падзей, падрыхтоўвае сацыяльныя і маральныя вывады тых, хто будзе чытаць твор.

Выразнасць мастацкай ідэі самым непасрэдным чынам звязана з тымі асаблівасцямі паэтычнага ўспрымання свету і вобразнага мыслення, якімі вызначаецца стыль твора. А стыль—практычнае здзяйсненне адзінства зместу і формы і, вядома ж, ідэйнасці апошняй. Вось чаму дбаць пра ідэйную выразнасць твора — значыць дбаць і пра яго жанравую акрэсленасць.

Алесь Ставер, якога мы ведаем як самабытнага паэта і аўтара невялікіх імпрэсій-апавяданняў, адважыўся на вялікае, адказнае: узняць вельмі надзённую праблему — **вайна і дзеці**, якая з'яўляецца радней спрадвечнай праблемы: вайна і мір. Надзённую, бо і сёння сэрца кожнага сумленнага чалавека заходзіцца болем ад страшэнных звестак, што прыносіць радыё з В'етнама, Камбоджы, Блізкняга Усходу пра новыя бязвінныя ахвяры вайны—дзяцей.

У аснове кнігі «Пад канвоем» — лёс сям'і, што апынулася сам-насам перад сілай ворага, які, адчуўшы сваю непазбежную пагібель, гоніць у Нямеччыну старых і малых — патэнцыяльных сведкаў варварскіх злачынстваў фашызму на часова акупіраванай зямлі. Раз'юшаныя гітлераўцы параскідалі гнёзды мірных людзей і адрываюць іх ад роднай зямлі, адлучаюць дзяцей ад бацькоў, вытручваюць з самой свядомасці людзей думку пра чалавечую годнасць.

«Маці ніяк не магла ўцяміць усяго таго, што так нечакана здарылася». Гэтай фразай, поўнай сур'ёзнай інтрыгі і па-народнаму проста, па-беларуску сказанай, пачынае пісьменнік сваё апавяданне пра найвялікшую трагедыю — гвалтоўнае выгнанне з роднага краю на чужыну. А калі першы ўжо сказ валодае вабнай сілай—значыць, твор належыць мастаку.

І сапраўды так. Чытаем наступнае: «Яна сядзела на купіне, босыя ногі былі ў ліпкай зялёнай твані, пальцы ног пякло, рукі і твар смалілі камары». Гэта ўжо цэлы, увачавідкі бачны, фізічна адчувальны вобраз. І надта ёмісты. Надоўга запамінаецца, стаіць у вачах, бы жывая, маці, якая «нічога не чула, толькі ўзнімала галаву і ўздрыгвала, калі недзе... гухкала нямецкая гармата і снарад узрываўся недалёка».

Скамянелая ад гора маці як мастацкае абагульненне лёсу здратаванай фашысцкімі прыблудамі Беларусі, маці, у якое адабралі адзіную надзею — сыноў. «Дзе яны?! Дзе Коля? Дзе Шура? Дзе Юрка?..»

Пісьменнік вядзе нас следам за перажываннямі маці, за яе трывогамі, узнаўляе мілыя, дарагія яе сэрцу аблічы, прадстаўляючы тым самым чытачу герояў твора.

«Коля, самы большы,бяжыць наперадзе, за ім Шура, потым Юрка, самы меншы. Юрка часта спатыкаецца — і рукамі ў гразь да локцяў. У Колі і Шуры за плячыма хатулі. У Шуры хатуль лягчэйшы, чым у Колі, але намнога большы. Ды і прывязаны ён не зусім добра — увесь час з'язджае».

Уражлівы, запамінальны малюнак выгнання. Дакладна намаляваны скупымі, але вельмі экспрэсіўнымі мазкамі, узнаўляе ён да драбніц найжахлівейшую часіну, калі «хлопцы кінуліся ўрассыпную ўцякаць ад немцаў», бо «магутны гул бамбавозаў раптам заняў балота і яно, здаецца, задрыжэла, загуло».

І зноў на першым плане маці. Яе ўнутраная невымерная трывога і трапна заўважаная пісьменнікам вонкавая здранцвеласць робяць апавяданне рэалістычным, да дробязей праўдзівым і псіхалагічна дакладным. Завязка кнігі, можа, найбольшая ўдача пісьменніка, пасля якой пачынаюцца пакуты аўтара, звязаныя з пераадоленнем супраціўлення матэрыялу, назіранага ў жыцці, вельмі багатага сваёй пэўнасцю і непадатлівага пры выстройванні сюжэта, які па задуме павінен адразу быць шматпланавым, ісці ў чатырох самастойных кірунках, але выяўляць цэласнасць жыцця, імкненне да адзінай мэты — вырвацца з палону і сабрацца ў родным гняздо, каб ладзіць шчасце.

Назіранага А. Ставерам матэрыялу хапае, каб ствараць паўнакроўныя характары, каб сутыкаць іх у драматычных, выкліканых незвычайнасцю абставін калізіях і выяўляць асноўную ідэю твора — непакору ворагу, імкненне чалавека быць свабодным, гаспадаром свайго лёсу і гатовага дзеля гэтага на самаахвярны подзвіг.

Чаго ж не хапае? Умення па-гаспадарску распараджацца матэрыялам, арганізоўваць яго вакол стрыжнёвай ідэі, рабіць той адбор фактаў, які вымагаецца мастацкай ідэяй твора. Найбольшы пралік аўтар робіць тады, калі, стварыўшы такую ўражлівую завязку, поўную драматызму і самім жыццём падказанай дынамікі, забываецца на асноўнага носьбіта трывог і спадзяванняў — маці. Яна выпадае як непасрэдны рухавік сюжэта аж да заключнага раздзела, дзе паяўляецца ўжо не адпаведная тым рысам яе характару, што былі раскрыты ў завязцы.

Як бы знік той страшэнны боль, тыя невыказныя пакуты душы, што рабілі маці вонкава скамянелай, здранцвелай, і перад намі супакоеная, зміраная з лёсам жанчына, якая «перапытала ў Востраве многа людзей,— можа, хто бачыў дзе, можа, хто чуў пра яе сыноў,— ніхто не мог даць адказу». І як вытлумачэнне такой абыякавасці, недаравальна спакойная інфармацыя: «Многія сем'і не далічыліся аднаго—двух чалавек». А на завяршэнне — неадпаведнае заяўленаму на пачатку вобразу маці такое стрыманае выяўленне ёю радасці пры сустрэчы з меншым сынам Юркам, якога зберагла, уратавала яе залоўка Сарахвіна. Здавалася б, гэты эпізод павінен быў прагучаць моцным выбухам радасці, як кантраст тым пакутам людзей у палоне, што складаюць асноўны змест твора, як кульмінацыйная вяршыня, як падрыхтоўка развязкі, задуманай у плане паказу адбудовы раскіданага гнязда пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Кульмінацыі не атрымалася, а яна магла быць вельмі выразнай і не менш напружанай за першы раздзел—завязку твора.

Пададзеная гэткай жа абыякавай скарагаворкай сустрэча маці з сярэднім сынам Шурам яшчэ больш разбурае цэласнасць яе вобраза. І заключнай у творы фразе «Сэрца маці не магло супакоіцца» ўжо верыш з цяжкасцю, бо аўтар не даў магчымасці нам перажыць разам з гераіняй яе трывогі, хваляванні, яе пакутлівы сум па дзецях.

Дзеці ж, якіх вайна адарвала ад бацькоў, адарвала ўжо тады, калі была чутна пераможная хада Чырвонай Арміі-вызваліцельніцы, па волі аўтара вымушаны ўзяць на свае плечы ўвесь цяжар рэалізацыі мастацкай ідэі твора. Вось тут і выяўляюцца найбольшыя здабыткі і не меншыя пралікі пісьменніка перш-наперш у кампазіцыйным і жанравым вырашэнні сваёй высакароднай задумы.

Лёс дзяцей склаўся розна. Меншага, Юрку, падабрала матчына залоўка Сарахвіна і разам са сваімі дзецьмі ўратавала ад смерці. Сярэдні, Шура, трапіў у калону дарослых, якіх загналі ў вагон і павезлі на захад. Старэйшы, Коля, апынуўся сярод мужчын, якіх немцы прымусілі везці абоз.

Шура з дзядзькам Мікалаем спрабуюць уцячы з вагона, ды трапляюць у вялікі нявольніцкі лагер, дзе ім прышываюць па латцы з літарамі «OST». Колю пры налёце нашай авіяцыі на абоз удаецца ўцячы і вярнуцца ў родную вёску.

Дзве асноўныя сюжэтныя лініі, звязаныя з лёсам Шуры і Колі, разгортваюцца паралельна і надта ўжо таўталагічна і аўтаномна, крыжуючыся хіба толькі рэтраспектыўна, калі дзеці аддаюцца сну ці ўспамінам. Два астатнія планы, што датычаць лёсу Юркі і маці, застаюцца «закансерваваныя» на ўсім працягу твора.

Самастойныя лініі Шуры і Колі распрацаваны даволі падрабязна з веданнем найтанчэйшых зрухаў параненай і абпаленай вайной дзіцячай душы. Выразныя дэталі ствараюць у гэтых раздзелах атмасферу амаль дакументальнай дакладнасці часу, абставін, павodзін. Часам, здаецца, што твор перагружан дэталямі, падрабязнасцямі быту, асабліва там, дзе яны не служаць крышталізацыі самастойнай абагульняючай думкі.

Прыём паралельнага разгортвання асноўных сюжэтных ліній вымагаў ад аўтара прысутнасці публіцыстычнага пачатку. Ён жа аўтарам не прыняты на ўзбраенне і як ускосны сродак, здольны павялічыць ёмістасць твора—разважлівую і эмацыянальную, здольны надаць яму адпаведную танальнасць. І гэты агрэх А. Ставера, які задумаў свой твор як шматпланавы, кідаецца ў вочы ўжо з першага чытання.

Уражлівая натура пісьменніка дае магчымасць выхопліваць з наваколля такія трапныя дэталі, якія дазваляюць ствараць шырокія карціны. Ён жа спыняецца на палавіне дарогі і задавальняецца тым, што робіць толькі заяўку на такую карціну, не абцяжарваючы сябе клопатам яе намаляваць.

«У пярэднім канцы вагона плакала маладая жанчына. Памёр яе пяцігадовы сын. Яна трымала яго на руках і люляла, як жывога...» Трагедыя маладой маці толькі заяўлена, хоць для рамана яна магла стаць нагодай, каб выпісаць драматычна-напружаную карціну. Сутыкнуўшыся з наступнай, дзе аўтар малюе падрыхтоўку ўцёкаў з вагона, гэта магло б перарасці ў кульмінацыйны момант лініі, звязанай з лёсам Шуры. Стылёвая цэласнасць твора ад гэтага толькі б узмацнілася, а раманічны пачатак атрымаў бы далейшае развіццё.

Унутраная форма кнігі «Пад канвоем» задумана ў плане рамана, але ў сваім вонкавым праяўленні ён не здзейснен. А механічнае карочанне, якому падвергліся ўсе раздзелы твора пры выданні асобнай кнігай, толькі аслабілі раманічнае ў ім.

Скарачэнні чамусьці выкананы не ў плане большага выпуклення істотнага, а часцей за кошт вельмі патрэбнага ўдакладнення ўнутранага стану героя. Прыгадаем, напрыклад, той эпізод, калі Коля нароўні з дарослымі садзіцца фурманам на адну з падвод нямецкага абоза. Хлопец заўважыў у калёсах разам з амуніцыяй і нарабаванае людское дабро. І зусім натуральна вядзе далей пісьменнік апавяданне: «Коля хацеў яшчэ пакапацца, паглядзець, што ў возе ёсць, але да калёс падыходзілі два фашысты, і ён хуценька сеў і пачаў трымаць каня, нібы той не слухаецца яго і рвецца ісці, хоць конь і не думаў кратацца». Тут усё дакладна, праўдзіва, адпаведна самым патаемным зрухам дзіцячай душы — яго няўрымслівая цікаўнасць і імкненне прыкінуцца нявінным. Скарачэнне прывяло толькі да збяднення вобраза хлапчука.

А вось там, дзе пры рабоце над часопісным варыянтам аўтар быў згадзіўся апусціць наіўна-аблегчанае параўнанне фашыста з тымі драпежнікамі, якіх хлопец перад вайной бачыў у клетках, яно раптам у кнізе зноў паўстала перад чытачом у сваёй аголенай просталінейнасці.

Раман не церпіць нічога лішняга, неарганізаванага, пазбаўленага «працы» на асноўную ідэю, не выбранага як след з назіранага, перажытага. Але ж раман мае і абавязковыя жанравыя прыкметы — бытавую, псіхалагічную, сюжэтную дэталізацыю. І яшчэ, бадай, самае галоўнае — паўнату раскрыцця шматграннага жыццёвага вопыту пісьменніка.

Асобнае выданне «Пад канвоем» страціла шмат з таго, што было ў часопісным варыянце (выразна намечаныя ў зачыне прыкметы рамана), і не паглыбіла галоўнай жанравай адзнакі адлюстравання ўласнага жыццёвага вопыту пісьменніка, не абмежаванага часам, які адлюстраваны ў кнізе. Таму, чытаючы кнігу, так часта натыкаешся на расцягнутыя апісальныя мясціны (успамін Шуры пра першую блакаду) там, дзе павінна была б быць увага да дэталі, як адметная рыса пісьменніцкай індывідуальнасці. Здараецца, што маладосць роздуму і паводзін герояў (Колі, Вадзіма, Аркадзя) пераходзіць у інфантылізм, наіўнасць (радасць Вадзіма і Колі, калі яны ўбачылі, нарэшце, сваіх салдат, чырвонаармейцаў). А бывае, што за шчырасць, непасрэднасць аўтар выстаўляе просталінейнасць (у лірычных адступленнях), а драматызм падмяняе меладрамай, глыбіню ж — эскізнасцю, плакатнасцю (характарыстыка ворагаў самых розных масцей і чыноў выглядае нівеліраванай да нейкага аднаго бесцялеснага «фашыста» ці «паліцая»).

Між тым, зачын твора і хвалюючыя сваёй жыццёвай праўдай эпізоды, якія спарадычна вынікаюць на ўсім працягу кнігі, маглі б пры строгай дысцыпліне пісьменніцкай думкі і большай увазе да кампазіцыі сінтэзавацца ў раман пра самае трагічнае ў жыцці чалавецтва, калі вайна бязлітасна абрушваецца і на дзяцей.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**




**В. А. ЧАМЯРЫЦКІ, «БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ ЯК ПОМНІКІ ЛІТАРАТУРЫ». Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1969.**

# ПА СЛЯДАХ ЛЕТАПІСАЎ

Вядома, што гісторыя пісьмовай культуры кожнай высакаразвітай нацыі бярэ свой пачатак з летапісных запісаў. Гэтыя запісы былі першым крокам у фармаванні гістарычнай самасвядомасці народа, служылі сродкам яго самапазнання, у іх адлюстроўваліся сувязі з іншымі народамі. Вось чаму, будучы помнікамі гістарыяграфіі і грамадска-палітычнай думкі свайго часу, летапісы і хронікі, як этапныя творы ў развіцці нацыянальнай культуры, прыцягвалі і яшчэ будуць прыцягваць да сябе ўвагу даследчыкаў.





Даследаванню беларускіх летапісаў і хронік прысвечана шмат прац. За амаль паўтарастагадовую гісторыю іх вывучэння рускімі, украінскімі, польскімі, а ў савецкі час літоўскімі і беларускімі даследчыкамі было выяўлена і апублікавана звыш дваццаці спісаў беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік XV—XVIII стагоддзяў, праведзена вялікая тэксталагічная работа.

Быў пакладзены пачатак вывучэння гэтых твораў як помнікаў літаратуры.

Здавалася б, што пасля даследаванняў С. Смолкі, А. Шахматава і Ф. Сушыцкага, якія ўнеслі вялікі ўклад у вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання, новаму даследчыку тут няма чаго і рабіць. Але ў тым і заслуга Вячаслава Чамярыцкага, што ён, аддаючы належнае працам сваіх папярэднікаў, не застаўся ў палоне іх канцэпцый. Для таго каб прыняць ці адвергнуць тое ці іншае сцвярджэнне, ён нанова прайшоўся па слядах саміх летапісцаў, і гэта прывяло яго да такіх адкрыццяў, якія істотна мяняюць наша ўяўленне пра характар, змест і ідэйна-палітычную накіраванасць беларуска-літоўскіх летапісаў XIV—XVI стагоддзяў.

Так, у прыватнасці, да апошняга часу лічылася, што пры ўсёй шматлікасці сваіх спісаў беларускія летапісы — гэта адзіны помнік, адзін летапісны звод, прадстаўлены трыма рэдакцыямі — кароткай, пашыранай і поўнай, кожная з якіх складалася з пэўнай колькасці спісаў. Прыняцце такой схемы адмаўляла працэс развіцця, паступальнага руху наперад. Летапісанне ж было жывой з'явай, яно служыла патрабаванням часу і ў гэтым сэнсе з'яўлялася адлюстраваннем грамадска-палітычнага жыцця.

Змянялася жыццё, змяняліся настроі — змяняўся і сам прынцып адбору і трактоўкі летапісных запісаў. Неадпаведнасць і недакладнасць старой класіфікацыі беларуска-літоўскага летапісання становіцца відавочнай і тады, калі мы паспрабуем прасачыць гісторыю ўзнікнення і развіцця ўласна беларускага летапісання і разабрацца ў трансфармацыі яго ідэй і палітычнай накіраванасці.

Вядома, што наша айчыннае летапісанне ўзнікла на базе агульнарускага і на першым этапе свайго развіцця наследавала не толькі яго форму, г. зн. пагадовыя запісы, але і карысталася яго зместам, фактычна праводзіла агульную ідэю палітычнага і гістарычнага адзінства ўсіх усходнеславянскіх земляў. Але потым пад уплывам новых гістарычных абставін у беларуска-літоўскім летапісанні пачаў змяняцца не толькі прынцып і форма запісаў, але і іх ідэйная накіраванасць. Усё часцей пачаў трапляць у летапісы мясцовы матэрыял — народныя паданні, міфы, легенды і гістарычныя містыфікацыі. Пагадовую форму запісаў змяніла хроніка, для якой не ўласціва датаванне падзей і фактаў жыцця. Агульнаруская ідэя гістарычнага адзінства пачала падмяняцца тэндэнцыяй беларуска-літоўскага дзяржаўнага сепаратызму.

Для таго каб больш наглядна паказаць чытачу, у чым заключаецца прычына нашых ранейшых памылковых уяўленняў пра характар і змест беларуска-літоўскага летапісання XV—XVI стагоддзяў, В. Чамярыцкі пачаў з самага элементарнага: з высвятлення таго, дзе, як, калі і чаму ўзніклі нашы першыя запісы і якую перапрацоўку яны прайшлі за час свайго развіцця. У сувязі з гэтым ён засяродзіў сваю ўвагу на пераправерцы тэксталагічнага аналізу, праведзенага папярэднікамі, з мэтай знайсці самы старэйшы тэкст, які паклаў пачатак беларуска-літоўскаму летапісанню. У выніку надзвычай тонкіх тэксталагічных супастаўленняў даследчыку ўдалося даказаць, што самым блізкім да першага беларуска-літоўскага летапісу, хоць і не тоесным з ім, з'яўляецца так званы Нікіфараўскі спіс, які, у сваю чаргу, цесна звязаны з Супрасльскім, Слуцкім і Акадэмічным спісамі.

Тэксталагічныя супастаўленні і назіранні над вельмі блізкімі па сваім складзе старэйшымі летапіснымі спісамі прывялі аўтара даследавання да вываду, што кожны з гэтых спісаў уяўляе сабой варыянт аднаго і таго ж помніка, імя якому — звод. Такі падыход да класіфікацыі летапісных спісаў дазваляе больш дакладна вызначыць час узнікнення першага зводу, яго склад, палітычны напрамак яго ўкладальніка і пазнейшых рэдактараў, градацыю і ступень залежнасці кожнай рэдакцыі ад свайго пратографа (першапачатковага рукапісу).

Разглядаючы гісторыю стварэння і развіцця першага зводу, даследчык паказвае, чым заканчваўся гэты звод і што абумовіла яго карэнную перапрацоўку, якая прывяла да ўзнікнення новага па характары, змесце і палітычнай накіраванасці другога, больш позняга,

зводу, прасякнутага ярка выражанай пралітоўскай тэндэнцыйнасцю. Менавіта на матэрыяле гэтага другога летапіснага зводу, адлюстраванага таксама ў трох рэдакцыях, што дайшлі да нас у дзевяці спісах, фарміраваўся поўны, трэці, летапісны звод, вядомы нам цяпер толькі адным спісам — «Хронікай Быхаўца».

Прапанаваная В. Чамярыцкім схема класіфікацыі беларуска-літоўскіх летапісных спісаў здымае тыя відавочныя супярэчнасці, якія вынікалі з папярадняй класіфікацыі, і, што вельмі важна, дае магчымасць прасачыць гісторыю станаўлення і развіцця беларуска-літоўскага летапісання на кожным гістарычным адрэзку часу, прасачыць рухомасць яго тэкстаў, растлумачыць прычыны іх рэдактарскай і стылёвай апрацоўкі, а таксама паказаць, як расла апавядальная культура беларускіх летапісцаў.

Не на ўсе з закранутых пытанняў даследчык дае поўны і вычарпальны адказ. Некаторыя з іх толькі пастаўлены і патрабуюць свайго вырашэння, а часам і больш пераканаўчага абгрунтавання, як, напрыклад, пытанне пра «Летапіс Аўраамкі» і яго сувязь с беларуска-літоўскім летапісаннем. Некаторыя пытанні наогул не знайшлі свайго адлюстравання, і гэта невыпадкова, таму што самі летапісы — з'ява шматгранная, шматпланавая і шматпраблемная, і ахапіць увесь іх змест у адным даследаванні немагчыма.

Даследчыцкая праца В. Чамярыцкага з'яўляецца значным укладам у вывучэнне гісторыі і нацыянальнай культуры беларускага народа. Яна ўзбагачае нас новымі ведамі, і ў гэтым яе каштоўнасць і бясспрэчная актуальнасць.

**Алесь КОРШУНАЎ.**


● **Віктар МАРТЫНАЎ**

● **Арнольд МІХНЕВІЧ**


# БЕЛАРУСКАЯ ЭТЫМАЛОГІЯ

## СТАРОНКІ СЛОЎНІКА

### ДЫЯЛЕКТЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Асноўнае чляненне беларускіх дыялектаў стабілізавалася ў феадальную эпоху, але ўзнікненне асобных з'яў адносіцца да больш аддаленых часоў. Агульнапрыняты падзел беларускай моўнай тэрыторыі вылучае два дыялектныя арэалы: паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні. Апрача гэтага, між імі праходзіць даволі шырокі пас пераходных сярэднебеларускіх гаворак. Гэты апошні ўзнік у пасляфеадальны перыяд у выніку ўзаемадзеяння двух першых, якія пашыраліся адпаведна на паўднёвы захад і паўночны ўсход, перакрыжоўваючыся ў цэнтральнай зоне.

*Межы паміж беларускімі дыялектамі і дыялектамі суседніх славянскіх моў (польскай,* украінскай, рускай) даволі складаныя. За выключэннем брэсцка-пінскіх гаворак, дыялекты з беларускімі тыпалагічнымі рысамі ўкліньваюцца ў дыялектныя масівы польскай (Беласточчына), украінскай (паўночна-заходняя Чарнігаўшчына), рускай (Смаленшчына і паўднёвая Пскоўшчына) моў. Шэраг фанетычных і марфалагічных рыс аб'ядноўвае паўночную частку паўночна-ўсходніх гаворак з паўночнымі пскоўскімі, астатнія паўночна-ўсходнія — з усходнімі смаленскімі і часткова бранскімі, паўднёва-заходнія — з брэсцка-пінскімі.

Сучасны дыялектны падзел Беларусі больш-менш дакладна адпавядае гістарычнаму існаванню на тэрыторыі нашай рэспублікі двух феадальных утварэнняў: Смаленскай і Полацкай зямель на паўночным усходзе і поўначы, Турава-Пінскага княства на поўдні.

На поўначы зберагліся рэлікты так званага цокання (неадрозніванне *ц* і *ч*), вядома паўночна-вялікарускім гаворкам. Для паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы характэрна дыфтангізацыя галосных *е* і *о* ў закрытых складах (*е*>*іе*, *о*>*уо*). Марфалагічна абмежаванае аканне ў паўднёва-заходнім дыялекце мае яўна другасны характар, таму акаючым з'яўляецца толькі паўночна-ўсходні дыялект. У сваю чаргу ў паўночна-ўсходнім дыялекце другасным з'яўляецца фракатыўнае *г*, якое пранікла з паўднёвага захаду. Паўночная частка паўднёва-заходняга дыялекту (гістарычна так званая Чорная Русь) была шчыльней звязана з Полацка-Віцебскімі землямі. Гэтым можна тлумачыць той факт, што шэраг наваўтварэнняў, характэрных для Турава-Пінскіх зямель, не пашырыўся на Чорную Русь (Гродзеншчыну). Аканне тут было засвоена ў больш познія часы. Гэтым тлумачыцца яго паслядоўна недысімілятыўны характар.

Добрае веданне фанетычных характарыстык беларускіх дыялектаў мае вялікае значэнне для распрацоўкі пытанняў беларускай этымалогіі, перш за ўсё для вызначэння крытэрыяў паходжання паасобных лексем. Фанетычныя рысы слова даюць магчымасць устанаўлення яго дыялектных вытокаў і напрамку пашырэння ў прасторы і часе.

●

А к с а м і т. Старажытнарускае *оксамитъ*<грэчаскага *эксамітос* (першапачатковае значэнне грэчаскага слова — з шасці нітак).

А н д а р а к. Слова даўно лічыцца запазычаннем з нямецкай мовы. Але непасрэднай крыніцай было не літаратурнае *унтэррок* — спадніца, а, відаць, якая-небудзь ніжненямецкая форма (параўнайце, напрыклад, саксонскае *ондэррок*), што трапіла да нас праз балтыйскае пасрэдніцтва (літоўскае *андарокас*).

А с і л а к. Міфалагічная істота, волат. На першы погляд, відавочнай здаецца сувязь з дзеясловам **o-sil-iti* (параўнайце рускае *осилить*), але няясным у гэтым выпадку застаецца словаўтваральны тып. Паводле другой версіі слова *асілак* звязана з праславянскай назвай каменя (параўнайце беларускае *асялок*), бо ў асілкаў, як сведчаць казкі, «каменныя рэбры». Нарэшце, яшчэ адна гіпотэза: слова *асілак* роднаснае назве коласа: *асілак*~балгарскае *осіл* — асцюк, гоцкае *ахс* — колас, як беларускае *волат*~праславянскае **voltь* — колас (рускае *волоть,* беларускае *валотка,* сербскахарвацкае *влат*). Тады *асілак* і *волат* — гэта «тыя, што растуць», гіганты. Семантычную паралель такіх адносін можна бачыць у нямецкім *різэ* — волат і *райз* — парастак.

Б а д а й. Скарочаная ў працэсе хуткага вымаўлення форма * *бог дай.* Параўнайце рускае *спасибо*<* *спаси бог.*

Б у с е л. Слова пашырана на беларускай, украінскай і польскай тэрыторыях. Магчыма, ад прыметніка *бусы* (рускае *бусый* — цёмна-шэры), якое ў сваю чаргу паходзіць ад старацюркскага *боз* — шэры. Аднак прыметнік гэты сустракаецца толькі ў рускай мове. Існуе таксама меркаванне пра цюркскае паходжанне самога слова *бусел.*

В а к о л. Гэта слова паходзіць ад назоўніка *кола* з прэфіксам *о* (рускае *около),* які ўскладніўся пратэтычным *в.* Гук *а* пасля *в* тлумачыцца пераносам націску на корань.

В а р ' я т. Запазычанне з польскай мовы, дзе *вар'ят, вар'ёваць*<лацінскага *варіарэ* — быць непастаянным, мяняцца (параўнайце семантыку рускага *помешанный* і дзеяслова *мешать).*

Г а л і н а. Слова адносіцца да гнязда вядомых славянскіх назваў (з іншай суфіксацыяй): украінскае *галузь,* польскае *галонзь* і г. д. Усе гэтыя словы паходзяць ад кораня *голы* з чаргаваннем *о/а.* Параўнайце беларускае *галлё,* украінскае *гілля,* чэшскае *гуль* — парастак, а з іншых індаеўрапейскіх паралеляў — армянскае *колр* — галіна. Галі́на — метафара, як рускае *ветвь (дерева)*>*ветвь (науки).*

Г а р т, г а р т а в а ц ь. Запазычанне праз польскае *гарт, гартоваць* з нованямецкага *гарт, гэртэн* з тым жа значэннем.

Гл. №№ II, IV, V, VII, IX, X, XII за 1969 г. і № III за 1970 г.

Гульня. Рэгулярная словаўтваральная форма ад *гуляць* (параўнайце *балбатня<балбатаць, варкатня<варкатаць*). *Гуляць* звязана, відаць, з *агул, агулам, агульны*. Тады *гуляць* першапачаткова значыла «рабіць штосьці грамадой, разам».

Дбаць. Слова зафіксавана ў беларускай, украінскай, польскай і чэшскай мовах. Адыменны дзеяслоў. Першаснае імя зберагл о ся ў чэшскай мове — *дба*. Найбольш верагодна, што *дба* паходзіць ад праславянскага **bъda*. Параўнайце старaславянскае *бъдѣти* — пільнаваць і сербскахарвацкае *бдеті* — дбаць.

Дзівак. Вытворны назоўнік з суфіксам *-ак* ад *дзіва* (як *бядак<бяда*). *Дзіва* — слова агульнаславянскае. З індаеўрапейскіх паралеляў: літоўскае *дievac* — бог, старажытнаіранскае *дэва* — дэман.

Дзяга — агульнаславянскае слова (<*dęg-): параўнайце славенскае *дега* — рэмень. Германскія адпаведнікі: старажытнаісландскае *тенгья — звязваць*, нямецкае *цангэ* — абцугі.

Ежа. Слова паходзіць ад дзеяслова есці. У адрозненне ад іншых славянскіх назваў (рускае *еда* і г. д.) яно ўтварылася з дапамогай суфікса *-ja*: **edja* (параўнайце ўкраінскае *їжа*).

Жабрак. З польскага *жэбрак*, якое ў сваю чаргу з нямецкага *зефр* — бадзяга.

Жалейка. Уласнабеларускае слова, утворанае ад назоўніка *жаль* пры суфіксацыі на *-ейка*. Параўнайце *батлейка*. Назва дадзена па характары гуку, якім вылучаўся гэты народны інструмент.

Жудасны. Слова ўтворана ад *жуда*. Тып словаўтварэння балтыйскі, (параўнайце *дзівосны<дзіва*). Што датычыцца першапачатковага слова, дык яно існуе толькі на беларускай і рускай моўнай тэрыторыях і, магчыма, таксама з'яўляецца балтызмам. Параўнайце літоўскае *жуті* — загінуць, знікнуць, *жудіті* — забіваць.

Залоза. Праславянскае *žеlza. Апрача беларускай, украінскай і польскай моў, усе іншыя славянскія мовы ведаюць варыянт з *-ж-* (рускае *железа*, славенскае *жлеза*, чэшскае *жлаза* і г. д.). Дакладныя адпаведнікі ў літоўскім *геляжуонес*, армянскім *гельхк* — залозы.

Капеж. Вытворчае слова ад *капаць*. Параўнайце *рубеж* ад *рубіць*.

Ласы. Толькі ўсходнеславянскае слова, але наяўнасць паралеляў у іншых індаеўрапейскіх мовах дазваляе гаварыць пра яго яшчэ праславянскі характар. Параўнайце старажытнаіндыйскае *ласаті* — ён прагне, старажытнагрэчаскае *лілайомай* (<* *ліласіомай* — я прагну). З іншага боку, слова *ласы* як гіпатэтычная інавацыя можа паходзіць ад слова *ласка*, якое памылкова ўспрымалася як памяншальная форма (тады *ласка>* ласа*).

Ледзь. Слова адносіцца да форм з пачатковым *л-*. Параўнайце рускае *едва* і чэшскае *ледва*. Формы без *л-* тлумачацца як вытворныя ад **-ed-* (**jedinъ* — адзін). Формы з *л-* ускладняюцца часціцай *ле-* (старапольскае *ле-* «толькі што» параўноўваюць з рускім *еле*). Беларускае слова мае скарочаную форму *(ледве>ледвь>ледзь)*, тыповую для прыслоўяў і прыназоўнікаў.

Малпа. Праз польскае пасрэдніцтва з нямецкага *маульафэ*, г. зн. мардатая малпа (*афэ* — малпа).

Мезенец. Агульнаславянскае і праславянскае слова. У адрозненне ад іншых усходнеславянскіх (сучаснай рускай і ўкраінскай) паралеляў у беларускай форме зберaглася каранёвая *е*-агаласоўка (праславянскае **mězinьcь* або **mězьnьcь*). Спрадвечна роднаснае літоўскаму *мажас* — малы. Іншыя тлумачэнні менш пераканаўчыя.

Млосны — усходнеславянскае, дакладней, беларуска-ўкраінскае новаўтварэнне (<**mъdlostьnъ*) ад праславянскага *mъdlěti (беларускае *млець*, польскае *мдлець* і г. д.), якое звязваецца з **mъdьlьnъ* (рускае *медленный*).

Нетры. Першаснае значэнне — балоцістая зямля. Адсюль развілося значэнне — *лясны гушчар*. Слова практычна толькі беларускае, магчыма, балтыйскага паходжання. Параўнайце літоўскае *нендрэ* — чарот.

Ніцы. Праславянскае **nicь* — тварам да зямлі. Параўнайце старажытнаіндыйскае *нічах* — нізкі. Індаеўрапейскае ** ni-k-* з іншай суфіксацыяй — старажытнаіндыйскае *ніпах* — глыбокі, старажытнаверхненямецкае *нідар* — нізкі.

Пляга. Запазычанне (магчыма, праз польскае пасрэдніцтва) лацінскага *плага* — удар<*планго* — я б'ю. Сюды ж і дзеясловы *пляжыць, спляжыць*.

Руплівы. Вытворнае ад *рупіць*, якое з'яўляецца толькі ўсходнеславянскім. Асабліва пашырана на Беларусі. Запазычанне з літоўскага *рупінтіс* — клапаціцца.

Рызыка — запазычанне праз польскую мову з нямецкай (нямецкае *різіко* з італьянскага *рісіко*).

Рыхтаваць. Запазычанне з нямецкай мовы. Параўнайце нямецкае *ріхтэн* — накіроўваць, наладжваць.

Сцяг — слова толькі ўсходнеславянскае (украінскае *стяг*, рускае *стяг*). Старажытнарускае *стягъ* (<**stęgъ*), магчыма, запазычана са старажытнаісландскай: *стунг* — шост, дрэўка. Прычым паўднёваславянская назва без насавога галоснага ў корані (сербскахарвацкае *стіег* і інш.) лічыцца спрадвечна славянскай і звязанай са словам *стажар* — падпорка для стага.

Сёрбаць — слова яшчэ праславянскае (**sьrbati, *sъrbati, *serbati*). Сярод індаеўрапейскіх паралеляў — літоўскае *сурбті* і лацінскае *сарбео* ў тым жа значэнні.

Смутак. Другаснае ад *муціць*. Дзеяслоў *муціць* — агульнаславянскі. З індаеўрапейскіх паралеляў параўнайце старажытнаіндыйскае *мантхаті* — ён мяшае, літоўскае *ментуріс* — мяшалка.

Танны. Запазычанне з польскай мовы: *тані* — танны, дзяшовы. У польскай жа мове форма гэтага прыметніка *(тані<туні)* тлумачыцца як вынік гіперкарэктнасці (звышправільнасці). Гіперкарэктнасць — гэта змяненне моўнай формы носьбітамі мовы пад уплывам таго, што першапачатковая форма пачынае (па розных прычынах) успрымацца, як няправільная, «дрэнная», і яе «выпраўляюць». Праславянская форма назоўніка з гэтым коранем — **tunjь*. Корань *тун-* сустракаем у такіх словах і выразах, як рускае *втуне* — дарэмна, балгарскае *тунабеда* — паклёп, польскае (дыялектнае) *туні* — дзяшовы, агульнадаступны, славенскае *стуня* — гультай, рэдкае беларускае слоўца *тунны* — марны (параўнайце ў П. Глебкі: *Імкнецца вораг злосны тунна...*).

Цемра. Вельмі старажытная словаўтваральная форма ад кораня **tьm-* (параўнайце рускае *тьма*). Паралелі да гэтага слова ведаюць толькі ўсходнеславянскія мовы: украінскае *темрява* і паўднёварускае *темриво* (калі яно не з украінскай). Пра старажытнасць гэтых слоў сведчаць такія індаеўрапейскія формы, як старажытнаіндыйскае *тамрах* — цёмны, старажытнаверхненямецкае *дэмар* — цемра.

Шуфляда. Запазычанне праз польскую мову з нямецкага *шубладэ* з тым жа значэннем.

Яшчэ — агульнаславянскае слова з праславянскага *ješče/ošče (*jeske/oske). Параўнайце формы на *о:* балгарскае *още* і іншыя. З індаеўрапейскіх паралеляў можна правесці лацінскае *ускве* — заўсёды.



Сядзіба гараджаніна. Узноўлена па раскопках замчышча ў Мінску.

# СВЕДКІ МІНУЛАГА

Як жылі нашы продкі? Чым яны займаліся? Што іх цікавіла, як апраналіся?

Пра гэта можна даведацца ў гістарычным музеі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Яго стварылі студэнты і выкладчыкі гістарычнага факультэта. Кожны год першакурснікі вядуць археалагічныя раскопкі ў розных раёнах нашай рэспублікі і за яе межамі. Іх знаходкі таксама ў археалагічнай зале музея. Усе яны здабыты пры раскопках старажытных курганоў, паселішчаў і гарадоў.

Першыя сведкі старажытнасці ўводзяць нас у каменны век, аддалены ад нашых дзён дзесяткамі тысяч гадоў. Падобныя на нож крамянёвыя пласціны, каменныя наканечнікі стрэл, розныя керамічныя вырабы расказваюць пра той час, калі пачыналася засяленне Беларусі. Дайшоўшыя да нас пісьмовыя крыніцы ахопліваюць усяго толькі нямногім больш тысячы гадоў яе гісторыі. Пра больш старажытныя часы мы мяркуем у асноўным толькі па археалагічных знаходках.

Праходзячы па археалагічнай зале музея, мы нібы па прыступках гістарычнай лесвіцы з глыбіні старажытных вякоў узнімаемся да нашых дзён. Уступаем у жалезны век. Гэта апошні дапісьмовы перыяд гісторыі Беларусі. Пачаўся ён прыкладна ў сярэдзіне першага тысячагоддзя да нашай эры. У гэты час людзі ўжо навучыліся здабываць балотную жалезную руду. Навучыліся атрымліваць тэмпературу звыш паўтары тысячы градусаў, неабходную для плаўлення жалеза.

Вялікую калекцыю археалагічных знаходак, якія адносяцца да гэтага часу, сабралі студэнты гістарычнага факультэта. Сярод шматлікіх экспанатаў старажытнасці трапляецца многа прадметаў з бронзы і жалеза. Пры раскопках старажытнага гарадзішча ў Асіповіцкім раёне, акрамя керамічных вырабаў, былі знойдзены бронзавыя ўпрыгожанні, а таксама розныя прадметы працы і быту, выраблены з жалеза.

Цікавыя знаходкі з жалезнага веку здабыты і на поўначы Беларусі. Яны дазваляюць паказаць культуру, быт і эканамічнае развіццё першабытнага грамадства. Пры раскопках старажытных паселішчаў былі знойдзены сярпы, металічныя наканечнікі стрэл, нажы, вырабы з косці і многія іншыя.



Баявая жалезная сякера і наканечнік кап'я.

Чым бліжэй да нашага часу, тым больш разнастайныя знаходкі. Многа цікавых вырабаў знойдзена пры раскопках старажытнай вёскі непадалёк ад Мінска. Гледзячы на сабраныя экспанаты, няцяжка ўявіць жыццё тагачаснага земляроба. У той час ужо выраблялі металічныя наканечнікі для сох. Жалі жалезнымі сярпамі, якія па сваёй канструкцыі і памерах вельмі блізкія да сучасных. Сена касілі косамі. Сеялі тады ў асноўным жыта, пшаніцу, ячмень, радзей — проса. Насенне гэтых культур таксама знойдзена пры раскопках. Зерне малолі на ручных жорнах. Шатравалі зерне ў драўляных ступах. Усе гэтыя прылады працы адносяцца прыкладна да дзесятага стагоддзя нашай эры. Побач з імі розныя ўпрыгожанні з бронзы і шкла. Яны таксама знойдзены пры раскопках старажытнай вёскі.

Тут жа можна ўбачыць вырабы, выяўленыя студэнтамі пры раскопках у Оршы. Там праводзіліся работы на працягу некалькіх гадоў з мэтай вывучэння культуры і быту старажытных беларускіх гарадоў. Былі знойдзены замкі, ключы, нажы, зброя, розныя ўпрыгожанні і іншыя прадметы.

Але, бадай, самыя цікавыя раскопкі былі праведзены ў Мінску, у раёне плошчы імя 8-га Сакавіка. У выніку гэтай работы ўдалося сабраць не толькі цікавыя рэчы з побыту старажытнага гараджаніна, але і выявіць старажытныя гарадскія пабудовы, прысыпаныя зямлёй. Па матэрыялах праведзеных раскопак зроблены макеты Мінскіх крапасных варот і сядзібы гараджаніна, якія захоўваюцца цяпер у гістарычным музеі ўніверсітэта.

Знаходкі на Мінскім замчышчы даюць магчымасць атрымаць уяўленне пра гаспадарчае жыццё горада. Летапісы ж пра гэта нічога не расказваюць. Толькі археалагічныя раскопкі памаглі ў значнай ступені рассеяць туман невядомасці.

Мяркуючы па знойдзеных экспанатах, можна цяпер уявіць, чым займаліся гараджане старажытнага Мінска. Важнейшымі галінамі мінскага рамяства былі кавальская справа, дрэваапрацоўка, разьба па косці, ганчарная вытворчасць, гарбарніцтва. Пра гэта гавораць многія інструменты, знойдзеныя пры раскопках.



Макет старажытнай рудні.

Далёка за межамі Беларусі славілася мастацтва старажытных ювеліраў. Пры раскопках у Мінску знойдзены ювелірныя пінцэты. Яны маюць такую ж форму, як і сучасныя медыцынскія пінцэты. Знойдзена невялічкая гліняная пасудзіна-тыгель, у якой расплаўлялі метал. Сярод груды рэчаў самага рознага прызначэння пры раскопках знойдзены дзве часткі ювелірнай ліцейнай формы, зробленыя з вапняку. У іх выразаны гнёзды для адліўкі адразу трох маленькіх гузікаў. Гатовыя ювелірныя вырабы, знойдзеныя пры раскопках Мінска, складаюць багатую калекцыю музея.

У часе гэтых раскопак упершыню ўдалося знайсці кола ад павозкі. Гэта вельмі важная знаходка, таму што дазваляе меркаваць, калі ўпершыню нашы старажытныя продкі пачалі прымяняць колы ў сваёй практычнай дзейнасці.

Падарожжа па прыступках гісторыі працягваецца. Ззаду засталіся старажытныя часы. Набліжаемся да нашага веку. У этнаграфічнай зале размешчаны прадметы культуры і быту беларусаў недалёкага мінулага. Яны сабраны ў асноўным у Клімавіцкім раёне і ў



З аддзела старажытнага Усходу.

Брэсцкай вобласці. Тут прылады сельскагаспадарчай працы — бароны, плугі, граблі, вілы; прадметы хатняга ўжытку — ступа, жорны, дзежка, лыжкі. Тут жа можна ўбачыць кросны з прыладамі да іх, прасніцы, калаўроты, лапці розных фасонаў. Асобны стэнд займае мужчынская і жаночая верхняя вопратка, вышываныя сарочкі, маляўнічыя андаракі, світкі, ручнікі з прыгожым беларускім арнаментам.



Антычны аддзел.

Экспазіцыя залы ўвесь час папаўняецца. Сюды кожны год з розных куткоў рэспублікі студэнты прывозяць усё новыя і новыя экспанаты, якія расказваюць пра жыццё беларускай вёскі ў мінулым.

Мы зрабілі падарожжа ў гісторыю Беларусі. А цяпер перанясёмся ў далёкае мінулае краін старажытнага Усходу. Для кожнай з іх тут адведзен спецыяльны стэнд, дзе размешчаны фатаграфіі, якія адлюстроўваюць культуру і быт гэтых краін. Тут гіпсавыя копіі розных багоў і жрацоў, тут царства міфалогіі старажытнага Егіпта. Ёсць і арыгінальныя экспанаты з егіпецкіх грабніц, падараваныя Ленінградскім эрмітажам. За шклом ляжыць кісць рукі муміі. Тут жа размясціліся памінальныя статуэткі, тканіна, з якой шылі адзенне для нябожчыкаў.

Не менш цікавая зала антычнай культуры. У ёй сабраны копіі статуй старажытнагрэчаскіх багоў і багінь. Тут жа галерэя гістарычных асоб антычнасці — Гамер, Юлі Цэзар, Арыстоцель, Платон. Прыцягваюць увагу архітэктурныя дэталі — разнастайныя капітэлі, барэльефы, гарэльефы. Каля сямідзесяці экспанатаў размешчана ў гэтай зале. Усе копіі выраблены ў маскоўскім Мастацкім музеі імя Пушкіна.

Пра гістарычнае мінулае народаў і дзяржаў, пра іх эканамічныя і культурныя сувязі мы даведваемся не толькі па археалагічных помніках і дайшоўшых да нашых дзён творах мастацтва. Пра многае расказваюць таксама і старажытныя манеты. У музеі для іх адведзена спецыяльная зала. Яе сцены ўвешаны шчытамі, на якіх размешчана звыш сямі тысяч манет, чаканеных у даўно мінулыя часы рознымі дзяржавамі Еўропы і Азіі. Тут ёсць манеты шостага стагоддзя да нашай эры, ёсць арабскія, антычныя, візантыйскія, рымскія, манеты Кіеўскай Русі, Залатой Арды, многіх еўрапейскіх дзяржаў.

Гэтая ўнікальная калекцыя, адна з самых вялікіх у Беларусі і, бадай, адзіная ў нашай краіне, служыць вучэбным дапаможнікам для студэнтаў. Трэба адзначыць, што нумізматыку выкладаюць толькі ў трох вышэйшых навучальных установах краіны, у тым ліку і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя




Аддзел нумізматыкі.

У. І. Леніна. Вывучаючы старажытныя манеты, гісторыкі знаходзяць на іх назву дзяржавы, гарадоў і імёны правіцеляў, якія не называюцца ў пісьмовых крыніцах. Манеты — гэта цэлыя партрэтныя галерэі гістарычных асоб, адбіткі прадметаў штодзённага ўжытку, касцюмаў... Нарэшце, манеты, выяўленыя пры археалагічных раскопках, памагаюць датаваць старажытныя будынкі, паселішчы і месцы пахавання.

Беларусь займае вядучае месца ў Еўропе па колькасці знойдзеных скарбаў. За апошнія дваццаць гадоў у розных месцах рэспублікі знойдзена звыш сямідзесяці тысяч манет. Кожны год пры асушэнні балот, карчаванні пнёў у лесе, у часе палявых і будаўнічых работ, пры раскопках старажытных паселішчаў і магільнікаў знаходзяць дзесяць-пятнаццаць скарбаў.

А здараліся і кур'ёзныя выпадкі. Сто з лішнім гадоў назад каля Барысава селянін заўважыў птушку, якая часта вылятала з гнязда і вярталася з нейкім бліскучым прадметам у дзюбе. Калі ён зазірнуў у гняздо, убачыў у ім рускія, літоўскія і польскія манеты. Птушка знайшла дзесьці скарб і, захапіўшыся бляскам срэбра, пачала пераносіць яго ў гняздо.

Быў выпадак, калі крот выносіў разам з зямлёй на паверхню рымскія манеты. А неяк на лузе свіння вырыла гліняны гаршчок з рымскімі і нідэрландскімі манетамі.



Адзенне і бялізна пачатку XX стагоддзя.

Захаванне грошай у зямлі было ў даўніну самай звычайнай справай. Толькі зямля была надзейным сейфам для захавання каштоўнасцей ад пажараў, якія часта ператваралі ў попел цэлыя гарады і сёлы. Акрамя таго, хавалі грошы ў зямлю ад разбойнікаў у часе войнаў, нашэсцяў, паўстанняў.

Але чаму ж гэтыя зберажэнні засталіся некранутыя?

Відаць, уладальнікі былі пазбаўлены магчымасці выкарыстаць свае скарбы — забіты або ўзяты ў палон. А магчыма, уладальнік грошай раптоўна памёр або нават забыўся, дзе яны схаваныя.

За апошні час у музей паступіла пяць новых скарбаў. Нядаўна на Гродзеншчыне знойдзены яшчэ адзін вялікі скарб антычных манет.

**Васіль СВЯТЛОЎ.**

**Раздзел вядзе**
**міжнародны гросмайстар**
**Аляксей Суэцін**

# ПАДЗЕЯ ШАХМАТНАЙ ГІСТОРЫІ

Амаль тысячагадовая гісторыя шахмат налічвае мноства цікавых і розных спаборніцтваў. Але да гэтага часу нават не ўяўлялася, што каманда адной краіны можа выстаяць супраць зборнай усіх краін свету, хоць знаўцы шахмат і аматары даўно ведалі сілу нашых савецкіх гросмайстраў і цяжкасці, якія сустракаюцца ў сапернікаў зборнай СССР.

«Шахматнае Эльдарада» — так даўно назвалі нашу краіну замежныя шахматысты за ўнікальную па сіле і колькасці талентаў нашу шахматную арганізацыю. Шахматы заваёўваюць усё большую папулярнасць у самых аддаленых кутках зямнога шара, і савецкая шахматная школа ўздзейнічае на гэтае развіццё самым непасрэдным чынам. На нашай шахматнай літаратуры ў пасляваенныя гады выхавалася цэлая плеяда выдатных замежных майстроў шахмат. І невыпадкова Р. Фішар, Б. Ларсен, Л. Порціш, В. Горт вывучалі рускую мову перш за ўсё па нашых шахматных кнігах.

Падступы да сусветнага шахматнага трона надзейна ахоўваюцца савецкімі шахматыстамі. Аднак у апошнія гады названыя замежныя зоркі і такія шахматысты, як С. Глігарыч і Б. Іўкаў (Югаславія), В. Ульман (ГДР), на шматлікіх міжнародных турнірах, што адбыліся ў Еўропе і Амерыцы, дамагліся вялікіх поспехаў. Шмат «клопату» нарабіў нам дацкі гросмайстар Б. Ларсен — сапраўдны турнірны кароль сучаснасці.

Такое становішча на сусветнай шахматнай арэне і прывяло да думкі арганізаваць турнір паміж зборнай СССР і зборнай свету. За рэалізацыю гэтай, на першы погляд, фантастычнай ідэі ўзялася югаслаўская шахматная арганізацыя, якая, як вядома, шмат робіць для развіцця шахматнай справы і з'яўляецца ва ўсіх першынствах свету «шахматнай дзяржавай № 2».

Югаславы ўзяліся і наладзілі гэтае складанае мерапрыемства, хоць шмат цяжкасцей было на іх шляху. Асабліва цяжка было з першымі дзвюма дошкамі зборнай выбраных шахматыстаў свету: два лідэры замежных шахмат — Б. Ларсен і яго калега Р. Фішар (ЗША) — згаджаліся гуляць толькі на першай дошцы. Спачатку больш памяркоўны, як здавалася, Ларсен як быццам без бою саступіў гэтае права Фішару, але ў апошні момант, калі абодва яны былі ўжо ў Бялградзе, Ларсен раптам заявіў: «Ці першая дошка, ці — я не гуляю!»

Матч апынуўся пад пагрозай зрыву. Да гэтага часу невядомы тыя сродкі, якія ўжылі югаславы, але яны зрабілі неверагоднае — Фішар, са сваёю нязгодлівасцю ва ўсім, адважыўся іграць на другой дошцы(!).

Гэта было зусім нечакана для нашых шахматыстаў. Задоўга да пачатку матча чэмпіён свету Б. Спаскі рыхтаваўся толькі да барацьбы з Фішарам, а экс-чэмпіён Т. Петрасян да барацьбы з Ларсенам. Нашым гросмайстрам прыйшлося адкінуць на другі план прафесіянальныя інтарэсы і літаральна напярэдадні першага тура згадзіцца дзеля інтарэсаў развіцця шахмат на сустрэчы з зусім не чаканымі праціўнікамі.

Такі неспадзяваны паварот справы быў асабліва непрыемны для Т. Петрасяна. Гульня з Фішарам была для яго зусім новай і амаль непажаданай. Спаскаму, вядома, таксама няпроста было перастройвацца, але ён усё ж такі два гады таму назад, як вядома, добра падрыхтаваўся да сустрэчы з Ларсенам у матчы прэтэндэнтаў 1968 года.

Цяпер, калі водгулле матча заціхае, можна зрабіць некаторыя вывады. У вельмі напружанай барацьбе зборная СССР атрымала перамогу над зборнай выбраных гросмайстраў свету. Лік 20,5 : : 19,5 вельмі красамоўны і сведчыць, якой цяжкай і роўнай па сілах была барацьба ў матчы. Але перамога нашай зборнай — заканамерная. З першага тура савецкія шахматысты захапілі лідэрства і паспяхова ўтрымалі яго да канца, нягледзячы на лютае супраціўленне дастойных партнёраў.

Перамогу нашай зборнай прынеслі галоўным чынам ветэраны: станоўчы баланс атрымаўся ў П. Кераса, М. Батвінніка, В. Смыслова, Я. Гелера, М. Тайманава, якія выступалі на другой палове нашых дошак. Сапраўды, стары конь баразны не псуе.

Менш паспяховай была гульня матадораў савецкай каманды. Толькі Спаскі здолеў падтрымаць каманду, згуляўшы з Ларсенам баявую нічыю з трох партый — 1,5—1,5 (у чацвёртай партыі замест хворага Б. Спаскага гуляў запасны Л. Штэйн, які прайграў Ларсену).



На іншых жа дошках — Т. Петрасяна, В. Карчнога, Л. Палугаеўскага — істотны «пасіў» супраць Р. Фішара, Л. Порціша і В. Горта. І гэта вельмі насцярожвае: усе гэтыя ігракі — нашы сапернікі ў будучым цыкле барацьбы за сусветную шахматную карону. Праўда, Р. Фішар выбыў ужо з гэтага цыкла, дэманстратыўна адмовіўшыся гуляць у зоне сваёй краіны(!). Але ён (як і Горт) адзін з самых маладых гросмайстраў свету (Фішару 27 гадоў), і ў далейшым ён грозны сапернік, тым больш, што Фішар надзіва добра захоўвае сваю спартыўную форму, і прычына гэтаму — шахматны фанатызм, заўзятая работа над сабой. Кніга выбраных партый, якую склаў ён сам, пацвярджае гэта.

На матчы было сыграна нямала выдатных партый. Лаўрэатамі за лепшую і прыгажэйшую партыю сталі і атрымалі спецыяльныя ўзнагароды ў першым туры Я. Гелер супраць С. Глігарыча і Р. Фішар супраць Т. Петрасяна, у другім туры — Б. Спаскі супраць Б. Ларсена, у трэцім туры — С. Рашэўскі (ЗША) супраць В. Смыслова; у чацвёртым туры — Б. Ларсен супраць Л. Штэйна.

«Матч веку» апраўдаў сябе. Тыдзень, на працягу якога ішла барацьба, быў літаральна тыднем «шахматнай гарачкі» ва ўсіх краінах свету.





**Раздзел вядзе**
**міжнародны майстар**
**Макс ШАВЕЛЬ**

# ВЫБУХІ КАМБІНАЦЫЙ

Турнірныя сустрэчы шашачных майстроў вызначаюцца строгай логікай пазіцыйных пабудоў. Калі назіраць за іх гульнёй збоку, то здаецца, што партнёры цалкам захоплены цяжкімі пошукамі «сухіх» пазіцыйных ходаў. Але гэта толькі першае ўражанне. На самай справе партыі майстроў прасякнуты безліччу пастак, і варта толькі аднаму са спартсменаў паслабіць увагу, зрабіць неасцярожны ход, як мірная сустрэча перапыніцца бурным камбінацыйным выбухам.

Вось некалькі прыкладаў нечаканых камбінацыйных удараў, што былі ў адказных турнірных сустрэчах.

**С. КОРХАЎ.**




**І. СЦЯПАНАЎ.**

У пазіцыі на дыяграме вядомы беларускі майстар Іван Андрэевіч Сцяпанаў у часе трэніровачнага турніра майстроў за некалькі ходаў разграміў пазіцыю вопытнага партнёра.

1. 35—30! 24 : 44
2. 33 : 24 44 : 22
3. 24—20! 15 : 24
4. 32—27 21 : 32
5. 38 : 7,— знімаючы сем чорных шашак.

Новая пазіцыя ўзнікла ў часе матча-рэванша на званне чэмпіёна свету.

На дыяграме прыведзена пазіцыя з восьмай партыі матча пасля 33-га ходу белых.

34. ...13—18. Пасля гэтага ходу ўзнікаюць вялікія камбінацыйныя ўскладненні.

35. 44—40!

Тут памылкова было б рабіць 35. 42—37 або 43—39, з-за 35. ...24—30! 36. 35:22 14—20! 37. 28:19 12—17 38. 25:14 17:48 і г. д.

35. ...2—7 36. 50—45! Не дазваляючы папярэднія камбінацыйныя пагрозы, 36. ...15—20 37. 40—34!

Зноў нельга было рабіць 37. 42—37 або 43—39 з-за ўдару 37. ...24—30! 38. 35—22 12—17 39. 28:10 17:48 і г. д.

37. ...11—17 38. 42—37 7—11 39. 43—39 24—29!

У цяжкім становішчы чорныя падрыхтавалі старанна схаваную камбінацыю, пасля якой яны трапляюць на перадапошнюю гарызанталь.

40. 33:22 26—31! 41. 28:10 31:44 42. 25:14. 17:37 43. 10—4?

Недакладнасць. Пасля манеўра 43. 14—9 і 44. 9—3 белыя лёгка выйграюць.

43. ...11—17 44. 14—9.

На дошцы стварылася нічыйнае заканчэнне, але чорныя не паспелі зрабіць свой чарговы ход да апускання сцяжка на гадзінніку, і ім залічылі пройгрыш.




●

Аматарам шашак на 64-клеткавай дошцы прапануем новую камбінацыю нашага чытача, настаўніка з Брэсцкай вобласці **Васіля КАЗЕЙКІ.**




Белыя пачынаюць і выйграюць.

1. b2—a3! b4—c3 2. a1—b2!! c3:a1 3. e3—f4 a1:f6 4. a3—b4!! a5:c3 5. f4—e5 f6—d4 6. d6—c7 b8:d6 7. f2—g3 h4:f2 8. g1:e7 f8:d6 9. h6:e1 з лёгкім выйгрышам.



# МАЙСТРЫ САВЕЦКАЙ КАРЫКАТУРЫ

**У двух словах — хто я такі.**

**Я нарадзіўся ў 1922 годзе не ў Парыжы, не ў Рыо-дэ-Жанейра і нават не ў Тбілісі, а ў горадзе Поці. Калі мне мінуў адзін год, я вырашыў пераехаць у Тбілісі, бо ў Поці не было Акадэміі мастацтваў, якую я скончыў у 1950 годзе. Першы мой малюнак «Профіль настаўніка матэматыкі», выкананы крэйдай, быў выстаўлены на школьнай дошцы. Яго заўважылі, і мяне выставілі з класа ў калідор. Першая мая карыкатура з'явілася ў грузінскім «Кракадзіле» («Ніянгі») дваццаць пяць гадоў назад. Першая мая персанальная выстаўка адкрылася ў 1962 годзе. Праз два гады мне прысвоілі званне заслужанага мастака Грузінскай ССР. Нягледзячы на ўсё гэта, я да гэтага часу не жанаты. І калі пасля ўсяго мяне лічаць гумарыстам, не здзіўляйцеся!**

**Гігла ПІРЦХАЛАВА.**



— Гэтага пеўня трэба будзе зарэзаць: позніцца на паўгадзіны...



— Чаго ты спужаўся? Гэта твая мама ў новым паліто...



На пераходзе.

— Памажыце! Хуліганы за мной гоняцца!
— Я не міліцыянер, я з маскараду іду...



# нашы аўтары

●

**КУЛЯШОЎ Аркадзь** нарадзіўся ў 1914 годзе ў мястэчку Самацеевічы Касцюковіцкага раёна. Скончыў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум і вучыўся на літфаку Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў, на радыё, на студыі «Беларусьфільм». Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар паэтычных кніг: «Росквіт зямлі», «Па песню, па сонца», «Мы жывем на граніцы», «Сцяг брыгады», «Камуністы» і многіх іншых. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР. Народны паэт Беларусі.

●

**МАЕУСКАЯ Ніна** нарадзілася ў г. п. Любань Мінскай вобласці ў 1938 годзе. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна і працуе ў часопісе «Промышленность Белоруссии». Выйшла ў свет кніга апавяданняў для дзяцей «Ляці, верабейка».

●

**БАТОРЫН Фелікс** (Хаймовіч) нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску. Студэнт Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

●

**ГРОДНІКАЎ Васіль** нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Старая Алешня Рагачоўскага раёна. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у раённай газеце, потым служыў у Ваенна-Марскім флоце. У 1967 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Працаваў у газеце «Чырвоная змена». Цяпер — работнік апарата ЦК ЛКСМБ.

Аповесць «Папараць цвіце на досвітку» — яго першы літаратурны твор.

●

**ДЗМІТРУСЁВА Тацяна** нарадзілася ў 1948 годзе ў вёсцы Студзянец Касцюковіцкага раёна. Мае сярэднюю адукацыю. Працуе ў рэдакцыі раённай газеты ў г. Клімавічы.

●

**САЧАНКА Барыс** родам з вёскі Вялікі Бор Хойніцкага раёна. Яму 34 гады. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Полымя». Аўтар кніг «Дарога ішла праз лес», «Барвы ранняй восені», «Зямля маіх продкаў», «Пакуль не развіднела».

●

**МАЛЬЦІНСКІ Хаім** мае 60 гадоў. Скончыў Кіеўскі інстытут народнай асветы. Працаваў у камсамольскім друку Беларусі і выдавецтвах. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар кніг «Поплеч з сынамі ўсімі», «Родны дом», «Суніцы на далоні», «Без ценю», «Як жыццё дарагое» і іншых.


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 7**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ**. Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА**. Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ**.

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775 — аддзел інфармацыі.

АТ 26211. Здадзена ў набор 1/VI-70 г. Падпісана да друку 30/VI-70 г.
Тыраж 13793 экз. Зак. 960. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**




**Яўген ЖДАН, Ілья НЕМАГАЙ. Бульба.** Эскізы насценнага роспісу студэнцкага кафэ.

